**"Полацкае ляда"** - легендарнае выдавецтва, якое дзейнічала ў Полацку ў 90-х гадах ХХ ст. Менавіта ў гэтым выдавецтве выйшлі першыя кнігі Юрыя Гуменюка, Славаміра Адамовіча, Леры Сом і іншых сяброў Таварыства Вольных Літаратараў. Больш чым праз 10 гадоў "Полацкае ляда" аднаўляе сваю дзейнасьць, пакуль што, у выглядзе выдавецкай ініцыятывы. У нашых плянах вярнуць у беларускі культурніцкі дыскурс тыя тэксты, якія згубіліся ў бязладзьдзі апошніх гадоў.

**"Багун"** Вінцэся Мудрова – першая кніга адноўленага "Полацкага ляда".

**Укладаньне і прадмова:** Алесь Аркуш

**Дызайн і вёрстка:** Соня Гузік

У вокладцы выкарыстаныя фрагменты карціны Таццяны Козік.

Дзякуем за дапамогу Цэнтру падтрымкі рэгіянальных выдавецкіх ініцыятываў.

Copyright © Полацкае ляда, 2013
Вінцэсь Мудроў, 2013



# КЛЯСЫК ПОЛАЦКАЙ ІРАНІЧНАСЬЦІ

Напрыканцы 80-х пачатку 90-х мінулага стагодзьдзя адбыўся прарыў у беларускай літаратуры. Карабель з назваю СССР пад поўнымі ветразямі ляцеў да сваёй пагібелі. Добра разумелі гэта і ў кабінетах улады, таму пытаньні культуры пачалі адыходзіць на далёкі задні плян, на парадку дня паўставалі па-сапраўднаму складаныя і небясьпечныя праблемы, найперш эканамічныя. Менавіта падчас гэтай ідэалягічнай «адлігі» на старонках беларускіх літаратурных выданьняў пачалі зьяўляцца творы так званых “нацыяналістычных” пісьменьнікаў, а таксама маладых творцаў, творчасьць якіх ніяк не ўкладалася ў пракрустава ложа савецкай беларускай літаратуры.

Сярод апошніх быў і наваполацкі празаік Вінцэсь Мудроў. Ранейшыя спробы надрукавацца ў літаратурных пэрыёдыках не прыносілі маладому літаратару посьпеху. Звычайна рукапіс твора вяртаўся зь лістом, у якім літаратурны супрацоўнік выданьня тлумачыў маладому калегу, што гэта ня твор, а здзек: і над савецкай рэчаіснасьцю, і над савецкім працоўным чалавекам. Калі б не прыйшлі часы перабудовы, дык такога пісьменьніка, як Вінцэсь Мудроў, магло ўвогуле ня быць, у сэнсе, ён бы папросту не адбыўся. У сярэдзіне 80-х мудроўскія апавяданьні час ад часу друкавала на сваёй літаратурнай старонцы толькі гарадзкая наваполацкая газэта «Химик». Балазе, літаб’яднаньнем пры газэце ў той час кіраваў сябар Мудрова яшчэ са школьных гадоў Уладзімер Арлоў.

Менавіта сябры ўгаварылі Мудрова ўкласьці рукапіс першай кнігі. Кнігу Вінцэсь назваў «Жанчыны ля басэйна» па назве аповесьці пра былога энкавэдыста. У зборнік трапілі першыя апавяданьні празаіка. За нібыта анэкдатычнымі жыцьцёвымі гісторыямі дапытлівы чытач мог убачыць падтэксты, алюзіі, сацыяльныя гіпэрбалы.

Галоўны герой прозы Мудрова, як гэта ні гучыць парадаксальна, блізкі да літаратурных герояў Васіля Быкава. Перад

імі таксама ўзьнікаюць розныя жыцьцёвыя выпрабаваньні, якія прыводзяць да канфлікту з сацыяльнай сыстэмай. Як і ў прозе Быкава, героі Мудрова, як правіла, церпяць паразу і зачастую гінуць.

На пачатку 90-х Вінцэсь Мудроў разам са сваімі маладзейшымі калегамі па пяры засноўвае Таварыства Вольных Літаратараў і робіцца галоўным рэдактарам гэтай літаратурнай суполкі. Усе часопісы, альманахі, кнігі ТВЛ зазналі яго рэдагаваньне. А Таварыства выдала адну зь лепшых кніг Мудрова — “Зімовыя сны”.

Мудроўскія творы няпростыя і ня кожны можа іх расчытаць. Гэта сур’ёзная літаратура, якая бярэ выток з клясычнай гуманістычнай эўрапейскай літаратуры. І калі, напрыклад, Оруэл у сваіх творах пужае сацыяльнымі наступствамі дэспатычнага рэжыму, дык Мудроў імкнецца паказаць усю яго абсурднасьць, і ў той самы час эфэмернасьць, бо ствараем таталітарызм мы самі, сваім канфармізмам, бязвольлем, лайдацтвам. Мудроў нічога не вынаходзіў. Ён узяў і гіпэрбалізаваў усе тыя мастацкія прыёмы, якія выкарыстоўвалі апалягеты сацрэалізму. Абсурднасьць і марнасьць жыцьця чалавека-шрубкі ў таталітарным грамадзтве пад пяром Мудрова выяўляюцца настолькі, што гэтае жыцьцё ўвогуле падаецца нейкім саркастычным зьдзекам з існасьці і прыроды. У гэтага жыцьця цалкам адсутнічае будучыня. Героі яго твораў альбо бязвольна перасоўваюцца ад адной бессэнсоўнай жыцьцёвай падзеі да другой, або, як толькі ў іх нараджаецца мара (няхай сабе самая банальная і прыземленая) і яны пачынаюць імкнуцца да яе, адразу патрапляюць ў канфлікт з акаляючым абсурдным сьветам і, урэшце, губляюць нават тое, што мелі. А калі герой пачынае дамагацца нейкай справядлівасьці, зьяўляецца прадстаўнік улады, надзелены ўсімі магчымымі паўнамоцтвамі, і нахабна, адчуваючы поўную беспакаранасьць, дабівае героя. Што заставалася небараку рабіць? Адчуваць сябе прусаком, не выторквацца, чытаць і сур’ёзна абмяркоўваць чарговы твор «важдзя», хадзіць на бязглуздыя дэманстрацыі, агучваць

яшчэ больш бязглуздыя лёзунгі, імітаваць стваральную працу на прадпрыемствах або ў калгасах - і дэградаваць. Так савецкае грамадзтва цалкам і пасьлядоўна тупела, пачынаючы ад пісьменьнікаў і канчаючы пастухамі.

Асаблівасьцю гэтай кнігі, як і ўсёй прозы Вінцэся Мудрова, зьяўляецца адметная беларуская мова, якую без перабольшвання можна назваць аўтарскай мовай. І яшчэ адна аўтарская прыкмета — іранічны стыль. Літаратуразнаўца Пятро Васючэнка неяк напісаў, што іранічны стыль — асаблівасьць прадстаўнікоў полацкай прозы. І тады мусім прызнаць, што галоўным клясыкам полацкай іранічнасьці зьяўляецца менавіта Вінцэсь Мудроў.

*Алесь Аркуш*

# СТРАШНЫ ЧАЛАВЕК

*Апавяданьне*

Інжынэр-канструктар Васіль Бяссонаў, чорнавалосы, не па ўзросту вясёлы мужчына, утаропіўся на прастакутнік ватману і намаляваная на ім крыжавіна дыфэрэнцыялу паволі закруцілася ўваччу. Інжынэр вохнуў, налёг лабацінай на кульман і да болю выяўна зразумеў: калі ён зараз жа не пахмеліцца, пасьлязаўтра яго павязуць на машыне зь елкамі.

“Горад у жалобным убраньні... Прыспушчаны дзяржаўныя сьцягі... Цяжкая страта напаткала спэцыяльнае канструктарскае бюро сельгасмашынабудаваньня, а разам зь ім і ўсё перадавое чалавецтва”, — прагучаў у сьвядомасьці левітанаўскі голас і ўадначас — ужо на яве — за сьпінай Васілёвай секануў прастору гучны воклік:

— Бяссонаў... да начальніка!

Загадчык сэктара Маргун сядзеў у сваім катуху, правіў алоўкам графік здачы праектнай дакумэнтацыі і на твары ягоным ляжаў цень сьмяротнай тугі і сумоты.

— Што... зноў трасесься? — ускінуў вока Маргун, і той, да каго ён зьвяртаўся, асуджана прамармытаў: — На ўлазінах быў... узялі па чарцы.

Загадчык сэктару ўздыхнуў, пацёр правую лобную долю.

— Графік зрываем... А тут яшчэ Капніст захварэў. Дзякуй Богу, хоць у хаце малюе, — загадчык зь вясёлым адчаем пацёр левую лобную долю: — Ты ў яго ніколі ня быў?

Падначалены разьвёў рукамі і Маргун таропка напісаў на паперцы адрас.

— Возьмеш у Капніста два лісты. Адзін, з матавілам, занясеш тэхнолягам, а з саламатрэсам — у пяты сэктар. Запомніў?

— І глядзі ж — нідзе не затрымлівайся! — гукнуў Маргун на разьвітаньне, тыцнуў алоўкам у графу “матавіла” і навылёт прадзёр лядашчую паперу.

Піўная бочка на рагу Калектарнай і Экскаватарнай была аточана з усіх бакоў і ў сьвядомасьці ізноўку абудзіўся няўрымсьлівы Левітан. “Бясконцая людзкая плынь... Тут, у ганаровай варце, стаяць салдаты і афіцэры, старшыны і мічманы, інжынэры і тэхнікі...”— зацята бубнеў дыктар усесаюзнага радыё і Васіль, каб пазбыцца чмуры, адрывіста — тры рашучых стаката — кашлянуў. Таго дня ў Маскве хавалі нейкага прайдзісьвета; радыё без супыну прамаўляла розную лухту і словы тых дэклямацыяў сьвярблівымі ваўчкамі ўчапіліся ў мазгі.

Васіль аблізнуў сасьмяглыя вусны, стаў на дыбкі, панылa агледзеў натоўп і ў самых нетрах людзкіх убачыў калегу — Сеню Мотыля з сэктару льноцерабілак. Сеня выбіраўся з натоўпу, трымаючы над галавой два бурапенных кухлі...

...Калегу таксама смажыла, а таму ён дазволіў зрабіць толькі чатыры глыкі. Васіль у адказ пачаставаў Сеню цыгарэтай, здаволена адрыгнуў і разам з піўным духам выдыхнуў ёмістую фразу: “Канструктарскую галаву чатырма глыткамі ня вылечыш”.

Ехаць трэба было на другі канец горада, у мікрараён Мандрыкаўка-2, і пакуль ён дабіраўся да той Мандрыкаўкі і блукаў у пошуках патрэбнага дома, зь яго сышло сем патоў і ў душу ўбілася пякучая крыўда. Маргун урэшце рэшт мог паслаць па матавіла каго-небудзь з маладых. “Адных капіравальшчыц сем штук”, — уголас прамармытаў Васіль і, зьверыўшы лічбу, напісаную ў паперцы, з той, што была на дзьвярах, намацаў гузік званка.

Яму доўга не адчынялі, ён пазваніў другім разам і за дзьвярыма недаверліва запыталіся:

— Хто?

— Свае, — буркнуў Васіль і пачуў яшчэ больш недаверлівае: — А як ваша прозьвішча?

Госьць каротка мацюкнуўся, назваў прозьвішча і дзьверы з прытоеным рыпам прачыніліся.

— Не пазнаў па голасе,— сьцішана выдыхнуў гаспадар, а госьць, убіўшыся ў прысенак, гэткім жа ціхім голасам пацікавіўся: — Што, жонка сьпіць?

— Ды не, яна на лецішчы... зь цешчаю, — гаспадар бліснуў шкельцамі акуляраў, пайшоў у пакой і вынес адтуль скрутак цупкіх ватманскіх лістоў. — Скажаце Маргуну — у панядзелак выйду. Калі такая запарка — папрацую на бюлетэні.

“Хаця б на кухню запрасіў, сволач”,— падумаў Васіль і неспакойная рука памацала тое месца — пад самым сэрцам — дзе пукацілася бутэлька.

— Слухай... я тут узяў па дарозе... Можа кульнем? За здароўе, — фраза яшчэ не была скончана, а гаспадар ужо замахаў рукамі: — Ды што вы... у мяне ж гіпэртанічны крыз... толькі што з уколаў...

— Таму і крыз, што не ўжываеш, — выдыхнуў госьць, адсунуў гіпэртоніка ўбок і камандорскім крокам рушыў на кухню.

Гермаген Нікандравіч Капніст, да якога завітаў Вася Бяссонаў, быў дзіўнаватым чалавекам. Ня піў, не паліў, ні з кім не сябраваў і таму, адпрацаваўшы пятнаццаць гадоў у КБ, вышэй першай катэгорыі так і не падняўся. І наагул: гэты сугней мог цэлы дзень адстаяць ля кульмана і не перакінуцца з калегамі аніводным словам. Адзіны, хто мог яго разгаварыць — Клава Бадунова з аддзелу камплектацыі. З гэтай самай Клавай яны абедалі разам у кабэшнай сталоўцы. Гермаген пры гэтым раз-пораз шморгаў носам, давіўся груцай, штосьці апавядаў сяброўцы, і Васіль, седзячы непадалёк, мог чуць абрыўкі вусьцішных аповедаў пра тое, як цешча агрэла сугнея кухоннай качалкай, а потым паабяцала здаць у міліцыю.

... Разьліўшы гарэлку — сабе на чатыры пальцы, гаспадару на два, Васіль хукнуў у жменю, паднёс шклянку да вуснаў, але піць ня стаў: змучана перакрывіўся, кіўнуў у бок лядоўні:

— Можа ёсьць што на зуб?

Гарэлка была цёплая і вымагала закусону.

— Я тут хварэў тыдзень, у краму не хадзіў...— буркнуў гаспадар, прачыніў лядоўню і госьць угледзеў у сьветлай пройме кавалак доктарскай каўбасы.

— Каўбасені адчыкрыж — сама тое, — госьць падаў нажык, што ляжаў на стале, а гаспадар уздыхнуў і зачыніў лядоўню. — Цешчына, — патлумачыў Гермаген, чым надта зьдзівіў Васіля. Госьць уражана страсянуў чупрынай, кульнуў чарку і, прыціснуўшы зубы да рукава, здушана прамармытаў: — Адрэж крыху — усё адно не заўважыць.

— Заўважыць, — выдыхнуў пасьля працяглай паўзы Гермаген.

Хвіліну гаспадар сядзеў нерухома, потым — з насьцярожлівай павольнасьцю — палез у кухонную шафу, выцягнуў адтуль нітку з прывязаным на канцы плястмасавым кручком.

Васіль зірнуў на кручок, запытальна таргануў падбародзьдзем.

— Рулетка цешчына, даўжыню фіксуе, — патлумачыў гаспадар. — Дрыжачыя Гермагенавы рукі падхапілі каўбасу, пачапілі кручок да каўбаснага хваста, выцягнулі нітку ўздоўж каўбасіны.

Пабачыўшы такое, Васіль нават прасьлязіўся.

— Лютуе? — запытаўся пераселым ад абурэньня голасам і калі гаспадар кіўнуў галавой, зь нянавісьцю адкусіў кавалак ніткі. — Цяпер не заўважыць, — мовіў Васіль і з імпэтам разьніка жагнуў нажом па каўбасным батоне.

Такая рашучасьць не магла ня ўражваць. Гермаген наструніўся, паправіў акуляры і, відаць, насуперак уласнай волі ўзьняў шклянку. Піў ён цяжка, гнятліва, зьвёўшы вочы да пераносься; пры гэтым кашляў, душыўся, варушыў кадыком і Васіль, які таксама прыклаўся да шклянкі і левым вокам сачыў за калегам, нават упрэў ад такога відовішча.

— Вось гэта па-нашаму, — гукнуў госьць, калі пакутнік Гермаген адолеў сваіх трыццаць грамаў і пусьціў пад ногі густую сьліну.

Васіль запіхнуў у рот пакутніку колца каўбасы і зноў напоўніў шклянкі.

— І даўно яна тут жыве?

— Год, два месяцы і чатырнаццаць дзён, — прашамкаў Гермаген, а праглынуўшы недажаваную каўбасу, дадаў: — З Хахляндыі прыехала...

Словы такія Васіля не на жарты ўсхвалявалі. Ён ускочыў з крэсла, рашуча напоўніў шклянкі.

— Цяпер я цябе разумею, — у голасе Васілёвым абудзіліся трагічныя абэртоны, — у мяне ў самога цешча з Хахляндыі.

Госьць кінуў у рот папяросу, пстрыкнуў запалкай і жоўты агеньчык заскакаў у ягоных зьвільгатнелых вачах.

— Прыехала аднойчы, абжылася, і давай ва ўсе дзіркі нос тыцкаць ды Галку супроць мяне настройваць. Жонка ў мяне лагодная, лішняга слова ня скажа. А тут ад самага раньня ўзялася бурчэць. Маўляў, хопіць піць, займіся сынам і ўсё такое... Ну, я слухаю, але маўчу, нібыта мяне гэта ня тычыцца. І вось выбраўся неяк на рыбалку. Ну, выпілі троху, вярнуўся позна, прылёг у калідоры, не распранаючыся. Раніцай пайшоў у прыбіральню. Чую, шапоча, падлюга: "Выкідвай гэтага п'янтоса і перапісвай на сябе кватэру". Тут мяне і прарвала. Сьцягнуў са зьмеявіка цешчыны мэтлахі, выйшаў і кажу: "Ось, шчо, мамо... забырай свойі трусы, — у гэтым месцы Васіль махнуў рукой, паказваючы, як ён шпурляў цешчыны трусы, і Гермаген ад захапленьня нават падскочыў на ўслоне, — забырай свою доньку, та йідты туды, зьвідкіля прыйіхалы!". Потым яшчэ з нагі балотнік сьцягнуў, таксама шпурнуў, ды няўдала: патрапіў у адчыненую фортку. Цешча потым бегала на двор — шукала балотнік. Ды не знайшла. Сабакі некуды зацягнулі.

Васіль папярхнуўся тытунёвым дымам, здушана кашлянуў:

— Пасьля таго сеў на тэлефон, замовіў дзьве прамых пляцкарты да Чарнавіц і зноў на рыбалку падаўся. — Наступным ранкам прыходжу: цешчу не пазнаць. Бегае, мітусіцца. "Ва-

сылько, Васылько прышов... Боршчу, Васыльку, пойіш...” Помню, тры талеркі навярнуў... з галадухі.

Госьць падняў шклянку, агледзеў пусты стол і гаспадар матлянуўся да лядоўні. Праз імгненьне на стале зьявілася міса з салатай, бляшанка шпротаў і ўсё тая ж доктарская каўбаса. Гермаген узяў нож, мерачыся распалавініць каўбасіну, і Васіль схапіў калегу за рукаво.

— Герман... Гена... ня трэба, — Гермаген паспрабаваў вырваць руку, а потым схапіў каўбасіну зубамі і стаў шкуматаць, дэманструючы сябру, што з гэтай хвіліны ўжо нікога ў сьвеце не баіцца.

Праз гадзіну, падхапіўшы пад пахі ватманскія лісты, Вася Бяссонаў выкуліўся на вуліцу, зірнуў на вокны і, убачыўшы ў адным зь іх знаёмую постаць, узьняў угору сьціснуты кулак, як гэта рабілі калісь гішпанскія антыфашысты.

Гермаген Нікандравіч Капніст зьявіўся на працы ў аўторак. Пры гэтым ён меў выгляд чалавека, якога прапусьцілі праз вібрацыйны грохат. На лобе Гермагенавым сінеў вялізны гузак, левае вуха было прыпухлае і зьлёгку надарванае, а ў акулярах адсутнічала правае шкельца. Васіль хацеў быў падысьці да небаракі, спытаць — што здарылася, але не рашыўся. Блізу абеду ў аддзел завітала Клава Бадунова.

— Гермаген Нікандравіч, што з вамі? Вас білі? — вохнула сяброўка.

Усе наўкол стаіліся, наструнілі слых.

Небарака сьцягнуў з носа акуляры.

— Бяссонаў страшны чалавек, — мовіў ён па-змоўніцку ціхім голасам і, адвярнуўшыся, змахнуў рукавом няпрошаную сьлязіну.

# РАНІЦАЙ, КАЛІ ПАТУХАЮЦЬ ЗОРКІ

*Апавяданьне*

На апошнім павароце перад школаю Зьмітрок спыняецца і доўга глядзіць з-пад рукі на агромністае, ружовай імглой ахутанае неба. Каторы дзень хлопец прагне ўбачыць — як патухае апошняя, самая зыркая зорка, і кожнага разу, пакуль ідзе ад Мартулёвай хаты да павароткі, тая бязь сьледу зьнікае. Сёньня ён нават спрабаваў ісьці, не адрываючы вачэй ад неба, ды ўзьбіўся на сумёт і набраў у валёнак сьнегу. Дарогу зьвечара перамяло, таму трэба глядзець пад ногі і ступаць у санную каляіну.

— Што... самалёт ляціць?! — гукае стрыечны брат Чэсь, таксама зірнуўшы на неба.

Чэсь, не патрапляючы нагой у каляіну, бяжыць насустрач. На ягонай галаве летняя канфэдэратка, і адтапыраныя вушы малінавыя ад марозу.

— Самалёт?! — задыхана пытаецца Чэсь, але Зьмітрок у адказ толькі ўздыхае — казаць пра зоркі, ды яшчэ на марозе, няма ахвоты.

З гасьцінца да школы бягуць западзіны прыбітага сьнегу — некалькі чалавек прайшлі тут, ступаючы нага ў нагу.

— А я думаў — мы першыя, — падае голас стрыечны брат, і Зьмітрок, не азіраючыся, прамаўляе: — Першая Цыба прыходзіць.

Цыбаю хлопцы называюць сваю высакарослую, прысланую з усходу настаўніцу. Цыба тая жыве ў Мартулёвай хаце і прыбягае ў школу дасьвецьцем.

Прамерзлыя завесы жаласна стогнуць, хлопцы разам пераступаюць парог, кідаюцца да гарачай галяндкі, ды іх, як заўсёды, спыняе незадаволены воклік цёткі Агаты:

— Доконд?

Цётка — яна ўжо гадоў дваццаць жыве пры школе — торкае ў Чэсевы рукі паскубаны дзяркач. Абабіўшы сьнег з валёнак, хлопцы бягуць да печкі, ляпаюць па ёй зьбялелымі далонямі, міжволі наструньваюць слых.

— Так ровно? — пытаецца за сьценкаю Цыба і цётка Агата, увайшоўшы ў кляс, разважліва, расьцягваючы гукі, прамаўляе: — Ву-унь той краёчак — чу-уць угору, — потым, ужо адрывіста, гукае: — Добжэ, — і падлога зьлёгку страсянаецца. — Настаўніца штосьці вешала на сьценку і цяпер скочыла долу.

Цыба ляпае далонямі, а цётка Агата нясьмела выдыхае:

— Пані наўчыцелька... дроваў... адзін абярэмак застаўся.

Хвіліну пануе цішыня.

— Агата Ивановна, — не называйте меня так. Я не пани, а простая советская учительница. А что касается дров... — у клясе гучна рыпае масьнічына, — я подумаю над этим вопросом.

Зьмітрок з Чэсем пераглядаюцца. Пані Яблоньска, што вучыла іх летась, з усімі размаўляла па-польску, настаўнік Скочык — таксама. А вось Цыба на ўроках гамоніць па-беларуску, зь цёткай Агатай размаўляе па-расейску і гэта дзівіць хлопцаў.

Завесы зноў стогнуць і ў парнай ад марозу пройме зьяўляюцца Лена Патыка і Дана Кур’янка. Дзяўчынкі, не абабіўшы валёнак, бягуць да галяндкі.

— Доконд? — жартам гукае Чэсь, раскрыльвае рукі, не падпускаючы дзяўчынак да печкі, і Лена хвацка б’е яго спачатку па плячы, а потым па брыльку канфэдэраткі. — Чаго гэта ты зіму пужаеш? — Лена цісьне далоні да печкі, — глядзі, каб вушы не адваліліся.

Чэсь хмурнее. Летнюю шапку ён носіць дзеля форсу, і пасьля такіх кпінаў вушы ягоныя яшчэ больш пунсавеюць.

Праз латку незацярушанага інеем акна зыркае, працінаючы пунсовыя Чэсевы вушы, сонечны прамень.

— Дзеці, заўтра кожны мусіць прыхапіць з дому палена, — вітаецца з вучнямі настаўніца, потым глядзіць на Чэся і незадаволена заўважае: — Пераступаючы школьны парог, трэба здымаць галаўныя ўборы.

Хлопец няўцямна лыпае вачыма, і Цыба стоена дадае: — Шапку здымі.

Кляса поўніцца сонечным сьвятлом. Шэрань на вокнах вясёлкава блішчыць, а на пашарпанай падлозе дрыжаць рознакаляровыя плямы.

— Што, фарсун, ва ўсіх шапкі, а ў цябе галаўны ўбор? — гукае Лена Патыка, дзяўчынкі пырскаюць сьмехам і раптам аціхаюць, пазіраючы паўзьверх шышкаватай Чэсевай галавы. Там, над кляснай дошкай, зьявіўся партрэт вусатага дзядзькі. Адбітак сонечнага сьвятла дрыжыць на глюгастым носе, кранаецца ваяўнічых вусоў і гэта стварае ўражаньне, што дзядзька залівіста сьмяецца.

“На солтыса падобны”, — думае Зьмітрок. У солтыса Брошкі таксама быў глюгасты нос і такія ж густыя, пракураныя вусы.

— Дзеці, сталі роўна! — прамаўляе настаўніца, ляпае ў ладкі і прыкметна суравее з твару.

— Чалавек, якога вы бачыце на партрэце — Іосіф Вісарыёнавіч Сталін! — Цыба вытрымлівае паўзу, гнеўна глядзіць на Чэся, які пацірае гарачыя пасьля марозу вушы, і працягвае: — Таварыш Сталін — правадыр працоўных нашай краіны і ўсяго сьвету, вялікі друг савецкіх дзяцей. Ён думае пра кожнага з вас, думае пра тое, каб... — настаўніца трасе рукамі, падбіраючы патрэбныя словы, і Лена Патыка, лыпнуўшы вачанятамі, уражана пытаецца: — Ён што... і пра мяне думае?

Настаўніца праводзіць далоньню па дзявочай галаве, парывіста ўздыхае: — Думае, Леначка: і пра цябе, і пра Дану, і пра... — рука цягнецца да Чэся, ды той гучна чхае і Цыба незадаволена трасе галавою.

На другім уроку Зьмітрака цягне на сон. Хлопец сядзіць,

прыкрыўшы рот — Цыба ня любіць, калі хто зяхае — і асавела глядзіць на мапу Савецкага Саюзу, па якой шнарыць канец настаўніцкай указкі. Да вушэй далятаюць толькі асобныя сказы.

— ... А там, за бацюхнам-Уралам, ляжыць суворы і казачна багаты край — край вячыстых лясоў, магутных рэк, высокіх гор, якія хаваюць у сваіх нетрах незьлічоныя багацьці...

Зьмітрок употай пазяхае і зялёная, пакрытая атожылкамі рэк, Заходне-Сыбірская раўніна паволі расплываецца ўваччу.

— ... Сталінскія пяцігодкі непазнавальна зьмянілі гэты край... Там, дзе зусім нядаўна шумела тайга і блукалі непалоханыя мядзьведзі, сёньня паўсталі новыя гарады і пасёлкі, леглі сталёвыя рэйкі чыгунак, загулі турбіны заводаў і фабрык... Пройдзе зусім няшмат часу, вы станеце дарослымі і, магчыма, хтосьці з вас паедзе ў далёкую Сыбір, працаваць на будоўлях камунізму...

У калідоры грукаюць дровы — гэта цётка Агата прынесла да печы апошні абярэмак; дзесьці знадворку, нібыта абуджаныя грукатам дроваў, пырхаюць коні, і Зьмітрок з Чэсем прыбіваюць насы да марознай шыбы.

Па вуліцы едзе абоз. Схуднелыя коні цягнуць шырокія развалкі, на якіх сядзяць людзі ў сьпічастых шапках.

— Жаўнеры, — выдыхае Чэсь, і настаўніца, адсунуўшыся ад акна, папраўляе: — Не жаўнеры, а байцы Чырвонай Арміі.

Цыба стукае ўказкай па падаконьніку, заклікаючы вучняў сесьці, ды тут брынкае званок — цётка Агата чамусьці зазваніла раней часу.

За палякамі ўсе вучыліся разам, у школе-сямігодцы. Цяпер малечу адасобілі; школка, дзе займаюцца Зьмітрок з Чэсем, называецца пачатковай і месьціцца на ўскрайку мястэчка, у былой габрэйскай краме. Да сямігодкі паўвярсты хады, аднак хлопцы маюць завядзёнку: бегаць туды пад час вялікай пярэрвы. Цікава ж пакруціцца сярод старэйшых мальцаў, паслухаць іхныя размовы. Ну а сёньня і пагатоў: абоз з жаўнерамі прыехаў... Ці ўседзіш тут у школе.

Цётка Агата яшчэ бомкала званком, а Зьмітрок з Чэсем, на хаду насоўваючы кажухі, ужо бухнулі плечукамі ў дзьверы. Бухнулі раз, другі, і толькі тады зразумелі, што дзьверы зачыненыя.

— Мароз... на вулку ніхто ня пойдзе, — азвалася Цыба. Расьпіхваючы вучняў, што высыпалі з клясы, настаўніца падбегла да акна ў канцы калідора. З дапамогаю цёткі Агаты ўзьлезла на падаконьнік, расчыніла фортку.

— Товарищи, куда поехали красноармейцы? — крыкнула, пусьціўшы марозную аблачынку, Цыба, і ў гэты момант у дзьверы пастукалі.

Цётка Агата хуценька іх адчыніла, хлопцы памкнуліся скочыць на двор, ды ўбачылі на парозе заінелага вайскоўца.

— Младший политрук Сергиеня, — адрэкамэндаваўся вайсковец, пераступіў парог і цётка Агата — ці то зь перапуду, ці то зь якой іншай прычыны, ізноўку дачасна бомкнула званком.

Настаўніца таропка пісала на дошцы. Крэйда крышылася, сыпалася долу і літары атрымліваліся пахілымі і нязграбнымі. “Да 17 верасьня 1939 года беларускія сяляне... — слова “сяляне” атрымалася зусім нечытэльным, таму Цыба сьцёрла яго і напісала па-новай, — …сяляне... стагналі ў ярме польскіх паноў і капіталістаў”.

Дрогкая рука кранулася лобу, пазначыўшы яго белай мецінай.

— Перапішыце сказ, запісаўшы лічэбнікі пропісьсю, — настаўніца перавяла дыханьне, падышла да клясных дзьвярэй і ўжо з калідору задыхана прамовіла: — Сядзець ціха, я зараз вярнуся.

“Да сямнаццатага... — напісаў Зьмітрок, тыцнуў асадку ў каламар. “Сямнаццатага ці семнаццатага?” — падумаў хлопец, скасіў вока ў Ленчын сшытак, але суседка закрыла сшытак бібулай. Чэсь таксама памкнуўся зірнуць цераз Ленчын плячук, але атрымаў чытанкай па галаве.

— Выдатніца сраная, — буркнуў Чэсь, а Ленка, не азіраючыся, выдыхнула яшчэ больш абразьлівае: — Асаднік недабіты.

У Чэся па пісьму адны двойкі: беларуская мова яму даецца цяжка.

Рыплівае пёрка выводзіць слова “стагналі” і на паперы расплываецца невялічкая клякса. Зьмітрок незадаволена крывіцца, прыкусвае ніжнюю вусну, міжволі задумваецца над сэнсам напісанага. Цыба піша, што сяляне стагналі, але ж гэта лухта. Стагнала толькі іхная бабця Наста. Паўгода адляжала, хворая, на печы і памерла на яблычны Спас.

Пад драбы тыцнула асадка і Зьмітрок азірнуўся. Чэсь, што сядзеў за ягонай сьпінай, шматзначна таргануў галавой. Пудка ступаючы па рыпучай падлозе, хлопцы высьлізнулі з кляса, агледзеліся. Цётка Агата, відаць, выйшла на падворак: калідор быў пусты і браты, ня чуючы ўласных ног, падкраліся да дзьвярэй настаўніцкай.

— Вы тут всех знаете, а потому должны нам помочь, — басіў за дзьвярыма малодшы палітрук. У настаўніцкай чыркнулі запалкай, аддзьмухліся і вайсковец, нібыта згадаўшы пра штосьці, спытаў: — Да, кстати, сколько у вас детей осадников?

— Двое — мальчик и девочка, — адказала Цыба, — мальчик трудный... демонстративно ходит в польской шапке...

У настаўніцкай затупалі, дзьверы тузануліся (вайсковец, відаць, хацеў пераканацца — ці шчыльна яны зачыненыя), і хлопцы, страпянуўшыся, на цырлах пабеглі ў клясу.

Неўзабаве вярнулася і настаўніца. Была яна расчырванелая і ўсхваляваная.

— Заўтра, у сувязі з моцным маразам, заняткі адмяняюцца, — з робленай весялосьцю абвясьціла Цыба. Вучні радасна загарлалі, заляпалі вечкамі партаў, і толькі Чэсь ня выказаў радасьці: сядзеў, наструнены, з трывогаю пазіраючы на настаўніцу.

Ля местачковага клюбу, які па старой памяці называюць Народным домам — поўна народу. Гукае п’яныя песьні Яська Хадаронак — адзіны на ўсю акругу апівуда; гергечуць, зьбіўшыся ў кучу, старыя габрэі; пырхаюць на марозе коні. Ля плоту трашчыць сухімі карчагамі вогнішча — яго, відаць, распалілі вайскоўцы, а поруч з вогнішчам, аточаная з усіх бакоў цікаўнымі жанкамі, мазоліць язык Наста Амяльянчык — местачковая балаболка.

— Будзе як летась — усіх мужыкоў паберуць і на хронт адправяць, — сакатала Наста асіплым голасам.

— А куды ж гэта адправяць? — улякнута запыталіся ў натоўпе.

— Ну ў гэную... як яе...

— У Фінляндыю! — падказаў Чэсь і цёткі разам азірнуліся.

— Чаго бабіны плёткі слухаеце, вушы марозіце?! — адбіўся ад хлапечых сьпінаў зьвяглівы Наставы голас — хлопцы той хвіляй ужо беглі да траскучага вогнішча і Чэсь, тузануўшы брата за рукаво, каротка выдыхнуў: — Глянь!

Да клюбу, бойкай хадою, ішоў малодшы палітрук Сергіеня, а сьледам за ім, ціснучы да грудзей нейкія паперы, няўпэўненым крокам тупала Цыба.

— Па хатах ходзяць, падсабачнікаў зьбіраюць, — прасіпеў Яська Хадаронак, смачна плюнуў, і ўсе, хто стаяў поруч, зьнямела аціхлі. --Падсабачнікамі ў мястэчку называлі савецкіх актывістаў.

Палітрук з настаўніцай увайшлі ў клюб, і ў той жа міг на адкрытай клюбнай вэрандзе паўстаў чырвонаармеец з даўжэзнай вінтоўкай у руках. Чырвонаармеец хукнуў у далонь, ускінуў вінтоўку на плячо і востры багнет мякка ўехаў у нізкую столь. Уехаў даволі глыбока, бо ваяку давялося прысядаць, тузаць за рулю і гэта выклікала вясёлы сьмех дзятвы.

— Вот... щас яйцы вырежу! — крыкнуў ваяка, адкінуў крысо шыняля і падшыванцы — а іх было вакол як мурашак, — кінуліся ўроссып.

Зьмітрок з Чэсем таксама адбеглі, але недалёка. “Пужае, а ў самога, відаць, і ножыка няма”, — падумаў Зьмітрок, сьціснуўшы рукою тронкі сьцізорыка. Трохлязовы, са штопарам і шылам, сьцізорык, ён знайшоў летась на дарозе, і цяпер зь ім не разьвітваўся. Нават ноччу клаў пад падушку.

— Ну што, падшыванцы, зьмерзьлі? — пачулася з-за сьпіны, і паветра скалануў хваравіты кашаль.

Дзед Мартуль, у хаце якога кватаравала настаўніца, доўга, з усхліпам кашляў, нарэшце сумеўся, страсянуў галавою:

— Чаму ня ў школе?

— Адпусьцілі... з-за марозу, — адказалі падшыванцы і дзед дакорліва хмыкнуў.

— Хэк-х... за партай сядзець — холадна, а па вулцы гойсаць — цёпла?

Дзед ізноў кашлянуў, падчапіў кульбай зьмерзлы конскі яблык.

— Ну, а дзе лепей вучыцца — у польскай школе, ці ў гэнай... савецкай?

— У по-ольскай! — парна выдыхнулі хлопцы, — там каву давалі.

Пры паляках, пад час вялікай пярэрвы, вучням давалі па шклянцы ячнай кавы з лустай хлеба, а цяпер на вялікай пярэрве Цыба прымушала вучняў нагінацца, цягнуць угору рукі і ўсё гэта называлася гімнастыкай.

Хлопцы ўжо рушылі ўпрочкі, ды дзед Мартуль ізноў падаў голас:

— Ад бацькі нічога няма?

Чэсь на імгненьне спыніўся і, замест адказу, панурыў долу заінелыя вейкі.

Мінулым летам тутэйшых асаднікаў пабралі ў польскае войска і ніхто зь іх назад не вярнуўся. Згінуў недзе і Чэсевы бацька — шыракаплечы і віславусы пан Станіслаў. Чэсю цяпер даводзілася дапамагаць маці па гаспадарцы, таму, пагрэўшыся

ля вогнішча, ён рушыў да хаты, а Зьмітрок яшчэ доўга марозіў нос і дахаты заявіўся сінім адвячоркам.

Кінуўшы ля рукамыйніка заінелую кайстру з кніжкамі, хлопец доўга піў квас з гладыша, потым, ня зьняўшы шапкі, куснуў салёнага гурка і пачуў здушаны матчын шэпт:

— Ой, баюся я гэных Саветаў. Людзі надоечы казалі: лесьнікоў і асаднікаў высяляць будуць... А куды ж Куліна паедзе... з Чэсем на руках?

Бацька штосьці прабурчэў у адказ і, падвысіўшы голас, запытаўся:

— Зьмітрок, ты?!

— Я-а, — азваўся хлопец, чмякаючы на ўсю кухню і расшпільваючы азалелымі пальцамі кажух.

— Чаму так позна? — запыталася ў сваю чаргу маці, і сын, ізноў прыклаўшыся да гладыша, прагугнеў: — Пяць урокаў было.

Маці дастала зь печы чыгунок з капустай, накроіла хлеба.

— Ну... што там людзі кажуць?

Перад тым, як есьці капусту ці поліўку, Зьмітрок звычайна кроіў сьцізорыкам хлеб на дробныя кавалкі, а тут адразу куснуў самую тоўстую скібу і, жуючы, няўцямна прамармытаў:

— Казалі… мужыкоў на фронт адправяць... у Фінляндыю.

— Авохцімне! — прашаптала маці, спалохана перахрысьцілася, а бацька, кінуўшы на падлогу штосьці мяккае і важкае, наструнена запытаў: — А дзе пачуў?

— Наста Амяльянчыкава казала.

— О-от! Знайшоў, каго слухаць, — з трывожнай весялосьцю азваўся бацька са сьвятліцы, а памаўчаўшы, дадаў: — Пад'ясі, дратву навошчыш… хамут зусім падзёрся.

На падворку здаволена брахнуў Жук, хтосьці здушана войкнуў і бацька, з хамутом у руках, кінуўся ў сенцы.

— Куля?! Ты?!

— А людцы мае... а што ж гэта... а пранясі, Гасподзь... — цётка Куліна, Чэсева маці, убілася ў кухню, тройчы перахрысьцілася на абраз.

— Ды скажы ты... што здарылася? — прасіпеў бацька, адкінуўшы ўбок хамут.

— Патыкаў высылаюць! Прыйшлі во зараз з вучыцелькай... Тры гадзіны на зборы... Патычыха самлела, сьнегам адціраюць.

На ганку бомкнулі вёдры — маці хадзіла да студні — і ў пройме наросхліст адчыненых дзьвярэй матлянулася яе сутулая постаць.

— Пра Стася што ўведала?!

— Патыкаў высылаюць, — выдыхнула цётка Куліна, а бацька, незадаволена крэкнуўшы, пайшоў зачыняць уваходныя дзьверы.

У хату белым туманком уварваўся мароз, скалыхнуў фіранкі на вокнах.

— Як ты, Куля, мяне напужала, — маці прыпала на калена, укінула ў печ пару бярозавых аскабалкаў.

— А як і мяне высяляць?.. — цётчын голас сарваўся і хата напоўнілася здушанымі ўсхліпамі.

— Ды хрысьціся ты, далібог... Патыка палясоўшчыкам быў, са стрэльбаю хадзіў. Брошка ў солтысах круціўся... А ты што? — бацька падхапіў хамут: — Усё жыцьцё ў зямлі адпоркалася.

— Дык асаднікі ж... — усхліпнула цётка Куліна і зноўку, аж дзевяць разоў запар перахрысьцілася.

Цётка Куліна брала шлюб у касьцёле, і ў сваёй хаце жагналася па-польску. Калі ж завітвала да сястры, дык хрысьцілася па-праваслаўнаму, сьпехам прамаўляючы доўгія малітвы і нізка ківаючы галавой.

Маці зь цёткаю пашапталіся аб нечым на кухні і неўзабаве, не сказаўшы ні слова, падаліся на двор. У хаце стала ціха, адно тахкалі ходзікі ды раз-пораз рыпела суворая нітка: гэта бацька зашываў стары хамут.

Зьмітрок ляжаў на печы, салодка пазяхаў. Лагоднае цяпло і замарачныя зыкі краналася павекаў, рабілі іх цяжкімі; павекі пачалі зьліпацца і ўваччу заблішчэў сьнежны пыл. Пыл ападаў з высокага неба, казытліва кранаўся твару і сярод сяйва бліскучых іголак дрыжэла, працінаючы нябесную ясноту, апошняя зорка. Усё наўкол: высокае неба, неабсяжны, зацярушаны пульхным сьнегам абшар, і нават зорка над галавою здаваліся чужымі, нетутэйшымі; і велічная ціш панавала над сьветам, здушыўшы шорхат сьнежнага пылу і грукат сэрца ў грудзіне. І сярод гэтай велічнай цішы прагучалі, немаведама скуль узяўшыся, сабачы брэх ды ўладны воклік:

— Эй, хозяин, запрягай лошадь!

На падворку кашлянулі, мацюкнуліся на Жука, які заходзіўся ад брэху і, крыкнуўшы: — Подъезжай к клубу! — патупалі да весьніц.

Зьмітрок са сьмяшком на вуснах назіраў, як бацька падхапіўся на ногі, войкнуў, пачаў дзьмуць на палец — укалоўся, відаць, шаршаткай, — і, з хамутом на карку, прыпаў да акна.

— Во прынесла нячысьцікаў, — прамармытаў бацька, углядаючыся ў цемру, потым уздыхнуў і, апрануўшыся, пайшоў запрагаць Зорку.

Страшна аднаму сярод ночы. Вецер гудзе ў коміне, у цёмным куце нехта пішчыць і шкрабаецца, а на гарышчы чуваць стоеныя крокі ды парывістыя ўздыхі.

Газы ў бутэльцы засталося на палец, але Зьмітрок запаліў усе тры лямпы, а пачуўшы, як у коміне заенчылі, а потым заплакалі, упусьціў у хату Жука.

Жук — чорны, зь белай мецінай на шыі, дварняк, — збрахаўся да сіпу, але і тут, у хаце, ня даў сабе спакою: падбег да акна і здушана, з падвываньнем, заекатаў.

— Жук! — крыкнуў хлопец, ляпнуў рукой па калену і дварняк, скавытнуў наастачу, скруціўся абаранкам на каберцы, але нос у хваста ня ўбіў — ляжаў, прыўзьняўшы галаў, нюхаў паветра.

"Дзе ж маці?" — думаў хлопец, неадрыўна пазіраючы на цёмную столь. За бацьку ён не хваляваўся — таго ўжо раз выклікалі сярод ночы вазіць на станцыю нейкае майно. А вось маці такою парою... — Зьмітрок зірнуў на ходзікі, спрабуючы ўгледзець — колькі зараз часу, — ... заўсёды была ў хаце. Кульнуўшыся зь левага боку на правае, і наадварот, хлопец падумаў было, што яна засталася начаваць у цёткі Куліны, але тут жа ўявіў, як маці, зьбіўшыся з дарогі, блукае па цёмным лесе, і ліхаманкава скаціўся зь печы. Ён выхапіў з загнету валёнкі, падхапіў кажушок і застыў у непаразуменьні. Бацька, выяжджаючы са двара, загадаў сядзець у хаце... ды і цётчын засьценак стаяў у полі, у вярсьце ад мястэчка: блудзіць не выпадала.

Дзесьці непадалёку — ці не на суседнім падворку — галасна крыкнулі, на падворку рыпнуў сьнег і Жук, падляцеўшы да акна, здаволена махнуў хвастом.

— А Зьмітрачок, а сыночак жа ты мой... адчыняй жа хутчэй, — ад самых весьніц залямантавала маці, Зьмітрок пабег адчыняць, і зімовы холад, што вырваўся з сенцаў, крануўся хлапечай грудзіны.

З таго самага імгненьня, калі маці — расхлістаная, амярцьвелая, з узьбітымі на вочы валасамі, — уляцела ў хату, нібыта ліпкае павучыньне завалакло вочы. Хлопец стаяў, няўцямна назіраючы, як маці зрывала зь цьвікоў старыя кажухі, скідвала на падлогу падушкі ды зьвязвала іх, прыдушыўшы каленам, як распаляла дрыжачымі рукамі печ, і пры гэтым цяжка было зразумець — што здарылася, куды гэта зьбіраюцца гнаць Чэся ("За сьвет, Зьмітрачок, гоняць нашага Чэську-у!") і матчына галашэньне сьцюдзёным скавышом казытала пяткі.

Потым яны, не разьбіраючы дарогі, беглі да клюба. Маці — яна цягнула на сьпіне аграмадны хатуль — колькі разоў падала, Зьмітрок, плаксіва шморгаючы носам, дапамагаў ёй падняцца; са спавітага анучкай сагана, які ён нёс, кожнага разу выплюхвалася гарачая капуста, і Жук, круцячы носам, падскокваў адразу на чатырох лапах і зморана дзяўкаў.

На чорным небе сноўдала палымніца, адбіваючыся на верхавінах высокіх хвояў, на спусьцістым царкоўным даху, на рашотчатых вокнах. Яны абмінулі царкву, завярнулі направа і тут жа прыцішылі крок. На пляцы перад клюбам злавесным барвовым агнём гарэлі вогнішчы, мільгалі чырвоныя людзкія твары, плылі ў марозным тумане аб'інелыя конскія храпы; там бязладна гаманілі, крычалі, галасілі і сярод гэтага вэрхалу прарываўся дрыготкі Цыбавы голас:

— Граждане! Чего вы кричите?! Вас же не на тот свет отправляют, а переселяют в восточные районы страны. Советская власть о каждом из вас позаботится...

Цыба яшчэ нешта крычала, але словы ейныя патанулі ў немым жаночым плачы.

— А сястрыца ты мая родна-я!... А куды ж цябе пасылаюць?! — загаласіла маці, і ад таго ляманту заняло дыханьне і сталі кісельнымі ногі.

Зьмітрок хацеў быў пасунуцца да вазоў, ды наткнуўся на старога Мартуля. Стары стаяў, абапёршыся на кульбу, захлынаўся тытунёвым дымам, раз за разам паўтараў:

— Заўтра ж паганю з хаты гэтую сучку.

На першых санях, у якія быў запрэжаны худы чырвонаармейскі конік, сядзела Лена Патыка. Дзяўчынка была ўхутана ў шэрую пуховую хустку, на сьвет глядзелі толькі затуманеныя дакорлівай сьлязінай вочы, і Зьмітраку падалося, што яны глядзяць аднекуль зь недасяжнага прадоньня.

— Трогай! — закрычалі з канца абозу; натоўп загарлаў, замітусіўся, пад нагою Зьмітраковай храснула грамафонная кружэлка і перад вачыма паўстаў малодшы палітрук Сергіеня.

— Спокойно, граждане! Всем оставаться на своих местах!

Нейкая ашалелая цётка штурхнула ў сьпіну, Зьмітрок паваліўся і ў твар яму горача дыхнулі: гэта Жук лыкаў пралітую на сьнег капусту. Ад капусты падымалася падсьветленая вогнішчам барвовая пара.

— А куды ж ты іх павязеш?! — маці тузанула крысо баць-

кавага кажуха, і бацька, зь нейкім роспачным спакоем, тузануў лейцы.

Зорка пырхнула, прыўзьняла пярэднія капыты, палазы натужліва рыпнулі і Чэсь, які сядзеў на кучы майна, скаціўся з возу.

— Лена таксама едзе, — выдыхнуў Зьмітрок, тыцнуў у братаву руку сьцізорык і застыў у непаразуменьні. — Чэсь узьняўся ў паветра, матлянуў нагамі, пляснуўся на кучу майна.

Малодшы палітрук схапіў яшчэ некага за каршэнь, ускінуў на воз, потым выхапіў з кабуры наган, стрэліў у паветра.

Ля царквы загарлалі вароны, небарака Жук, ужо дарэшты асіплы, кінуўся, падкурчыўшы хваста, да плоту, а ў аглушаных стрэлам вушах спачатку ледзь чутна, а потым усё гучней і гучней засьпявалі палазы. Сані праляталі міма, за імі беглі людзі, нейкая цётка — тая, што зьбіла Зьмітрака з ног, — хрысьціла абоз сьвятым абразом, нейкі дзядзька — ці ня зяць зьніклага Брошкі, — пнуўся, са швейнай машынкай на карку, дагнаць развалкі, на якіх ехалі Патыкі, а не дагнаўшы, ускінуў парэпаны “Зінгер” на апошнія сані. На тых санях, якія цягнула кульгавая, мышастай масьці, кабылка, ехала цётка Агата. На струхлелай саломе ляжалі два саганы, а ў руках — цьвёрда, як пахавальны крыж, цётка трымала закураны рагач.

Раніцою яго абудзіла тупаніна — гэта бацька абабіваў на парозе ногі. Зьмітрок прыспана павёў вачыма, прымружыўся ад сьвятла, што струменілася з напалову заінелых вокнаў. Неба знадворку было бяздонна-ружовым і ў ружовым бяздоньні паволі патаналі апошнія зоркі.

— Ну... як там? — змучана запыталася маці.

Бацька адказаў не адразу. Уздыхнуў, ляпнуў па стале закарэлымі рукавіцамі.

— Як... зьвезьлі на станцыю ды ў «сталыпіны» пасадзілі.

— Ну а потым куды?

— У Сыбір... куды ж яшчэ...

Маці ціха, з усхліпам заплакала, а Зьмітрок салодка пацягнуўся. Адчуваньне таго, што сёньня ня трэба ісьці ў школу, і што Чэсь паехаў у Сыбір — у гэты казачна багаты край, напоўніла душу маладой, як студзеньская раніца, празрыстай радасьцю. Зьмітрок кульнуўся на бок, і на твар ягоны павеяла лёгкай прахалодай. Гэта іскрысты сьнег ападаў з высокага неба, кранаўся гарачага лобу і сярод мірыядаў бліскучых іголак дрыжэла, працінаючы нябесную ясноту, апошняя зорка. Зьмітрок зірнуў з-пад рукі на неба і пачуў раптам вясёлы сьмех. Чэсь — заружавелы, з кучмай сьнегу на шапцы, стукаў нагой па камлях высозных сыбірскіх елак, сьпехам адбягаў, а сьледам за ім адбягаў, кожнага разу патрапляючы пад сьнежную лавіну, чалавек у даўгім шынялі.

“Сталін”, — прашаптаў Зьмітрок і вусны ягоныя — у сьне і на яве — кранула трапяткая ўсьмешка.

# КАЛОДЗЕЖ

## 1

У шыбу пастукалі і на падворку натужна кашлянуў Канавальчык.

— Гэй, Матруна, памёрла, ці што?

Спрасонку вочы не адразу ўгледзелі — колькі часу, а калі ўгледзелі, дык нават сэрца ёкнула і самлелыя вусны бязгучна прашапталі: «Божухна, што ж гэта я...»

Такога яшчэ не было, каб Матруна праспала і не падаіла сваёй карміліцы. А пятай гадзіне — і ўзімку і ўлетку — яна прыхоплівалася з ложку, апраналася й бегла да Зьвяздохі — рудой, зь белай плямай на пакатым лобе каровы. І пакуль іншыя гаспадыні яшчэ сядзелі ў ложках і невідушча вадзілі рукамі, шукаючы вопратку, з Матрунчынага хлява ўжо вырываліся на прасьцяг зычныя цыркі ды воклічы: «Стой ты, халера!» А цяпер во... на ходзіках палова шостай, Канавальчык стукае ў шыбу, Зьвяздоха рыкае ў хляву, кот Базыль дзярэ палена, счакаўшыся сырадою, а яна сьпіць, як сьветам загавеўшы.

Раніца дыхнула ў твар волкай прахалодай і пахам парфумы, што непрыемна казытнуў у носе.

— Хто пасьвіць? — крыкнула Матруна, падхапіўшы з паркану даёнку.

— Карпачыха зь зяцем, — азваўся сусед, і Матруна на хаду ўздыхнула: карпачысінага зяця — вядомага ў навакольлі п’янчугу — зранку было не абудзіць, а таму статак, відаць, яшчэ не пагналі.

«Уходае мяне гэты малец»,— нарадзілася ў галаве падступная думка і першыя, самыя гучныя цыркі, скаланулі даёнку.

Вось ужо тыдзень, як Матруне няма жыцьця з-за пляменьніка. Лёшка, васемнаццацігадовы бэйбус, прыехаў на пагасьціны зь Ленінграду і ў першы ж вечар пабіўся ў клюбе зь Пецькам Халімонавым. Пецька, казалі, ударыў пляменьніка пад дых, зваліў з ног, а пляменьнік, дзіўным чынам крутнуўшыся, заехаў

крыўдзіцелю пяткай у лабешнік. Увесь наступны дзень гарадзкі бэйбус ляжаў на гарышчы, гучна аддзімаўся, за ўвесь дзень выпіў толькі конаўку сырадою, а ўвечары пад вокнамі хаты заляскатаў Пецькавы матацыкл. Матруна тады зьнямела, думала зноў біцца будуць, а калі выбегла з хаты, дык убачыла, што мальцы прыязна адно другому пасьміхаюцца і пляменьнік частуе вясковага бандзюка прывезенымі зь Ленінграду цыгарэтамі. «Хто будзе бочкі каціць — адразу паведамляй, — даляцеў да вушэй сіплы Пецькавы голас, — я хутка разьбяруся». Матруна пасьля таго перавяла дых, а пляменьнік скочыў на матацыкл і вярнуўся дахаты толькі на наступны дзень. Халімоніха апавядала — у Азярышча езьдзілі, у рэстаране гулялі, а потым у Кацькі Крываручкі, бойкай азярышчанскай разьвядзёнкі, начавалі.

— Пецю дваццаць гадочкаў усяго, а зблытаўся з трыццацігадовай,— сьлёзна пажалілася прыканцы размовы Халімоніха. — Далібог, паеду ў Азярышча і аблію тую шалахвостку варам.

З таго дня пляменьнік дзень да ночы гойсаў зь Пецькам на матацыкле і Матруна, пачуўшы на золку шалёнае матацыклетнае ляскатаньне, доўга потым не магла заснуць.

Учора, праўда, матацыкл сярод ночы не ляскатаў. Дзесьці а першай гадзіне рыпнулі весьніцы і па стоеным шорганьні падэшваў Матруна зразумела, што пляменьнік заявіўся не адзін. Звычайна Лёшка спаў на хаце, дзе ляжала леташняе сена, цяпер жа крокі суціхлі ля адрыны і кот Базыль, які ўзьнік на тле цёмна-шэрага вакна, доўга потым біў нягнуткім хвастом па падвоканьні.

Гадзіну, а можа і дзьве Матруна ляжала з шырока расплюшчанымі вачыма, слухала начныя зыкі і зьмежыла вочы толькі тады, як у прастакутніку прасьвятлелага вакна праплылі дзьве кудлатыя галавы і кот, бязгучна вякнуўшы, скочыў на падлогу. І адразу ж цяжкая, ліпучая замарач лягла на павекі і прысьніўся малады Каравайчык са стрэльбаю ў руках і яшчэ нехта — мяккі, хмельны, цёплы, чыё аблічча забылася да часу, і калі раніцою, падаіўшы карову, Матруна згадала сон, вочы яе

паланіла пенная бель сырадою і адтуль, з глыбіні даёнкі, усплыла разьвітальная ўсьмешка таго самага немца.

...Зьвяздоха, цяжка аддзімаючыся, пайшла да весьніц, а паколькі карова мела звычай класьці ляпехі пасярод двара, гаспадыня рушыла сьледам, прыціскаючы да верху каровінага хваста палку-рагулю.

— Пагналі ўжо,— дакорліва выдыхнуў Канавальчык,— недзе ў Зарэччы рыкаюць, цяпер і не дагоніш,— за сьпінай суседавай па-блазенску голасна азвалася авечка: — М-м-еее...

Хаты іхныя стаялі наводшыбе і кожнай раніцы даводзілася гнаць Зьвяздоху і канавальчыкаву Машку — глумлівую, на дзіва галасістую авечку — да клюба, дзе зьбіраўся статак. На гэтым тыдні радоўку адбываў Канавальчык — таму стары псюк і крывіў гімору — маўляў, праспала, а мне цяпер даганяй статак, гані аж да Зарэчча, і Матруна, не ўзьнімаючы вачэй, ляснула палкай па халяве гумовага бота й голасна крыкнула:

— Пайшлі ў поле!

Зьвяздоха паважна ішла пасярод вуліцы, поруч бегла авечка, трэсла закручаным хвастом; хвост, здавалася, зьвінеў званочкам і галава поўнілася мілагучным звонам — як гэта заўсёды бывае зь недасыпу. Паганяючы скацінку, Матруна чухала пальцам то ў адным, то ў другім вусе, пару разоў страсянула галавою, а дайшоўшы да павароткі азірнулася і з палёгкай перавяла дых. Стары псюк, які звычайна любіў стаяць на дарозе і паглядаць ёй усьлед, гэтым разам падаўся да хаты.

Сорак гадоў, лічы, жывуць яны поруч, а ня горнецца душа да суседа... ня горнецца. Пасьля жончынай сьмерці Канавальчык увесь сьсівеў, схуднеў і галава ўехала ў плечы, але Матруна, як пачуе ягоны голас, так адразу і ўяўляе суседа высокім, маладым, кудлатым вахлаком, і шторазу пакутліва ўздыхае.

Шмат што ў жыцьці забылася, адляцела ў невараць, а тая, іх першая сустрэча, нібыта ўчора надарылася. Матруна нават запомніла колер ніткі, якой была зацыравана канавальчыкава пілётка. Пад час адступленьня — а калі ж яшчэ — з пілёткі

выдралі зорку і рваную дзірку няўмела зацыравалі зялёнаю ніткай.

...Яны зь сястрой абіралі бульбу, калі на двары штосьці зашамацела і ў вакне цёмным ценем праплыла нечая вялізная, пазначаная руляй карабіну, постаць. Празь імгненьне ў прысенку цяжка затупалі, закерхалі і Соня, выпусьціўшы бульбіну, зьбялелымі вуснамі прашаптала: «Немцы!»

На парозе, аднак, паўстаў цыганаваты мужчына ў куртатым нямецкім шынялі і ў выцьвілай рускай пілётцы. Мужчына моўчкі кіўнуў, зьняў з плечука карабін, пачэрпнуў вады зь вядра і доўга піў, казелячы вокам на аголенае Соньчына калена.

— Дзе Таўпіла? — запытаўся, нарэшце, няпрошаны госьць, паставіўшы ў кут сваю пукалку.

Таўпіла жыў у хаце насупраць. Надоечы яго прызначылі вясковым старастам і Соня, зыркнуўшы ў кут, дрогкім голасам прамовіла:

— Сын ягоны ў Чырвонай Арміі.

— Ведаем,— буркнуў госьць, таргануў галавою, патрабуючы адказу на сваё пытаньне, а пачуўшы, што немцы пагналі Таўпілу пілаваць дровы, неяк адразу змарнеў, папрасіў пяток бульбін і пайшоў з хаты.

Праз тыдзень мужчына завітаў ізноў. І не адзін, а зь Міцькам Дзенісенкам — акружэнцам, які два гады жыў прымаком у суседняй вёсцы, а ўлетку 43-га, прыхапіўшы з сабой цэлы воз майна, падаўся ў лес. Гэтым разам госьця як падмянілі. Падлабуньваючыся да Міцькі Дзенісенкі, свайго камандзіра, ён загадаў сабраць вячэру, падзёр на бінты дзьве прасьціны, прырэзаў штыхом ярку — апошняе, што было ў гаспадарцы, — і пры гэтым шторазу пытаўся: «Дзе сястра?». Потым госьці пілі самагонку, якую выгнаў Таўпіла, а Соня той парой сядзела бяз духу ў адрыне: хавалася ад партызанскага камандзіра, які ўсё гэтыя два гады чапляўся да яе.

— Захварэла, ці што?! — працяў паветра натужны голас і Матруна ачулася.

Насустрач ёй, махаючы кароткай пугай, трухала Карпачыха.

— А мы пагналі ўжо, ды бачу — Зьвяздохі няма. Пайшла вось напярэймы.

— Праспала,— з уздыхам прамовіла Матруна і Карпачыха, вомігам зразумеўшы, што да чаго, даверліва-суцішаным голасам засакатала: — Твой жа ўчора зь лябёдкавай падчаркай сышоўся. Пасьля кіна да Траяна ў сад лазілі, а потым, у абдымачку, у ваш бок пайшлі... Глядзі, зьвядзе твайго мальца... Заўчора іду, гляджу, сядзіць тая падчарка на бярвеньні, лыткамі сьвеціць і піпіроска ў зубах... Агут-ту, п-паскуда...— выдала Карпачыха і тут жа кінулася, тупаючы вялізнымі кірзачамі, спаганяць гнеў на канавальчыкавай авечцы.

— Ці з Казікам пасьвіш? — крыкнула Матруна наўздагон і сяброўка, ужо з ладнай адлегласьці, пракрычала:— Анягож... зь ім, западэнцам праклятым... Учора Мар'і ячмень малацілі, дык толькі раніцой і прытоўкся... з мокрымі штанамі. Ці то ў лужыне спаў, ці то абасцаўся... халера яго ведае.

Звон у вушах не даваў пакою і пакуль яна ўзышла на пагорак, дзе стаяла хата, увушшу пачалі біць званы — маркотна, глуха, цьмяна — і страшэнная стома авалодала целам. Трымаючыся за паркан, Матруна дапяла да весьніц, пастаяла крыху, зьбіраючы сілы, а адчуўшы, што сілаў не прыбывае, бязвольна апусьцілася на мяккую, перакапаную курамі зямлю. «Ад недасыпу»,— падумала Матруна, падпаўзла да лаўкі і, паглядзеўшы — ці ня бачыць яе Канавальчык, прытуліла да лаўкі сьсівелую скронь.

Звон паволі аціх, душа і цела зрабіліся лёгкімі, салодкая дрымота падняла Матруну ў паветра, панесла праз мроіва гадоў і апусьціла на зямлю дакладна на тое ж самае месца, ля збуцьвелага паркану. «Гэта ад нэрваў... зараз пройдзе,»— прагучаў над вухам таўпілавы голас і штосьці халоднае кранулася вуснаў. «Выпей, адразу палягчэе». Зубы стукнулі аб край конаўкі і раз-

ам з халоднай вадой грудзі напоўніліся гнятлівай тугою: ёй да млосьці, да сардэчнага болю закарцела кінуцца ў калодзеж. Яна паспрабавала ўстаць, але Таўпіла схапіў за руку, правёў шурпатай далоньню па валасах, здушана прамовіў: «Ну чаго ты?.. ну супакойся... цяпер нам немцы не страшныя... зараз пяску наверх насыпем... я яшчэ самасаду нацярушу... у іхных аўчарак ад самасаду нюх зусім губляецца...» Голас таўпілавы гучаў прыдушана, усё адно як з-пад зямлі, потым зусім ачах і Матруна разьмежыла павекі. Малады цыбаты певень паважна хадзіў каля лаўкі, поруч, у цяньку, дзьве рабыя курыцы купаліся ў пяску, кудлаты суседавы цюцька ганяўся за вераб'ямі, а кот Базыль, які й дагэтуль не пакаштаваў сырадою, адчайна дзёр кіпцюрамі камель старой ліпы. «Авохці мне... я ж малако не працадзіла!»— падхапілася Матруна і хаця ляжаць давялося кароткую хвілю, званы больш ня білі ўвушшу і гарачыя голкі не калолі грудзіну. Жанчына вынесла з прысенку даёнку, плюснула кату сырадою — абліла пры гэтым кацінуюю галаву — і, спыніўшы пагляд на высокім быльніку, які кусьціўся ля паркану, пакутліва ўздыхнула. — Толькі што скасіла — ізноў падняўся,— прашапталі вусны і слых ізноўку напоўніўся ценькім аднастайным звонам.

Была раная раніца, калі знадворку зарыпелі калёсы і пракурана закашляў стары Таўпіла. На ўскрайку вёскі, за могілкамі, немцы зрабілі лесасеку і сусед шторанку вазіў у Азярышча бярозавыя пацурбалкі. Праяжджаючы міма, ён кожнага разу кідаў некалькі цурбакоў у прыдарожную крапіву і ехаў далей. Цяпер жа Таўпіла спыніў каня і цяжка затупаў пад вокнамі.

— Вось, дзеўкі, немцы выдалі за працу,— прамовіў стары, убіўшыся ў хату і паклаўшы на стол акраец бохана. — Калі паварушыцеся, будзеце есьці хлеба ўдосыць.

Сусед сьцярожка ляпнуў па кішэні, пасьля чаго, гэтак жа сьцярожка, выцягнуў адтуль мяшэчак самасаду і зьлёгку патрушчаны грыб. Грыбоў такіх расло ў навакольлі процьма і вяскоўцы лічылі іх паганкамі.

— Кухар нямецкі на чыгуначнай станцыі за кош маладых паганак паўбохана дае. Так што хапайце кашы і бяжыце ў поле,

зьбіраць гэтыя самыя шампіньзе, ці як іх там немцы называюць... Можа атруцяцца, паскуды!

...Яны ішлі па полі і сястра, якая ішла першай, нечакана войкнула і заскакала, схапіўшыся за пятку: пад яе нагамі, у чэзлай траве, спруцянелай вужакай выгінаўся калючы дрот. Соня выціснула з пяткі кроплю чорнай крыві, перакрывілася ад болю і тут жа падабрала з-пад ног дзьве крамяныя паганкі. Зьбіралі грыбы да самага вечара — Соня скакала па полі, прыпадаючы на правую нагу, — а як прысьпела пара ісьці да дому, села на купіну і са стогнам прамовіла:

— Не магу ступіць... пятка апухла.

Спачатку Соня скакала поруч, абапіраючыся на плячук, потым давялося цягнуць небараку на сабе; сястра сьціскала рукамі яе шыю, здушана плакала і гарачыя Соньчыны сьлязіны казытліва падалі за каршэнь.

— Зараз, Соня, пацярпі... прыйдзем — напаю цябе чаем зь зёлкамі,— супакойвала яна сястру і вечаровая палымніца, што дагарала на захадзе, барвовай плямай расплывалася ўваччу.

Ноччу Соні стала дрэнна. Прабітая пятка пасінела, нага пачала пухнуць і да Соньчынага лобу немагчыма было дакрануцца, такі ён быў гарачы. Яна прыклала да ранкі лісьцік трыпутніку, потым альяс, напаіла сястру адварам зьверабою, але нічога не дапамагала: сястра марнела на вачах і дзед Таўпіла, якога яна паклікала ранішнім дасьвецьцем, ледзь чутна прашаптаў:

— Лекі патрэбныя... можа быць заражэньне крыві.

«Якія лекі? Пра што ён кажа? Яшчэ летась усё да апошняга парашку аддалі партызанам,»— падумала яна ў тую хвіліну, а сусед, падхапіўшы з падлогі кошык з грыбамі, раструшчыў абвялымі пальцамі крохкую паганку і дадаў:

— На лесасеку немец прыяжджае... пагаманю зь ім.

Таўпіла падаўся з хаты, яна выйшла сьледам, села, сьцепанаючыся ад ранішняга халадку, на ганак і заплакала. Сонца з урачыстай павольнасьцю ўзьнялося над небакраем, доўгі цень

ад калодзежнага асьверу прапоўз ад адрыны да паркану, а яна, ужо бяз сьлёз, усё сядзела на ганку, невідушча глядзела ў бок Дабранскай гары і страшныя думкі кроілі сьвядомасьць: яна з падступнай злараднасьцю думала пра тое, што Міцька Дзенісенка так і не дамогся Соні. А з Дабранскай гары тым часам увішным мурашом спаўзала цёмная фігурка — нехта ехаў на ровары.

Пазбылася одуму толькі тады, як пачула бразгат роварнага званку: ля весьніц стаяў малады немец і махаў рукою.

— Зоніа? — запытаўся нечаканы госьць і яна кіўнула ў адказ.

Немец неяк дзіўна павёў вачыма, перапытаў: — Ты ест Зоніа? — і толькі тады яна канчаткова ачулася, тыцнула пальцам у бок хаты, дрогкім голасам паведаміла:

— Соня там... хворая.

Яна даўно ўжо запрыкмеціла гэтага немца — ён часьцяком праяжджаў на ровары міма іхнай хаты, кіруючыся з Азярышча на лесасеку — і заўсёды дзівілася — як гэта фрыц не баіцца ехаць цёмным лесам. Іншы раз яна сустракала немца, стоячы пасярод двара, той вітаў яе бразгатлівым званком, махаў рукою, аднак ніколі не спыняўся. І вось сёньня спыніўся і змучаная бяссоньнем галава не адразу ўцяміла — адкуль немец ведае Соньчына імя.

Калі яна ўскочыла на ганак і расчыніла дзьверы, немец, які дагэтуль ішоў сьледам, нечакана спыніўся й пагрозьліва запытаў:

— Тыфус?

— Найн, найн... Сястра нагу прабіла, трэція суткі ляжыць,— і, каб было больш зразумела, яна паказала пальцам на голую пятку.

У цёмным прысенку яе апанавала дзіўнае насланьнё — на кароткую хвілю здалося, што немец крануўся яе клубаў і ад таго насланьня зашумела ўвушшу і сьцягнула скуру на цемі.

Соня ляжала незварушна, з заплюшчанымі вачыма. Немец крануўся краем пальцаў Соньчынага лобу, уражана зацокаў языком, потым зірнуў на пасінелую нагу, зацокаў зь яшчэ большай апантанасьцю, а яна стаяла, утрапёная, пасярод хаты, баючыся зварухнуцца і пазбыцца таго салодкага здранцьвеньня, што авалодала целам. І нават калі за госьцем зачыніліся дзьверы і Соня кволым голасам запытала: «Хто гэта быў?» — не скранулася зь месца і нічога не адказала.

Больш у той дзень сястра не прамовіла ні слова. А калі ўвечары яна ўкленчыла перад ложкам і малітоўна прашаптала:

— Соня, не маўчы, скажы хоць што-небудзь, — сястра расплюшчыла вочы і зварухнула сасьмяглымі вуснамі: — Павукі, два страшных павукі... паўзуць да нашай хаты...

Соня трызьніла і халодны жах зірнуў з усіх цёмных кутоў і яна, ратуючыся ад страшных павукоў, падбілася пад коўдру і абхапіла рукамі гарачае Соньчына цела.

На золку ў шыбу пастукаў Таўпіла.

— Быў? — запытаўся сусед.

— Быў, — гукнула яна пераселым ад плачу голасам.

— Добры немец, Бэртрамам завуць. Казаў, сын у яго нарадзіўся. Можа, на радасьцях, знойдзе якіх лекаў, — Таўпіла закашляўся і неўпрыкмет, нібыта чухаючы пераносьсе, змахнуў са шчакі сьлязіну.

...Толькі на паўгадзінкі і выбегла яна з хаты — бегала на вёску за жарынкай, каб запаліць у печы, а калі вярнулася, дык убачыла медніцу ля ложку , а на стале бохан хлеба ды купку зялёных таблетак. І міжволі пашкадавала, што немец завітаў у хату ў яе адсутнасьць.

— Дзьве ўжо выпіла... — са стогнам прамовіла Соня, кіўнуўшы на лекі, і ўпершыню за апошнія дні ўсьміхнулася.

Адвячоркам Соні стала зусім кепска, гаротніца нават спаўзла з ложку, але неўзабаве супакоілася і нараніцу ляжала, працятая халодным потам, і штохвілі прасіла піць.

— Нічога ня памятаю, а вось немца запомніла, — казала Соня, сёрбаючы адвар зьверабою, — выцягнуў з-пад лаўкі медніцу і піхае ў яе нагу — паказвае, як трэба парыць. Была б здаровая — зарагатала...

Сястра яшчэ нешта казала, але яна ня слухала: дрыготкая рука сыпала ў медніцу цёмны парашок, бліскучыя драбочкі фарбавалі ваду ў бурачковы колер і ў глыбіні сьветлай барвы прывідна калыхаўся ўсьмешлівы твар маладога немца.

А дзесьці праз тыдзень — ад самага ранку — да іх завітаў Таўпіла і ўпалым голасам паведаміў:

— Усё, дзеўкі, апошні раз вязу дровы. Немчура партызан баіцца, будуць лес пілаваць у іншым месцы, бліжэй да Азярышча.

Словы такія ўсхвалявалі: яна і сама не магла зразумець — чаму абмерла сэрца, — і толькі калі за Таўпілам зачыніліся дзьверы і пад вокнамі зашаргацелі і аціхлі дзедавы крокі, згадала пра немца. Бэртрам па-ранейшаму штодня езьдзіў на лесасеку і яна кожнага разу з хмельным сумам у вачах паглядала на хлопца, мружылася ад сонечных бліскаў, што гралі на роварных колах і гулкае сэрца кожны раз абмірала, сьціснутае, як здавалася, нечымі цёплымі далонямі. Сэрца абмёрла і цяпер, і сасьмяглыя вусны ледзь чутна прашапталі:

— Немцу падзячыць трэба...— і Соня, ступіўшы левай нагой на падлогу, згаджальна кіўнула галавой.

Перад тым, як панурыцца ў лес, бальшак добры кілямэтр пнуўся пад гару, густа парослай алешнікам і там, у кустах, яна й вырашыла дачакацца Бэртрама. Чакаць давялося нядоўга, бо не пасьпела яна ўбіцца ў алешнік, як на дарозе суха зашамацелі роварныя скаты і пачулася таропкае шамаценьне — гэта білася аб лістоту руля Бэртрамавай стрэльбы. У першае імгненьне яна не магла зварухнуцца ад хваляваньня, а калі, нарэшце, зварухнулася і выкулілася з кустоў, немец з перапуду крутнуў руль і заехаў пярэднім колам у прыдарожную канаву. Пакуль небарака выцягваў ровар на дарогу і папраўляў зьбітую набакір пілётку, яна блытана распавяла, што сястра, дзякуючы лекам, амаль ачу-

няла, ступае на хворую нагу і просіць шаноўнага пана сёньня ж зайсьці ў адведкі. Тлумачэньне давялося паўтарыць, яна нават прайшлася, прыпадаючы на левую нагу, дэманструючы, як ачунялая Соня ўпраўляецца па гаспадарцы і немец, гойкнуўшы: — Зоніа! — махнуў рукой спачатку ў бок лесасекі, а потым, дробна перабіраючы пальцамі, у бок вёскі.

Дахаты яна бегла нацянькі, спатыкаючыся на кожным кроку і маракуючы — чым яшчэ можна пачаставаць госьця. Стол быў падрыхтаваны ад ранку — на стале, у адзінай ацалелай талерцы, грувасьціліся кіславатыя папяроўкі, на сурвэціне ляжаў парэзаны тонкімі лустамі хлеб — той, што Таўпіла прынёс за сабраныя паганкі,— а ў печы смажылася цэлая патэльня сьвіногa сала, якое яна выменяла падчас Соньчынай хваробы на бацькавы шынель. Але чагосьці ўсё ж такі не хапала і вось, чарговым разам спатыкнуўшыся, яна ўгледзела цэлую плойму летніх апенек, якія кусьціліся на пні і сьпехам стала зьбіраць іх у хвартух.

...Грыбы сквірчэлі і стралялі тлушчам, калі ля весьніц бзынкнуў ровары званок. Яны з Соняй разам страпянуліся, сталі выхопліваць адна ў адной аскалёпак люстэрка, абцягнулі гаматныя, прапахлыя цьвільлю сукенкі, нарэшце паправілі валасы на скронях і застылі ў нерухомасьці.

Немец увайшоў не адразу: доўга тупаў у прысенку, зь лёгкім шоргатам шнарыў рукою па сьценцы, шукаючы дзьверы, нарэшце адчыніў іх і таксама зьнерухомеў.

Першай ачулася Соня.

— Праходзьце, праходзьце,— гукнула яна госьцю, госьць пераступіў парог, паставіў у кут карабін і, ня ведаючы — чым заняць рукі, стаў расшпільваць, а потым зноў зашпільваць верхні гузік мундура.

Ім бы адразу пайсьці да стала, тым больш, што немец павёў носам і прыклаў далонь да вуха, жартаўліва прыслухоўваючыся да сквірчэньня тлушчу на патэльні, але замест таго ўсе трое паселі ў кухні і Соня пачала звонкім голасам апавядаць як яна ляжала, ледзь жывая, а Бэртрам, задзёршы калашыну, паказваў — як трэба парыць нагу.

— Йа, йа,— задаволенаківаў немец, штохвілі паціраючы рукі і калі сястра заскакала на левай назе, ляпнуў у далоні і гучна прамовіў: — Брава, Зоніа!

Госьць гаманіў зь сястрою, абодва весела сьмяяліся і сьмех гэты казытліва адбіваўся пад пахамі. Яна сядзела ў здранцьвеньні, ня ведаючы — як уплішчыцца ў размову, а калі сабралася з духам і хацела запытацца — ці сапраўды закрываюць лесасеку, азалелы язык пралепятаў нешта зусім іншае:

— Сына як назвалі?

Немец спачатку не зразумеў, але Соня хуценька растлумачыла, паказаўшы рукамі — як маці гушкае дзіця.

— Ага-а... Как назфалі... Лётар,— прамовіў госьць, прасьвятлеўшы з твару, палез у нутраны кішэнь, зьбіраючыся нешта паказаць, ды так і застыў з прыціснутай да грудзіны рукою.

Знадворку грукнула, хтосьці ўваліўся ў прысенак і на парозе, наваліўшыся плячом на вушак, паўстаў Міцька Дзенісенка. Імгненьне Міцька стаяў, утаропіўшыся на пакатую Бэртрамаву сьпіну, а што было потым — яна ня бачыла: захінула твар далонямі. І адразу ж цяжка здрыганулася падлога, пранізьліва крыкнула Соня, страшна вылаяўся Міцька.

— О-от с-сука, на нашых дзевак галісься? Зараз, б-ля, зьвяжам ды ў сральні ўтопім... Канавальчык... вяроўку!

На кароткі міг яна адарвала далоні ад вачэй: Бэртрам ляжаў тварам долу, а Міцька Дзенісенка тыцкаў яму ў патыліцу карабінам.

— Што ён вам зрабіў? Адчапіцеся ад яго!— крыкнула скрозь сьлёзы Соня і тут жа віскнула, атрымаўшы кухталя.

— Сала смажыце, п-пасьцілкі нямецкія... Нас дык салам ніколі не частавалі!

Каб ня чуць мацюгоў, яна заціснула вялікімі пальцамі вушы і затрэслася ад бязгучнага плачу. У той міг яна прагла аднаго: згінуць, зьнікнуць, праваліцца ў апраметную.

Хоць і заціскала вушы, але пачула, як хтосьці стукнуў у шыбу і здушана крыкнуў:

— Немцы ў вёсцы!

Толькі краем вока глянула на сьвет, уражаная гэтым крыкам, і потым усё жыцьцё дакарала сябе, што не схавала ў той момант вачэй. Бэртрам разьвітаўся зь ёю дакорлівай усьмешкай. Проста пасьміхнуўся аднымі вуснамі і зьнік у цёмных сенях, атрымаўшы прыкладам у сьпіну. Там, у сенях пасыпаліся долу глякі, парахня сыпанула з гарышча, і валацуга Міцька, стукнуўшыся плячом аб вушак, азірнуўся і здушана прагугнеў:

— А з вамі яшчэ разьбярэмся.

Сьціснуўшы далонямі прыадкрыты рот, яна з жахам зірнула ў вакно. Па таўпілавым гародзе, у бок лесу, беглі трое: Канавальчык з трафэйным роварам на карку, Міцька Дзенісенка з двума стрэльбамі ў руках і Бэртрам з узьнятымі да гары рукамі.

— Падумаў, што гэта мы яго... зацягнулі ў пастку,— заплакана прастагнала сястра і ўсе гукі зямныя аддаліліся, ператварыліся ў аднастайны шум і малады немец ізноў пасьміхнуўся ёй аднымі вуснамі, але ня зьнік у сенях, а так і застыў, нерухомы і штосьці халоднае кранулася твару і дзесьці над самым вухам прагучэў асіплы таўпілавы голас: «Матруна, чуеш, уставай...» Яна разьмежыла павекі і ў твар ёй пырснулі халоднай вады.

— Падымайся, хутчэй... схаваць трэба, пакуль ніхто ня бачыў...

Яна паспрабавала ўстаць, але здолела, толькі падпаўзьці да парога.

— Забілі... забілі, сволачы... на маім агародзе. Пабеглі, дачушка, пакуль ніхто ня бачыў. А то ж спаляць вёску.

Дзед Таўпіла схапіў за плечы, падняў на ногі, і яна, не ўтрымаўшыся на ватных нагах, ізноў асунулася на падлогу.

— Уставай, йо... адзін не сьцягну! — нягучна, але страшна выдыхнуў сусед і гэта вярнула сілы.

... Немец ляжаў тварам да неба, раскінуўшы рукі, і здавалася, што ён прылёг адпачыць на ўзьмежку таўпілавага гароду.

— Ну, дачушка, дапамагай, пацягнем да калодзежу, — сусед падхапіў немца пад пахі, працягнуў пару мэтраў, упаў на калені.

— Можа жывы? — пралепятала яна не сваім голасам.

— Як жа, жывы... мазгі толькі цякуць, — буркнуў сусед і кіўком галавы загадаў цягнуць немца да калодзежу: — Давай, пакуль немцы не наляцелі!

Бэртрамава рука была яшчэ цёплай. Не азіраючыся, яна пацягнула немца па ўтравелых разорах і зусім ня чула, што ёй казаў дзед Таўпіла.

— Усё з-за мяне,— задыхана бубнеў дзед, цягнучы немца за другую руку. — Крыкнуў, што немцы ў вёсцы... думаў — зьбягуць... а яно во як атрымалася...

Ля самага калодзежу яна ўпала на траву і зайшлася ад млосных курчаў. Ванітаваць не было чым; шлункі, здавалася, лезьлі з жывата і пры гэтым страшэнна балела пад дыхніцай. Штосьці невымерна цяжкое абрынула ў нетры зямныя; зямля здрыганулася, нібыта ад далёкага грому, самотная кропля гучна ціўкнула ў калодзежным прадоньні і слых напоўніўся замарачным звонам.

— Бяжы, дачушка, шукай які мех... Будзем пясок насіць.

Яна зь цяжкасьцю паднялася на ногі, пайшла, не разьбіраючы дарогі, да хаты; з кожным крокам шум у вушах мацнеў, хата плыла ўваччу і, перад тым, як абрынуцца ў чорную зеўру непрытомнасьці, Матруна ўхапілася рукой за паркан...

Пляменьнік зьлез з гарышча блізу абеду. Азызлы, пакамечаны, з жмутком саломы ў валасах. Ён доўга піў ваду — з таго вядра, дзе піла Зьвяздоха, потым сеў на ганак і змучана ўздыхнуў. Бычкоўскія п’янтосы і дзеўкі ўходалі ленінградца і на зьдзеклівае пытаньне — ці пойдзе ён сёньня ў клюб? — небарака страсянуў галавой. Ад абеду пляменьнік напачатку

адмовіўся, а паблукаўшы па двары, убіўся ў кухню і сіплым галасам паведаміў:

— Чаго-небудзь гарачага, можа, і зьем.

Матруна наліла пляменьніку міску гарачай капусты, накроіла хлеба і, зірнуўшы на выгнутую Лёшкаву сьпіну, падумала: «Кастрамская парода».

Соньчын мужык быў якраз з той самай Кастрамы. Толькі раз і прыяжджаў на пагасьціны — гадоў дзесяць таму. Хадзіў па двары, зазіраў у кожную шчыліну, штосьці мармытаў сабе пад нос, а калі раскрываў рот, дык прамаўляў нейкай дзіўнай мовай: «А яблоки у вас быва-ат? « І за абедзенным сталом сядзеў як бяз рук, чакаючы — калі яму нальюць капусты ды накрояць хлеба. Вось і Лёшка такі: поўдня будзе сядзець, а чыгунка зь печы не дастане.

Пляменьнік між тым агораў адну міску, потым другую, умалоў яечню з патэльні, запіў усё конаўкай сырадою і падаўся на падворак.

— Жыцьцё як у таго Базыля,— аднымі вуснамі прашаптала Матруна, таксама выйшла з хаты і слых ейны крануў непрыемны шоргат: Лёшка, седзячы на кукішках, шараваў пяском старую нямецкую каску. Каска здавёнчасу валялася на двары і кожнай вясны Матруна карміла зь яе маладых гусей.

— І навошта яна табе? Насіць будзеш, ці што? — запыталася Матруна.

— Ну так, насуну і пайду па Лігаўцы, — з усьмешкаю прамовіў пляменьнік, і ўжо сур’ёзна дадаў: — На Ленфільме прымаюць. Па два чырвонцы за штуку.

Матруна таму не дала веры. «Відаць, жартуе, — падумала, змахнуўшы пот з упрэлай лабаціны, — ці ж можа гэта быць, каб за жалезіну давалі два чырвонцы?»

Пляменьнік ізноўку ўзяўся шараваць каску і шоргат нэрвовым сьвербам прайшоўся па целе.

— А што, немцы ў вас былі? — выдыхнуў Лёха, падхапіўшы ў далонь жменю вільготнай жарствы.

— Былі, каб на іх немач.

— І што, лютавалі?

— Ды ўсякае было, — Матруна цяжка ўздыхнула, — і немцы лютавалі, і партызаны. Ужо ж нацярпеліся мы з тваёй мамай страху — ня дай Бог... Але і немцы розныя былі, — голас Матрунін міжволі здрыгануўся, — адзін нават лекі прынёс, калі твая мама нагу прабіла.

— Што ж вы, з акупантамі зналіся? — запытаўся пляменьнік, не перапыняючы шараваньня.

— Ды хто зь імі знаўся...— выдыхнула Матруна, — прыйшоў чалавек ды прынёс лекі... Яго потым партызаны застрэлілі. Вунь там, на суседзкім агародзе.

Лёшка пакінуў шаравацць і задаў пытаньне, ад якога ў Матруны на момант спынілася сэрца.

— А дзе яго пахавалі?

Напачатку яна прамармытала штосьці няўцямнае, а потым стоена выдыхнула:

— У калодзеж укінулі.

Словы зьляцелі з вуснаў, і душа, пазбыўшыся путаў, страпянулася ў грудзіне. Пляменьнік кінуў шараваць каску, ускочыў на ногі, пачаў задаваць бязглуздыя пытаньні: дзе месьціўся той калодзеж, якое ў немца было званьне, ці віселі на мундуры мэдалі? Матруна сядзела, ачмурэлая, штосьці бубніла ў адказ і толькі калі Лёшка пабег са двара і крыкнуў, убіўшыся ў быльнік: — Ці тут? — ачулася і моўчкі махнула рукой.

Увесь дзень Матруна хадзіла прыгаломшаная; у грудзях пасяліўся лёгкі халадок, сэрца парывіста білася, усё валілася з рук і адно пытаньне не давала пакою: ці варта было казаць Лёшку пра магілу? Увечары, падаіўшы Зьвяздоху, яна выправілася да Карпачыхі — хацелася пагаманіць з якой жывой душой, — ды мусіла вярнуцца: сьвятла ў карпачысінай хаце не было і на шыбах трымцела вечаровая барва. Барва трымцела на рэдкіх лужынах, на кроне старой ліпы, на высокім быльніку, што буяў уздоўж паркану, яна трывожыла сэрца й займала дух. Ма-

труне карцела некуды бегчы, карцела нешта рабіць і, падуладная такому п’янкому пачуцьцю, яна зьняла з-пад страхі касу і шпарка, амаль подбегам, рушыла да паркану.

Кусьцісты быльнік лёг пад ногі, паветра напоўнілася гаркавым пахам, галава зьлёгку закружылася, крылатая душа сунялася ў грудзях, і барвовая палымніца рухавымі бліскамі адбілася ўваччу. Абапёршыся на касільна, Матруна ўтрапёна зірнула пад ногі і ёй здалося, што там, глыбока пад зямлёй, хтосьці цяжка і змучана ўздыхнуў. Яна міжволі азірнулася і ўбачыла суседа Канавальчыка. Сусед стаяў за сьпінаю, з крывой усьмешкай на твары раздзьмухваў прыгаслую цыгарку.

— Што гэта ты проці ночы касіць узялася?

Тытунёвы дым казытнуў у носе, пальцы сьціснулі касільна і Матруне раптам да сьвербу ў пахвіне закарцела махнуць касой ды зьнесьці з плеч пляшывую канавальчыкаву галаву. Яна ступіла крок назад, каб замахнуцца, але тут жа сунялася і сьціжма халодных іголак кальнула патыліцу.

— Давай пастаім, пагамонім,— гукнуў Канавальчык, але Матруна, перавёўшы дых, ускінула касу на плячук і ціха прамовіла: — Позна ўжо.

Можа таму, што была глухаватая, яна ніколі не магла дачуцца суседавых крокаў. І кожны раз, калі сусед нячутна падыходзіў і дыхаў у сьпіну, Матруну апаноўвала злосьць. Гэтым разам злосьць шуганула праз край, увушшу зноў зазьвінела і, зайшоўшы ў хату, яна вымыла твар халоднай вадой, а потым доўга сядзела, не запаляючы сьвятла, і слухала, як гулка тахкала ў грудзіне надарванае сэрца. Ачулася ўжо сярод ночы, калі пад вокнамі заляскатаў матацыкл і Пецька Халімонаў штосьці крыкнуў пляменьніку на адвітаньне.

Ноччу Матруна кепска спала — сон толькі на золку змарыў вочы і быў ён замарачным, мулкім, неадчэпным. Прысьнілася, як яны зь сястрой цягалі мяхі зь пяском, сыпалі той пясок у калодзеж і дзесьці зусім непадалёку — так ёй здалося ў сьне — бязладна брахалі нямецкія аўчаркі. Можа таму, што мяхі ў сьне былі цяжкімі, на раніцу балелі рукі, ныла паясьніца і яна

доўга не магла ўсесьціся на ўслончыку, каб падаіць Зьвяздоху.

Як ні дзіўна, Лёшка таго дня падняўся а сёмай гадзіне. Раней спаў да абеду, а тут зьлез з гарышча, змачыў твар у каровіным вядры і падаўся ў вёску.

— Ты ж хоць малака папі, — гукнула ўсьлед Матруна, але пляменьнік нават не азірнуўся.

... У хаце мерна тахкалі ходзікі, ля ног, скруціўшыся абаранкам, спаў кот Базыль, сонная дрымота цьвяліла павекі і Матруна ўжо кульнулася на бок, каб паспаць якую гадзінку, ды тут на вулцы залапатаў трактар і сон зьляцеў з павекаў. «Каго там чэрці прыгналі?»— падумала Матруна, зірнуўшы ў вакно. Па вуліцы, уздымаючы пыл і матляючы прымацаваным да заду каўшом, ехаў пецькавы «беларус».

— Лётае як шалёны, паратунку няма, — выдыхнула Матруна, ізноў кульнулася на бок, але вачэй не заплюшчыла, стала цікаваць левым — чуйным вухам — куды паехаў трактар.

«Беларус» між тым лапатнуў наастачу і загуў лагодна і суцішна, спыніўшыся дзесьці ля канавальчыкавай хаты. Пачуліся няўцямныя галасы, ляснула жалезьзе і трактар ізноў завуркатаў — натужна і перарывіста. Матруна скацілася з ложку, абарвала ў сьпешцы фіранку, што вісела на дзьвярах сьвятліцы і так, з фіранкай на плячы, і выбегла з хаты. Пецькавы трактар падхапіў каўшом груд зямлі, падняў угору і з каўша ценькім струмком пасыпаўся той самы пясочак. Яна хацела крыкнуць, але для крыку не хапіла паветра.

— А што ж... а што ж гэта робіцца? — выдыхнула Матруна, шыбуючы да трактара, і сусед Канавальчык, які стаяў на дарозе і дыміў цыгаркай, патлумачыў: — А то ня бачыш? Мальцы калодзеж рыюць.

— Яшчэ тры каўшы — і хопіць... Далей рыдлёўкай, — крыкнуў пляменьнік Пецьку Халімонаву і гэта былі апошнія словы, пачутыя Матрунай. Увушшу зазьвінела, потым зашумела, нарэшце, загуло, зямля кульнулася пад нагамі і душу Матруніну спавіла зьнямоглая ціша.

## 2

Сакратарка Ія — элегантная саракагадовая кабета з выскубенымі брывамі і з моднай «хіміяй» на галаве — набрала нумар дарожнага ўчастку, прыціснула да вуха слухаўку.

Участак доўга не абзываўся, нарэшце азваўся залівістым дзявочым голасам: — Алё-о...

— Прыміце тэлефанаграму, — прамовіла сакратарка і, не чакаючы, пакуль дзяўчына схопіць асадку, прадыктавала: — Таварышу Даўбешку Эл Пэ зьявіцца на закрытае паседжаньне Бюро райкаму. Пачатак а шаснаццатай гадзіне.

— На закрытае? — перапыталіся на ўчастку, і змучаная такімі пытаньнямі сакратарка па складах паўтарыла: — Закры-та-е.

Ія выцягнула з шуфляды стала люстэрка, мелькам паправіла кудзеркі на лбе і ў гэты момант у прыёмную вужакай прасьлізнуў старшыня спорткамітэту Мурленя.

Мурленя прайшоўся, як гэта ён заўсёды рабіў, уздоўж сьцяны, спыніўся пад партрэтам правадыра, запытальна кіўнуў у бок ababітых дэрматынавым матрацам дзьвярэй.

— Рыхтуецца да паседжаньня Бюро. Прасіў нікога не пускаць, — паведаміла Ія, не адрываючы вачэй ад люстэрка.

— А што... закрытае? — стоена запытаўся Мурленя.

У адказ сакратарка змучана ўздыхнула, замутніўшы люстэрка, і старшыня спорткамітэту, гэткім жа чынам — уздоўж сьцяны — падаўся ўпрочкі. Дзьверы прыёмнай ціхенька рыпнулі і абудзілі тэлефон нутраной сувязі. Тэлефанавала Шура Няўмывакіна з прамысловага аддзелу.

— Іечка... Бюро закрытае?

— Закрытае, — прастагнала сакратарка.

— А па якім пытаньні?

— Не дакладваў! — слухаўка высьлізнула з рукі, ляснулася на вагар, ды так хвацка, што з носу сакратарчынага пасыпалася пудра.

Ія і сапраўды ня ведала — пра што будуць гаманіць на паседжаньні, таму і нэрвавалася. Інтрыгу надавала і тое, што з вобласьці мусіў прыехаць супрацоўнік абласной управы КГБ. Раніцай, калі шэф узяў яе руку і, па старой звычцы, правёў языком між пальцаў, яна запыталася — на якую халеру едзе чэкіст і шэф, папраўляючы гальштук, паўжартам адказаў: «Ія, сакрэты ёсьць ня толькі ў жанчын, але і ў партыйных работнікаў».

«Божухна, у яго яшчэ ёсьць нейкія сакрэты, — падумала Ія, згадаўшы ранішнюю размову, — гэты ёлупень думае, што і іхныя практыкаваньні на зялёным стале — вялікі сакрэт. А пра іх ужо ведае апошні сабака ў Азярышчы». Сакратарка згадала, што акурат учора ёй давялося заціраць мокрай анучкай зялёнае сукно і, страсянуўшы кудлатай «хіміяй», стала набіраць нумар апошняга запрошанага на паседжаньне — дырэктара райхарчпрамгандлю Ванзовіча.

А тым часам у Матрунінай хаце, расклаўшы на двух табурэтах мэдычнае прычындальле, маладзенькая фэльчарка Ніна набірала ў шпрыц вадкія лекі.

— Я ж, дачушка, ужо і сама магу прыйсьці. І карову даю, і канюшыну ўчора дакасіла, — прамаўляла цётка Матруна, казелячы вокам на шпрыц.

— Навошта ж вам хадзіць? Амбуляторыя на другім канцы вёскі. А мне прайсьціся — адно задавальненьне... Кашулю падыміце...— Ніна толькі сёлета скончыла мэдвучэльню і таму рабіла ўсё, як мае быць: паляпала па пэўнай мясьціне, працерла ледзь ня ўвесь азадак прасьпіртаванай ватай, нарэшце замружыла вочы і ўбіла іголку крыху ніжэй хвастца.

Цётка Матруна хварэла. Цэлы месяц ляжала ў пасьцелі і толькі сёньня, адчуўшы палёгку, стала на ногі: падаіла раніцою карову, потым рушыла касіць канюшыну, і Карпачысе, якая апекавала яе пад час хваробы, давялося з крыкам і гвалтам адбіраць касу.

— А што ж ты мне, дачушка, колеш? — запыталася Матруна, абцягнуўшы кашулю. — Ужо ж надта пякучыя, усё адно як жарынка заляцела...

— Спазмалітычны сродак. Зьніжае крывяны ціск, — фэльчарка зьняла з твару марлевую маску, з палёгкаю ўздыхнула. — Вам, Матрона Іванаўна, яшчэ паляжаць трэба пару дзён. І ніякай цяжкой працы. Адно лёгкія прагулкі, — фэльчарка закрыла валізу і наструніла слых: да хаты з вуркатлівым гудам набліжалася легкавушка.

Яшчэ хвіліна — і ля весьніц, узьняўшы пылюку, спынілася шэрая «волга». Легкавушка вуркатнула наастачу, аціхла і зь яе вылез мужчына ў даўжэзным, мышастага колеру, плашчы і ў гэткай жа шэрай кепурцы. Мужчына ляснуў дзьверцай, нюхнуў паветра, зірнуў на гадзіньнік.

— Госьці да вас, Матрона Іванаўна, — пралепятала фэльчарка Ніна, а цётка Матруна, прыўзьняўшыся на локці, ўсхвалявана пралепятала: — І хто ж гэта сунецца?

У прысенку грукнулі дзьверы, ляснула вядро, пачуліся стрыманыя мацюгі, потым мяккі шоргат — мужчына шукаў у цемры дзьвярную клямку, і фэльчарка, пачуўшы такое, кінулася да дзьвярэй.

Сьпехам апранаючыся, Матруна чула, як госьць штосьці прабубніў, стоячы на ганку, Ніна штосьці адказала, пасьля чаго мужчына кашлянуў і цяжкой ступою ўвайшоў у сьвятліцу. Не сказаўшы ні слова, госьць прайшоўся ад дзьвярэй да стала, потым ад стала да дзьвярэй, нарэшце тупнуў нагой па падлозе і толькі тады адрэкамэндаваўся:

— Я з аддзела сацзабесьпячэньня. Дасьледуем умовы пражываньня пэнсіянэраў.

У наступную хвіліну госьць аблашчыў позіркам фэльчарку Ніну, якая прайшлася пад вокнамі і з задуменнай разважлівасьцю прамармытаў:

— Масьніцы... гуляюць. Могуць і абламацца.

— Гуляюць, добры чалавек. Хату ж яшчэ мой прадзед ставіў, валадарства яму нябеснае, — паведаміла Матруна асіплым ад хваляваньня голасам.

Госьць спахмурнеў, прысеў на ўслон, з роспачным уз-

дыхам прамовіў:

— Мала... мала ўвагі мы надаем пэнсіянэрам!

Матруна кіўнула на знак згоды, выцерла ражком хусткі здранцьвелыя вусны, а госьць, дастаўшы з кішэні блякнот, прымасьціў яго на касьцістым калене.

— Тэлевізара ў вас, гляджу, няма...

— Няма, добры чалавек... Да суседкі хаджу на цілівізер. Зімой дык кожны вечар хадзіла. Паказвалі, памятаю, гэтага... як яго... ну, прыгожы такі мужчына... у нямецкай форме...

— Шцірліц, можа?

— А во-во... Шцірліц... ён самы, — усхапілася Матруна, а госьць, зірнуўшы на столь, прамовіў кароткае слова «люстра» і стаў штосьці пісаць у блякноце.

— У вас сваякоў паблізу няма? — запытаў госьць, не перарываючы пісаніны.

— Сястра ў мяне. У Ленінградзе жыве, — ціха прамовіла Матруна, спрабуючы ўцяміць — навошта чалавек пра гэта пытаецца.

— Ленінград, на жаль, далёка, — мужчына падняўся на ногі, паправіў на галаве кепку, валюхаста пайшоў да дзьвярэй.

На падворку госьць пахістаў рукою плот і, зірнуўшы ў бок хлява, няўцямна прамармытаў:

— А дзе тут у вас... гэты самы...— чалавек крутнуў у паветры абедзьвюма рукамі і Матруна залыпала вачанятамі. — Ну, разумееце? — чалавек ізноў крутнуў рукамі, потым крутнуў галавой, але цётка Матруна не зразумела і чалавек, махнуўшы рукой, пашыбаваў да машыны.

Па дарозе госьця пераняў Канавальчык.

— Шофэр кажа, што вы з райсабесу, дасьледуеце бытавыя ўмовы.

— Ну, — незадаволена выдыхнуў райсабешчык.

— Дык, можа, вы б і маю хату паглядзелі? Жыць нема

як... страха цячэ, — заенчыў Канавальчык, а райсабешчык, адчыніўшы дзьверцы, каротка прамармытаў: — Другім разам.

Калі машына, скрыгатнуўшы счэпам, кранулася зь месца і накрыла Канавальчыка пыльнай аблачынай, той сплюнуў рыплівую сьліну і са злосьцю прасіпеў:

— Нямецкіх падсьцілак дасьледуюць, а на нас х... паклалі.

І хаця Матруна была глухаватая, словы гэтыя даляцелі да вушэй і ачунялае было сэрца ізноў заныла і попельна-шэрая зямля павалі паплыла пад нагамі.

Ранейшым часам паседжаньні Бюро райкама заўсёды пачыналіся са спазьненьнем. Цяпер жа, не пасьпеў масіўны гадзіньнік, што стаяў у куце, бомкнуць чатыры разы, як Эдуард Альфонсавіч — гаспадар кабінэту — падняўся з-за стала, абцягнуў, як гэта робяць вайскоўцы, пінжак і непракерхана прамовіў:

— Таварышы!

У дальнім канцы стала начальнік дарожна-будаўнічага ўчастка Даўбешка рыпнуў крэслам і дрыжачымі рукамі разгарнуў блякнот.

— Сёньняшняе паседжаньне закрытае, таму папрашу не рабіць ніякіх запісаў, — прамоўца кашлянуў, а Даўбешка, схапіўшы са стала блякнот, выпусьціў яго з рук, той упаў на падлогу і няўклюда зашоргаў нагамі, падганяючы блякнот бліжэй да крэсла. — На мінулым тыдні Даўбешка завёз самаскід асфальту на лецішча генэрала Карзо, быў схоплены на гарачым і цяпер хваляваўся, чакаючы разгляду сваёй пэрсанальнай справы.

— Павінен адразу сказаць, што пытаньне, якое мы сёньня разглядаем, знаходзіцца на кантролі абласнога камітэта партыі, таму і стаўленьне да яго мусіць быць адпаведным.

Даўбешка зноў заварушыўся і Эдуард Альфонсавіч незадаволена зыркнуў у ягоны бок.

— У двух словах яго сутнасьць можна сфармуляваць так: да нас едзе заходнегерманскі журналіст.

Такую вестку прысутныя стрэлі шоргатам ног і дружнай кашлянінай.

Гаспадар кабінэту вытрымаў паўзу, таксама кашлянуў і працягваў:

— Што сабой уяўляе шпрынгераўскі друк і ў якім сьвятле падаецца там зьнешняя і нутраная палітыка нашай дзяржавы, казаць ня буду. Вы, таварышы, ведаеце пра тое ня горш ад мяне. І таму наша задача сёньня — выявіць палітычную пільнасьць і паказаць заходняму госьцю ўсё лепшае, што маем. Задача, скажу вам, даволі складаная, бо заходні госьць мерыцца наведаць калгас «Шлях камунізму» — ня самы моцны ў раёне.

Прамоўца пашукаў вачыма Бамбізу — старшыню памянёнага калгасу, але ў гэты момант абудзіўся тэлефон спэцсувязі і Эдуард Альфонсавіч падхапіў слухаўку.

— Слухаю, Мірон Пятровіч! — гаспадар кабінэту павярнуўся тварам да прысутных, шматзначна кіўнуў галавой. — У нас зараз партбюро па гэтым пытаньні. Так, Мірон Пятровіч, я ўсіх папярэдзіў — поўная канфідэнцыйнасьць...

— З абкаму званілі,— патлумачыў гаспадар кабінэту, скончыўшы размову, папярэдне пастукаўшы косткамі пальцаў па стале, каб суняць усхваляваны шэпт і шоргат.

— А хто яго сюды запрашаў? — гукнуў з дальняга канца стала Даўбешка.

Сябры Бюро ізноў загаманілі і гаспадар кабінэта ўдругарадзь, цяпер ужо далоньню, грукнуў па стале, дамагаючыся цішыні.

— Таварышы, вытрымка — перш за ўсё. Пытаньні будзем задаваць прыканцы паседжаньня. А зараз я даю слова Івану Пятровічу Газіну — супрацоўніку абласнога ўпраўленьня Камітэта дзяржбясьпекі. Ён і распавядзе — што за гусь ляціць на нашы палеткі.

Іван Пятровіч Газін, немалады ўжо чарнавалосы мужчына, паважна padняўся з-за стала, гэтак жа паважна перагарнуў старонкі таўшчэзнага нататніка.

— Пачну без прэамбул, — прамовіў Іван Пятровіч, мелькам зірнуў на прысутных і ў кабінэце запанавала мёртвая цішыня. — Да нас едзе нехта Лётар Бомбах, супрацоўнік крайне правай, бульварнай газэткі «Більд-цайтунг», якую выдае славуты Аксэль Шпрынгер. Вас, вядома ж, цікавіць пытаньне: навошта ён едзе і чаму менавіта ў вёску Бычкі? Паводле афіцыйнай вэрсіі, гэты візытэр, нібыта, хоча наведаць мясьціны, дзе пад час вайны знайшоў сваю бясслаўную сьмерць ягоны бацька, Бэртрам Бомбах. Мы, зразумела, паднялі адпаведныя дакумэнты і высьветлілі, што яфрэйтар Бомбах і сапраўды знаходзіўся ў складзе 286-га ахоўнага палка і ў жніўні 43-га, падчас начнога бою, быў зьнішчаны партызанскай групай атрада імя Панамарэнкі. Па сьведчаньні Зьміцера Нікандравіча Дзенісенкі — былога камандзіра атрада, ён асабіста застрэліў фашыста на ўскрайку вёскі Бычкі. Пра тое ж сьведчаць і паказаньні здрадніка Радзімы Рыгора Таўпілы, які бачыў труп забітага фашыста.

Чэкіст на хвілю перапыніўся і, лізнуўшы палец, перагарнуў старонку.

— Узьнікае яшчэ адно пытаньне: чаму гэта шпрынгераўскі пісака сорак гадоў сядзеў у сваім Гамбургу, і толькі цяпер выправіўся ў Бычкі шукаць магілку свайго бацькі? І ці ня ёсьць усё гэта прадуманай палітычнай правакацыяй? Мы высьветлілі і гэта пытаньне і мусім канстатаваць, што ў гэтай справе, на вялікі жаль, замяшаныя і нашы савецкія людзі. А менавіта: навучэнец 49-й ленінградзкай вучэльні мэталістаў Аляксей Клячкін. Знаходзячыся на адпачынку ў сваёй цёткі, жыхаркі вёскі Бычкі Матроны Апалонік, гэты дзяяч знайшоў на гародзе жэтон забітага немца і, прыехаўшы ў Ленінград, занёс яго ў нямецкі консулят. Заўважу, таварышы, што зрабіў ён гэта далёка не з гуманных пачуцьцяў: за такія жэтоны немцы плацяць добрыя грошы, прычым валютаю.

Пачуўшы пра валюту, грамада разам загаманіла, зарыпела крэсламі, а дырэктар райхарчпрамгандлю Ванзовіч ад хвалявальня нават укінуў у рот цыгарэту, ды згадаўшы, што ідзе па-

седжаньне Бюро, пхнуў яе ў нагрудную кішэнь.

— У размове з работнікам кансуляту Аляксей Клячкін паведаміў таксама, што ягоная цётка асабіста ведала забітага немца і гэтую вэрсію мы цяпер спраўджваем.

— А хто яму дазволіў цягацца па кансулятах? — гукнуў з канца стала няўрымсьлівы Даўбешка.

— Мы задалі гэтае пытаньне ленінградзкім таварышам... Як мы зразумелі з адказу, у паўночнай сталіцы ў гэтым пляне пануе лібэралізм. Калі б заходнегерманскі кансулят месьціўся ў нас, розныя шпанюкі там бы не цягаліся.

Пасьля такіх слоў члены Бюро ўхвальна загаманілі, Даўбешка — той быў узрадаваны, што яго не разьбіралі, таму і лез з пытаньнямі — гукнуў: — Што зь сябе ўяўляюць нямецкія жэтоны? — але чэкіст ня стаў адказваць, кіўнуў гаспадару кабінэта і гэтак жа павольна, як і ўставаў, апусьціўся ў крэсла.

Члены Бюро яшчэ пару хвілінаў перамаўлялася, потым сьціхлі і наставілі вочы на гаспадара кабінэту. Эдуард Альфонсавіч сядзеў у задуменнай паставе, мерна стукаў асадкай па стале. Нарэшце, налёг грудзінаю на стол і здушана прамовіў:

— Мы, таварышы, ня можам прымусіць заходняга візытэра напісаць пра нашы дасягненьні. І, магчыма, плёнам ягонага візыту стане фотаздымак якой-небудзь вясковай прыбіральні на старонцы нямецкай газэты. І ўсё ж сустрэць госьця мы мусім належным чынам, прадэманстраваўшы нашы здабыткі і шчодрасьць славянскай душы. Гэта не мае словы, а дырэктыва абласнога камітэта партыі, — прамоўца зрабіў кароткую паўзу і з партыйнай рашучасьцю ў голасе прамовіў: — Слова мае Куксёнак Тарзан Пятровіч.

Загадчык сельгасаддзелу спружна падхапіўся, правёў далоньню па чырвонаму ад хваляваньня плеху.

— Я, таварышы, толькі што з Бычкоў... Назад ехалі, сьпяшаліся і ў выніку райкамаўская «волга» стала на рамонт, — загадчык сельгасаддзелу зірнуў на Даўбешку і куд-

латая даўбешкава галава ўехала ў плечы, не раўнуючы як сьлімачыная галава ў ракавіну. — Да Балбекаў яшчэ неяк можна ехаць, а потым — калдабан на калдабане, — Тарзан Пятровіч перавёў дых, дастаў з кішэні пашарпаны блякноцік. — Хата, у якой жыве Матрона Апалонік пабудаваная за царом Гарохам. Масьнічыны гнілыя, ганак зусім праваліўся. У хаце няма нават тэлевізара...

— Вашы прапановы, — перабіў Куксёнка гаспадар кабінэту і той, ні хвілі не раздумваючы, выпаліў: — Сустрэнем немца ў доме Сьцяпана Міканоравіча... старшыні калгаса. Дом з мансардай, паркет, санвузел... — Тарзан Пятровіч мерыўся далей разьвіваць сваю думку, але, угледзеўшы незадаволенасьць на шэфавым твары, прыкусіў ніжнюю вусну і дробна залыпаў вачамі.

Шэф керхануў у далонь і гэта азначала, што ён зьбіраўся некага паўшчуваць.

— Таварыш Даўбешка, — шэф нахіліўся, спрабуючы сустрэцца вачыма з начальнікам дарожнага ўчастку, — дагэтуль вы нам задавалі пытаньні, настала пара і нам запытацца: калі будзе адрамантаваная Бычкоўская дарога? Вы што, чакаеце аргвывадаў? Мы трэці год запісваем у плян сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця пункт: «Асфальтаваньне дарогі Балбекі — Бычкі» і за гэтыя тры гады там нават грэйдэр не праехаў...

— Эдуард Альфонсавіч... вы ж ведаеце...— пралепятаў Даўбешка, але шэф як і ня чуў таго лепятаньня. — Раённы камітэт партыі дае вам два тыдні... Усе людзі, уся наяўная тэхніка мусіць быць кінутая на аб'ект. Не хапае тэхнікі — пазычайце ў суседзяў, ганіце каткі і грэйдэры з Гарадка, Віцебску — адкуль хочаце. І ведайце — за гэтую дарогу вы адказваеце партбілетам.

Эдуард Альфонсавіч выцер насоўкаю халодны пот з лобу, перавёў позірк на загадчыка сельгасаддзела.

— Сядайце, Тарзан Пятровіч... Вы нас сваёй прапановай, шчыра кажучы, зьдзівілі, — шэф кінуў на стол асадку, тая

зьляцела долу і адразу некалькі чалавек кінуліся яе падымаць. — Ну, сустрэнем мы госьця ў старшынёўскай хаце... А што на гэта скажуць людзі? Вы пра гэта, Тарзан Пятровіч, падумалі? Каго мы хочам ашукаць — немца, ці саміх сябе?

У паветры завісла гнятлівая цішыня, якую перарваў сам гаспадар кабінэту.

— Думаю, давесьці да ладу вясковую хату ня так і цяжка. І тэлевізар можна знайсьці... хаця б у часовае карыстаньне...— ужо лагодным голасам прамовіў Эдуард Альфонсавіч і члены Бюро гамузам заківалі галовамі.

Раніцой наступнага дня цётка Матруна ўжо не ўставала з пасьцелі і фэльчарка Ніна, зрабіўшы ўколы, узялася парадкаваць у хаце: памыла посуд, падмяла падлогу, згатавала кампот з антонавак, нарэшце, села на край ложка і стала чытаць уголас мясцовую газэту.

— Во, Матрона Іванаўна, паслухайце. Тут пра нашы Бычкі пішуць.

«Новае ў жывёлагадоўлі» — так называецца стэнд тэматычнай літаратуры, устаноўлены днямі ў памяшканьні Бычкоўскага сельскага клюба. На стэндзе дэманструюцца матэрыялы Красавіцкага пленума ЦК КПСС, кніжныя навінкі выдавецтва «Ураджай», у тым ліку брашура нашага земляка, знатнага жывёлавода Э. Дымагарнага «Грамадзкаму статку — клопат і ўвагу». Кніжны стэнд карыстаецца вялікай увагай сяльчан».

— І хто ж гэта піша? — пацікавілася цётка Матруна і наструніла слых.

Пад вокнамі загула, а потым лагодна завуркатала бліскучая чорная «волга».

— Божухна, і што яны ўнадзіліся...— прастагнала цётка Матруна, а фэльчарка Ніна, убачыўшы праз вакно чарговага цётчынага госьця — падхорцістага дзядзьку ў шэрым капелюшы, падхапіла валізку і падалася на двор.

Чарговы госьць увайшоў у хату нячутна — бяз рыпу, амаль бяз груку і тым самым напужаў гаспадыню. Паўстаўшы пася-

род хаты, госьць млява пасьміхнуўся, выцягнуў з нутраной кішэні нататнік, а цётка Матруна, самлеўшы, схапілася рукой за фіранку, што вісела ля ложка, і плюхнулася на пярыну.

— Дарма так хвалюецеся, Матрона Іванаўна... і занавескі дарма абрываеце, — госьць дапамог гаспадыні сьцягнуць з галавы абарваную фіранку, спрытна прысеў на край услону. — Тым больш, мы ня маем да вас ніякіх прэтэнзій.

Госьць кінуў на стол капялюш.

— Толькі два пытаньні, Матрона Іванаўна... Ці ведалі вы такога Бэртрама Бомбаха?

Адарваўшы галаву ад падушкі, цётка Матруна залыпала вачанятамі, зацкавана страсянула галавой.

— А вы, Матрона Іванаўна, не сьпяшайцеся... Згадайце вайну. Успомніце — хто зь нямецкіх салдат да вас заходзіў, як вы іх сустракалі, — чакаючы адказу, госьць паляпаў нататнікам па сьцягне...

Матруна ляжала нерухома і нават кінула дыхаць.

— Дзіўна, — госьць засмучана ўздыхнуў, насупіў кусьцістыя бровы, — а нам казалі, што вы гэтага ваяку добра ведалі, што ён не раз і не два завітваў у вашу хату.

Замарачны звон у вушах ператварыўся ў бязладны шум і Матруна зусім ня чула — што кажа няпрошаны госьць і зрэдзьчасу, зусім не да месца ківала альбо трэсла галавою. І ўсё-такі тузін словаў дапяў да вушэй.

—... Цалкам верагодна, што немец будзе даваць грошы. Возьмеце вы іх, ці не — ваша асабістая справа, але мы б не рэкамэндавалі гэтага рабіць...

Пасьля таго цётка Матруна ціха войкнула і заплюшчыла вочы. Госьць пабег на кухню, сёрбнуў вады з вядра, пырснуў у твар зьнямоглай кабеціне і калі тая ачулася, схапіў капялюш і палахлівым ценем высьлізнуў з хаты.

У абед, разам з каровай, што вярнулася з поля, у Матрунчын двор завітала Карпачыха. Суседка доўга навязвала

наравістую Зьвяздоху, грукала даёнкай, нарэшце ўбілася ў хату.

— Ну, як ты тут? Ці палягчэла? — гукнула Карпачыха і тут жа дадала: — Я яго шукаю, падлюгу, а ён у кінабудцы сядзіць, гарэлкай заліваецца. Другім разам, далібог, падапру калом, ды падпалю гэтую кінабудку разам з усімі п’янтосамі.

Карпачыха яшчэ пару хвілін лаяла цесьця і сунялася толькі тады, як Матруна застагнала і папрасіла зьбегаць па фэльчарку.

— У больніцу трэба — хай бы падлячылі, — уздыхнула суседка і ўжо адчыніўшы дзьверы, крыкнула: — Унука пашлю, а то ж каровы стаяць нядоеныя...

Дзьверы груркнулі і — дзіўная рэч — Матруне адразу ж палягчэла. Сэрца ўжо не рвалася з грудзіны, увушшу не шумела і Матруна нават пачула, як білася ў шыбу зумклівая восеньская муха. Звон у вушах заўсёды зьнікаў, калі яна згадвала пра больніцу — гэтае, ва ўяўленьні Матруны, страшнае месца, дзе яна за сваё жыцьцё так ніколі і не пабывала і дзе, па чутках, людзей рэзалі, поркаліся ў нутры, а потым зноў сшывалі.

У хляву рыкнула нядоеная Зьвяздоха, муха стукнулася ў шыбу і пачала кружляць над галавою, а ў самой галаве сталі кружляць неспакойныя думкі. «І чаго яны да мяне прычапіліся?» — думала Матруна, згадваючы нязваных гасьцей. Асабліва яе ўстрывожыў мужчына ў капелюшы, які пытаўся пра немца. — Ці не Канавальчык што набрахаў? — прашаптала Матруна і тут жа супакоіла сябе на думцы, што мужчына, відаць, яе з кімсьці пераблытаў. Муха ізноў стукнулася ў шыбу, а на двары пачуліся шаргатлівыя крокі. Прычым, ішлі відавочна не Карпачыха з фэльчаркай, бо знадворку кашлянулі, мацюкнуліся, груркнулі дзьвярыма, ды так, што парахня пасыпалася са столі і нехта сіплым голасам прамовіў: «Ня ўлезе, давядзецца пілаваць». Другі мужчына гракнуў: «Улезе!», а Матруна спалохана перахрысьцілася і прашаптала:

— Каго там яшчэ прынесла?

Мужчыны доўга валтузіліся ў сенцах, нарэшце ўваліліся на кухню і Матруна з жахам убачыла, як у сьвятліцу, падчапіўшы квяцістую фіранку, уехала тоўстае габляванае бервяно.

— А божухна, — выдыхнула Матруна і ў той жа міг ўгледзела барвовы твар карпачысінага зяця: Казік трымаў цяжкое бервяно і зморана аддзімаўся.

— Прыйшлі, цётка, падлогу табе замацаваць, — засопле-на і не зусім цьвяроза прабубніў «западэнец», прымасьціўшы бервяно на калена, — так што выбачай — патурбуем.

Мужчыны — а разам з Казікам у хату ўваліўся Васька Халімонаў — паклалі бервяно, зморана ўздыхнулі і ў хаце запахла гарэлкай.

— З раёну званілі. Загадалі ўмацаваць падлогу, — патлумачыў Казік. — І ганак паправіць, — гукнуў праз Казікава плячо Васька Халімонаў — малады яшчэ мужчына, якога летась пазбавілі шофэрскіх правоў і перавялі ў цесьлі.

Казік раскрыў рот, каб яшчэ нешта сказаць, ды тут у хату ўбілася цешча.

— Вы што! — гракнула Карпачыха ад парога, — зусім ад гарэлкі пашалелі? Зь бервяном у хату лезуць!

— Старшыня паслаў, — уставіў слова Васька Халімонаў, — загадаў падлогу ўмацаваць, як вэтэрану працы.

— Дык што ж вы, будзеце мазгатаць хворай жанчыне над вухам? — не сунімалася Карпачыха і зяць, адвёўшы вочы, пакрыўджана прамармытаў: — А можа яе да нас? Хай пажыве пару дзён, пакуль мы ўправімся.

Цешча неяк дзіўна паглядзела на зяця і, ці не ўпершыню ў жыцьці, пагадзілася зь зяцевай прапановай.

— А й сапраўды, Іванаўна... Фэльчарка ў раён зьехала, дык чаго ты тут будзеш ляжаць? Пайшлі да нас, а то ж не дадуць гэтыя п’янтосы жыцьця.

І Йванаўна, шморгнуўшы носам, асуджана ўздыхнула ў адказ.

Да сяброўчынай хаты ішлі моўчкі. Карпачыха, аднак, увесь час мерылася штосьці спытаць — керхала, набірала ў грудзіну паветра, але тут жа стульвала вусны і з шумам аддзімалася. Нарэшце, абмінуўшы зялёную каровіну ляпеху, яна чародным разам керханула і запыталася:

— А што за чалавек да цябе прыяжджаў?

Матруна зьлёгку сьцепанулася, паправіла хусьцінку на скроні.

— А я й сама яго ня ведаю. Прыйшоў... у капелюшы, ня выпіўшы, дастаў нейкую кніжачку і пачаў пра нейкага Бомбуха пытацца. Пытаецца, а ў мяне мятлікі ўваччу. Так і самлела. Ачулася, а яго ўжо і ў хаце няма.

— Хто ж такі, гэты Бомбух? --задуменна выдыхнула Карпачыха, — ці не халімонішын гэта швагра, што летась краму абрабаваў?

Сяброўка прымружыла вочы, згадваючы прозьвішча халімонішынага швагра і, не згадаўшы, прашаптала:

— Гэта ж я сёньня ў сяльпе была, дык там Халімоніха байкі баяла. Казала: пільнуйце, бабы, калодзежы, бо нейкі немец едзе — хоча ваду патруціць.

Матруна, аднак, ня чула тых слоў, бо душа ейная зноўку вырвалася з грудзіны і адляцела ў мінулае. І на Матруну ізноў зірнуў малады немец і ў сенцах зноў брыдка вылаяўся Міцька Дзенісенка. І толькі тады Матруна ўцяміла, нарэшце — хто едзе ў адведкі і бяскроўныя вусны бязгучна прашапталі: «Божухна, няўжо гэта ягоны сын?"

— Ты, Іванаўна, балбатню тую да сэрца не бяры, — засакатала Карпачыха, пабачыўшы, што Матруна зьмянілася з твару. — Халімоніха ж вядомая балаболка. Памятаеш, казала на Тройцу, што на Бычкі міцярыт зваліцца

... За цэлы дзень Матруна не прамовіла ні слова — ляжала ў чужым ложку, глядзела на столь, маркотна ўздыхала і ад уздыхаў варушылася сівая павуцінка, што вісела над галавой. Увечары сяброўка паставіла на стол чыгунок парнай

бульбы, паклікала есьці і калі Матруна адмовілася, сілком зацягнула да стала.

— Паеш ты, далібог, а то памрэш з галадухі.

Есьці і сапраўды не хацелася… Матруна распалавініла бульбіну, каўтнула малака, наставіла на сяброўку сумныя вочы і сяброўка, адсунуўшы ўбок талеркі, падхапілася на ногі.

— Давай пагадаю. Уведаеш, што будзе — адразу палягчэе.

Карпачыха дастала з шафы калоду карт,ператасавала, расклала на стале, засяроджана пачухала гузаваты нос.

— Вось гэты стары псюк табе й не дае спакою, — сяброўка тыцнула пальцам у піковага караля і ўздыхнула — глыбака і трывожна. — Чакаюць цябе нейкія згрызоты, нейкія размовы, а ўсё скончыцца...— Карпачыха перагарнула дагары тварам крайнюю карту, сумелася і ў гэты момант на парозе — з глухой кашлянінай і тупаценьнем — паўстаў зяць Казімер.

— Хату ці зачынілі? — запыталася цешча, і Казімер, пачарпнуўшы вады зь вядра, стомлена выдыхнуў: — Зачынілі...

— За вас дужа не бярыся, п’янтосы няшчасныя, — прамовіла Карпачыха і з такім імпэтам узялася тасаваць карты, што яны высьлізнулі з рук і пасыпаліся на падлогу.

Наступным ранкам, а восьмай гадзіне, Казімер рушыў на працу, але неўзабаве вярнуўся і задыхана паведаміў: — Цётка Матруна! Там да вас прыехалі... Тэлевізар прывезьлі, і ўсё такое...

— Які цілівізе-ер? — усхвалявана прасьпявала Матруна і, апранаючыся, доўга не магла патрапіць у рукаво кацавейкі.

Яны выбеглі з Карпачыхай на падворак і ў канцы вуліцы ўгледзелі крытую машыну, а поруч зь ёю Канавальчыка ды нейкага незнаёмага мужчыну.

— Хто з вас Апалонік? — спытаў незнаёмец, калі жанчыны падышлі бліжэй.

— Я-а,— дрогкім голасам азвалася Матруна, зачапіўшы нагой сьвежую каровіну ляпеху.

— Расьпішыцеся ў атрыманьні... — мужчына расправіў на жываце скамечаную паперку, — тэлевізара, люстры, паласа і журнальнага століка.

— А калі мне што-небудзь дадуць? — пакрыўджана выдыхнуў Канавальчык. — Я, між іншым, вэтэран вайны, маю тры баявых мэдалі.

— Наступным разам, дзед, наступным разам, — буркнуў мужчына і з кіслай мінай на твары працягнуў Матруне пакамечаную паперку.

На ганак уласнай хаты Матруна ступіла, ня чуючы пад сабой ног, а пабачыўшы квяцісты кілім на падлозе, маленькі стол на крывых нагах і чалавека, які стаяў на стале і ўкручваў лямпачкі ў люстра, нават ікнула ад хваляваньня.

— Усё, цёткі, прымайце работу! — чалавек скочыў са стала, пстрыкнуў уключальнікам і Карпачыха, што стаяла за сьпінаю, зачаравана прашаптала:

— Як у царкве.

Дзень згасаў ужо ад ранку і мяккі змрок, нібыта дым ад бульбоўніку, плыў у вокны, кволіўся ў вісюлінах казённай люстры, няроўным прастакутнікам ляжаў на паверхні журнальнага століка і на гэтым прастакутніку цёмнай плямай вымалёўвалася нерухомая жаночая пастаць. Матруна сядзела ля вакна — дробненькая, скурчаная, лядашчая і летуценна паглядала спачатку на грэйдэр, што сноўдаў па вясковай вуліцы, а потым на пакрэсьленае згалелым вецьцем неба.

“Сустракайце, Матрона Іванаўна, госьця. І не забывайце — пра што мы з вамі гаманілі”, — паведаміў учора мужчына ў капелюшы і душу Матруніну працяў халадок трывожнага чаканьня. Адвячоркам, калі яны з Карпачыхай мясілі цеста для пірагоў, Матруну пачалі біць дрыжыкі, ноччу яе наагул апанавала нэрвовая ліхаманка, але раніцою ільдзінка непакою ў душы растала і цела чарговым разам апанавала хваравітая немач. Матруна прысела на хвілю да вакна і, няздольная зварухнуць аніводнай сваёй цяглліцай, так і застыла ў няёмкай

паставе, пазіраючы на няўтульны, колеру цьмянага волава сьвітанак. Яна сядзела так гадзіну, а можа і дзьве, і калі неба канчаткова праясьнела, у яго прадоньні сталі нараджацца напаўзабытыя абліччы: гайдалася ў паветры няголеная пыса Міцькі Дзенісенкі; таўпілавы сын Мікола, які не вярнуўся з фронту, сарамліва пасьміхаўся ёй на тле яблывага вецьця; і сам Таўпіла, акалелы, пакрыты бухматым інеем, наблізіўся да вакна і тут жа растаў, зьліўшыся зь бязрадасным небам. Там, за вакном, нараджаліся напаўзабытыя галасы, гучалі няўцямныя зыкі: Міцькава лаянка, сіплы таўпілавы кашаль, вясёлы воклік “Брава, Зоніа!”, ад якога шумела ўвушшу і абуджалася прыспанае сэрца і, апанаваная ўсёй гэтай замарaччу, Матруна не адразу ўцяміла — ці то папраўдзе за шыбай паўстала Карпачыха, ці тое ёй прымроілася.

— Едуць! — гукнула сяброўка і ад вокліка ейнага здрыгануўся і апаў долу апошні ліст з яблыневага вецьця.

Да весьніц Матруна ішла як не на сваіх нагах, а ўбачыўшы жанчын, што стаялі ля канавальчыкавай хаты, і зусім зьніякавела. “Едуць, едуць”,— загаманілі жанкі і з-за павароткі выехала спачатку шэрая “волга”, а потым зялёны старшынёўскі “казёл”. Цяжка гудучы на ня ўежджанай дарозе, машыны ўзьехалі на пагорак, спыніліся і з “волгі” вылез нетутэйшага выгляду мужчына й маладая кабета ў бялюткім як сьнег палітоне.

“Жонка, жонка”— зашапталіся ў натоўпе і той жа міг сэрца Матруніна сьцялася — яна ізноў убачыла Бэртрама. Шалёная радасьць палыхнула, апаліла шчокі й згасла ад усьведамленьня, што гэта быў не Бэртрам, а ягоны сын.

—... Заработная плата сяльчанаў вырасла ў параўнаньні з 1965-м годам у 1,7 разы. Вёска Бычкі, паводле генэральнага пляна, ператвараецца ў пасёлак з усімі камунальнымі выгодамі,— грымеў на ўсю вулку зычны голас калгаснага старшыні — Сьцяпана Міканоравіча Бамбізы. Сьцяпан Міканоравіч шыбаваў поруч з гасьцямі, а сьледам за імі, на невялічкай адлегласьці, сунуўся той самы мужчына ў шэрым капелюшы.

— Ну вось, — прамовіў старшыня, падышоўшы да весьніц, — гэта і ёсьць тая самая Матрона Іванаўна Апалонік, зь якой вы хацелі пазнаёміцца.

Не ўздымаючы вачэй, Матруна паціснула спачатку шырокую і цёплую мужчынскую далонь, а потым халодную й далікатную жаночую далоньку.

— Как ваше здорофйе, Матрйона Іванофна? — запытаўся немец, дыхнуўшы саладжавым пахам мяты.

Матруна неакрэсьлена кіўнула і, змагаючыся з нэрвовай дрыготкай, пачала перабіраць пальцамі ражкі навюткай, па выпадку павязанай хусткі.

Немец стрымана кашлянуў, расшпіліў, потым зноў зашпіліў верхні гузік палітону: — Я ест сын Бэртрама Бомбаха, который тут погіб. Вы же его зналі, Матрйона Іванофна?

Матруна ізноў кіўнула, узьняла вочы і, наткнуўшыся на суворы пагляд з-пад шэрага капелюша, страсянула галавой.

— Может, Матрйона Іванофна, вы знаете — где он был похоронен?

— Вы ведаеце, дзе быў пахаваны спадар Бомбах? — перапытаў праз хвілю "шэры капялюш", але Матруна маўчала, з хваравітай зацятасьцю пазіраючы пад ногі.

Немец яшчэ штосьці пытаўся, выцягнуў з кішэні мэталёвую блямбу, згадаў Лёшку Клячкіна, нарэшце асуджана ўздыхнуў і жонка — бялявая й вастраносая кабета — тузанула яго за рукаво. Немка штосьці прамовіла па-свойму, пайшла да машыны і сьледам за ёю, цяжка шоргаючы падэшвамі чаравікаў, пайшоў і сын Бэртрама Бомбаха.

— Гендэ хох! — гукнуў з-за плоту Канавальчык. Канавальчык зірнуў на жанчын, спадзеючыся, што тыя ацэняць ягоны жарт, але жанчыны абурана зашыкалі, а Карпачыха крутнула пальцам ля скроні і па-мужчынску мацюкнулася.

— Адзін гарлае абы-што, другая маўчыць як статуёвіна, — ледзь чутна прасіпеў Бамбіза, махнуў рукой і лёгкім трухам пабег да свайго "казла".

Неўзабаве машыны зьніклі за павароткай, і жанкі, пастаяўшы хвілінку, пачалі разыходзіцца. Ніхто зь іх не падышоў да Матруны, ніхто нічога не сказаў, нават Карпачыха сарамліва адвяла вочы, і толькі Канавальчык штосьці крыкнуў у яе бок, ды словы ягоныя заглушыла вуркатаньне грэйдэру, які выяжджаў з прыдарожных кустоў. Матруна села на лаўку, насунулася сьпінаю на плот і з дзіўным спакоем падумала, што так і памрэ тут, пад плотам, ня ў сілах падняцца на ногі.

У абед прыгналі статак — быў канец кастрычніку і скаціну пасьвілі толькі да абеду. Зьвяздоха доўга рыкала пад гарою, клічучы гаспадыню, нарэшце прыйшла да хаты, пастаяла ля паркану і, лізнуўшы шурпатым языком вільготныя ноздры, пасунулася ў хлеў. Па абедзе — ужо ў вечаровым сутоньні — да хаты пад'ехала крытая машына, з кабінкі выкуліўся той самы мужчына, што прывозіў тэлевізар ды іншыя рэчы. Мужчына штосьці спытаў, Матруна кіўнула і праз колькі хвілінаў госьць вынес з хаты спачатку тэлевізар, потым згорнуты ў трубку кілім, нарэшце, журнальны столік і люстру, якая суцішна зазьвінела на ветры.

— А ты думала, што табе далі назаўсёды? — гукнуў ад сваёй хаты Канавальчык, калі машына ад'ехала.

Матруна нават не зірнула ў суседавы бок і Канавальчык, абражаны такімі абыходзінамі, падцягнуў зацухмоленае галіфэ, жвавым трухам перабег дарогу.

— Гэта хто, сынок таго фрыца, якога мы шлёпнулі? — сусед вытрымаў паўзу, чакаючы, што Матруна абзавецца хоць словам, але тая маўчала. — Тут да мяне чалавек прыходзіў... з Камітэту...— Канавальчык вытрымаў яшчэ адну паўзу, — між іншым, пра цябе пытаўся... Я яму ўсё і распавёў. Як мы таго немца вялі, як той немец жыць прасіўся. Гэта ж я яго і шлёпнуў, а Міцька Дзенісенка на сябе запісаў... Хітры быў, хахляра, таму і выбіўся ў людзі.

Нейкая дзіўная сіла падняла Матруну на ногі і яна, зьлёгку хістаючыся ўбокі, пасунулася дадому. Убіўшыся ў хату, Матруна глынула збружэлага квасу, няўмела перахрысьцілася і, не распрануўшыся, лягла на ложак. Жанчына цяжка ўздыхнула, зьмежыла павекі, а калі зноўку расплюшчыла

вочы, дык убачыла ў пройме прачыненых дзьвярэй Бэртрама. Бэртрам пасьміхнуўся ёй аднымі вуснамі, паставіў у кут стрэльбу і, ня ведаючы — чым заняць рукі, стаў расшпільваць, а потым зноў зашпільваць верхні гузік мундура.

— Сын твой прыяжджаў, мы яго ўсёй вёскай сустракалі, — прамовіла Матруна і, прыкусіўшы дрыготкую вусну, скрозь сьлёзы прашаптала: — Замуж я так і ня выйшла.

— Ведаю, — азваўся Бэртрам і голас ягоны прагучаў гулка, нібыта з калодзежу.

Згадка пра калодзеж на кароткае імгненьне абудзіла Матруну; жанчына страпянулася, памкнулася разьвязаць хусьцінку, якая душыла яе, ды нечакана скацілася з ложку і паляцела ў халоднае і сырое прадоньне, на дне якога плюскала вада і хтосьці голасна гукаў яе імя.

Імжыстым ранкам ў шыбу пастукалі і на падворку прастуджана кашлянуў Канавальчык.

— Гэй, Матруна, выганяй карову!

Канавальчык кашлянуў другім разам, прыпаў тварам да шыбы і на вільготным шкле — у тым месцы, куды тыцнуўся канавальчыкавы нос, утварылася буйная кропля. Хвіліну яна нявыплаканай сьлязінай трымцела на ветры, а потым сарвалася долу, не пакінуўшы па сабе ніякага сьледу.

# КВАТАРАНТ

Пад вакном залівіста, з салаўіным посьвістам азвалася сыгналізацыя і Міканор Іванавіч прачнуўся. Стаіўшыся пад ватнай коўдрай, доўгіх пяць хвілін чакаў — калі аціхне суседава легкавушка, а не дачакаўшыся, бязгучна вылаяўся і падаўся да бальконных дзьвярэй.

— Вы б яе хаця б удзень адключалі, — крыкнуў Міканор Іванавіч, убачыўшы на доле ўскудлачаную галаву Капіталіны — бялявай саракоўкі, што жыла на другім паверсе.

Суседка задзерла галаву, пагардліва хмыкнула і легкавушка, скавытнуўшы на астачу, аціхла.

Міканор Іванавіч вярнуўся на сваю канапу, лёг, паспрабаваў ізноў заснуць, але ў гэты момант у вітальні рыпнулі дзьверы і стары, прашаптаўшы: “Штосьці сёньня рана”, — адкінуў коўдру.

Кватарант Міцька з грукатам зьняў абутак, адразу ж падаўся ў прыбіральню і ўжо адтуль, тузануўшы фаянсавую гіру, крыкнуў:

— Што гэта вы, Іванавіч, сьпіцё сярод белага дня? Ці не захварэлі?

— Суседава машына… бульбу ёй у выхлапную трубу… тры разы ўначы будзіла… Зусім са сну зьбіўся.

— Я б на вашым месцы даўно ў ДАІ патэлефанаваў, — кватарант увайшоў у сьвятліцу, на хаду дастаючы з поліэтыленавай торбы пляшку гарэлкі.

— Што, брат, усё ж такі выперлі?

Міцька не адказаў. Моўчкі паставіў бутэльку на стол, падаўся ў кухню — рыхтаваць закусон.

— І што цяпер?

— Дахаты паеду. А пятай гадзіне цягнік. Яшчэ пасьпею.

— Ды я не пра тое… Што наагул рабіць будзеш?

Кватарант уздыхнуў, мерна заляпаў нажом — няйначай, наразаў зялёную цыбулю.

— Ёсьць магчымасьць у Польшчы вучыцца, але… — Міцька ізноў уздыхнуў, памаўчаў-падумаў хвіліну, потым крэкнуў, але фразы так і ня скончыў.

Міканор Іванавіч падняўся з канапы. Зь языка ўжо зрывалася нядобрае слова на адрас тых, хто выгнаў Міцьку з унівэру, але прыроджаная інтэлігентнасьць і саракагадовы пэдстаж прымусілі сьціснуць зубы і ён няўцямна прасіпеў:

— Во с-ссс…

Гарэлка была цёплая і гаспадар кватэры, кульнуўшы чарку, доўга крывіўся і нават — што ўжо было зусім не інтэлігентна — пусьціў сьліну пад ногі. Зрэшты, халадзіць трунак не было часу — Міцька і так раз за разам пазіраў на гадзіньнік.

— Ну, а астатнія як? Вас жа чатырох затрымалі, — гаспадар кватэры стоена, каб ня чуў кватарант, адрыгнуў цёплай гарэлкай.

— Толькі мяне й паперлі. Я ж са сьцягам ішоў.

Стары ляпнуў далоньню па калену: абурэньне лезла з душы як цеста зь дзежкі. Міканор Іванавіч памкнуўся падняцца на ногі ды ў сьпіну яму стрэльнула, і кватарант, пабачыўшы балесныя курчы, падхапіў бутэльку.

Другая чарка прайшла ў нутро без праблемаў і супакоіла сьпіну, а разам зь ёй і бунтоўную душу. Міканору Іванавічу карцела нейкім чынам падтрымаць хлопца, таму ён, падчапіўшы відэльцам салату з цыбулі і сьвежых агуркоў, замілавана і не зусім цьвяроза паведаміў:

— Ведаеш, Міця, ня ты адзін з-за сьцягу пацярпеў. Я калісьці ў Петразаводску, сталіцы Карэла-Фінскай ССР вучыўся. І быў там у мяне таварыш — Пецька Маразёнак. Таксама беларус…

— А як вы туды патрапілі? — перабіў кватарант, хруснуўшы крамяным агурком.

— Куды?

— Ну… у Петразаводск.

Міканор Іванавіч адкінуўся на сьпінку крэсла, закінуў нага на нагу, зьбіраючыся распавесьці ўсё ладным парадкам, але згадаў, што Міцька позьніцца на цягнік і загаварыў хуценька і блытана.

— Па вайне ж у нас жывога месца не было: усё дарэшты спалена. А ў Карэліі фінаў выгналі, пустыя дамы стаялі. Вось туды наш брат-беларус і рынуў. Па аргнаборы. Жылі мы там на беразе Ладагі, непадалёку ад станцыі Піткяранта. Бацька мой у леспрамгасе працаваў, бугальтарам. Суворыя там мясьціны… — Міканор Іванавіч міжволі задумаўся і, лыпнуўшы вачыма, перапытаў: — Пра што гэта я казаў?

— Пра Пецьку Маразёнка.

— Ага… Паступіў у тамтэйшы ўнівэрсытэт, як і ты, на фізмат; правучыўся два гады, а ў 56-м, адразу ж пасьля летняй сэсіі, Карэла-Фінскую ССР зьліквідавалі. Уяўляеш, была саюзная рэспубліка, свой сьцяг, герб — дарэчы, прыгожы такі: праваруч жыта, леваруч хваёвая галіна з шышкамі. І гімн свой быў. Я й дагэтуль першы куплет памятаю… Зараз… — Міканор Іванавіч прымружыў вочы, зацята паглядзеў на столь, — “Oma Karjalais… suomalais…”

Стары памыліў вуснамі, прамармытаў яшчэ колькі фінскіх словаў і асуджана страсянуў галавой.

— Не, словаў ужо не згадаю. А мэлёдыя і зараз увушшу гучыць.

Міцька кашлянуў, зірнуў на гадзіньнік.

— І што, не было ніякіх пратэстаў?

— Супроць чаго?

— Супроць ліквідацыі саюзнага статусу.

— Якія там пратэсты, у 1956 годзе. Тут бы ў нас Бэсэсэр зьліквідавалі. Як думаеш, шмат людзей выйшла б пратэставаць?... То ж бо то… Хаця ў Петразаводску адзін пратэстант

знайшоўся: Пецька Маразёнак. Прыйшоў на кастрычніцкую дэманстрацыю з карэла-фінскім сьцягам. Кажа: хадзіў зь ім на Першага траўня, прайдуся і цяпер. Мы пасьміхнуліся, але на ўсялякі выпадак далей ад Пецькі адышлі. А неўзабаве яго нейкія людзі атачылі, убок адвялі. Пасьля сьвятаў прыйшлі ў аўдыторыю, а Пецькі сярод нас няма. Выгналі з унівэрсытэту.

— За што? — задужа гучна спытаў кватарант. — Твар Міцькавы пры гэтым прыкметна выцягнуўся.

— За тое, за што й цябе...

— Ну дык я ж нёс бел-чырвона-белы, а тут жа савецкі, з сярпом і молатам, як я разумею.

— Разумееш, ды не зусім. Сьцяг хоць і савецкі, ды сьпісаны за непатрэбнасьцю. Калі ты зь ім выйшаў на вуліцу, значыцца супраць лініі партыі выступаеш.

Міканор Іванавіч знярана крэкнуў, пацягнуўся да бутэлькі каб разьліць рэшту, але кватарант ужо быў на нагах.

— Усё, Іванавіч… бягу. Хутка цягнік, а ў мяне яшчэ рэчы не сабраныя.

Праз дзесяць хвілін гаспадар кватэры парукаўся з кватарантам і ледзь не заплакаў на разьвітаньне. За апошнія пяць гадоў, як памерла жонка, у яго перабывала шмат студэнтаў. І з кожным разьвітаўся без шкадаваньня. Цяпер жа штосьці залепятала ў сэрцы. Зачыніўшы дзьверы, стары паволі, як той самнамбул, зайшоў у кухню, прыкруціў водаправодны кран, потым гэтак жа бязмэтна зазірнуў у лазенку і сьцепануўся: на трубе-сушылцы вісела забытая кватарантам майка. Спатыкаючыся, ён кінуўся на гаўбец:

— Міця, маечку забыўся!

Хлопец, які ўжо ладна адбег ад дому, паставіў на зямлю сумку, махнуў рукой, але потым падбег пад балькон.

— Успомніў… першы куплет, — гукнуў стары усьлед майцы, што зьлятала долу і, удыхнуўшы на поўныя грудзі засьпяваў:

Oma Karjalais-suomalaiskansamme maa,
Vapaa Pohjolan Neuvostojen tasavalta…* —

Міканор Іванавіч глынуў паветра, каб сьпяваць далей, ды тут у суседзяў штосьці грукнула і Капіталіна голасна паведаміла мужу:

— Дзед з трэцяга паверху, здаецца, зусім звар'яцеў.

У старога зазьвінела ў вушах і кроў апаліла твар. Ён праводзіў позіркам рухавую Міцькаву постаць, потым, ня чуючы пад сабой ног, пайшоў у сьвятліцу, выліў у шклянку рэшткі гарэлкі і, перад тым як выпіць, выгукнуў слова, якое даўно рвалася з грудзіны:

— С-сукі.

* "Родная зямля нашага карэла-фінскага народу, Вольная паўночная савецкая рэспубліка…" (фін.).

# БАГУН

Пад'ехаўшы да крамы, Багун нацягнуў лейцы, з разважлівай павольнасьцю зьлез з калёсаў. Тут, пад ліпамі, дзе звычайна шыхтом стаялі ровары іківалі кудлатымі галовамі сялянскія коні, было пуста і гэтая пустэча рабіла навакольны сьвет яшчэ больш няўтульным і шэрым.

Крамныя дзьверы былі сьцярожка — на два пальцы — прачынены і на іх вісеў абвіслы плякат з выяваю жаўнера й разгоністым надпісам "Do broni!" Жаўнер зяпаў квадратным ротам, крывіў гняўлівы твар і Багун, узяўшыся за клямку, хвіліну ўражана глядзеў на плякат, тузаў сьсівелы вус і пераступіў парог пасьля пакутлівага ўздыху.

Густы помрак прымусіў зьмежыць павекі.

— Sklep nieczynny, — гукнула з помраку крамнічыха Двойра, але тут жа сумелася, зьнікла за дзьвярыма.

Дзесьці ў крамных нетрах зарыпелі масьніцы, штосьці суцішна грукнула і пачулася незадаволенае мармытаньне. Звычайна Рувім — гаспадар крамы — вомігам вылятаў да наведнікаў, цяпер жа давялося чакаць і Багун, каб заняць рукі, разгарнуў "Русское Слово" — пажоўклую газэту, што ляжала на прылаўку. Чытаць у прыцемку, аднак, не выпадала, ды і газэта была старая — за 20 ліпеня, і наведнік, наваліўшыся грудзінай на прылавак, пазяхнуў і стаў безуважна глядзець на вялізнага чорнага ката, які сядзеў ля дзьвярэй і зацята аблізваўся. Кот, відаць, улез у сьмятану, бо вусы і канцы вушэй былі перапэцканы ў нешта белае.

Крама, у якую ўбіўся Багун, месьцілася на ўскраіне мястэчка, і яшчэ пару гадоў таму яе мала хто наведваў. Але Рувім — гандляр увішны: усталяваў радыёпрыймач фірмы "Тэлефункен", выпісаў з Рыгі расейскіх, а зь Вільні польскіх газэт, і крама неўзабаве ператварылася ў своеасаблівы местачковы клюб, у якім дзень да ночы таўкліся людзі. Прыходзілі нават цыганы з Зарэчча, і ня столькі, каб разжыцца бутэлькай газы ці іржавым

селядцом, а каб паслухаць радыё ды ўведаць апошнія навіны. І хаця прыймач па-ранейшаму стаяў у куце, а на паліцах яшчэ ляжаў сякі-такі тавар, народу ў краме не было і гэта наводзіла на думку, што справы дрэнь і немец ня сёньня, дык заўтра будзе пад Варшавай.

За сьценкай ізноў зарыпелі масьніцы.

— Ах, ду біст а-зэ паскудняк! — гойкнула крамнічыха Двойра і Багун пудліва адскочыў ад прылаўка.

Крамнічыха выбегла з бакоўкі, паспрабавала хвастануць ката ручніком, але той сігануў на парог і зьнік у дзьвярной пройме.

— Зьвядзе са сьвету, чортаў кот, — паведаміла Двойра, сказала яшчэ штосьці па-свойму і ў гэты момант з бакоўкі выйшаў, трымаючыся за бокі, сам гаспадар.

— Нырн-кранк, — выдыхнуў Рувім у адказ на запытальны погляд наведніка, скрывіўся, згадваючы, як гэта будзе па-тутэйшаму, але наведнік і так зразумеў, што гаворка ішла пра ныркі.

Хвароба вымагала хвіліны маўчаньня. Багун памаўчаў, спачувальна насупіў бровы, а потым, прасьвятлеўшы з твару, кіўнуў у бок прыймача:

— Ну, што там кажуць?

— Нічога ня кажуць. Паліцыянты плёмбу наляпілі і лямпы выкруцілі. Каб Гляйвіц ня слухалі.

Такая навіна ўразіла наведніка.“Міцька Барзевіч таксама, відаць, Гляйвіца слухаў — таму і патрапіў у вязьніцу”, — падумаў Багун, хацеў запытацца — хто ён такі, гэты Гляйвіц, але змаўчаў, адно перасмыкнуў шчаціністым падбародзьдзем.

— Мыдла шукаеш, ці запалак?

— Газай хацеў разжыцца, — уздыхнуў наведнік, — цямнее рана, лямпу да самай ночы палім...

Уваходныя дзьверы рыпнулі і ў сьветлым атворы ўзьнікла нахабная каціная галава.

— За газай нават у Глыбокае езьдзілі — няма ні кроплі, — крамар ляпнуў далоньню па сьцягну, ушчуваючы ката, але той прайшоў міма, не павёўшы вокам. — Магу даць бутэльку... з апошніх запасаў. Але не за грошы. Вязі тры курыцы.

З крамы Багун выйшаў, праклінаючы Рувіма і ягоную гандлярскую нацыю. Дзе гэта было, каб за пляшку паганай газы прасілі аж тры курыцы! Багун уявіў, як гадаваныя ім хахлаткі б'юцца пад хазанскім нажом, здрыгануўся ўсім целам і замлелымі ад хваляваньня пальцамі стаў адвязваць лейцы ад плоту. Злосьці дадавала і тое, што крамар на пытаньне: "Як справы на фронце?" — таргануў плечуком і ціха прамямліў: "Ня ведаю". І гэта ён, галоўны местачковы прайдзісьвет і праныра ня ведае — дзе цяпер немцы?

Доўгая вуліца, забудаваная габрэйскімі камяніцамі, была панурай і пустэльнай. Давялося нават палічыць на пальцах — ці не субота сёньня — і зірнуць на вокны, выглядаючы вогнікі шабасовых сьвечак. Але сёньня была серада і ў шыбах адбіваліся цёмныя лужы, сьпічакі местачковага касьцёлу ды асьлізлае верасьнёўскае неба.

Гарбацярня пана Бурша была на замку, а на мокрым ганку сядзеў ды пускаў мыльныя бурбалкі Буршавы сын Рышка. Сыну таму ішоў чатырнаццаты год, але ён ня ўмеў ні пісаць, ні чытаць, дзень да дня сноўдаў вакол гарбацярні, альбо, як цяпер, пускаў бурбалкі праз тонкую чараціну.

Размаўляць з дурнілам ня надта пасавала, але Бадун, азірнуўшыся, нацягнуў павады.

— Рышка, чаму гарбацярня зачынена?

Дурніла не адгукнуўся, працягваў дзьмуць у чараціну і толькі калі бурбалка лопнула, наставіў на Бадуна бялёсыя вочы.

— Длячэго замкнента? — запытаўся Бадун па-польску.

Рышка перасмыкнуў плячыма, блазнавата пасьміхнуўся і калі Бадун цокнуў языком і калёсы скрануліся зь месца, крыкнуў:

— Пянёндзы ляснуліся, таму і замкнента.

Колы, пракаціўшыся па мяккім пяску, замалацілі па бруку і душу апанавала глухая трывога. “Як гэта — ляснуліся? — падумаў Багун, падганяючы каня, — а што ж будзе зь ягонымі грашамі, якія ён крывавым мазалём зарабляў і якія цяпер ляжалі, спавітыя ў рагожку, на дне каванага куфра? Пяць тысяч злотых новымі паперкамі! За іх яшчэ ўчора можна было набыць паравоз, а сёньня, выходзіць, пан Бурш ня дасьць і шклянку гарбаты?”

Багуну стала горача. Ён сьцягнуў з галавы башлык, расшпіліў бурнос і тут жа ўвабраў голаў у плечы, аглушаны бязладным птушыным граем: вароніна грамада ўзьнялася над касьцельнымі вежамі, завісла на імгненьне ў паветры, і калі брынклівы звон бомкнуў другім разам, з адчайным лямантам падалася ў бок Зарэчча.

“Можа там што пачую?” — падумаў Багун, пазіраючы на высокія сьпічакі, і праз хвіліну скіраваў каня на Касьцельную вуліцу.

На цьвінтары, як заўсёды, сядзелі жабракі, а крыху водддаль, ля збуцьвелага крыжа, пастаўленага некалі з нагоды прыезду нейкага дастойніка, стаялі дзьве мнішкі і штосьці распавядалі двум мястэчковым цётухнам.

— Бомбардуён страшне, — даляцела да вушэй кароткая фраза, Багун наструнніў слых, але ў касьцёле зайгралі арганы і заглушылі жаночыя галасы.

У атвор разнасьцежаных дзьвярэй ён увайшоў баязьліва, сьцярожка, уражаны тым — як зыбаецца падлога і як дрыжыць паветра ад цяжкіх уздыхаў арганаў. Яму, праваслаўнаму чалавеку, ня надта ёмка было ўбівацца ў касьцёл, да таго ж і апранаха не пасавала такой мясьціне — на Багуну быў зацухмолены, пацяжэлы ад дажджу бурнос. Але ён увайшоў, хуценька, каб ніхто ня бачыў, перахрысьціўся па-праваслаўнаму, сьціпла прытуліўся ля сьцяны. Народу ў касьцёле было шмат і сярод вернікаў пракідваліся зялёныя мундуры памежнікаў. Адзін зь іх, стрыжаны на лысага капрал, кленчыў непадалёку, і Багун,

зыркнуўшы на стрыжаную галаву, вырашыў дачакацца канца набажэнства ды распытаць капрала — як ідуць справы на фронце і хто там каго бамбардуе.

Неўзабаве варганы аціхлі, аціхлі і кабеты, якія дрогкімі галасамі падпявалі варганам, і на амбоне абудзіўся раскацісты мужчынскі голас: — Буг чува над Польском!

Словы казані залуналі пад скляпеньнямі, блытаючыся з гулкім рэхам.

— Сіла вяры Народу оказаласен в цалэй потэндзе подчас войны обецнэй... В тэй філе, кеды град поціскуф немецкіх межысен в цяла жолнерске, град модлітв плыне од іх жон і матэк...— некалькі цётак нечакана ўголас заплакалі і ксёндз зрабіў паўзу.

— Гды напшэців нашым лётнікам вылецон хмары врогіх лятавцуф, бы стронцаць нашых в імен пыхы шатаньскей, то насі вылецон на свых сталёвых птаках з Хрыстусем в сэрцу. Чыж не яснэ — гдзе бэндзе звычэньство? — пачуўшы слова "звычэньство" вернікі гамузам пеажагналіся, Багун таксама перахрысьціўся і ў тую ж хвілю стрэўся вачыма з капралам. Капрал, як падалося, паглядаў на яго зь нянавісьцю. "Заўважыў, што я праваслаўны,"— улякнута падумаў Багун і нячутна, сьпінай наперад, падаўся да выхаду. Памежнікі ўсе скрозь былі "рдзеннымі" палякамі і ня надта любілі тутэйшых. А цяперашнім часам дык наогул маглі зьвезьці куды-небудзь, як таго Міцьку Барзевіча.

Багун жвава, амаль подбегам, прамінуў цьвінтар, ускочыў на калёсы, голасна гойкнуў: — Н-но, пыха шатаньска! — І вароніна грамада, абуджаная такім воклікам, бязладна загарлала на высокіх таполях.

Лазунок, малады буланы конь, усю дарогу мерна пырхаў, шапатліва абмахваўся хвастом і гэтыя зыкі ўрэшце змарылі Багуна. Ён нацягнуў на вочы башлык, зьмежыў павекі. І ўраз калёсы паехалі неяк бокам, жоўтае іржышча, на якое ён дагэтуль глядзеў, ператварылася ў штосьці невыразна-шэрае і чорны Рувімавы кот, скочыўшы ў тую шарызну, пабег, капытлівым

пошчакам скаланаючы навакольле. У тое ж імгненьне сон зьляцеў з павекаў і рука машынальна пацягнула лейцы, даючы дарогу стрэчным вершнікам. Вершнікаў было пяцёра, яны гналі коней наўскач і Багун, зірнуўшы на дарогу, бязгучна прашаптаў: “Памежнікі”.

Вайскоўцы праляцелі міма, дыхнуўшы пахам конскага поту, адэкалёну і новай, яшчэ не абношанай скуры. Ехалі яны, відаць, далёка, бо да сёдлаў былі прытарочаны брызэнтавыя саквы, бляшаныя скрынкі, а адзін вершнік трымаў на конскім карку фанэрны куфар.

— Буг чуе над Польском! — крыкнуў Багун усьлед вершнікам і адзін зь іх — той, што вёз фанэрны куфар — азірнуўся і махнуў рукой.

Далей, аж да самай Мандрыкінай павароткі, Багун спаў, а калі калёсы рэзка павярнулі і Лазунок, адчуўшы тупкі бальшак, паехаў жвавей, ачуўся і ўгледзеў знаёмую постаць. Па бальшаку, у бок вёскі, шыбаваў Міцька Барзевіч. Два тыдні таму Міцьку, як палітычна ненадзейнага, забрала паліцыя і старая Барзячыха сплакала ўсе вочы.

— Міцька, халера ясна! Жывы!

— Жывы-ы, — адгукнуўся хлопец, спрытна сеўшы на калёсы, — староста загадаў усіх адпусьціць. Ім цяпер не да нас.

Міцька налёг сьпінай да багуновы плячук, зморана перавёў дых.

— Ну, як там... што чуваць? — запытаўся Багун, падганяючы Лізунка.

Хлопец ізноў уздыхнуў.

— Немец ад ранку над Глыбокім лётаў.

— І што — зьбілі?

— Саб’еш яго... Пастралялі з карабінаў ды плюнулі... Высока...

Міцька кашлянуў, дастаў з кішэні пачак гарадзенскай “мэвы”.

— Давай, дзядзька, засмалім. Староста выдаў... у якасьці кампэнсацыі.

Пару хвілінаў ехалі моўчкі, глытаючы пяршывы дым і Міцька, пасьля чарговай зацяжкі, запытаўся:

— Ня ведаеце, дзядзька — прыймач ці забралі?

Міцькавы самаробны прыймач паліцыянты й сапраўды прыходзілі рэквізаваць, але Барзячыха ўшчала гвалт і тыя махнулі рукой — адно абгарнулі слухаўкі паперай ды паставілі плёмбу.

— На шафе ляжыць, — выдыхнуў Багун і тыцнуў хлопца ў бок, просячы прыпаліць загаслую цыгарку.

Міцькава хата стаяла наводшыбе, на невысокім пагорку, падпёршы асьлізлае неба высокай страхой. Пасярэдзіне страха ладна асела і сама хата нагадвала кітайскую фанзу.

“Няма гаспадара”,— падумаў Багун, а згадаўшы Пархвена, Міцькавага бацьку, неўпрыкмет перахрысьціўся. Дзесяць гадоў таму Пархвен выправіўся на заробкі ў Канаду, назад не вярнуўся і цяпер стаўленая ім хата гібела без гаспадарскага дагляду. Міцька ж гаспадаркай не займаўся: дзень да ночы слухаў самаробны прыймач, судзіўся з уладамі, кожнага месяцу прывозіў аднекуль кучу газэт ды ўлётак і аднойчы нават прасіў яго, Багуна, завесьці тое дабро ў Глыбокае. Газэты ён узяў, але да Глыбокага не давёз: прыкупіў у Рувіма падшыўку “Русского Слова” за 1938 год ды абклеіў імі хату.

На падворку бартулёвай хаты — Бартуль быў зацятым паляўнічым і трымаў у сябе двух выжлаў — пачуўся сабачы брэх. Сабакі лена брахнулі, потым скавытнулі і скавытаньне тое зьлілося са здушаным жаночым лямантам:

— А сыночак ты мой!.. А дзе ж ты столькі дзянёчкаў бы-ыў...

Старая Барзячыха — расхлістаная, з узьбітай на вочы хусткай — бегла насустрач і Міцька незадаволена перакрывіўся.

— У павятовага старосты... напагасьцінах, — прабубніў хлопец, скочыў з калёсаў і кіўком галавы запрасіў Багуна зайсьці ў хату.

Схапіўшы са стала кавалак булкі, Міцька, на хаду жуючы, пашнарыў рукой па верху шафы, дастаў адтуль укручаны ў прамасьленую паперу прыймач, рашуча сарваў плёмбу. І пакуль ён насоўваў на вушы круглявыя слухаўкі ды круціў ручку настройкі, у хату ўваліліся яшчэ два чалавекі: сусед Бартуль ды Міцькавы сябар Казік Хамёнак.

— Ну, як там? — гукнуў ад парогу Хамёнак, і Багун, патрабуючы цішыні, патрос узьнятым пальцам.

Прыймач, па ўсім бачна, маўчаў і Міцька, крутнуўшы ручку да ўпору, зьняў слухаўкі, крануў дрыготкім пальцам нейкі правадок і слухаўкі азваліся зумклівым маршам.

— Менск, — выдыхнуў Міцька, прыціснуў да вуха слухаўку, і праз хвілю, наструніўшыся, прашаптаў: — Варшава...

Усе выцягнулі шыі, спрабуючы дачуцца — што кажа Варшава, але апроч трэску ды зумканьня нічога не пачулі.

— Хто каго б’е? — запытаўся змарнелы ад чаканьня Хамёнак і цяпер ужо Міцьку давялося трэсьці ўзьнятым пальцам і наструнена лыпаць вачыма, слухаючы голас Варшавы.

— Стэфан Стажыньскі выступае. Прэзыдэнт места, — прашаптаў, нарэшце, Міцька і, пасьля паўзы, дадаў: — Място столечне і твэрдза Модлін багатэрскі валчаць.

— Дай паслухаць! — гукнуў Хамёнак, тузануў Міцьку за рукаво і той, вылаяўшыся па-расейску, перадаў слухаўкі сябру.

— Пілі, гулялі, баб пярдолілі. Нас, камуністаў, са сьвету зжывалі. А цяпер яно вось як выйшла: даў немец, дык толькі ашмоткі паляцелі, — Міцька нэрвовым крокам прайшоўся па хаце.

На момант запанавала ціша, якую глухой кашлянінай парушыў стары Бартуль.

— А па мне ўсё адно — што немцы, што палякі, — Бартуль ізноў кашлянуў, потым чхнуў і таропка перахрысьціўся на абраз. — Швабы прыйдуць, дык чаму добраму навучаць. Я ў Прусах два разы быў. Жывуць так, як нам і ня сьнілася.

— Есьці ідзі! — крыкнула з кухні Барзячыха, — ашалеў ужо з тым радзівам, — і Міцька, як і ня чуючы матчынага вокліку, задуменна прашаптаў: — Чаму ж маўчыць нямецкі пралетарыят?

Ноччу Багун доўга ня мог заснуць. Круціўся на ложку, два разы хадзіў на вядро, парываўся нават лезьці у куфар — пералічваць грошы, ды жонка Наста незадаволена замармытала спрасонку і ён сьцішыўся, а праз хвілю і засоп упоравень з лёгкім жончыным дыханьнем. Сонная замарач панурыла ў свае апраметныя лёхі і дзесьці на самым дне той апрамеціцы сьпеўна і водгуліста азваўся местачковы ксёндз: "Буг чуе над Польском"...

Ён прачнуўся зьнянацку — нібыта Наста піхнула ў бок — і адразу ж, краем вока, угледзеў у незавешаным фіранкамі вакне кволую палымніцу. Гарэла далёка, ці не на самой мяжы і нейкія дзіўныя, падобныя да ціўканьня кропляў з высокіх капяжоў, зыкі нараджаліся і патухалі ў цемрыве трывожнай ночы. "Стражніца гарыць!"— крыкнулі на падворку і Багун ліхаманкавым рухам намацаў нагавіцы.

Скачучы на адной назе, ён ніяк ня мог патрапіць другой нагой у калошу і Наста, прыхапіўшыся, улякнута заенчыла:

— Што... што здарылася?

— Немцы стражніцу падпалілі!

— Якую стражніцу? — перапыталася Наста, а ўцяміўшы, пра што гаворка, ужо спакойным голасам запытала: — Ну і куды ты сабраўся?

"А і сапраўды — куды папруся проці ночы? Яшчэ прыстрэляць, ці ў вязьніцу ўкінуць", — падумаў Багун, прыпаў да ваконнай шыбы і яшчэ праз хвілю, зяхнуўшы на поўную губу, падбіўся пад жончын бок.

З хаты ён выкуліўся як толькі разьвіднела, рушыў па бязьлюднай вуліцы і на падворку бартулёвай хаты ўбачыў гаспадара. Стары Бартуль, штохвілі азіраючыся, здымаў з калёсаў непадатнае кола.

— Што, бусьлянку будзеш ладзіць? — пажартаваў Багун і сусед, чарговым разам азірнуўшыся, працадзіў: — Разьбіраю... каб не рэквізавалі.

— Хто?

Бартуль катнуў кола ў бок пуні.

— Саветы ідуць. Ці то ня бачыш?

Па бальшаку, раз-пораз губляючыся сярод кустоў, паўзло штосьці па-вужачаму даўгое й па-мышынаму шэрае, і Багун, расшпіліўшы верхні гузік касавароткі, выцер далоньню упрэлы лоб.

З усяе вёскі, калі не лічыць дзятвы, сустракаць Саветы выйшла чалавек дваццаць. Мужчыны стаялі ля самога гасьцінца, а жанчыны крыху зводдаль, ля сажалкі. Такой парой на сажалцы было поўна гусей, аднак сёньня іх, відаць, ня выпусьцілі з хлявоў і на люстранай вадзе завіхаліся, выставіўшы ўгору азадкі, дзьве дзікіх качкі.

— На бартулёвых конях едуць, — гукнуў нехта зь вясковых падшыванцаў і качкі, нібыта спрабуючы пераканацца ў справядлівасьці такіх слоў, вытыркнулі з вады свае круглявыя галовы.

На Пуліпаўку Бартуль хадзіў у пушчу паляваць на ваўкоў, дзеля прынады набываў у местачковых цыганоў лядачага каня і вяскоўцы, пабачыўшы якога нядошлага каняку, кожнага разу згадвалі тое паляваньне.

Коні, што цягнулі гаўбіцы ды гарматы, былі зусім нядошлыя — з запалымі сьцёгнамі, з хрыбцінамі-піламі. Да пары ім былі і ездавыя — суворыя, апраненыя ў нейкія цёмнасінія ватоўкі — яны махалі сырамятнымі пугамі, суцішна мацюкаліся і не зьвярталі ўвагі на людзей, што стаялі на ўзбочыне.

Багун убіўся ў натоўп, парукаўся з Казікам Хамёнкам; у гэты момант адна з кабыл, сагнуўшыся склюдам, упала на пярэднія ногі і Казік, не сьцярпеўшы, крыкнуў ездавому:

— Чаму кабылу ня корміш?

Ездавы нават не павярнуў галавы, а тым часам нейкі бальшавік — відаць, камандзір, бо быў апранены ў даўгакрысую шынель, скіраваў на Казіка сваю кудлатую “манголку”. Хамёнак скочыў у бок, прыхаваўся за людзкімі сьпінамі і больш ужо не падаваў голасу.

Хвілін пятнаццаць усе стаялі, як мыла каўтнуўшы, і невядома — колькі б яшчэ так стаялі, калі б не пачулі зрывісты жаночы воклік. Ад крайняй хаты, трымаючы ў руках самаробны чырвоны сьцяг, бег Міцька Барзевіч, а сьледам за ім, спатыкаючыся на калдобінах, ляцела старая Барзячыха. Міцька падбег да бальшака, махнуў чырвоным сьцягам, нема закрычаў:

— Да здравствует Коминтерн!

Гэтым разам ездавыя пудліва сьцепануліся, гамузам зірнулі на Міцьку і, нібыта па камандзе, махнулі сырамятнымі пугамі.

— Божачка, а навошта ж мне такое горайка! А каб яна спрахла, гэтая паліціка... — залямантавала старая Барзячыха, павалілася ў прыдарожную канаву; жанкі, што стаялі ля сажалкі, дакорліва пахіталі галовамі, а Бартуліха, перахрысьціўшыся, голасна выдыхнула:

— Даў Бог сыночка — з пастарунку не вылазіць...

... Ідучы да хаты, Багун з Хамёнкам чухалі патыліцы, штохвілі ўздыхалі.

— І як яно ўсё будзе? — прамармытаў Багун, на хаду прыпальваючы цыгарку.

— Ды неяк будзе, — Хамёнак таксама чыркнуў запалкай, — палякі панавалі, цяпер Саветы запануюць. Прыйдуць кітайцы — мы і пад імі ўжывемся, жаб будзем жэрці ды пакітайску балабоніць.

— Яно так, — пагадзіўся Багун і пудка азірнуўся: на сажалцы залапаталі крылы, качкі ўзьняліся ў паветра і паляцелі ў той бок, дзе дагарала, ахутаная шызым дымам, памежная стражніца.

Два дні Багун не выходзіў з хаты — баяўся, што Саветы мабілізуюць у войска ці забяруць на якую працу, — і таму, ці

не ўпершыню ў жыцьці, уважліва слухаў Насту, якая бегала да суседзяў па навіны.

— У Хадоры гусак прапаў, — гукнула жонка ад парога і, сьцішыўшы голас, паведаміла, што Саветы сталі табарам ля Курылёвай крыніцы і выкапалі рукамі бульбу на бартулёвым полі.

У вёску бальшавікі не заходзілі, у войска нікога не адмабілізоўвалі, і на трэці дзень Багун, асьмялеўшы, выкуліўся з хаты. Пацягнуўся, удыхнуў п'янкога паветра, але назад ня выдыхнуў: пад яблыняй, сагнуўшыся склюдам, сноўдаў чалавек у сіняй ватоўцы і піхаў за пазуху расяныя падалкі. Рабіў ён гэта неяк зладзеявата, штораз азіраючыся, а таму адразу ж заўважыў гаспадара.

— Попить не найдётся? — пралепятаў чалавек, вінавата ацёр далоні, і Багун, спатыкнуўшыся аб ганак, вынес гладыш яшчэ неастылага малака.

Чалавек падхапіў гладыш, паднёс да вуснаў, але потым, сьцепануўшыся, вярнуў гаспадару: — А ну, отпей.

Ня ведаючы, навошта гэта трэба, Багун змачыў у малацэ вусны і госьць, пераняўшы гладыш, стаў прагна піць; пры гэтым натапыраныя вушы ягоныя варушыліся і выцьвілая пілётка зьяжджала на пераносьсе.

— Молоко где берёте? — запытаўся госьць, агораўшы гладышку.

— Як дзе? — не зразумеў гаспадар, — двух кароў трымаем...

— Коровы, поди, панские?

Багун, падумаўшы, кіўнуў галавой, расчыніў уваходныя дзьверы.

— Заходзьце, таварышок, паглядзіце, як мы жывем.

Таварышок, азірнуўшыся, вужом прасьлізнуў у хату.

— С панами, отец, покончено. Так и скажи деревенским, — госьць стрымана кашлянуў, абцягнуў крысьсе ватоўкі і, прыгледзеўшы ля печы вялізны саган, выхапіў адтуль вараную бульбіну.

— Зачем столько картошки варите?

— Сьвіней кормім, — паведаміў гаспадар.

— Свиней... картошкой?! — выбухнуў госьць і сьпехам, амаль незаўважна для вока, піхнуў пару бульбін за пазуху.

"Дык сьвіньні ж таксама панскія", — хацеў было пажартаваць Багун, ды прыкусіў язык і, ня ведаючы, чым пачаставаць госьця, выставіў на стол міску зь мёдам.

— Во... пакаштуйце нашага мядку. Ліпец. З уласнага пасекі.

— Меня, между прочим, Афанасием зовут, — прамовіў госьць, выцягваючы з халявы брызэнтавых ботаў літую алавяную лыжку.

Мёд быў не адагнаны, таму гаспадар паставіў перад госьцем невялічкі сподак — выплёўваць вузы, але ён не спатрэбіўся: госьць глытаў мёд разам з васкавінай. Глынуўшы пару лыжак, Афанасій нечакана папярхнуўся і ўтаропіўся ў сьценку. "Прусака ўбачыў, ці што?" — Багун правёў рукой па абклеенай газэтамі сьценцы, але ніякага прусака не намацаў.

— Погоди-ка, — буркнуў Афанасій і твар ягоны кранула лёгкая трывога: госьць чытаў газэту — акурат у тым месцы, дзе яна была дарэшты зацёртая плечукамі.

Багун выцягнуў шыю, прымружыўся і прачытаў назву артыкула, які зацікавіў Афанасія: "Суд над Бухарыным".

Прачытаўшы артыкулы, якія былі на ўзроўні носа, Афанасі споўз на падлогу, стаў чытаць газэціны, што былі наклеены дагары нагамі, пры гэтым ён увесь час керхаў ды шморгаў носам, бо слодыч, відаць, патрапіла ў нюхалку, потым узьлез на прыслон і добрую гадзіну вадзіў носам па сьценцы, нарэшце скочыў на падлогу і, страсянуўшы рашчаперанай пяцярнёй, што азначала — я яшчэ зайду — пужлівым крокам рушыў да парога.

— Шапачку ж вазьміце, — гукнуў гаспадар і госьць, падаўшыся назад, выхапіў з гаспадарскіх рук зьлінялую пілётку.

На наступны дзень Афанасі зноў завітаў у хату, але ўжо не адзін, а з двума таварышамі. Адзін зь іх быў сьветлавалосым і даўгалыгім, а другі маленькім ды чарнявым. Госьці ўвайшлі ў хату на цырлах, як бы крадучыся і надта напужалі Насту. Наста якраз разьлівала сырадой у гарлачы і, пабачыўшы чырвонаармейцаў, выпусьціла з рук даёнку.

— Не волнуйтесь, гражданка, мы на минутку, — суцішна выдыхнуў Афанасі і махнуў рукой сябрукам, якія таўкліся ля парога.

Госьці цэлую гадзіну сноўдалі ўздоўж сьцен, чыталі газэты і загаманілі толькі аднойчы, калі чарнявы маладзён тыцнуў пальцам у сьценку і абурана прамармытаў:

— Ну это уже они брешут...

— Брешут, конечно, — кіўнуў галавой Афанасі і, зірнуўшы на Багуна, па-змоўніцку ціха шапатнуў: — Ты, отец, никому не говори, что мы тут у тебя были...

Калі госьці, гэтак жа на цырлах, падаліся ўпрочкі, Багун прачытаў нататку, якая абурыла чарнявага маладзёна і зацёр яе сьлінявым пальцам. У нататцы паведамлялася, што бацька-Сталін, якога расейскія бальшавікі называюць "геніем навачаснай эпохі", насамрэч быў выгнаны, як недарэка, з духоўнай сэмінарыі і з тае пары нідзе не вучыўся. "Заўтра ж паеду да Рувіма, набуду шпалеры", — апанаваны такой думкай, Багун паскроб падбародзьдзе і стаў маракаваць — колькі хахлатак трэ' будзе аддаць за шпалерны скрутак.

На заўтра, аднак, ён нікуды не паехаў, бо назаўтра была субота, а ў нядзелю, ад самае раніцы, у хату ўваліўся Казік Хамёнак і задыхана паведаміў:

— Бальшавікі... ля цэрквы... мітынг ладзяць... Загадалі ўсім зьявіцца.

Што там будзе, на тым мітынгу, ніхто толкам ня ведаў. Бартуліха, якая прыбегла сьледам за Хамёнкам, параіла ўзяць на мітынг мяхі, бо бальшавікі, нібыта, будуць раздаваць дармавую грэцу; Барзячыха, заляцеўшы ў двор, паведаміла, што

будзе фэст і кожнаму дадуць па трактары, а Тэкля Сілівончык, вядомая на ўсю акругу балаболка, прабягаючы міма, нашаптала Насьце, што бальшавікі падчас мітынгу падпаляць царкву і прымусяць маліцца на партрэт нейкага вусача, які ўжо стаіць ля царкоўнай брамы. Наста хаця і не давала веры Тэклiным плёткам, аднак пачала хрысьціцца ды прымусіла Багуна лезьці на хату: паглядзець — ці стаіць ля царкоўных брамаў партрэціна.

Схапіўшыся рукой за вільчак, Багун доўга ўглядаўся ў ранішнюю смугу, потым зьлез долу і толькі тады паведаміў знэрваванай жонцы:

— Брахня...

— А царква ці адчынена? — пралепятала жонка.

— Адчынена, — буркнуў Багун і, аблаяўшы Тэклю, дадаў: — Каб гэтай шалахвосткі больш у двары не было.

Убіўшыся ў хату, ён доўга напраўляў на рамяні золінгенаўскую брытву — падарунак фэльдфэбэля, што быў у іх на пастоі ў германскую вайну, — потым шчыгульна ўзьбіў пену, мазануў памазком па шыі і замёр, прыслухоўваючыся да гуду машыны пад вокнамі. Машына пад'ехала да весьніц, рэзка загамавала і з кодабу скочылі, узьняўшы над галовамі даўжэзныя вінтоўкі, два чырвонаармейцы.

— Хамзин — у входа! Бамбиза — за мной! — гукнулі знадворку і яшчэ празь імгненьне ў хату ўбіўся вайсковец з рэвальвэрам у руцэ. Вайсковец зірнуў на гаспадара, потым падышоў да сьцяны і, узьняўшы рэвальвэрнай руляй брылёк на фуражцы, стаў чытаць газэціну. Чытаў доўга, хвілін дзесяць, якія Багуну здаліся цэлай гадзінай, нарэшце пакасіўся на жаўнера, што стаяў на парозе і глуха запытаўся:

— Откуда литература?

Багун стаяў ні жывы, ні ўмерлы і адразу нават не зразумеў — да каго зьвярнуўся вайсковец — да яго, ці да жаўнера.

— Газеты, говорю, где взяли? — гракнуў вайсковец і Багун зь перапуду лізнуў памазок.

— Тыя, што ў сенцах — Барзевіч даў...— прастагнаў Багун, не пазнаўшы ўласнага голасу.

— А гэтыя?

— У Рувіма купіў...

Толькі цяпер вайсковец піхнуў рэвальвэр у кабуру і Багун стоена адсопся.

— Что за Рувим? Как фамилия? — вайсковец выцягнуў з кішэні маленькую кніжачку, зьбіраючыся, як бачна, штосьці запісваць.

— А хто яго ведае... Рувім ды Рувім...— прамовіў Багун акрыялым голасам. — Крама ў яго ў мястэчку. Ля касьцёлу.

— Крама это что — магазин? — ускінуў брыво вайсковец і Багун борзда страсянуў намыленым падбародзьдзем.

— А кто такой Барзевич?

— Гэта наш, зь вёскі... Ён... гэта сама... камуніст. Сядзеў за палякамі.

— Коммунист, говоришь, — прамармытаў госьць, штосьці чыркнуў у кніжцы і, схамянуўшыся, выгукнуў: — Бамбиза! Содрать со стены газеты и сжечь во дворе!

Жаўнер, што стаяў ля парога, ускінуў на плячо вінтоўку, гракнуў: — Слушаюсь, товарищ батальонный комиссар! — і, скочыўшы на ўслон, убіў штых у столь, ды так хвацка, што са столі пасыпалася парахня, а Наста — яна хавалася пад ложкам — войкнула і перахрысьцілася аж дванаццаць разоў запар.

Багун ішоў на ватных нагах, спалохана азіраўся, а калі, абмінуўшы збуцьвелую Тэкліну хату, выйшаў да царквы, дык і зусім абамлеў. Ля брамаў і сапраўды стаяла, прымацаваная да кодабу грузавіка, вялізная партрэціна. Партрэціна гайдалася ад ветру, адтапыраныя вусы і жорсткія вусны пры гэтым злавесна варушыліся і стваралася ўражаньне, што вусач зьбіраецца праглынуць батальённага камісара, які стаяў на кодабу і штосьці палка прамаўляў натоўпу. Порсткі ветрык шумеў у згалелых таполях і да вушэй даляталі толькі асобныя сказы.

— Долгие десятилетия рабочие и крестьяне Западной Белоруссии стонали под игом помещиков и капиталистов... Но и в самые страшные дни белопольской оккупации они знали, что есть Москва, есть Рабоче-Крестьянская Красная Армия, есть Великий Сталин, который придёт им на помощь... И вот она, эта помощь, пришла! Несокрушимой лавой двинулась вперёд советская конница, измученную польскими панами землю сотрясли могучие танки, а в небо взмыли славные сталинские соколы... — пачуўшы пра сокалаў, Багун зірнуў на неба — ад курацапаў улетку не было паратунку, — і, усхваляваны, палез у кішэнь па цыгаркі.

Батальённы камісар прамаўляў цэлую гадзіну, нават зьлёгку асіп, нарэшце, дзясятым разам згадаўшы Вялікага Сталіна і шчасьлівае жыцьцё ў савецкіх калгасах, ляпнуў сам сабе ў ладкі і, паправіўшы брызэнтавую папругу на шынялі, запытаўся:

— Какие, товарищи, будут вопросы?

Грамада маўчала, камісар паўтарыў пытаньне і неўзабаве напятую цішыню працяў зычны Міцькавы голас:

— А где сейчас находится Троцкий?

Пытаньне, як бачна, зьбянтэжыла камісара. Ён ізноў, цяпер ужо дрогкімі рукамі, паправіў папругу, таргануў далоньню, маўляў — зараз скажу, а потым, трэцім разам паправіўшы папругу, здушана выдыхнуў:

— Митинг считаю закрытым.

... Багун падыходзіў ужо да хаты, калі за сьпінай з плаксівай натугай загула машына. Сэрца Багунова ёкнула, ён застыў на месцы, чакаючы, што грузавік спыніцца і камісар забярэ яго з сабой, але машына, дзякаваць Богу, праехала міма і Багун на радасьцях крыкнуў чырвонаармейцам, што сядзелі ў кодабу:

— Слава савецкім калхозам!

І адзін з чырвонаармейцаў — той, што сядзеў ля борту — крутнуў пальцам ля скроні.

Ціхім халаднаватым ранкам, акурат за тры дні да Пакроваў, Багун ехаў у мястэчка. Зямля тае раніцы ўзялася шэраньню, калюжыны прыхапіла лядком і Лазунок, адчуўшы тупкую дарогу, задаволена пырхаў, шапацеў хвастом і ўвесь час парываўся ісьці дробнай рысьсю.

Дарога да мястэчка няблізкая — поўных шэсьць вёрст. Тут можна і падрамаць, і зацягнуць наўголаса якую-небудзь тужлівую песьню. Гэтым разам, аднак, кляваць носам не давялося: у вялікай скрыні валтузіліся восем курэй, лямант стаяў на ўсю акругу, і Багун шторазу біў далоньню па скрыні і здушана прамаўляў:

— Ды сьціхніце вы, недарэкі...

Куры на момант сьціхалі, але праз хвілю ізноў пачыналі зацята квахтаць ды біць крыламі.

Зрэшты, курыны лямант дрымоце не перашкода. Іншым разам Багун налёг бы плячом на скрыню ды зьмежыў павекі, але цяпер душа была не на месцы і сьвярбліва варушылася пад дыхніцай. Багуну раз-пораз здавалася, што там, наперадзе, гула машына і тады ён саскакваў з возу і шыбаваў поруч з канём, з-пад рукі пазіраючы то на бальшак, то на сьпічастыя вежы местачковага касьцёлу. “Каб зноў на таго чорта ня ўзьбіцца”, — думаў ён такімі хвілямі, памінаў нядобрым словам батальённага камісара і, плюнуўшы пад ногі, ізноў усьсядаў на калёсы.

Як на добры лад, дык хваляваццa не было падставы: ну паклеіў ён сьцены эмігранцкімі газэтамі. Але ж ці гэта правіна? Асадніка Арэхву арыштавалі, дык у таго шаблю знайшлі, якую Пілсудскі падараваў. Пана Бурша забралі — той стрэльбу ня здаў. Палясоўшчык Агіньскі, казалі, Сталіна лаяў — таму й сядзіць цяпер у віры на калы. А што ён, Багун?! Яму ж, як таму царкоўнаму бацюхну — любая ўлада ад Бога.

Так ён супакойваў сябе, чухаў канцом пугі пад дыхніцай — як раз там сьвярбела душа — і раз-пораз прамаўляў фразу, якая ад нядаўняй пары прыліпла да вуснаў:

— І як яно ўсё будзе?

На ўезьдзе ў мястэчка, праваруч ад дарогі, стаяў вялізны брудна-шэры намёт, каля якога завіхаліся некалькі чырвонаармейцаў. Адзін зь іх калоў дровы, другі разьдзімаў агонь пад казаном, а трэці сядзеў на ўзбочыне і пераабуваўся, спавіваючы нагу ў шэрую анучу. Рабіў ён гэта надта спрытна, Багун нават паўстрымаў каня, пазіраючы на такое пераабуваньне, і ў той жа міг сумеўся. На ўзбочыне сядзеў той самы чарнявы маладзён, што прыходзіў чытаць газэты. Маладзён нацягнуў на пятку чаравік, узьняў вочы, борзда падхапіўся на ногі.

— Здрастуйця, — пралепятаў Багун, але той, да каго ён зьвяртаўся, як бы і не пачуў; маладзён абабіў калашыны, тупнуў нагою, спраўджваючы, ці добра трымаецца накручаная на лытку абмотка, несьпешна пайшоў да кастра.

— А дзе Апанасій? — выгукнуў Багун у сьпіну маладзёну і той, не павярнуўшы галавы, прамовіў: — Проезжай, проезжай... Здесь военный об'ект.

Багун хвастануў каня і калёсы, працяўшы навакольле грукатам колаў і роспачным кудахтаньнем, заскакалі па бруку. "Ботаў няма, а нос верне... кацап нямыты", — у Багуна ад абурэньня нават затрэсьліся рукі. Каб утаймаваць дрыготку, ён хвастануў Лазунка ўдругарадзь і ў гарачцы не заўважыў, як праехаў Рувімаву краму і стрымаў каня толькі ля буршавай гарбацярні.

"Чаго гэта я?"— аддзьмуўся Багун, выцер халодны пот з ілба і агледзеўся. Першае, што кінулася ў вочы — новая шыльда над уваходам у гарбацярню. Багун колькі разоў прачытаў па складох мудрагелістае слова — "А--гит — пункт", — але так і не дапяў да ягонага сэнсу. Крыху вышэй, пад самай страхою, вісеў кавалак чырвонай крамніны з надпісам "Все на выборы!", а да самой страхі быў прыбіты партрэт нейкага савецкага генэрала, упрыгожанага з двух бакоў чырвонымі сьцяжкамі.

— Клім Варашылаў, — азваліся за сьпінай.

Пасярод вулкі, зяцята калупаючыся ў носе, стаяў мурзаты Рышка. "Глянь ты... дурыла, а савецкага генэрала ведае", —

падзівіўся Багун. Яму карцела запытацца — дзе цяпер бацька: у пастарунку, ці, можа, завезьлі ў Глыбокае? — але, падумаўшы, вырашыў не трывожыць хлапечае сэрца.

— А што за выбары такія? — запытаўся Багун усё з той жа робленай усьмешкай і атрымаў адказ: — У Народны сход.

“Што за сход такі? Трэба будзе спытаць у Рувіма”, — з гэтай думкай Багун падышоў да калёсаў, пашнарыў рукамі пад скрыняй, выцягнуў адтуль дарэшты разьлютаванага пеўня.

— На, аддасі маці, — паведаміў, ратуючыся ад бойкіх крылаў, Багун і калі хлопец падхапіў пеўня, няшчыра-вясёлым голасам запытаў: — Чаму бурбалкі не пускаеш?

— Мыдла скончыласень, — гукнуў Рышка па-польску, сказаў яшчэ нешта, але голас ягоны заглушыла шалёнае лапатаньне крылаў.

Згадаўшы ў думках гаспадара гарбацярні, Багун даў калёсам разгону, удыхнуў пруткага паветра, а ўгледзеўшы на дзьвярох рувімавай крамы вялізны замок ды наклееную на дзьвярныя ліштвы паперку, нацягнуў лейцы. Паперка бялела на ржавых ліштвах, трымцела адным канцом на ветры і поўніла душу гнятлівым непакоем. Багун зьлез з калёсаў, крадком падышоў да дзьвярэй і ў гэты міг штосьці мяккае і рухавае кранулася нагі. Стары знаёмца — чорны кот — прыязна завуркатаў, налёг пысаю на халяву і Багун, разглядаючы сінюю пляму пячаткі, якой была пазначана паперка, прашаптаў:

— Дрэнь справы, паскудняк...

Ён ня скончыў фразы, бо з-за рогу будыніны выплыла, блядая як сьмерць, крамнічыха Двойра.

— Забрали, забрали сегодня ночью... За чьто?!

Жаночы лямант пераццяў дыханьне. Багун задам рушыў ад дзьвярэй, наступіў на кацины хвост, пудліва падскочыў, кулём паваліўся на калёсы.

Ён гнаў каня, не разьбіраючы дарогі і толькі ўехаўшы ў таполевыя прысады за касьцёлам, кінуў павады, кульнуўся на сьпіну і ўтаропіў пагляд у смужыстае, па-восеньску

бляклае неба. Яму падалося раптам, што цела стала бязважкім і пачало падымацца да туманістых аблокаў; Багун заплюшчыў вочы, прашаптаў два радкі малітвы і гэта дапамагло: угрэты лоб казытнуў халодны ветрык, цела набыло вагу, а ў галаве ізноў замітусіліся бязладныя думкі: “Ну добра, забралі пана Бурша... дык той стрэльбу ня здаў. Але за што ўзялі Рувіма? Ці не за тыя чортавы газэты? Не давядзі сьвет — і за мной прыедуць”.

Хваравітая млосьць адступіла і слых напоўніўся пошумам ветру, конскім пырханьнем, курыным сакатаньнем і нейкімі дзіўнымі зыкамі. Стваралася ўражаньне, што недзе непадалёку ці то сьмяяліся, ці то здушана плакалі. Багун колькі разоў падымаў галаву, глядзеў наўкола, пакуль не зразумеў: усхліпвалі на другім баку каменнага мура, што атачаў касьцёл. Хвілін пяць Багун ляжаў нерухома, але потым цікавасьць узяла сваё. Ён пад’ехаў да мура, узьлез на скрыню і ўбачыў са сьпіны местачковага ксяндза. Ксёндз стаяў, насунуўшыся лобам на стаўбур старой тапалі і абцягнутыя сутанай плечы ягоныя здрыгаліся ад роспачнага плачу.

Багун сьцярожка, каб не нарабіць зьвягі, зьлез са скрыні, гэтак жа сьцярожка абабіў нагавіцы, і на душы было адчуваньне, што пабачыў ён штосьці дарэшты сараматное.

Гэта адчуваньне — гнятлівага сораму — аніяк не мінала. І адвячоркам, паганяючы Лізунка, Багун штохвілі кратаў гарачыя шчокі, зачаравана паглядаў на агністы далягляд і адно пытаньне не давала спакою: чаму плакаў ксёндз?

Палымніца таго вечару шугала на паўнеба. Ля самага небакраю яна была перамяшаная з чорнымі хмарамі, крыху вышэй, над цёмнымі шатамі хвояў, залівала неба гарачай пунсовасьцю і, здавалася, гэта яна, палымніца, кранаецца сваім позьнім агнём няголеных шчок.

— Саветы, відаць, ксяндза пакрыўдзілі, — уголас, каб пазбыцца дакучлівых думак, прамовіў Багун і на Мандрыкавай паваротцы зьлёгку падагнаў каня. Лазунок, аднак,

хутчэй не пайшоў: прысеў на заднія ногі, чуйна зварухнуў барвянымі вушамі.

“Ці не ваўкі зьявіліся?” — Багун нацягнуў павады і ў той жа міг з палёгкаю аддзьмуўся. Наперадзе, на тле барвянай палымніцы, варушыліся нечыя постаці і гучна рыпелі колы.

“Хто гэта выправіўся... проці ночы?” — падумаў, змагаючыся з позехам, Багун і яшчэ падумаў, што дарма так напужаўся Саветаў. “Бяз дай прычыны нікога не бяруць. Той жа пан Бурш служыў у Дзянікіна, Рувіма таксама схапілі за цападлы ня проста так — была нагода... А чаму яму хвалявацца, калі за ім няма ніякай правіны?” Падумаўшы так, Багун з палёгкаю ўздыхнуў і, па старой завядзёнцы, зьехаў на ўзьмежак дарогі.

Сустрэчныя калёсы зацята рыпелі і Багун ужо ўдыхнуў паветра, каб гукнуць: — Чаму колы ня змазаў? — ды прытрымаў язык. На калёсах сядзелі трое, яшчэ двое ішлі поруч, зь вінтоўкамі за плячыма. Душа Багунова абамлела: на калёсах, са зьвязанымі за сьпінай рукамі, сядзеў Міцька Барзевіч.

— Міця... — прашаптаў Багун, калі калёсы праяжджалі міма.

Міцька прыхапіўся, зірнуў кудысьці ўбок і зноўку зьвесіў галаву.

Калёсы праехалі мэтраў дзесяць і спыніліся.

— Эй, мужик, как твоя фамилия?! — крыкнуў той, што сядзеў поруч зь Міцькам.

Насьцярожлівую цішыню парушыла кляцаньне затвору.

— Дзядзька Багун... ратуйцеся! — Міцька хацеў крыкнуць яшчэ нешта, але, атрымаўшы ладнага кухталя, кульнуўся на бок.

Здаецца, ён і не паганяў Лазунка, ды конь стаў на дыбкі, ірвануў штосілы і пайшоў наўскач, задзёршы да неба кудлатую галаву.

— Стой! Стой, б-блядь! — гукалі за сьпінай.

Фанэрная скрыня перакулілася, куры зь лямантам

узьняліся ў паветра, адна зь іх узьбілася на шыю, а яшчэ праз імгненьне шыю працяў пякучы боль.

— Багародзіца... Дзеўна... радуйся... — прахрыпеў Багун, рыгнуў гарачай крывёю і бязвольная рука, павіснуўшы долу, аж да самай вёскі малявала на пяску хвалісты пасак.

# СЬВЯТАЯ КРЫНІЦА

*Апавяданьне*

Блізу абеду, дзесьці а палове на дванаццатую, Лёнька Манчак выцягнуў з кішэні зашмальцаваныя рублі, таропка, мылячы вуснамі, пералічыў і памружыўся на столь, прыкідваючы, ці застанецца што на закусь.

— Хлеба вазьмі, ды кілек якіх, — падаў голас загадчык сельгасаддзелу Сазановіч — самы ўпіты работнік рэдакцыі, — і Лёнька падхапіўся на ногі.

Каб не патрапляць на вочы рэдактару, кабінэт якога месьціўся насупраць іхнага аддзелу і быў заўсёды адчынены, Лёнька вырашыў лезьці на двор праз адчыненае вакно. Пацягнуў просвы, бразнуў шыбаю, зьвесіў долу ногі і зьнерухомеў, аблашчаны сонечнымі промнямі.

“Божухна, цэлы месяц адпачынку!” — падумаў малады журналіст, боўтаючы нагамі ў паветры, і калі паехаў азадкам па падвоканьні, зьбіраючыся скокнуць на кветнік, за сьпінаю рыпнулі дзьверы і пачуўся незадаволены голас Мацьвіевіча:

— Манчак, зайдзіце да мяне.

У гэты момант Лёнька ўжо вісеў на руках і мусіў, сьлізгаючы па сьцяне мыскамі паўкедаў, лезьці назад у кабінэт.

— Цікуе, сволач, — прамовіў, густа дыхнуўшы перагарам, Сазановіч, калі за рэдактарам зачыніліся дзьверы.

Лёнька ўздыхнуў і скалелымі ад трывогі далонямі абабіў нагавіцы.

— Ну, што за фокусы? Чаму вісьнеш, як смаркачына на плоце? — Мацьвіевіч зацягнуў ямчэй квяцісты гальштук, перагарнуў настольны каляндар.

— Асадка выпала… хацеў падняць.

— У Сазановіча ўвесь час асадка выпадае, цяпер у цябе. Мне што, барану пад вокны пакласьці?

Рэдактар выпнуў грудзіну, зь дзяржаўнай суворасьцю зірнуў на падначаленага.

— У цябе калі адпачынак?

— Ды вось…. з панядзелку, — Лёнька вінавата пацёр далоні.

— Трэба зьезьдзіць у камандзіроўку…

— Іван Іванавіч, — плаксіва выдыхнуў падначалены, — я ўжо й бацькам патэлефанаваў… і квіток узяў.

— Нічога, квіток і здаць можна. Каго ж мне яшчэ пасылаць? Кальмаеў у адпачынку. У Курыльчыка жонка ў раддоме. Хто застаўся? Сазановіч? Дык той яшчэ на вакзале нап'еցца. Карацей, зьлётаеш у Азярышча. Сто пяцьдзесят кэмэ дарогі: за два дні, думаю, управісься. Дый тэма твая: атэістычнае выхаваньне, — рэдактар раскрыў зялёную тэчку, пасьлініў палец, зьбіраючыся перагарнуць паперы, але патрэбны дакумэнт быў перад вачыма. — Ліст прыйшоў… з абкаму партыі. У Азярышчанскіх ваколіцах пачала біць "сьвятая" крыніца. Два паралітыкі ачунялі, бясплодная баба нарадзіла… Едуць туды і зь бітонамі, і зь вёдрамі… Карацей, трэба даць разгорнуты матэрыял на гэтую тэму. Пагамані зь людзьмі, сустрэнься з галоўным лекарам тамтэйшай больніцы. Хай патлумачыць — з мэдычнага гледзішча, — чаму хворыя ачуньваюць… І запомні: матэрыял на кантролі абласнога камітэта партыі! — апошні сказ рэдактар прамовіў, калі Лёнька ўжо выходзіў з кабінэта.

Сакратарка Нюра — фарбавана-парфума-наманікюраная саракоўка — выпісала камандзіроўку, доўга хукала на пячатку.

— Не сумуй, Лёня. Выйдзеш з адпачынку на два дні пазьней. Зараз якраз дажджы абяцалі.

Лёнька пачухаў падбародзьдзе, спытаў нумар вакзальнай даведкі, а сакратарка, выдыхнуўшы ў адказ: — Цягнік а дзясятай раніцы, — закалаціла пальцамі па клявішах, друкуючы справаздачу з сэсіі абласнога савету.

Пасьля працы яны ўтрох — Манчак, Сазановіч ды рэдакцыйны фатограф Кенька, — завіталі ў павільён “Піва-воды”, узялі па кухлю “жыгулёўскага”, і Лёнька, азірнуўшыся на бокі, выцягнуў з нутраной кішэні пінжаку пляшку гарэлкі.

— Ты хоць бы камплімэнт калі сказаў, — азваўся Сазановіч, захоплена паціраючы рукі. — Кожны дзень завіўку робіць, пальцы на нагах фарбуе, а ты і ў той бок не глядзіш. — Размова ішла пра рэдакцыйную сакратарку.

— Пераб’ецца, — адказаў Лёнька і адвёў убок чуйны нос: ад Сазановіча пёрла сцакамі.

— Дарма-а, — сьпеўна прамовіў загадчык сельгасаддзелу, — я б на тваім месцы… — хвіліну бяседнік думаў — як скончыць фразу, але нічога не прыдумаў: глынуў сьліну і ў два глыткі выпіў паўшклянкі гарэлкі.

— А куды камандзіроўка? — запытаўся фатограф Кенька, выціраючы з барады піўную пену.

— У Азярышча. Там нейкую “сьвятую” крыніцу знайшлі, дык трэба выкрывальніцкі артыкул напісаць.

— Слухай, йоп… у мяне ж у Азярышчы цешча жыве… ад першага шлюбу, — усхапіўся Сазановіч. — Можаш у яе спыніцца. Нічога такая бабуля, з інтэлігентаў… праўда, крыху таго… — Сазановіч крутнуў пальцам ля скроні.

— А што зь ёю? — пацікавіўся Кенька, выцягваючы кішкі з вэнджанай скумбрыі.

— Ды так… загаворваецца. Кажа, да прыкладу, што… — Сазановіч азірнуўся, прытуліў голаў, савецкая ўлада да 2000 году не дажыве.

— А што яшчэ кажа? — уражана прашаптаў Кенька.

— Лёс чалавечы прадказвае.

— І што… праўджваецца?

— Ня дай Бог, каб спраўдзіўся.

— А што такое? — разам выдыхнулі бяседнікі.

Сазановіч дапіў піва. З панылай утрапёнасьцю зірнуў на

пену, якая павольна згасала на дне кухля.

— Аднойчы, яшчэ да разводу, прыйшоў… ну… выпіўшы. Пачаў жонку ўшчуваць. Ужо й ня ведаю, зь якой нагоды. А гэтая карга выйшла і кажа: не дажывеш ты, Міша, да пэнсіі. Цягнік цябе пераедзе.

Кенька так і застыў з кавалкам непражаванай скумбрыны ў роце, Лёнька Манчак укінуў у рот цыгарэту, прычым задам наперад, і стаў прыпальваць фільтр, а Сазановіч, падхапіўшы пустыя, надгрызеныя па краях, кухлі, рушыў да стойкі і, перадаючы іх праз людзкія галовы, рашуча прамовіў: — Паўтарыць!

У панядзелак, па абедзе, Лёнька Манчак скочыў з вагоннай прыступкі і доўга глядзеў на панылую — нібыта гуталінам па мёрзлым малаку — пісаную шыльду: "Азярышча". Як заўсёды пасьля буйнай п'янкі яму было сорамна і моташна жыць. Мінулай суботы малады журналіст да ночы адседзеў у рэстаране, прапіў палову адпускных і згубіў выхадны крымпленавы пінжак: павесіў на прыслон рэстараннага крэсла, а калі вяртаўся пасьля хуткага танцу да століку, мадняцкай апранахі там ужо не было.

У прыстанцыйным буфэце ён узяў дзьве шклянкі гарбаты бяз цукру, выйшаў на ганак, і, прымасьціўшыся на цэмэнтавых прыступках, прагна піў гарачы напой, апякаючы паднябеньне і выціраючы рукавом буйныя кроплі з лобу. Неўзабаве да яго падышоў, прыпадаючы на заднюю лапу, валацужны сабака. паныла паглядзеў у вочы. Манчак дапіў гарбату, рушыў у буфэт і набыў кудлатаму дварняку пончык з павідлам. Цюцька, не жуючы, праглынуў пачастунак, ветліва завіхляў хвастом.

— Ну што, братка, дзе тут у вас гатэль? — жартам запытаўся камандзіраваны, тузануў сабаку за вуха, і той, задаволена сквытнуўшы, крутнуў галавой. Лёнька зірнуў у той бок куды паказаў дварняк, і ўбачыў на другім баку пыльнага пляцу драўляны аднапавярховік зь няроўнымі літары на франтоне: "Гасьцініца".

У старой рассохлай будыніне было прыцемна, пахла каналізацыяй, а пад нагамі са старэчай зацятасьцю рыпелі-стагналі масьніцы.

Кучаравая, падобная ў прыцемку да Анжэлы Дэвіс адміністратарка доўга вывучала камандзіровачнае пасьведчаньне, нарэшце запісала штосьці ў сваім гросбуху.

— Месцаў пакуль што няма. Вызваляцца ўвечары. Так што рабіце свае справы, пагуляйце, а пасьля васьмі мы вас уладкуем.

Камандзіраваны хацеў быў сказаць, што працуе ў органе абласнога камітэту партыі, але змаўчаў, памкнуўся да выхаду і тут жа вярнуўся.

— Дзе тут у вас “сьвятая” крыніца?

— Вунь, бачыце, на сьцяне… схема вісіць. Хворыя кожнага дня прыяжджаюць, пытаюцца. Мы там усё намалявалі.

На кавалку няроўна абрэзанага ватману быў намаляваны чорны квадрат, ад якога ішлі ў гору няўклюдна-хвастатыя, падобныя да спэрматазоідаў, стрэлкі. “Савецкая — Чырвонаармейская — Прафінтэрну” — адбіліся ў памяці аплодненыя спэрматазоідамі азярышчанскія вуліцы.

… Кудлаты цюцька між тым па-ранейшаму сядзеў ля гасьцінічнага ганку.

“Цяпер не адчэпіцца”, — падумаў камандзіраваны і каротка сьвістануў.

— Давай, брат, паказвай дарогу!

Сабака падскочыў, славіў зяпай тлустую муху, пабег па пыльнай Савецкай вуліцы — акурат у той бок, куды паказвала схема.

Лёнька Манчак ішоў па мяккай, прыпарушанай шэрым пылам дарозе і пісаў у думках прэамбулу будучага артыкулу. “Трэба намаляваць гнятлівую атмасфэру… Шкада, што зараз лета. Больш бы пасавала позьняя восень”, — варочаліся ў галаве абрывачныя думкі, не пасьпяваючы за рухавым хвастом: сабака круціў ім усё больш імпэтна. Паволі ў галаве сталі складацца асобныя фразы. “Тупкая, пазначаная сьлядамі кірзавых ботаў сьцяжына панурылася ў глыбокі, зрэзаны ручаінамі яр. Уздоўж сьцяжыны ляжалі замшэлыя валуны, а на самой сьцяжыне злавеснымі анакондамі выгіналіся аголеныя карані ста-

рых хвояў… У шэрым, мышастага колеру небе, устрывожана гарлалі крумкачы…"

Сабака, згодна гасьцінічнай схеме, павярнуў на Чырвонаармейскую. Падзівіўшыся такой праяве, Лёнька стоена прашаптаў: — Наступны паварот, здаецца, налева. — Кудлаты праваднік, брахнуўшы на ката, што сядзеў на паркане, прабег сотню мэтраў і спыніўся, з ранейшым натхненьнем віхляючы хвастом. Не на жарты ўсхваляваны, малады журналіст прыцішыў крок, а калі праваднік, чарговым разам брахнуўшы, завярнуў налева, зацкавана пачухаў патыліцу. Гэтаму не было тлумачэньня: валацужны сабака вёў яго да крыніцы!

"Вул. Прафінтэрну, 2" — прачытаў Лёнька Манчак няўклюдны надпіс на сьцяне прысадзістай хаты, і, нібыта згадаўшы штосьці, стаў поркацца ў кішэнях. Патрэбную паперку знайшоў сярод жмутку пакамечаных рублёвак. "Вуліца Прафінтэрну, першы дом ад краю, зь пеўнікам на вільчаку", — прамармытаў, разьбіраючы Сазановіцкія крамзолі камандзіраваны, і нейкая ўладная сіла пацягнула яго да весьніц.

Ён абапёрся адной рукой на шулу, другою грукнуў па паштовай скрыні — раз, потым другі, зьбіраўся ўжо ісьці сваёй дарогай, ды тут ў хаце штосьці бразнула, дзьверы падаліся і на ганку паўстала бялявая дзяўчынёха.

— А мне Міронаўну…

Дзяўчынёха — гадоў пятнаццаць, ня болей, — зьлёгку прымружылася, выцерла аб хвартух мокрыя рукі.

— А вы хто такі?

— Ды я… — госьць зьбянтэжана кашлянуў, — сябар Сазановіча… Міхала Іванавіча.

Дзяўчына рэзка павярнулася, рушыла ў хату і неўзабаве азвалася зычным, з водценем лёгкай панікі голасам:

— Заходзьце, вы нам якраз патрэбны!

Пераступаючы парог, Лёнька стукнуўся макаўкай аб нізкі вяршнік, заплюшчыў аб болю вочы і твар ягоны казытнула цёплая пара.

У хаце, пасярод кухні, стаяла вялізная балея, а за ёю, на лаўцы, ляжала штосьці нерухомае і некранальна-белае.

— Трэба бабулю на ложак перанесьці. Зусім разамлела.

Спавітая прасьцінамі бабуля ляжала, што той мярцьвяк. Лёнька падышоў крадком, сьцярожка паціраючы рукі, а калі дзяўчына, падхапіўшы старую пад пахі, матлянула галавой, маўляў, панесьлі ўдвух, адсунуў дзяўчыну ўбок. Бабця была лёгкай, як парушынка.

— Сюды, калі ласка, — гукнула маладая гаспадыня, узьбіваючы падушку.

Бабуля вохнула, расплюшчыла вочы, запытальна зірнула на госьця.

— Вам прывітаньне ад Міхала Іванавіча, — госьць выцер з рукава шматок мыльнай пены.

— Ну, як ён там? Усё п’е? — голас бабулін быў хоць і кволы, але мэлядычны.

Госьць вінавата перасмыкнуў плечукамі, а пачуўшы, як на кухні бразнула вядро — маладая гаспадыня чэрпала ваду з балеі, — прыстаўным крокам рушыў на дапамогу.

Разам яны паднялі цяжкую балею, вынесьлі на падворак і пад ногі ім кінуўся віславухі недарэка.

— Ваўчок, фф-у! — крыкнула дзяўчына, калі цюцька ўсьпёрся пярэднімі лапамі на хвартух.

Мыльная вада шуганула ў раўчук, пабегла ўздоўж плоту.

— Гэта наш мясцовы “чычэроне”. Да нас тут людзі прыяжджаюць, вады набраць з крыніцы — вы ж чулі, напэўна?.. — дык ён іх ад станцыі да патрэбнага месца даводзіць. Разумны сабака.

Ад пачутага ў Лёнькі Манчака нават засьвярбела пад дыхніцай і шчокі крануў румянец. Дый дзіва што… яшчэ дзесяць хвілін таму ён думаў, што цюцьку гоніць наперад нейкая чортава сіла.

“Вось так і нараджаюцца прымхі ды забабоны”, — падумаў журналіст і, пачасаўшы пабітую макаўку, вырашыў пачаць

свой нарыс менавіта з гэтага эпізоду.

— А вы як у нас апынуліся — праездам, ці як?

— Прывялі да вас нялёгкія журналісцкія дарогі. Хачу напісаць матэрыял пра "сьвятую" крыніцу… Ці праўда, дарэчы, што паралітыкі, вады глынуўшы, у футбол гуляюць?

Дзяўчына торгнула галавой, заклікаючы госьця дапамагчы ёй занесьці ў хату балею, і ўжо на вэрандзе, ставячы судзіну да сьцяны, прамовіла:

— Пачакайце… давяду вас да той крыніцы.

Дарога да "сьвятых мясьцін" была няблізкай. Яны прамінулі вуліцу Прафінтэрну, потым яшчэ дзьве вуліцы, выйшлі на ўскраіну пасёлку і пайшлі старымі прысадамі, якія шумелі густымі ліпавымі шатамі. Поруч зь імі бег задаволены Ваўчок. Марына — так звалі дзяўчыну — дала цюцьку вялікі маслак, і цяпер сабака нёс маслачыну ў зубах, раз-поразу спыняючыся, каб пагрызьці ласунак. Зрэшты, раз-пораз спыняўся і Лёнька Манчак: занатоўваў у запісной кніжцы пачутыя ад Марыны зьвесткі. Пра лекавыя ўласьцівасьці крыніцы, як высьветлілася, ведалі яшчэ ў 18-м стагодзьдзі. Тады ж, коштам графа Лапацінскага — валадара тутэйшых мясьцін — поруч з крыніцаю збудавалі мураваную капліцу, а ў 1905 годзе, у памяць пяцёх палеглых у Манчжурыі азярышчанцаў, дарогу ад пасёлку да крыніцы абсадзілі ліпамі.

— А капліца захавалася? — задаўшы гэтая пытаньне, Лёнька ляснуў па далоні цупкім нататнікам.

— Камсамольцы разбурылі… яшчэ перад вайной. Бабуля казала, цэлы месяц з ламамі завіхаліся. А ў 35-м годзе на гэтым полі вайсковыя вучэньні ладзілі, і на месцы капліцы салдацкую прыбіральню ўладкавалі.

Лёнька Манчак адчуў лёгкую трывогу. Нават не трывогу, а так… штосьці асьлізлае і халоднае зварухнулася ў душы.

"Сьмела гаворыць", — падумаў малады журналіст, каселячы вокам на дзявочую касу, якая з пшанічным бляскам

іскрылася на сонцы. Каса была тоўстая, у руку таўшчынёй, але кароткай — ледзьве краналася гострых лапатак. Змагаючыся з п’янкім жаданьнем крануцца дзявочых валасоў, Лёнька азірнуўся, клікнуў Ваўчка, які заваждаўся з косткаю.

— Бабуля ваша, адчуваю, ня любіць савецкай улады?

— А за што яна павінна яе любіць? За восем гадоў лягеру?

— Якога лягеру? — выдыхнуў Лёнька Манчак, расшпільваючы верхні гузік кашулі.

— Піянэрскага, — бязьлітасна і проста адказала дзяўчына, і больш ужо, аж да самай крыніцы, яны не прамовілі ні слова.

…“Сьвятая” крыніца была зусім не такой, якой уяўлялася. Не было тут ні валуноў, ні бязладзьдзя земляных глыб, ні аголеных, падобных да амазонскіх анакондаў каранёў. А быў парослы кустамі пагорак, з-пад якога вірліва вырывалася, уздымаючы фантаны цёмнага пяску, ледзяная вада. Тое, што вада страшэнна халодная, Лёнька пераканаўся, торкнуўшы пальцам у ручай, што бег ад крыніцы. Дый паветра наўкол было вільготным і халаднаватым.

На ўбітай людзкімі нагамі й засеянай бітай цэглай палянцы Сноўдала колькі жанчын. Адна зь іх, з выгляду, багамолка, штосьці пісала на паперцы, мацавала іх чорнымі “аптэчнымі” гумкамі да бутэлек з-пад шампанскага і, перахрысьціўшы, перадавала жанкам, што стаялі перад ёй на каленях.

— Ну што, ачысьцімся ад грахоў? — гульліва вымавіў Лёнька Манчак, прысеўшы ля крыніцы. Набраўшы ў жменю вады, ён глынуў ледзяной прахалоды, вясёлымі вачыма зірнуў на спадарожніцу. — Вы самі хоць бачылі, каб паралітыкі на ногі ўставалі?

— Бачыла. Пры мне жанчыну прывезьлі…

— На чым?

— На матацыкле. У вазку сядзела. Мужчыны яе паднялі, да вады паднесьлі: ногі былі паралюшам разьбітыя.

— Ну і…

— Пасадзілі. Хацелі адразу вадою пырснуць, але яна папрасіла ўсіх адысьці. Сядзела так можа паўгадзіны. Спалатнела ўся, спацела, нават плечы задрыжэлі. Потым паліла каленкі вадою і ўстала на ногі.

— Э-эх! — іранічна выгукнуў журналіст, але тут жа схамянуўся пад суворым позіркам суразмоўніцы.

Дзяўчына глядзела на яго без усялякай спадзеўкі ўбачыць нешта добрае.

— Не… ну… мэдыцыне вядомыя падобныя факты. Магчыма, у той жанчыны была нэрвовая хвароба, а можа гэта нагул шарлатанскія штукі…

— Знаёміце мяне з фрагмэнтамі свайго будучага артыкулу? — бязь ценю крыўды выдала дзяўчына, і суразмоўнік прыкусіў язык.

"Штучка яшчэ тая… Сядзіць у глухмені, а размаўляе як сталічная аксэлератка. Бачылі мы такіх, — пакрыўджана падумаў журналіст, а каб напоўніць голаў чымсьці карысным, стаў складаць у думках плян выкрывальніцкага артыкулу. Плян, аднак, не складаўся, і думкі, а потым і вочы ізноў засяродзіліся на спадарожніцы. На шыі дзявочай залаціўся лёгкі пушок.

— Я ў Піцеры жыву. Сюды на вакацыі прыяжджаю.

Лёнька з палёгкай перавёў дыханьне. Усё раптам стала простым і зразумелым. Вядома ж, Піцер… гэта ня наша глухая правінцыя. І вучыцца, відаць, у якой-небудзь спэцшколе.

— Вучуся ў школе з музычным ухілам, — патлумачыла, падслухаўшы ягоныя думкі, Марына. — Думаю пасьля школы ў кансэрваторыю паступаць. Мне вось трэба на фано займацца, а я тут лынды б'ю. Хаджу, праўда, у мясцовы РДК, брынкаю на піяніна, але яно дарэшты разладжанае. Дый мальцы азярышчанскія ўвесь час чэпяцца.

Яны абагналі цыбатую, апраненую ў нейкія чорныя мэтлахі, цётку. Тая ішла, цісьнучы да грудзей бутэльку з вадою.

"Надзя, баліць галава", — прачытаў ён на паперцы, якая

была пачэплена да бутэлькі, і дакорліва страсянуў галавой.

Калі пераходзілі праз ручай, Лёнька падаў дзяўчыне руку. Ад поціску цёплай дзявочай рукі ў яго закружылася галава і ён фізычна адчуў, што перайшоў не праз ручай, а праз нябачную рысу, за якой засталася ягонае мінулае жыцьцё. І нават застыў на імгненьне ў чаканьні чагосьці новага і непазбыўнага.

— Марына! — выдыхнуў ён, спужаўшыся ўласнага голасу.

Дзяўчына азірнулася, і ейны зьдзіўлены твар у асадзе ліпавых шатаў працяў душу салодкім болем.

— Што? — перапытала дзяўчына.

— Ды так… нічога… — сумеўся наш герой. — Проста мне падалося, што так ужо некалі было. Што я ўжо бачыў гэтыя ліпы, ручай, гэтую сьцяжыну. Вас такое адчуваньне не наведвае?

Ён, вядома, чакаў станоўчага адказу, але Марына матлянула касой і не да места запыталася: — Вы да нас зойдзеце?

Лёнька Манчак прыпыніў хаду.

— Вы ж яшчэ з бабуляй не пагаманілі. І просьба ёсьць… У нас крэсла-гушкалка развалілася. Паглядзелі б, можа што зрабілі. Бабуля любіла ў ім сядзець.

Душа Лёньчына напоўнілася дзіўным узрушэньнем.

Усю дарогу да хаты ён распавядаў Марыне розныя вясёлыя гісторыі. Распавёў пра тое, як іх, студатрадаўцаў, пакусалі камары, ды так, што апухлі вочы і іх адкрывалі з дапамогаю запалак; як яны аднойчы падцерліся лістамі баршчэўніка і потым бегалі з апухлымі кезаўкамі ў мэдпункт… а там была маладая лекарка. Апанаваны красамоўствам, ён паведаміў, што савецкая журналістыка хворая на паралюш і тут ніякая сьвятая вада не дапаможа, нарэшце, пачаў імітаваць свайго цёзку — Лёньку Брэжнева, як той уручаў ордэн Дружбы народаў мангольскаму лідэру Юм-жагій-ну Цэ-дэ-цымбалу. Марына шчыра сьмяялася і ён адчуваў сябе амаль што шчасьлівым.

З крэслам-гушкалкай, што праўда, давялося папоркацца. Ён нават хадзіў да Марынчыных суседзяў — узяў пару патрэбных шрубаў. Калі ж крэсла было адрамантаванае — рамантаваў на двары, бо бабуля, як шапятнула ўнучка, не любіла грукату, — хітнуў яго на поўную амплітуду.

— Сядайце, юная багіня, — мовіў зь дзіўнай для сябе сьмеласьцю, і калі Марына села і прамовіла: — Клясна! — ён адчуў сябе напоўніцу шчасьлівым чалавекам.

Быў ужо адвячорак, і гаспадары прапанавалі застацца на начлег. Бабуля наагул была негаваркая, але тут падала голас:

— Куды ж вы пойдзеце? Кладзіцеся на гарышчы. Там у нас сена для казы.

Госьць дзеля прыліку адмаўляўся, казаў, што замовіў нумар у гасьцініцы, але пачуўшы, што на гарышчы свойчас любіў спаць Мішка Сазановіч, з робленым уздыхам пагадзіўся.

Даўно не пачуваў ён сябе так вольна, так утульна, як у гэтай прысадзістай (выцягні руку — кранесься столі) хаціне. І пакуль Марына завіхалася на кухні, гатуючы вячэру, Лёнька крадком, каб, ня дай Бог, не патрывожыць бабулю, прайшоўся па сьвятліцы, памацаў карэньчыкі старых, ня йначай, дарэвалюцыйных кніг на паліцы, крануў струну пашарпанай гітары, якая вісела на сьцяне, і душу ягоную апанавала пякучае жаданьне зараз жа сесьці за стол і напісаць, ад пачатку да канца, матэрыял пра Азярышчанскую крыніцу. Змагацца з такім жаданьнем не было сіл, таму ён папрасіў у Марыны аркуш паперы і прысеў да стала.

“Пагаласкі аб “сьвятых” крыніцах, якія здавён часу разьдзімаюць царкоўнікі, спароджаныя рэдкімі фактамі “цудадзейнага” вылячэньня. Раз-пораз у асяродзьдзі нешматлікіх сёньня вернікаў распаўсюджваюцца чуткі пра тое, як кульгавы ад нараджэньня чалавек, каўтнуўшы “сьвятой” вады, адкідвае ў бокі мыліцы і скача гапака; як разьбітая паралюшам дзяўчына панурвае ў крыніцу нерухомыя ногі ды неўзабаве скача на пару з кульгавым; як бясплодная кабеціна, прыпаўшы да вады, тут жа, без удзелу мужа, цяжарыць. Апошнім часам

месцам падобных “цудадзействаў” стала крыніца ў пасёлку Азярышча, куды і выправіўся днямі наш карэспандэнт”.

Лёнька перачытаў прэамбулу, адкінуўся ў крэсьле і нечакана заўважыў, што бабуля адсунула ўбок фіранку, якая закрывала ложак, і неадрыўна глядзіць яму ў сьпіну.

— Унучка казала, у газэце працуеце.

— Ну так… — зь неахвотаю вымавіў госьць, фізычна адчуваючы, як зьнікае з душы творчае натхненьне.

— І пра што даводзіцца пісаць?

— Ды так… пішам розную лухту.

— А навошта пішаце?

— Як чаму? Нам жа за гэта грошы плацяць, — прамармытаў малады журналіст з ноткамі абурэньня.

Ён чакаў новых пытаньняў, але бабуля моўчкі, зморанай рукой, паклікала яго да сябе. Лёнька падняўся, падышоў да ложку.

— Дайце руку.

Бабуля ўзяла яго за цэўку рукі, спытала — як ён сябе пачувае, а потым, гукнуўшы: — Налі Леаніду мёду! — узяла другую руку і ціха дадала: — Не, мёд не дапаможа.

— Ежа на стале! — крыкнула Марына, і госьць, даўшы веры Мішкавым словам, што бабуля “з бзікам”, пайшоў у кухню.

Ноччу ён ляжаў, закінуўшы рукі за галаў, і неадрыўна пазіраў на вясёлкавую зорку, якая мігцела ў шчыліне між дошак.

“Дзіўны сьвет, і дзіўныя ў ім людзі”, — думаў той хвіляй Лёнька Манчак, шчасна, аднымі вуснамі, пасьміхаючыся ў цемры. Яшчэ раніцою ён сядзеў у рэдакцыі і пісаў справаздачу аб сэсіі абласнога савету, а цяпер вось ляжаў на гарышчы чужой хаты, глядзеў на далёкую зорку ды слухаў цвыркуна, што абзываўся з капы сухой канюшыны. За дзень Лёнька добратакі стаміўся, на павекі наляцела была імклівая дрымота, ды тут жа і адляцела, гнаная бязладнымі думкамі пра дзяўчыну

і яе бабулю. Гэтыя дзьве істоты ўбіліся ў душу, напоўніўшы яе мяккім сьвятлом і сьвежым паветрам. Лёнька ўяўляў залацістыя кудзеркі на тонкай дзявочай шыі і яго не пакідала адчуваньне палёту. А на мяжы палахлівага сну, адчуў раптам, што правальваецца цёмную пройму, на дне якой варушылася штосьці яшчэ больш цёмнае і няўцямнае. Лёнька прыхапіўся, улякнута падкурчыў ногі. У адчыненым паддашкавым акне паўстала Марына з абярэмкам пасьцельных прыладаў. Мільгнула белая сарочка, з шумам упаў цюфяк, узьнялася і ціха легла долу прасьціна.

— Душна ў хаце. Прывыкла на сене спаць… — яшчэ хвіліну ў дальнім канцы гарышча шамацела канюшына, а потым усё аціхла.

— Толькі папярэджваю: бяз жартачак.

“Ды якія там жартачкі… з падлеткамі”, — хацеў сказаць Лёнька Манчак, ды ня змог: язык прысох да паднябеньня. Ён ляжаў і слухаў парывістае біцьцё ўласнага сэрца. Нарэшце, сабраўшыся з думкамі, клекатлівым голасам запытаўся:

— А бабуля… нічога ня скажа?

— Не хвалюйцеся, я тут зь яе дазволу. Бабуля людзей наскрозь бачыць.

— Яна ў вас як біярэнтген, — пажартаваў Лёнька.

— Рэнтген што… косткі высьвечвае ды розныя іншародныя прадметы. А бабуля, апроч таго, і хваробы бачыць. Возьме за руку, і адразу ведае: на што хварэеце.

Калісьці Лёнька чытаў штосьці пра падобны фэномэн. Нейкая кабеціна на далёкім Алтаі таксама брала за руку і ставіла дакладныя дыягназы. Да яе, як пісаў папулярны часопіс, прыязджалі хворыя з усёй краіны.

— Чаму ж яна прыхоўвае такі талент? Распачала б мэдычную практыку, кучу грошай зарабіла, — Лёнька пасьміхнуўся, прыкусіў сухую, салодкую на смак, травінку.

— Ня хоча яна гэтым займацца. Дый людзей ня надта любіць.

— І цябе таксама?

— Ну, мяне яна любіць. А яшчэ маму любіць ды цётку Таццяну, зь якой разам у лягеры былі. Цётка таксама зь Піцера. Увосень і ўзімку прыяжджае, бабулю даглядае.

Прасторная і сьветлая душа Лёньчына нечакана ўзбунтавалася, шэрай мышынай шкрабанула да глоткі. “Лухта нейкая, — падумаў малады журналіст, — як гэта можна вызначыць хваробу адным дотыкам рукі. Зразумела цяпер, чаму старая за пальцы хапала: чмуру ў вочы пускала.”

Шукаючы выйсьця свайму абурэньню, Лёнька намацаў штаны, якія ляжалі пад бокам.

— Прыбіральня адразу направа, — гукнула Марына, і госьць, прабурчэўшы: — Пайду папалю, — адчыніў паддашкавыя дзьверцы.

Зорнае неба абрынулася на яго ўсім сваім зіхатлівым бязьмежжам. Ён нават ня здолеў прыпаліць ад першай запалкі, захоплена пазіраючы на зоркі, і ачуўся толькі тады, як агонь апёк пальцы. Цыгарэтны дым быў як ніколі прыемным. Ад асалоды ў Лёнькі нават замлела грудзіна. Ён зрабіў пару зацяжак і насьцярожана сьцяўся. За сьпінай зашамацела сена і Марына, крануўшы яго прыполам даўгой кашулі, таксама села на драбіны.

— Вы любіце зоркі?

Па целе Лёньчыным прабегліся нэрвовыя дрыжыкі, сьцяўшы скуру на лобе.

— Люблю. Асабліва вунь тую, — Лёнька тыцнуў цыгарэтай угору, — … зіхціць празь дзірку.

— Якая гэта?

— А вунь, бачыце, леваруч ад Вялікай Мядзьведзіцы (гэта было адзінае сузор’е, якое ён ведаў).

— Арктур, сузор’е Валапаса, — край дзявочай кашулі ізноў крануўся сьпіны і ў Лёнькі ўраз пачырванелі шчокі.

— А што… яна можа і будучую сьмерць прадказаць? Ну, напрыклад, возьме за руку і скажа ад чаго памрэш: ад хваробы якой, ці пад коламі цягніка, — Лёнька закашляўся ад дыму.

Марына хвіліну маўчала.

— Чалавеку гэтага ня трэба ведаць… Так жыць лягчэй. Можаце ўявіць — чым сталася б нашае жыцьцё, калі б мы ведалі дату сваёй сьмерці?

— Яно так, — пагадзіўся суразмоўнік і, зацягнуўшыся раз астатні, захоплена выдыхнуў: — Добра тут у вас.

— Мне й самой падабаецца. Бабуля ўпрошвае ў Азярышчы застацца. Калі б ня музыка, дык засталася б.

У нетрах хаты штосьці таропка загрукатала і Марына падхапілася з драбінаў.

— Бабуля грукае. Спаць пара.

… Лёнька доўга ляжаў бяз сну, потым ціха паклікаў Марыну, але дзяўчына не азвалася, відаць, ужо спала, і ён, адчыніўшы дзьверцы, доўга глядзеў на Арктур, аж пакуль той не схаваўся за дахам адрыны.

Раніцою яго абудзіў суседзкі певень. Певень загарлаў, залопаў крыламі і на коўдру леглі, прабіўшыся праз шчыліны, плямы гарачага сонца. Галава, відаць, ад бессані, была цяжкой, а ў горле пяршыла. Ён нават падумаў, што ў глытку ўбіўся асьцюк і, апранаючыся, раз-пораз керхаў у далонь. Пакуль спускаўся па драбінах, адчуў, як цела наліваецца млявай млосьцю і ўвачавідкі цяжэе патыліца. У хату ён увайшоў, трымаючыся за вушак. Гаспадыня сядзела ў крэсьле-гушкалцы і чытала часопіс.

— Ваду пілі з крыніцы? — запыталася бабуля, зыркнуўшы на госьця паўзьверх акуляраў.

Госьць моўчкі кіўнуў.

— Вось яна і адпомсьціла.

Не дабіраючы сэнсу бабчыных словаў, госьць сеў на канапу, адхапіў твар далонямі.

— У горле асьцюк, патыліца баліць, ногі ня ходзяць?

Не адрываючы далоняў ад твару, госьць зноўку кіўнуў.

— Бярыце маю падушку, коўдру — і кладзіцеся. Марына ў краме, зараз вернецца.

— Дзякуй, але мне трэба ісьці, — рашуча прамовіў госьць і кульнуўся на канапу, ды так рашуча, што пад ім застагналі старыя спружыны.

…Хвароба падступіла рашуча і незваротна. Госьць ляжаў з заплюшчанымі вачыма і яму здавалася, што канапа гушкаецца ў паветры. Ляціць да гары, на хвілю спыняецца і адразу ж абрыньвае ў бяздоньніцу. І адтуль, зь бяздоньніцы, даляталі глухія жаночыя галасы:

— Чаму ты яго не папярэдзіла? Ваду трэба з бутэлькі піць, як крыху сагрэецца.

— Я адкуль ведала, што ў яго мігдаліны хворыя. Я п’ю адразу з крыніцы, і мне нічога не бывае.

Потым у вушах бомкнулі званы, у твар дыхнула нечым гарачым, як быццам адчынілі перад носам распаленую печку, у душу, навылёт яе працінаючы, уляцела замятуха слоў, твараў, страхаморлівых, залітых крывавай барвай, краявідаў; потым яго паляпалі па плячы і ўваччу паплыла размытая белая пляма.

— Прозьвішча…

— Як-як? Манчак?

— Колькі гадоў? Дваццаць пяць?

— Раскрыйце рот… Скажыце “А-аа!”

Ён выдыхнуў: “А-аа!” — і папярхнуўся ад млосьці.

— Та-ак… пасьцельны рэжым… на шыю — цёплы кампрэс… горла паласкаць растворам марганцоўкі… — галасы аддаляліся, глухлі, ён расплюшчыў вочы, з жахам зірнуў на дыван, што вісеў над канапай. Дыван расплыўся, задрыжэў уваччу, і ён зразумеў, што гэта не дыван зусім, а нейкая чырвона-чорная багна, у якую ён панурваўся, марна спрабуючы вы-

брацца вонкі. Вось яна, сьмертухна! Чаму ж бабуля не сказала, што яна прыйдзе так хутка. Божухна, калі б я толькі ведаў… я б ашчаджаў кожную хвіліну, працаваў 24 гадзіны ў суткі! Ты чуеш, Марына?

— Чую, чую… глыніце мікстуры… у вас гарачка.

Зубы заляскаталі па конаўцы. На момант ён ачуўся, але ў той жа міг дыван ізноў расплыўся ў вачах, ператварыўшыся ў чырвоную, пякельна гарачую патарочу.

Ён абудзіўся, дарэшты мокры, і няўцямна зірнуў у акно. Знадворку цадзілася паганенькае змрочнае сьвятло і цяжка было сказаць, якая пара на двары: раная раніца, ці позьні вечар. Лёнька павярнуў голаў і ўбачыў Марыну. Яна спала на падлозе, ля ягонага ложку.

— Марына, — аднымі вуснамі прашаптаў Лёнька.

Дзяўчына падхапілася.

— Зараз прасьціну памяняю, мокрая ўся. І казінага малака вып’еце. Дапамагае.

— Я што, трызьніў?

— Было крыху… Павярніцеся на бок, калі можаце. Трэба прасьціну выцягнуць.

Ён выпіў цёплага малака, зноўку заснуў і прачнуўся сонечным ранкам.

Першае ўражаньне было, што ён пазбыўся цела. Але, зварухнуўшы нагой, зразумеў, што апавіты хвораю немаччу.

У хаце было пуста.

Ён прыслухаўся. Хтосьці гучна шоргаў у дзьверы і чуўся незадаволены Марынін голас.

— Ну куды? Нельга ў хату!

Але вось дзьверы расчыніліся, паветра напоўнілася шаргатлівым цокатам і ў нос дало густым пахам псіны.

Стары знаёмца Ваўчок лізнуў руку, усьпёрся лапамі на прасьціну, паспрабаваў лізнуць у твар.

— Ах ты, пракуда! Прыбег у адведкі… ледзь з ганку мяне ня скінуў.

— Марына, гані Ваўчка з хаты! — крыкнула аднекуль здалёк Міронаўна, і дзяўчына, схапіўшы псіну за гагавіцу, азвалася: — Ганю ўжо.

Выгнаўшы кудлатага свавольніка, дзяўчына доўга мыла рукі.

— Бабулю на двор вывела, паветрам падыхаць, — прамовіла, бразнуўшы носікам рукамыйніка, Марына. — А вы як сябе пачуваеце?

— Нармальна, — госьць вытрымаў належную паўзу. — Даў вам турботы. Буду ад'яжджаць, заплачу…

— Толькі гэтага не хапала, — выціраючы рукі, Марына кіўнула ў бок бабульчынага ложку. — Пачуе пра грошы, выгане з хаты… як таго Ваўчка.

Трэба было зьмяніць тэму гаворкі.

— А гэта вы на гітары граеце, ці як?

Гітара вісела на сьцяне і чакала свайго часу.

Марына зьняла яе, кранулася басовай струны.

— "Бітлз" любіце?

— Хто ж іх ня любіць? — хмыкнуў Лёнька Манчак, спрабуючы згадаць назву хаця б адной бітлоўскай песьні.

Хвілінай насьцярожанага чаканьня Марына прымасьцілася на нізкі ўслон і з гітарнага нутра вырваўся першы акорд.

— Мі-шэл, ма бэл, зіс э водс зэт гоў тугэзэ вэл, май Мішэл, — засьпявала дзяўчына і, асьветленая сонцам, навылёт сьвяцілася, нібыта яблык мядовага наліву.

* * *

Леанід Пятровіч узьбег па сходах, мелькам зірнуў на гадзіньнік. Ён спазьняўся на паседжаньне бюро абкаму, але ўсё адно вырашыў заскочыць у рэдакцыю. Шыбуючы гулкім

калідорам, суцішыў крок ля дзьвярэй фоталябараторыі і каротка мацюкнуўся: за дзьвярыма бразгалі шклянкі і чулася няўцямная гамана.

Косткі пальцаў — адмысловым шыфрам — стукнулі па вушаку і дзьверы з насьцярожліва адчыніліся. На парозе паўстаяў ягоны намесьнік Юрка Кальмаеў. Юрка тым часам зацята жаваў і ад нечаканасьці застыў з раскрытым ротам. У шэрым прыцемку кешкаліся гаспадар фоталябараторыі Кенька і малады журналіст Віцька Філімонаў.

— Ну не хавай, не хавай, — Леанід Пятровіч схіліў убок галаву, выглядаючы Кеньку, і той вярнуў на стол недапітую пляшку.

— Я вас папярэджваў. Больш папярэджваць ня буду, — Леанід Пятровіч толькі тыдзень працаваў галоўным рэдактарам, і гэта ўжо было трэцяе папярэджаньне.

— Пятровіч… памянуць вырашылі, — роблена-плаксівым голасам вымавіў Кенька.

— Каго яшчэ? — перакрывіўся рэдактар.

— Мішку Сазановіча… сястра ягоная ліста надаслала…

— Што, пад цягнік патрапіў? — Леанід Пятровіч адарваў плячук ад вушака.

— Ты што ўжо, ведаеш? — Кальмаеў праглынуў, нарэшце, недажаванае едзіва, а Кенька разгарнуў складзены ў столку ліст.

— Сунуліся па шпалах зь нейкім сябрам. Выпіўшы, вядома. Сябар адскочыў, а Мішку цеплавозам… на мязгу, — Кенька крэкнуў, узьняў на шэфа ўмольна-п’янаватыя вочы.

Мішку Сазановіча немаведама калі звольнілі з рэдакцыі і на яго даўно забыліся, пагатоў, жыў ён недзе ва Ўкраіне. Але галоўнага рэдактара, як адзначылі падначаленыя, Мішкава сьмерць дарэшты засмуціла і ён нават зьмяніўся з твару. Нэрвова страсянуўшы пальцамі, Леанід Пятровіч пастаяў хвіліну, нібыта згадваючы штосьці, паляпаў па сьпіне Віцьку Філімонава — той сядзеў нерухома, увабраўшы голаў у плечы, — і кіўнуў Кеньку.

— Налі… глыток.

Пакуль усе трое кідаліся даставаць закуску, Леанід Пятровіч выпіў адным глыткам гарэлку, выцер вусны, выйшаў ў калідор.

— Леанід Пятрові-іч… бюро абкама-а, — сьпеўна прамовіла сакратарка Нюра, пабачыўшы шэфа.

— Ведаю, — буркнуў шэф, падышоў да стала, абапёрся на яго абедзьвюма рукамі. — Выпішы мне камандзіроўку… на два дні.

Сакратарка схапіла яго за руку, міргнула рэдкімі, неахайна падфарбаванымі вейкамі.

— Прыйдзеш сёньня?

Леанід Пятровіч рашуча вырваў руку, рушыў у свой кабінэт. Там ён прайшоўся з кута ў кут, паправіў, займаючы сьвярблівыя рукі, партрэт Гарбачова на сьцяне. Яго ўсхвалявала зусім не бабульчына прадказаньне. Душу кальнуў, ды не… навылёт праця ў халодны дакор. Колькі часу прайшло (пальцы па чарзе зварухнуліся, налічыўшы восем гадоў), а ён так і не завітаў у бабульчыну хату, не пацікавіўся — ці жывая гаспадыня.

Стоячы пасярод кабінэту, ён згадаў сябе самога: закаханага, дарэшты выпетранага хваробай маладзёна. Тады, вярнуўшыся праз тыдзень з камандзіроўкі, ён, вядома ж, адразу падкаціўся да Сазановіча, стаў пытацца пра Марыну, і загадчык сельгасаддзелу, састроіўшы прыязную гімору, паведаміў: — Э-э… Лёня… Гэтая краля не для цябе. Дый маладая яшчэ. — У той момант, упершыню ў жыцьці, ён адчуў сваю нікчэмнасьць і спустошанае нутро ягонае напоўнілася змрочнай, дзягцярнага колеру, крыўдай. І ўсё адно, нават з крыўдай у душы, ён мерыўся наведаць Азярышча, бо паабяцаў бабулі адрамантаваць, на пару з Сазанавічам, дах бабульчынай хаты. Ды Сазановіча неўзабаве звольнілі з працы, той зьехаў на Данбас, а аднаму яму ехаць не выпадала…

Высьвятляючы, ці выпісаная камандзіроўка, Леанід Пятровіч вытыркнуў голаў з кабінэту, а пабачыўшы, што сакратарка неадрыўна глядзіць у акно і ўсхліпвае, са злосьцю на сябе самога прашаптаў:

— Як мне абрыдлі гэтыя любошчы!

За мутным вагонным акном рыскамі гіганцкай лінаркі плылі прыдарожныя слупы. Ён сядзеў ў напаўпустым вагоне, глядзеў на панылы краявід, які сплываў у невараць, і калі заплюшчваў вочы, бачыў адно і тое ж: рухавы пэрон, бялявую дзяўчыну і рудога сабаку, які бег за вагонам, спрабуючы ўгледзець у сініх вокнах дабрадзея, які частаваў яго пончыкамі. Ён расплюшчваў павекі, глядзеў на прыдарожныя слупы і ў думках порхаўся ў кучы пражытых дзён. Доўгая й нудотная сувязь зь Нюрай — дзябёлай, на 15 гадоў старэйшай ад яго кабетай, развод з жонкай, п'янкі з абкамаўцамі, перадавыя, пісаныя на хворую галаву, артыкулы пад назваю "Перабудову пачні зь сябе!", — усё было ў гэтай бязладнай шэрай кучы. І калі ў ёй і было штосьці сьветлае, дык гэта сустрэча з працятай сонечным сьвятлом дзяўчынай, якая восем гадоў таму сьпявала яму песьню пра Мішэл.

"Бабуля, няйначай, даўно памерла. Ужо тады была кволай. А Марына, відаць, скончыла сваю кансэрваторыю, езьдзіць з канцэртамі. Цікава, ці выйшла замуж?" — цягнік страсянула, заматляла на стрэлках і ён стукнуўся скроньню аб шыбу. "А раптам яна тут, Азярышчы?! Прыехала адпачыць у бабчынай хаце", — вочы, падганяючы цягнік, пералічылі некалькі слупоў і сэрца зайшлося ад салодкага болю.

Маладая, з чэзлымі кучаравінкамі на галаве, буфэтчыца наліла шклянку гарбаты.

— Тут калісьці сабака бегаў…Ваўчок. Можа бачылі? — гарачы напой абпаліў паднябеньне.

— Я першы тыдзень працую, з сабакамі пакуль не пазнаёмілася, — са зьдзеклівымі ноткамі адказала дзяўчына. — Што-небудзь яшчэ браць будзеце?

Сабачы век кароткі. А ён пытаўся пра сабаку, які бегаў тут восем гадоў таму. І рабіў гэта з панурай сур'ёзнасьцю.

Прыстанцыйны пляц зусім не зьмяніўся. Той жа шыхт іржавых таполяў, пашарпаны будынак аўтастанцыі, напалову счарнелы, як у атрамант апушчаны, комін пасялковай лазьні. І ўсё ж чагосьці бракавала воку. Ён агледзеўся. Ну, вядома… на месцы старой гасьцініцы была раўнюткая пляцоўка, пасярод якой памаранчавым пажарам буялі наготкі.

"А раптам і ТАМ пустка?", — падумаў Леанід Пятровіч і тут жа адагнаў такую думку. Думка, аднак, далёка не адлятала, і, павярнуўшы на вуліцу Прафінтэрну, ён ужо гатовы быў убачыць нават ня пустку, а счарнелае папялішча, але ўбачыў тую самую хаціну — з пеўнікам на вільчаку, зь нехлямяжым нумарам на сьцяне і новым шыфэрам на даху.

Наваліўшыся схаладнелай грудзінай на весьніцы, ён паляпаў далоньню па паштовай скрыні. Паляпаў раз, потым другі, потым яшчэ некалькі разоў, аж пакуль у вакне не матлянулася фіранка. Ён стаіў дых, ліхаманкава, двума пяцярнямі, паправіў валасы на галаве і ўбачыў незнаёмую, неахайна апраненую кабету на ганку.

— Тут калісьці Міронаўна жыла… з унучкай.

Кабеціна сышла з ганку, няўцямна страсянула галавой.

— Я кажу… Міронаўна тут калісьці жыла…

— Ну дык заходзьце… заходзьце, — замітусілася кабета, запрашаючы ў хату. — Вы, відаць, ейны сваяк?

— Ды не… проста знаёмы. Ішоў міма. Дай, думаю, зайду, — пераступаючы парог хаты, ён загадзя прыгнуўся, каб не ляснуцца галавой аб вяршнік.

— Міронаўна ж, зямля ёй пухам, як памірала хату на ўнучку перапісала. Я ў яе і купіла. 300 рублёў аддала. Гэта ж ня грошы… Праходзьце ў сьвятліцу.

Пасярод прыцемнага пакою стаяла крэсла-гушкалка.

— Ад Міронаўны засталася, — патлумачыла гаспадыня,

злавіўшы ягоны позірк.

— А ўнучка, Марына, прыяжджае калі?

Кабета зірнула на госьця зь недаверам і насьцярогаю.

— Дык яна ж памерла… у той жа год, што й Міронаўна. Знайшлі ў нейкім канале… ну, там ужо, у Ленінградзе. Ці то піхнуў хто, ці то сама кінулася.

Падлога зыбанулася пад нагамі і вушы напоўніў замарачны шум.

— Цяпер вось я тут жыву. Цёплая хата, хоць і старая. Страха, праўда, у адным месцы працякала, дык зяць Васька новым шыфэрам перакрыў. Васька тут, у Азярышчы робіць. І гарод пяць сотак… бульбачка свая, і цыбулька…

Леанід Пятровіч павярнуўся, выйшаў на падворак.

— Вы ж хацелі што, ці так зайшлі?

Ён нічога не адказаў, нават не азірнуўся. Пайшоў па вуліцы — у той бок, куды несьлі ногі, і пачуў неўзабаве шолах ліпавых кронаў над галавою. Сэрца парывіста білася і рэха гэтага біцьця нараджалася і памірала ў цёмных, там-сям кранутых жоўтай квеценьню, шатах. Леанід Пятровіч спыніўся, прыклаў далонь да грудзіны, каравёў дыханьне. Наперадзе, у канцы прысадаў, штосьці мерна і гулка цюкала.

Ля крыніцы, на пагорку, стаяў новы, на дзесяць вянкоў, зруб, на якім завіхаліся, абчэсваючы верхнія бярвеньні, двое мужчынаў.

— Капліцу будуем, — паведаміў, адказваючы на ягоны маўклівы позірк, малады хлопец.

— З цэглы было б лепш, — Леанід Пятровіч змахнуў з валасоў ліпучую трэску.

— Цэглу начальства расьцягнула, на лецішчы, — азваўся другі, паджылы мужчына, і зь сілай увагнаў сякеру ў бервяно.

Леанід Пятровіч падышоў да крыніцы, прыпаў на калена. Вада, як і восем гадоў таму, віравала, пускала са дна пясчаныя фантанчыкі і была такой жа, да ламаты ў сківіцах, халоднай.

За сьпінай пачуліся крокі і малады хлопец, падышоўшы да вады, стаў мыць у ёй кірзачы.

— Ну куды вы… з ботамі ўлезьлі? Гэта ж сьвятая крыніца.

Леанід Пятровіч чакаў, што хлопец мацюкнецца, але той вінавата адступіў ад ручая, прымірэнча кашлянуў, папрасіў запаліць.

— Асьцярожней… з вадой, — хлопец чыркнуў запалкай, — я тут раз выпіў у сьпёку, дык цэлы тыдзень валяўся з ангінай.

— Цяпер ужо не захварэю, — прамовіў, ні да каго не зьвяртаючыся, Леанід Пятровіч.

Хлопец пастаяў крыху, уздыхнуў і падаў голас ужо ад капліцы.

— Дзіўны нейкі. Няйначай, штосьці з галавой, — суцішна прамовіў хлопец, а ягоны напарнік гэтак жа ціха адказаў: — Сюды здаровыя ня ходзяць.

У водным люстры адбіўся зьнявечана-рухавы, падобны да вялізнай амёбы твар. Леанід Пятровіч нагнуўся да самай вады, пляснуў на твар пякучай халадзёнкі і пайшоў ўздоўж ручая хадою чалавека, які спазьніўся на свой цягнік.

# ШПЕГ

*Апавяданьне*

Мне было дзевятнаццаць гадоў. Я ляжаў на мулкай лаве і зацята глядзеў на міргатлівую зорку — яна толькі што выплыла з-за фіранкі. Зорка то бліскала, то патухала, захінутая на імгненьне галінамі старой яблыні, якая расла пад вакном.

Гаспадыня кватэры, у якой кватараваў, таксама не спала. І калі яна зь цяжкім уздыхам пераварочвалася з боку на бок, я таксама ўздыхаў. Гаспадыню звалі Сабінай і яна была на пятнаццаць гадоў старэйшай ад мяне.

На пячной ляжанцы адчайдушна хроп яе муж — кадыкасты, па-брэжнеўску густабровы здаравяка. Печка была напалена як домна, я ляжаў, накрыты адной прасьцінай, а гэты храпун штоначы ўзьбіваўся на самую гарачынь ды яшчэ спавіваўся старым кажухом.

— Ну і храпе, — раз-пораз выдыхала Сабіна. — Мне карцела сказаць штосьці ў адказ, але я не адважваўся. А яшчэ мне карцела падысьці да жанчыны, сьцягнуць зь яе коўдру і зь пяшчотнай павольнасьцю правесьці рукою па малочна-белым сьцягне. Разумеў, што ніколі не зраблю гэтага, але палкая фантазія не давала спакою і зганяла сон з павекаў.

Я толькі трэцюю ноч спаў у хаце, на старой лаве, якую гаспадары называлі тапчанам. Дагэтуль мы з Лозкам, старастам групы, месьціліся на вэрандзе. Тры дні таму Лозку — студэнту-пераростку, які пасьпеў ужо адслужыць у войску, заехалі вязанкай лёну, самым камлём, у вока, і ён паехаў дадому, бо вока пачырванела ды пакрылася блакітнай плеўкай. Якраз таго дня ўдарыў мароз і гаспадыня прапанавала начаваць у хаце, на драўлянай, паточанай шашалем лаўцы з выразанымі на прыслоне загадкавымі літарамі “НКПС”. Я доўга маракаваў — што б яны маглі азначаць. І толькі калі даведаўся, што лаўку прыцягнулі калісьці з разбомбленай

немцамі чыгуначнай станцыі, уцяміў: гэта было майно Народнага камісарыяту шляхоў зносінаў.

Гаспадар меў прозьвішча Кірпіч — з націскам на першы сказ. Кірпіч быў сугнеем; ён і са мной амаль ніколі не размаўляў. Толькі аднойчы спытаў, насупіўшы кудлатыя бровы: калі мы, студэнты, зьедзем да хаты. Праўда, да Лозкі ён ставіўся больш лагодна: распытваў пра службу ў войску. Аднаго разу яны нават выпілі на пару пляшку гарэлкі.

Таго дня, як стараста пашкодзіў вока — мы з Лозкам закідвалі лён у пуню — да нас пад'ехаў на кані калгасны брыгадзір.

— Ну, як там вам, у Кірпіча? — прозьвішча было прамоўлена з націскам на апошнім сказе.

— Нармальна! — крыкнуў Лозка, завіхаючыся з калянымі вязанкамі, і брыгадзір, ссунуўшы з патыліцы на нос кепурку-васьміклінку, жартам папярэдзіў:

— Сабіна ягоная… любіць маладых хлопцаў. Толькі ж вы да яе не чапіцеся. А то Кірпіч раўнівы. Аднойчы ў іх салдат быў на пастоі, дык ён яго зьбіў на горкі яблык. Два гады потым на Аршанскай зоне адбухаў.

Жарцік запаў у душу і калі адвячоркам, праводзіўшы Лозку на аўтобус, я вярнуўся на вэранду, думкі мае апанавала жанчына, прыглушаны голас якой гучаў за сьценкай…

А ўчора ўначы гаспадыня папраўляла падушку і незнарок адхінула край шторы, якая аддзяляла ложак ад сьвятліцы. Праз шчыліну, у шэрым прыцемку, я ўгледзеў малочна-белае сьцягно, такі ж белы, трохі пукаты жывот і кроў гарачай хваляй апякла твар.

Вось і цяпер мне мроілася малочна-белая пляма, мроілася, што Сабіна лашчыць свае сьцёгны рукою — я памкнуўся ўцяміць — сон гэта, ці ява, і нечакана прачнуўся ад зацятага сабачага брэху. Гаспадарава Жучка, істота крывалапая і куртатая, брахала з рыкам, стогнам і прагавітай нянавісьцю.

— Ну до табе ўжо, до… — азвалася за шторай Сабіна. — Яна хацела тым самым абудзіць мужа, але той адно храпянуў спрасонку.

Жучка, нібыта пачуўшы гаспадыню й сапраўды змоўкла, але толькі на імгненьне. Неўзабаве зноў забрахала, але цяпер ужо з жаласьлівым скавытаньнем.

— Мішка! — галасна выдыхнула жанчына і на ляжанцы заварушыліся.

— Чаго табе?...

— Ты што, ня чуеш як сабака заходзіцца? Можа ваўкі блізка?

Гаспадар мацюкнуўся і глуха, відаць, з галавой захінуўшыся кажухом, адказаў:

— Тут бы на ўсю вёску галас стаяў. А так толькі Жучка брэша… суседзкія не дапамагаюць.

— А можа шашок у хлеў убіўся?

— Сьпі ты, шашок… Курэй жа не чуваць…

Я стаў углядвацца ў вакно, спрабуючы па руху зоркі вызначыць — ці доўга спаў, і нечакана, скрозь сабачы брэх, пачуў дзіўныя зыкі. На двары, каля плоту, штосьці глуха гуло і шаргатліва цёрлася аб штыкеціны. За час кватараваньня я добра вывучыў гукі Кірпічовага жытла. Ведаў — у якім месцы рыпаюць масьніцы, дзе сьпявае цвыркун і ў якім баку шоргае вецьце аб сьцену хаты. Пачуты зык быў невядомы, нават злавесны. Сабіна, відаць, таксама пачула дзіўны шоргат і наструніла слых. Вецер дзьмухнуў з новай сілай, зык паўтарыўся, прычым, цяпер штосьці настойліва шарканула па страсе, і гаспадыня з пярэпалахам у голасе прашаптала:

— Міш…

Гаспадар адразу адгукнуўся, голасам дрогкім і шапятлівым:

— Чую, чую…

— Выйдзі, паглядзі — што там…

Гаспадар ладны час ляжаў бяз дыху і без руху, і толькі калі

па страсе шкрабанулі як мае быць, бязгучна споўз зь ляжанкі.

— І хто там валтузіцца? І Жучка асіпла ад брэху, — з панікай у голасе прашаптаў Кірпіч, прыпаўшы да ваконнай шыбы. — Гаспадар відавочна шукаў маёй падтрымкі, але я прыкінуўся, што сплю, нават засоп дзеля прыліку.

Нічога ня ўгледзеўшы, Кірпіч з апаскаю — аніводная масьніца не азвалася — падаўся ў сені.

Выхадныя дзьверы азваліся рыпам перарывістым і зычным, засьведчыўшы, што іх адчынялі з насьцярогай. Я прыўзьняў галаў. Знадворку ізноў зашамацела, у сенях гучна бразнула вядро і Кірпіч, заляцеўшы ў хату, пераселым ад хваляваньня голасам выгукнуў:

— Шпіён!

Я падхапіўся на ногі, памкнуўся надзець штаны ды заблытаўся ў калашыньні й кінуўся на двор у адных трусах.

У твар дыхнуў халодны вецер, сэрца парывіста затахкала, але тут жа і сунялося, калі я пабачыў над галавой вялізны шар: пачапіўшыся да плоту, ён мерна біўся аб край страхі.

— Радыёзонд прыляцеў, — патлумачыў я гаспадару, галава якога ціхенька вытыркнулася зь дзьвярной праймы.

Мы ўвайшлі ў хату, сталі апранацца, і я распавёў Кірпічу ўсё, што ведаў пра радыёзонды...

— Дык, кажаш, аж на сорак кілямэтраў уздымаюцца? — перапытаў Кірпіч, калі мы выйшлі на ганак. — Гаспадар мерыўся запаліць, ды я тузануў яго за рукаво: паветраныя балёны поўнілі вадародам, і трэба было асьцерагацца агню.

Кірпіч перарэзаў сьцізорыкам шнур, які лучыў шар з бляшанай скрынкай, тузануў за канец шнура, прыкідваючы, ці прыдасца гэтая надзіманая халера ў гаспадарцы, і нечакана пусьціў шар па ветры. Той шорхнуў наастачу па яблыневых галінах і паляцеў пад разьвітальны Жучкавы брэх уздоўж вясковай вуліцы.

— Хай яшчэ куды заляціць. А то прывяжы да плоту, дык на раніцу ўся вёска зьбяжыцца.

— … Божухна, гумовы пузыр са шпіёнам пераблытаў, — сустрэў мяне іранічны голас гаспадыні, калі я, завітаўшы па выпадку за хлеў і палашчыўшы змучаную брэхам Жучку, вярнуўся ў хату і бухнуўся на энкапээсаўскі тапчан.

— Ты нічога ня ведаеш, дык маўчы, — незадаволена азваўся гаспадар. — Я адразу па вайне ў Дрысе вучыўся, дык нам вайсковец лекцыю чытаў. Пра імпэрыялістычныя падкопы. І фотаздымак паказваў, на якім дакладна такі пузыр быў сфатаграфаваны. Казаў, на такіх пузырах шпіёны празь мяжу і пералятаюць. Ды я ў дзяцінстве… — гаспадар падвысіў голас, зьвяртаючыся ўжо да мяне, — сам на шпіёна ўзьбіўся. Тут жа да вайны, адразу за Дзьвіной, Польшча была. І вось пасьвім мы аднойчы са старэйшым братам статак, а тут з-за кустоў чалавек выходзіць. Незнаёмы, не па-нашаму адзеты. “Як тут, хлопцы, да чыгуначнай станцыі прайсьці? Мне, — кажа, — у Менск трэба, у Цэнтральны камітэт камсамолу”. Так і сказаў: ня ў Мінск, а ў Менск. Лёшка, брат мой, неўпрыкмет падміргнуў, павёў таго чалавека ў Свольну, а я на заставу кінуўся. Начальнік заставы потым у школу прыходзіў. Падзяку нам абвясьціў за дапамогу ў затрыманьні лазутчыка.

Гаспадар змоўк, зычна керхануў, празь нейкі час засоп, а я ляжаў, разьмежыўшы вочы, і думаў: які подлы гэты Кірпіч. Здаў чалавека, і яшчэ ганарыцца. А гэта ж, відаць, быў заходнебеларускі камсамолец. Мяне апанавала злосьць на Кірпіча. Я хацеў быў кульнуцца на бок ды ў гэты момант рыпнулі спружыны і гаспадыня белым прывідам выплыла з-за шторы. Нячутна, у сваіх лямцавых тэпцях, яна выйшла ў сені і там напорліва зумкнула вядро. У мяне заняло дыханьне. Я перапоўз на край тапчана, і калі Сабіна ўваходзіла ў сьвятліцу, схапіў жанчыну за руку. Думаў, гаспадыня закрычыць, лясьне мяне па твары, а тая паказала вачыма на печ і стоена шапятнула:

— Заўтра.

Заўтра… якое чароўнае слова! Слова — прадвесьце шчасьця і ўадначас помста кадыкастаму мужлану, які дрыхнуў на печы. Дый ня заўтра, а ўжо сёньня, калі ў хаце ня будзе Кірпіча

(націск на апошні сказ), я зноў схаплю Сабіну за руку, прыпаду вуснамі да голага пляча, зьнямелай далоньню правяду па малочна-белых сьцёгнах!.. Вушы напоўніліся аднастайным шумам, і наўкол стала на дзіва ціха: нават Кірпіч пакінуў сапці і ходзікі ня тахкалі на кухні. Я ляжаў у шчасьлівым здранцьвеньні, і скрывіўся як ад болю, калі на печы схрапянулі, а на другім канцы вёскі — у той бок якраз паляцеў пузыр, — гамузам, з залівістым енкам, забрахалі сабакі.

# МЕХ АВЕЧАЙ ВОЎНЫ

*(канспэкт раману)*

*Памяці І.П.Ш.*

Выходзячы з машыны, Іван Андрэевіч згубіў гузік з прарэху (давялося падняць з асфальту), а ўзьбягаючы па прыступках, двойчы спатыкнуўся. Гэта былі знакі зьверху, папярэджаньне вышніх сілаў. Іван Андрэевіч — чалавек далёка не прымхлівы, — але цяпер, напярэдадні паседжаньня бюро абкаму, тройчы плюнуў празь левы плячук. Якраз з таго боку шыбаваў Мішка Гардыка. Ля ўваходу Іван Андрэевіч павітаўся кіўком галавы са знаёмым міліцыянтам, пацiснуў руку калегу — першаму сакратару Разьдзярышчанскага райкама Пятру Халімону (калісьці разам працавалі ў камсамоле) і, пераводзячы дых, спыніўся на імгненьне ля шыкоўнага, ці не даваеннага яшчэ люстра. Іван Андрэевіч дастаў грабянец, зачасаў на патыліцу разбэрсаныя валасы, прыняў паважную паставу і з-за сьпіны ягонай, як заўсёды недарэчы, вытыркнуўся Мішка Гардыка. Гэты рудавалосы, рабацiністы (пра такіх кажуць: мухамі заседжаны) маладзён першы год працаваў загадчыкам сельгасаддзелу, упершыню быў запрошаны на паседжаньне бюро абкаму, і ўпрыкмет хваляваўся.

Іван Андрэевіч адышоў ад люстра, нетаропкай хадою, сюдтуд здароўкаючыся са знаёмцамі, рушыў па калідоры.

Загадчыца агульнага аддзелу Зінаіда Станіславаўна, ладнага веку, але па-ранейшаму прыгожая жанчына, абагнала іх, тыцнула паперкі з парадкам дня паседжаньня.

— Та-ак, мы стаім пятымі, — Іван Андрэевіч азірнуўся на Гардыку, мімаходзь парукаўся (— Добрага здароўечка!) са старшынём абласнога выканкаму Казьленям. — Галоўнае, Міша, не хвалюйся. І кажы па сутнасьці. Бацька ня любіць вады…

Нечакана, аднекуль з бакавых дзьвярэй, у калідор выйшаў той самы Бацька — першы сакратар абкаму партыі Андрэй Пятровіч Дзяшчэня, — і Йван Андрэевіч, наструніўшыся, падцягнуў вузел гальштука.

Паседжаньне доўжылася трэцюю гадзіну, і Бацьку даводзілася раз за разам стукаць асадкай па стале, патрабуючы цішыні.

— Так, таварышы… разгледзем яшчэ адно пытаньне — і пойдзем на абед. — Бацька насунуў на нос гламаздаватыя, з тоўстымі шкельцамі акуляры. — "Аб мерах па разьвіцьці авечкагадоўлі ў Верхнядрысенскім раёне", — першы сакратар зрабіў паўзу, зірнуў паўзьверх акуляраў у залю. — Дакладаюць таварышы Антанюк і Гардыка.

Іван Андрэевіч падхапіўся на ногі, з вайсковым спрытам абцягнуў пінжак.

— Верхнядрысенскі райкам партыі надае вялікую ўвагу разьвіцьцю сельскагаспадарчай вытворчасьці, падвышэньню яе эфэктыўнасьці. У прыватнасьці, мы акцэнтавалі сваю ўвагу на разьвіцьці такой, скажам шчыра, занядбанай галіны, як авечкагадоўля. Між тым, гэтая галіна дае ня толькі каштоўную воўну, аўчыну і высокакалярыйнае мяса, але й…

Бацька шматзначна кашлянуў, Іван Андрэевіч прамармытаў: — Я разумею, — каторым ужо разам паправіў гальштук:

— Канкрэтна пра нашы пляны распавядзе загадчык сельгасаддзелу таварыш Гардыка Міхал Ільліч.

Рудая Мішкава галава ўзьнялася над моўніцай, паперы крануліся мікрафону, той зафаніў, прыкрым зыкам драпануўшы па нэрвах.

— Таварышы члены бюро абкаму, шаноўныя прысутныя! — голас Мішкавы зьлёгку дрыжэў ад хваляваньня. — Намі падрыхтаваны канкрэтны плян мерапрыемстваў з усімі выкладкамі, але, з-за недахопу часу, я спынюся толькі на асноўных momантах… Усе вы ведаеце, што авечкагадоўля вымагае…

— Ня варта казаць пра тое, пра што мы ўсе ведаем, — перарваў прамоўцу старшыня выканкаму Казьленя, і Бацька, на знак згоды, кіўнуў галавой.

— Добра, я буду канкрэтным, — Мішка ўздыхнуў, пашукаў вачыма Івана Андрэевіча. — На поўначы нашага раёну знаходзіцца вялізнае Ўсвайскае возера, а на ім востраў плошчаю 500 гектараў. Востраў незаселены і ў гаспадарчым сэнсе, як і наша авечкагадоўля, занядбаны. Я на мінулым тыдні наведаў тую мясьціну. Дык вось, травастой там ў чалавечы рост. Калісьці на востраве жылі людзі, і сёньня на месцы культурных палеткаў красуе поле самасейнай канюшыны. Узьнікае пытаньне: а чаму б не зрабіць там, умоўна кажучы, летні адкормачны пункт? Запусьціў яе, жывёлу, з канца красавіка — і хай сабе пасьвіцца. Пры гэтым ня трэба ніякіх пастухоў, ня трэба падвозіць ваду, дый праблема крадзяжу жывёлы практычна зьнікае. Увосень частку пагалоўя можна б было перавесьці на зімовае ўтрыманьне. Тут таксама праблемы няма, бо ў нашым прыбярэжным калгасе "Ўсвайскі" чатыры жывёлагадоўчыя фэрмы стаяць пустыя.

Пачуўшы пра пустыя фэрмы, Іван Андрэевіч зашоргаў нагамі па падлозе, удакладніў зь месца:

— Не чатыры, а адна.

У залі заварушыліся, закашлялі, і Бацька зноўку пастукаў асадкай, цяпер ужо па графіну.

— Я таксама бываў на востраве, — азваўся Казьленя. — Ад пасёлку Ўсвай яго аддзяляе два кілямэтры вады. Як жа вы зьбіраецеся перапраўляць скаціну? На лодках? І яшчэ… памятаеце, гадоў дваццаць таму паспрабавалі было гадаваць качак на браслаўскіх азёрах. Казалі: ніякага корму ня трэба, будуць сілкавацца азёрнымі глеямі. І што атрымалася? І возера запаскудзілі, і качкі перадохлі. Так што тут варта добра падумаць.

Прысутныя разам загаманілі, але тут жа і аціхлі, напружана пазіраючы на Мішку.

— З заходняга берагу да вострава мэтраў пяцьсот, ня болей, — голас Мішкавы ўжо не дрыжэў; гучаў звонка і пераканаўча. — У тым месцы можна зрабіць паромную пераправу. Зьбіць два дзясяткі бярвеньняў, накрыць дошкамі… А што да браслаўскага казусу, дык ня сёньня сказана: сьвіньня каню не таварыш. А баран, адпаведна, не таварыш качару; пры наяўнасьці пашы, ён ніколі не скапыціцца.

Бацьку такі дзёрзкі адказ відавочна спадабаўся. Ён адкінуўся на прыслон старшынёўскага крэсла, зьняў акуляры:

— І колькі галоў плянуеце выпусьціць на пашу?

— Чатырыста, а можа і больш, — удакладніў Іван Андрэевіч, але Бацька ў ягоны бок нават не зірнуў.

— Мы ўжо, Андрэй Пятровіч, мелі размову з кіраўніцтвам племгасу “Ходцы”. Племгас абяцае даць некалькі сот галоў раманаўскай пароды, — Мішка сабраў паперы ў стос, ляпнуў ім па моўніцы.

— А пароду прэкас чаму ігнаруеце? — Бацька таксама канчаў сельгасакадэмію і ў авечых пародах добра разьбіраўся.

— Раманаўская авечка адна з самых прадуктыўных. Кожная матка, як правіла, прыносіць па тры ягняці. Праўда, гэтая парода больш патрабавальная да рацыёну. Патрэбныя кукуруза-бабовы сілас, караняплоды, камбікорм…

— Ну, дайшла, нарэшце, справа і да камбікорму, — падаў голас няўрымсьлівы Казьленя, — а між тым у нас кожны кіляграм даўно расьпісаны.

Але Бацька як і ня чуў такіх словаў: прыкусіў дужку акуляраў, акінуў залю задуменна-невідушчым позіркам.

— Вось бачыце, таварышы. Калі з адказнасьцю падыходзіць да справы, можна, аказваецца, знайсьці рэзэрвы росту. Думаю, ініцыятыву верхнядрысенцаў трэба падтрымаць. Зараз у нас абед, а пасьля перапынку мы вернемся да гэтага пытаньня.

Паседжаньне бюро абкаму скончылася а палове на шостую. Перад тым, як ехаць дахаты, Іван Андрэевіч зазірнуў, напару

з Пецькам Халімонам, у абкамаўскі буфэт, балазе, апошнія наведнікі зь яго ўжо выкуліліся. Каньяк тут ад нядаўняй пары не налівалі, але для першых сакратароў райкамаў буфэтчыца рабіла выключэньне.

— І дзе ты выкапаў такога… рудога ды рабаціністага? — запытаўся Халімон, кульнуўшы поўны, з каптуром, фужэр “кізьляру”.

Іван Андрэевіч таксама прыклаўся да фужэру, укінуў у рот скрылёк цытрыны.

— Заатэхнікам працаваў, задзёр усіх сваімі ідэямі. Узяў яго ў райкам. Малец з галавою, дарма што рабаціністы, — Іван Андрэевіч здаволена адрыгнуў каньячна-цытрынавым духам.

— Вось і я пра тое… Бацька, адчуваю, ужо ўключыў яго ў кадравую рэзэрву… любіць маладых ды неаб’еджаных.

Бяседнікі кульнулі па другой, закусілі канапкамі з чырвонай рыбай.

— А Казьленя… Казьленя! — абурана выдыхнуў Халімон, і Іван Андрэевіч шматзначна насупіў бровы: іх размову магла пачуць кельнэрка, што зьбірала са сталоў посуд. — Рые пад Бацькам, што той вяпрук. Тут ужо адно з двух: альбо Бацьку паваліць, альбо лыч сабе зьверне.

— Ёсьць і трэці варыянт, — буркнуў у адказ Іван Андрэевіч. — Ходзяць чуткі, што Казьленю ў Цэка забяруць, у аддзел прапаганды.

Халімон хмыкнуў, разьліў па фужэрах рэшткі хмельнага трунку.

— Ды ён сам гэтыя чуткі і распускае. Бачылі ў Цэка такіх… казьленяў…

Летась, з ініцыятывы старшыні выканкаму, Халімону за развал працы ўляпілі страгача, ад той пары Казьленя стаў ягоным лютым ворагам.

— Не, бляха, я цаліну на ДТ-54 разворваў, а ён дзевак у рай-

каме камсамолу ціскаў; я паехаў у самы адсталы раён сельскую гаспадарку ўздымаць, а ён у выканкаме дваццаць гадоў порткі праціраў. І цяпер гэты к-казёл будзе мне партыйныя вымовы выпісваць?! На амаралцы сёлета ўжо двое пагарэлі… Чуў, як ён ім на пленуме мараль чытаў? А сам… — Халімон мелькам азірнуўся, суцішыў голас, — каханку сабе надыбаў. І ведаеш каго? Дырэктарку нашай вячаровай школы! Кожнай суботы ў Разьдзярышчы таўчэцца.

Першы сакратар Разьдзярышчанскага райкама грукнуў кулаком па стале і Йван Андрэевіч, вінавата пасьміхнуўшыся кельнэрцы, тузануў калегу за рукаво.

— Усё, Пятро, пайшлі. На двары пагамонім.

Глынуўшы сьвежага паветра, сябры запалілі цыгарэты, праводзілі юрлівымі позіркамі загадчыцу агульнага аддзелу Зінаіду Станіславаўну, якая зьбягала па сходах, і Халімон таргануў падбародкам.

— Можа яшчэ дзе пасядзім?

Сядзець з Халімонам Івану Андрэевічу не выпадала.

— Табе тут ехаць паўгадзіны, а мне 180 кэмэ пілаваць. Так што давай, дружа… па конях. А то нас дома прычакаліся.

Іван Андрэевіч махнуў рукой вадзілу і райкамаўская “волга”, даўшы кругаля па пляцы, спынілася ля сходаў. Гардыкі ў машыне не было.

— Прасіў па дарозе забраць. Будзе чакаць ля абласной бібліятэкі, — паведаміў вадзіла і Іван Андрэевіч перасмыкнуў плячыма: яму праглася пагаманіць з падначаленым, пачуць, што той думае пра сёньняшняе паседжаньне.

— Я ў маладосьці таксама кніжкі чытаў, — выдыхнуў Іван Андрэевіч, плюхнуўшыся на сядзеньне, — Цяпер другое ў галаве…

“Колькі там на паром? Пару кубоў дошак хопіць? Потым… трэба замовіць цэглы для рамонту фэрмы, выбіць вагон камбікорму, паставіць павеці, каб авечкам было дзе ад дажджу хавацца… гэта яшчэ кубо-оў…” — прыкідваючы, колькі

дошак спатрэбіцца, Іван Андрэевіч п'янавата пазяхнуў. "Усё ж такі гэты Гардыка спраўны малец. Дарма, што не дае спакою з рознай лухтой".

Душным летнім вечарам Мішка Гардыка ляжаў на канапе і неадрыўна глядзеў на прастакутнік вакна. Гадзіньнік паказваў палову восьмай, а неба ўжо было непраглядна-шэрым; па ім ляцела ашмоцьце дымнай смугі, і гэта абяцала навальніцу. На грудзіне Мішкавай грувасьцілася важкая таміна. Назва сьцерлася з вокладкі, але для цікаўных паведамім, што гэта была ўзятая ў абласной бібліятэцы "Авечкагадоўля" пад рэдакцыяй Есавулава і Літоўчанкі. Таміна калыхалася ў тахт парывістаму Мішкаву дыханьню і была разгорнутая на разьдзеле "Хваробы".

Тры гады таму, як канчаў сельгасакадэмію, хваробы парнакапытных яго ня надта хвалявалі. Хаваючы ў далонь позех, ён занатоўваў лекцыі, без асаблівага імпэту сядзеў у лябараторыях, яшчэ з большай неахвотаю здаваў вытворчую практыку. А вось цяпер, прачытаўшы пра гнойныя афты, ліхаманку і паразу крывяносных судзінаў у парнакапытных, не на жарты расхваляваўся. Хваляваўся ён, вядома ж, за авечак, што пасьвіліся на востраве. Як яны там, без дагляду? А як возьмуць ды захварэюць? З каго спытаюць за паморак? З таго п'янчугі, што завіхаецца ля парому, падводзячы кармы? Калі што надарыцца, адказваць давядзецца асабіста яму, Мішку Гардыку, прычым, па поўнай праграме.

Мішка падняўся з канапы, падышоў да вакна і на даляглядзе, поўнячы душу халоднай трывогай, бліснула першая маланка.

А тым часам, як шуганула бліскавіца, і па вадзе чорнымі гузікамі заскакалі кроплі дажджу, да берагу бязьмежнага Ўсвайскага возера падышлі тры панурыя ваўкі. Яны прыбеглі з суседняй Латвіі і, задзёршы пысы, доўга нюхалі паветра. На сваім ваўчыным вяку ім даводзілася часьцяком пераплываць рэкі і нават невялічкія азярыны. Аднак тут, каб пажывіцца

баранінай, галавакружны пах якой далятаў з супрацьлеглага берага, трэба было плысьці немаведама колькі. Ваўкі разам аблізнуліся, і адзін зь іх, старэйшы, дарэшты схуднелы — нават драбы тырчалі з-пад поўсьці — забег у кусты, некалькі разоў, як гэта робяць сабакі, крутнуўся на месцы і лёг, тыцнуўшыся носам у хвост. Неўзабаве непадалёку скруціліся абаранкамі й ягоныя спакрэвічы. Ваўкі вырашылі дачакацца ночы.

Наступны ранак, як гэта бывае пасьля начной навальніцы, выдарыўся сонечным і навылёт празрыстым. І ўсё ж трывога за лёс племяннога статку не адпускала, і Мішка, падпільнаваўшы шэфа ў райкамаўскім калідоры, папрасіў таго даць машыну.

— Ва Ўсвай сабраўся? — Іван Андрэевіч шыбаваў па калідоры, на хаду гартаючы жмутак папераў. — У мяне на шыі трыццаць чатыры гаспадаркі, дзесяць камбайнаў стаяць неадрамантаваныя, а ты тут дзяўбеш голаў нейкім статкам. Едзь вунь у “Аблсельгастэхніку”, запчасткі даставай. — Іван Андрэевіч на імгненьне спыніўся, ужо лагодным тонам дадаў: — Ну што ты, далібог, расхваляваўся? Нічога з тымі авечкамі ня здарыцца. А здарыцца што — Балабошка з пасады зьляціць, пагатоў, ужо і заява напісана.

Калі прымалі рашэньне аб арганізацыі авечай гаспадаркі, адказным за пагалоўе прызначылі старшыню калгаса “Ўсвайскі” Балабошку. Праўда, сам старшыня ад гаспадаркі той рашуча адбіваўся і нават падаў заяву аб сыходзе на пэнсію.

— Так што, Міша, кідай свае выбрыкі і займіся запчасткамі. А ва Ўсвай выхаднымі днямі зьезьдзіш; адпачнеш, пазагараеш. Я табе з такога выпадку нават свой японскі сьпінінг пазычу.

Іван Андрэевіч згадаў пра адпачынак мімаходзь, паўжартам, але падначалены ўспрыняў гэта як дырэктыву і ў суботу, яшчэ дасьвецьцем, выкаціў з дому спартовы ровар. Дарога да Ўсвая няблізкая, дваццаць пяць кілямэтраў, ды Мішка так націснуў на понажы, што праз дзьве гадзіны ўжо стаяў на ўзгорку, захопленымі вачыма пазіраючы на блакітны, шызаватай смугой крануты прасьцяг. Усвайская возера гуляла ўсімі сваімі фарбамі, адбірала вочы, а леваруч, пад белай аблачын-

кай, падымаўся з вады пяшчысты востраў з чубком зялёнага лесу пасярэдзіне.

Сонца ўжо ладна прыпякала, і ехаць лукаватай праселіцай, у цяньку прыбярэжных кустоў, было праўдзівым задавальненьнем. Праселіца прыбівалася да самага берагу, але была сухой ды тупкай, і толькі ў адным месцы — там, дзе яе перацінала балоцістая ручаіна, — давялося ўскінуць ровар на плячук і скакаць па купінах, выбіраючыся на сухое. Пакуль Мішка скакаў, яго пакусалі камары, таму, ратуючыся ад заедзі, ён паехаў ля самага краю дарогі, падстаўляючы твар шаргатлівай альховай лістоце.

Мішку ўжо даводзілася бываць у гэтых мясьцінах. Апошнім разам быў тут месяц таму: пад’ехалі разам з Балабошкам паглядзець — як перапраўляюць на востраў авечак. Тады, з апошняй партыяй, ён і сам хацеў пераправіцца, паглядзець — што там ды як, аднак Бабошка адгаварыў. Замест таго яны паехалі ў бліжэйшую латыскую вёску, узялі ў мясцовай краме дзьве пляшкі гарэлкі і там жа, на ўзбочыне дарогі, адзначылі падзею…

Нечакана дарога павярнула ўправа і з-за кустоў выплыў нізкарослы дзядзька, які піхаў наладаваны двума велічэзнымі мяхамі ровар. Недаростак, сапучы і мацюкаючыся, прайшоў міма і ў паветры завіс устойлівы пах махры і самагону.

“Камбікорм крадуць!” — гэтая думка дала працы нагам; Мішка нават прыўзьняўся зь сядла, разганяючы ровар. Пры гэтым альховае вецьце балюча хвастала па твары, выпетрываючы з душы асалоду летняга ранку.

Дарога пабегла ўгору і з-за кустоў вытыркнулася, бліснуўшы шыбамі вокнаў, хата-пяцісьценка. Стаяла яна непадалёку ад берагу і ў ёй жыў Фарзун — паромшчык, які падвозіў на востраў камбікорм ды іншую спажыву.

“Будуць тут прывагі… усё прапіваюць, падлюгі!” — душа аж па край поўнілася абурэньнем і ў Мішкі, калі ён заяжджаў у двор Фарзуновай хаты, нават затрэсьліся рукі.

— Ёсьць тут хто? — запытаў, адчыніўшы рыпучыя дзьверы, і пачуў грымотны храп за сьпінай.

Храплі пад хлявом. Там, у цяньку, стаялі калёсы, на якіх, прыкрыўшы ражком пустога меха вочы, спаў чарнявы здаравіла.

— Эй, таварыш! — адвёўшы нос, каб пазбыцца часнычна-самагоннага перагару, Мішка крануў храпуна за плячук, тузануў, але той не прачнуўся. — Гэта і быў той самы Фарзун.

Ляпнуўшы далонямі па клубах, Мішка рушыў да возера.

Парому на месцы не аказалася, відаць, адагналі на востраў. Але затое поруч гойдалася, прывязаная вяроўчынай да кала, лодка-душагубка. Давялося вярнуцца ў двор, зазірнуць у пошуках вёслаў у хлеў і адрыну. Не знайшоўшы нічога лепшага, Мішка прыхапіў старую, пацямнелую ад часу лапату: тую самую, якой бабы садзяць ў печ караваі. А ля самага берагу знайшоўся даўжэзны, адшараваны далонямі прыс.

Калі ён, стоячы ў лодцы, адпіхнуўся ад берагу, душагубка небясьпечна зыбанулася, чарпанула вады і далей ён ужо кіраваў лодкай упрысядкі, тыцкаючы прыс у глеістае дно.

Востраў уражваў сваёй пустэльнасьцю, але пяшчаны бераг — гэты было бачна яшчэ здалёк — быў здратаваны авечымі капытамі. Хвілін празь дзесяць лодка тыцнулася носам у прыбярэжную асаку, шоргнула дном па жвіры і Мішка, скокнуўшы ў ваду, падцягнуў яе бліжэй да берагу. Наўкол было ціха. Нават азёрныя кагаркі, якія ўсю дарогу да вострава сіпла крахталі над галавой, суняліся. Цяпер яны паселі ля прыбярэжных кустоў і штосьці там зацята дзяўблі.

“Дзе ж статак?” — з разважлівай насьцярогай падумаў Мішка, ды тут жа адагнаў трывогу думкаю пра тое, што авечкі, хутчэй за ўсё, хаваюцца ад сьпёкі ў хвойніку.

Прыемна было ступіць голымі пяткамі па гарачым пяску, яшчэ прыемней было панурыць навярэджаныя ногі ў цёплую як той сырадой ваду. Скінуўшы паўкеды, штаны, кашулю Мішка зьбіраўся быў сігануць у празрыстую азёрную глыб, ды тут убачыў, як адна з кагарак, загарлаўшы, узьнялася ў паветра, несучы ў дзюбе нейкі сіняваты пухір.

Пазяхнуўшы, Мішка падышоў да кустоў і аслупянеў: у цяньку, напаказ сьцякаючы крывёю, ляжалі шызыя вантробы.

“Чалавечыя!” — працяла мазгі панічная думка, але, прыглядзеўшыся, Мішка перавёў дых; нейкі злодзей, магчыма, нават Фарзун, разабраў авечку ды кінуў вантробы азёрным кагаркам.

Зь перапуду закарцела адліць. Мішка стаў ля куста, зашамацеў напорлівым струмком і зьніякавеў. З-за алешыны, прама на яго, глядзелі бурштынавыя вочы вялізнага ваўка. Мішкава рэакцыя была дынамічнай. Не пасьпеўшы нават падцягнуць трусы, ён скокнуў убок, сігануў праз крапіву і ў наступнае імгненьне ўжо караскаўся, да крыві абдзіраючы лыткі і сьцёгны, на высокую асіну.

Узьбіўшыся мэтраў на пяць ад зямлі, ён аддыхаўся, зірнуў долу, а потым, абламаўшы галіну перад носам, агледзеў азярыну. Непадалёку — так прынамсі, падалося, — гайдалася на хвалях рыбацкая лодка.

— Людзі-і! А-аа!!! — загарлаў ён штомоцы, — Давай сюды, тут ваўкі-і!!!

Гарлаў ён доўга, сарваў голас, але рыбакі яго не пачулі. Затое пачулі авечкі, і хваёвы падлесак — яны й папраўдзе былі там — напоўніўся жаласьлівым бляяньнем.

Ваўка не было бачна. Ляжаў, відаць, пад кустом ды цікаваў, калі няпрошаны госьць зьлезе з дрэва. Праўда, астыўшы мазгамі, Мішка вырашыў, што воўк і сам яго напужаўся.

— Ня будзе сытая ваўчара кідацца на чалавека, — прашаптаў дзеля самазаспакаеньня небарака, і яшчэ падумаў, што дапамогі чакаць не даводзіцца і рана ці позна трэба будзе злазіць долу.

Асіна — дрэва крохкае, таму спускаўся, аберуч трымаючыся за стаўбур, бо галіны абломваліся, і толькі намацаўшы пяткай ніжні тоўсты сук, вырашыў крыху адпачыць. Ён пасьпеў уздыхнуць, але не пасьпеў выдыхнуць, бо сук надламіўся і Мішка, махнуўшы наастачу рукамі, абрынуў у парослыя

крапівою кусты. Спанталыжаны, з апечаным крапівою тварам, ён вылецеў з кустоў, сьпінай адчуўшы гарачы ваўчыны подых. Не разьбіраючы дарогі, Міхал Гардыка рынуў да лодкі, піхнуў душагубку ў ваду, і воўк, які бег сьледам, з адчаем забляяў. На беразе, убіўшыся па калена ў ваду, стаяў кудлаты маркач. Пыса ягоная была падзёртая, да рагоў пачапіўся хмель, а зь ніжняй губы зьвісала, кранаючыся вады, бліскучая асца.

— Пачакай, братка… не да цябе… — прасіпеў Мішка, увагнаў прыс у глей і той, высьлізнуўшы з рук, адразу ж аддаліўся, хістаючыся над вадою.

Мішка схапіў лапату, з адчайным імпэтам пагнаў душагубку да берагу. Ён не даваў спачыну цяглiцам (два грабкі леваруч, два грабкі праваруч) і толькі аднойчы, на сярэдзіне пратокі, кінуў грэбсьці і поўнай жменяй плюхнуў на твар гаючай вады.

Лодка, запаволіўшы бег, зашамацела па прыбярэжным трысьці, уваччу мітусіліся чорныя мятлікі і сэрца грукала ў вушах, заглушаючы ня толькі навакольныя зыкі, але й думкі. Мішка плюхнуўся на гарачы пясок, заплюшчыў вочы. Лёгкі ветрык крануўся скроні, сэрца паволі суціхла і ён пачуў, як у вышыні, па-варонінаму зычна, крыкнула кагарка; як пляснула буйная рыба на мелкаводзьдзі; як крахтанула дзікая качка ў чаратах, і сонца, калі ён разьмежыў павекі, чорнай плямай здрыганулася ў нябесным прыціне.

Фарзун па-ранейшаму спаў на калёсах, адно зьмяніўшы паставу. Цяпер левая нага была сагнутая ў калене, а правая зьвісала долу.

Трэба было ў нешта апрануцца, бо вопратка засталася на востраве. На вешаку ў Фарзуновай хаце знайшоў зрэбную кашулю, выцьвілыя да белаты спартовыя нагавіцы. Насунуў на сябе ўсё гэта зрэб’е, падаўся на двор і, падумаўшы, сьцягнуў з храпуна каравыя сандалеты.

Ён ужо гнаў ровар з гары, ды раптам загамаваў, заклапочана і разважліва пацёр угрэты лоб. Адказнаму райкамаўскаму работніку ехаць ва Ўсвай у такім выглядзе ніяк не выпадала. Дый Балабошка, відавочна, выхадным днём дома не сядзеў. Адзінае, адкуль можна было пазваніць, гэта пошта. Але ж ня

будзеш гарлаць пра ваўкоў у прысутнасьці чужых людзей. За ўцечку інфармацыі Антанюк можа і лупня даць. Адзінае выйсьце — ехаць у суседнюю Латвію. Пагатоў, да латыскага пасёлку Слабада, дзе яны з Балабошкам бралі гарэлку, нават бліжэй, чым да Ўсвая… Узьняўшы ўгору пярэдняе кола, Мішка павярнуў ровар у адваротны бок.

Дарога да Слабады, калі ехаць не гасьцінцам, а напрасткі, хаця й карацейшая, ды гіблая. Аж да самай латыскай мяжы — адны балоты, да таго ж пасечаныя мэліярацыйнымі канавамі. Так што давялося ня столькі ехаць, колькі прадзірацца скрозь кусты, цягнучы на плячы ўраз пацяжэлы ровар. І толькі ля самай мяжы выбіўся на гасьцінец, даў разгону, і з апалым сэрцам згадаў, што ня мае грошай. Яны засталіся ў штанах, якія вартаваў ненажэрны ваўчара.

“Раскажу ўсё як ёсьць… павінны дапамагчы… больш як на рубель не нагавару…” — з гэтымі думкамі, зыркнуўшы на дарожны паказальнік з надпісам “Slabada”, Мішка націснуў на понажы.

Між тым ненажэрны ваўчара і ня думаў вартаваць ягоныя порткі. Гэта быў мацёры воўк і, пабачыўшы чалавека, які пазначаў пад самым ягоным носам тэрыторыю, вомігам зразумеў, што неўзабаве на востраве зьявяцца людзі са стрэльбамі, і што трэба адсюль ліняць. Пра гэта, ваўчыным языком, ён і паведаміў сваім спакрэвічам. Праз паўгадзіны два ваўкі, укормленыя і пацяжэлыя, вытыркнуўшы з вады адны насы ды вушы, паплылі ў той бок, адкуль надоечы прыплылі. А маладзейшы яшчэ колькі часу стаяў на беразе, не разумеючы, чаму ён мусіць кідаць гэты ваўчыны рай, але, глянуўшы на вушы сябрукоў, што варушыліся сярод дробных хваляў, з неахвотаю, раз-пораз атрэсваючы пярэднія лапы, палез у ваду.

Хоць Мішка і ня ведаў латыскай мовы, ды ўбачыўшы шыльду “Pasta nodaļa”, выдыхнуў: — Тут, — і скочыў з ровару.

У невялічкім, прапахлым клеем і растопленым сургучом пакоі, сядзелі дзьве кабеты.

— Лабдзен! — выгукнуў Мішка, і адна з кабетаў — тая, што

сядзела пад партрэтам Карла Маркса, крутнула ключ шуфляды. — У шуфлядзе, відаць, ляжала дзённая выручка.

— Я вам зараз усё растлумачу, — запабежліва пралепятаў наведнік, не пазнаючы ўласнага голасу. — Рэч у тым, што гэта не мая вопратка... — Мішка кашлянуў, але голас стаў яшчэ больш сіплым, — … мая засталася на востраве…

Зразумеўшы, што перад імі не рабаўнік, а вар’ят, жанкі пераглянуліся.

— Разумееце, на мяне напалі ваўкі… — ужо без ранейшага імпэту прамовіў Мішка Гардыка, і кабеты, а разам зь імі і Карусь Маркс (а мо’ гэта толькі здалося), стрымана пасьміхнуліся.

Хвілін дзесяць наведнік распавядаў — хто ён такі, і што зь ім здарылася, пасьля чаго папрасіў злучыць яго з Верхнядрысай.

— Грошай, праўда, у мяне няма. Але я вам заўтра прывязу…

— Заўтра нядзеля, мы не працуем, — азвалася адна з паштарак. — Мы вас злучым, але папярэдне спытаем дазволу ў начальства. Калі ласка, пачакайце ў двары…

Чакаць давялося доўга. Мішка спачатку сядзеў на лаве, потым прайшоўся вакол пошты, нарэшце, уявіўшы, як ваўчара загрызае чарговую ахвяру, расчыніў дзьверы і прасіпеў ад парогу:

— Ну, што там начальства?

— Ужо едзе! — быў адказ.

І сапраўды, непадалёку заляскатаў матацыкл і да весьніц, узьняўшы пылюку, падкаціў міліцэйскі К-750. Сэрца Мішкава абарвалася.

Сівагаловы міліцыянт зьлез з матацыкла, абабіў ад пылу форменнае галіфэ.

— Вашы дакумэнты.

Мішка разьвёў рукамі, пачаў, ужо дарэшты асіплым голасам, тлумачыць сытуацыю. Пачуўшы, што перад ім адказны работнік Верхнядрысенскага райкаму, міліцыянт пакасіўся на

Мішкавы абутак, зь нетаропкай разважнасьцю прыпаліў папяросу.

— А ну… хто ў Верхнядрысе начальнік міліцыі? — міліцыянт з шумам выпусьціў дым.

— Як хто… Мандрык… Сьцяпан Пятровіч.

Міліцыянт адкінуў на патыліцу фуражку, выцер рукавом узмакрэлую лабаціну.

— Ну, а хто старшыня ўсвайскага калгасу?

— Балабошка… гэта ён і заваліў усю працу. Увосень на пэнсію выпраўляецца.

Вестка такая міліцыянта зьлёгку зьбянтэжыла. Ён крэкнуў, зьняў з галавы фуражку.

— Ну і сьпёка сёньня… Карацей, сядай на ровар і едзь за мной… што-небудзь прыдумаем.

Кабінэт участковага месьціўся ў двухпавярховай будыніне. Тут было прыцемна, прахладна і Мішка, сеўшы ў крэсла, адчуў страшэнную стому: балеў карак і ногі гулі як тэлеграфныя слупы. Міліцыянт доўга круціў тэлефонны дыск — тэлефанаваць давялося праз Рыгу, — суцішна мацюкаўся, нарэшце прасьвятлеў тварам і гучна выдыхнуў:

— Сьцяпан Пятровіч?! — трубка штосьці прабубніла ў адказ, а міліцыянт, пацёршы няголеную шчаку, з уздыхам прамовіў: — Ды якая там рыбалка… не да таго зараз… Слухай, тут да нас ваш чалавек завітаў… — міліцыянт прыціснуў далоньню слухаўку, таргануў галавой.

— Гардыка… Міхаіл Іванавіч, — падказаў Мішка, прыўзьняўшыся з крэсла.

— Гардыка Міхаіл… Дык вось, ён толькі што быў на востраве і ўзьбіўся там на ваўка. Так што бярыце стрэльбы, сабак, і тэрмінова выяжджайце на месца, — міліцыянт перакінуў трубку з аднаго вуха на другое. — Не, сам ён нічога сказаць ня можа… сарваў голас.

Яшчэ пару хвілін міліцыянт гаманіў па тэлефоне,

дамаўляўся наконт рыбалкі, і Мішка, выцягнуўшы стамлёныя ногі, адчайдушна пазяхнуў.

Калі ён пад’ехаў да возера, сонца ўжо кацілася за небакрай і ад прыбярэжных кустоў на ваду леглі фіялетавыя цені.

Ля Фарзуновай хаты стаялі два “ўазікі”, а ля самага берагу завіхаліся нейкія людзі, напампоўваючы аўтамабільнай помпай гумовую лодку. Поруч, на траве, ляжалі дзьве дубальтоўкі, а вакол іх бегала, прыязна махаючы хвастом, вялізная аўчарка.

— Ды няма там ніякіх ваўкоў. Пальма іх за пяць кілямэтраў чуе. Калі б што — брахала б як апантаная, — Мішка пазнаў па голасе начальніка раённага аддзелу міліцыі Мандрыка.

Мішка спусьціўся да берага, падаў Мандрыку руку. Галоўны раённы міліцыянт быў пад хмяльком і не ў гуморы.

— Гэта што, латышы цябе так апранулі? — запытаўся Мандрык, і Мішка, кіўнуўшы ў бок вострава, сіпла працадзіў:

— Апранаху маю забярыце. На беразе ляжыць.

Мішка пайшоў да свайго ровару, падагнаў яго да “ўазіка”.

— Ну як там, у Латвіі, парадак? — гукнуў у сьпіну начальнік міліцыі.

— Парадак! Нездарма ўсе браканьеры да нас едуць.

Словы такія Мандрыку не спадабаліся. Міліцыянт штосьці буркнуў у адказ — Мішка пачуў толькі словы “маладыя яшчэ… старых павучаць”, — а потым незадаволена крыкнуў:

— Ну што вы, бляха, цялёпкаецеся?! Лодку напампаваць ня можаце?

Сонца ўжо ня грэла і Мішку страсянулі дрыжыкі. Прыхінуўшы ровар да машыны, ён залез у кабіну, падкурчыў ногі, лёг на праседжанае сядзеньне.

“Зараз страляць пачнуць”, — адно й пасьпеў падумаць, перш чым правалiцца ў трывожны сон. Перад вачамі пабеглі ўсплёскі вады — леваруч, праваруч, — і па неспакойнай вадзе зашнуравалі цені імклівых кагарак…

— Ну што, праспаўся? Камбікорма шмат прапіў? — рэзкі

Мандрыкавы голас на імгненьне вырваў са сну. “Фарзуна ўшчувае”, — скрозь сон падумаў Мішка. Тым часам ён ужо ня плыў, а ішоў да выспы напрасткі, пры гэтым вада не даставала каленяў. Пад нагамі срэбнай луской бліскала рыба, пяшчотна краналася лытак, белыя кагаркі чыркалі крыламі па хвалях, а на востраве, па грудзіну ўбіўшыся ў ваду, яго чакаў кудлаты маркач. “Нарабілі бяды, падлюгі!” — крыкнуў маркач, і Мішка ізноў прачнуўся.

Нехта плыў на лодцы, крычаў здаля:

— Хлопцы яшчэ лічаць, але, думаю, галоў пяць-шэсьць зарэзалі!

— Дык можа гэта не ваўкі?

— Ваўкі… іхных сьлядоў поўна.

Мішка падняўся, правёў далоньню па прыспаным, прыпухлым ад крапівы твары і з радасьцю падумаў, што заўтра нядзеля і можна будзе дасхочу выспацца.

Ад самага ранку Івану Андрэевічу патэлефанавалі з вобласьці. Зычнагалосая Бацькава сакратарка, павітаўшыся, загадала адразу ж па абедзе прыехаць у абкам партыі.

— Калі, заўтра? — перапытаў першы сакратар.

— Сёньня! Андрэй Пятровіч прыме вас а трэцяй гадзіне.

— А па якім пытаньні? — спытаў быў Іван Андрэевіч, але тут жа, сумеўшыся, выдыхнуў: — Буду! — У размовах з абкамаўскімі сакратаркамі ня варта было задаваць лішніх пытаньняў.

Тэрміновы выклік у абкам усхваляваў Івана Андрэевіча. Халера яго ведае, дзеля чаго выклікаюць. Можа хто ананімку настрачыў? Апошнім часам разьвялося пісакаў. Сашчапіўшы рукі за патыліцай, Іван Андрэевіч задзёр галаву да столі.

“Можа Пецьку Халімону патэлефанаваць?” — апанаваны невясёлымі думкамі, Іван Андрэевіч пацягнуўся да тэлефону, зьняў трубку і доўга слухаў натужлівае гудзеньне.

Пецька хоць і сядзеў у Разьдзярышчы, але быў абазна-

ны ва ўсіх абкамаўскіх закалотах. Хадзілі нават чуткі, што ён інфармаваў Бацьку аб настроях у партыйным асяродку. Пачухаўшы пальцам сівую скронь, Іван Андрэевіч перадумаў тэлефанаваць, кінуў гудзёлку на вагар.

У разьлеглай прымальні было поўна народу: сабраліся, відаць, на нейкую нараду. Іван Андрэевіч падумаў ужо, што рушыць у кабінэт разам з усімі, але Бацькава сакратарка — вабная саракоўка ў дэкальтаванай сукенцы — акінула яго прыязным позіркам і стоена прашаптала:

— Заходзьце, вас чакаюць.

Бацька сядзеў за сталом, штосьці пісаў, а пабачыўшы наведніка, моўчкі кіўнуў на крэсла. Паставіўшы кропку, першы сакратар парукаўся з падначаленым.

— Чаму рукі халодныя? — запытаўся Бацька і падначалены, ня ведаючы, што адказаць, разгублена пасьміхнуўся.

Андрэй Пятровіч Дзяшчэня быў кіраўніком новай фармацыі, а таму любіў людзей самастойных, ініцыятыўных і, галоўнае, здольных да рызыкі. Сярод такіх і шукаў сабе хаўрусьнікаў. Ініцыятыва з адкормам статку на закінутым востраве, зь якой выступіў Верхнядрысенскі райкам, пераканала абласнога кіраўніка, што Антанюк — чалавек, на якога можна пакласьціся. Да таго ж, ён ужо ня першы год прыглядаўся да падначаленага. Антанюк умеў трымаць язык за зубамі, і ўадначас дакладна і без пярэчаньняў выконваў загады. І вось цяпер, пазіраючы на скурчаную постаць падначаленага, Андрэй Пятровіч міжволі падумаў: “Ці не памыляюся?”

Гаспадар кабінэту падняўся на ногі, прайшоўся ўздоўж даўжэзнага, засланага зялёным абрусам стала.

— Ну, распавядай… як справы? Ваўкі больш не дакучаюць?

Падначалены сьцепануўся, а Андрэй Пятровіч, пасьміхнуўшыся, паляпаў таго па плячы.

— Усё, братка, ведаю. Думаеш, я тут сяджу ды мух лаўлю? Эх, Ваня-а… ад Бацькі не схаваесься.

Андрэй Пятровіч кіўнуў на партрэт, што вісеў на сьцяне.

— Нас Ленін як вучыў? Мацаваць кіраўніцтва нераўнадушнымі, адданымі справе людзьмі. І рашуча вызваляцца, ад тых, хто не адпавядае такім крытэрам… — Дагэтуль Бацька гаманіў бадзёра і весела, ды нечакана надаў голасу сур’ёзныя ноткі: — Вы з Халімонам, здаецца, сябрукі?

— Ды так, працавалі разам у камсамоле, — голас у Івана Андрэевіча перасеў, як у таго Мішкі Гардыкі, і ён стрымана кашлянуў у жменю.

Шэф разважлівай хадою рушыў да стала і сэрца падначаленага замірала ад страху перад кожным новым крокам.

— Карацей, Халімона ў Цэка забіраюць, будзе на ідэалягічнай ніве завіхацца…

— А каго ў Разьдзярышча? — зь нечаканай для сябе сьмеласьцю запытаў Іван Андрэевіч.

— Казьленю, — з хітрынкай уваччу адказаў шэф, задаволена пацёршы далоні, — атрымаў страгача — хай цяпер пакіруе адсталым раёнам.

“Зьвярнуў Казьленя лыч”, — згадаліся Івану Андрэевічу Халімонавы словы. Ён з захапленьнем, і ў той жа час з прытоенай асьцярогай зірнуў на Бацьку.

— На вызваленую пасаду старшыні аблвыканкаму камітэт партыі рэкамэндуе… — Бацька сеў у крэсла, разгарнуў чырвоную тэчку, што ляжала на стале… — рэкамэндуе… — Бацькава вока гарэзьліва бліснула, — таварыша Антанюка… Івана Андрэевіча.

Пасьля такіх словаў Іван Андрэевіч адчуў, што яму не хапае паветра.

— Згоды тваёй пытацца ня буду, пагатоў, ёсьць партыйная дысцыпліна. Ну а на тваё месца, думаю, пасадзім… гэтага… рыжага…

— Гардыку? — пралепятаў Іван Андрэевіч.

— А што, ёсьць нейкія сумневы?

— Ды малады яшчэ… ні досьведу, ні саліднасьці… Два

гады галоўным заатэхнікам працаваў, ды год у райкаме…

— Мне на месцах патрэбныя не салідныя перадпэнсійныя тузы, а маладыя адміністрацыйныя шасьцёркі. Тыя, што зямлю грызуць, ночы ня сьпяць, а справу робяць. Гэта ж ён там, голы, ваўкоў ганяў? Так што ідзі, падумай над маёй прапановай, а ў сераду разам паедзем у Цэка.

Прыгаломшаны, Іван Андрэевіч спусьціўся ў буфэт, замовіў шклянку гарбаты. “Пажадана армянскай, і з цытрынай”, — аднымі вачамі паведаміў ён кельнэрцы.

У буфэце было толькі тры наведнікі: нейкая кабета з пышнай “райкамаўскай” фрызурай піла каву за дальнім сталом, а ля ўваходу стаялі, зыркаючы на кельнэрку, два каротка стрыжаных ёлупні са службы бацькавай аховы. Уваходзячы ў буфэт, Іван Андрэевіч кіўнуў ім, але тыя не адказалі.

“Нічога, дармаеды, хутка пачнеце паважаць старэйшых”, — у думках прамовіў Іван Андрэевіч, і згадаў учарашнюю размову са Сьцёпкам Мандрыкам. Начальнік міліцыі чарговым разам наракаў на Гардыку. Лезе, маўляў, не ў свае справы. Учора ён Мандрыку нічога не сказаў. А вось заўтра параіць: пры сустрэчы з Міхалам Ільлічом Гардыкам прыкладаць далонь да брылька і пераходзіць на парадны крок. І пажадана з зухаватай гіморай на твары. Іван Андрэевіч, як гэта ён любіў рабіць часінай душэўнага натхненьня, ускудлаціў валасы на скронях. Натхняцца было з чаго: дзесяць гадоў адседзеў у праклятушчай Верхнядрысе, думаў, там і памрэ, а тут такі паварот лёсу!

“Ну і Халімо-он… нездарма яго называюць Бацькавым шпегам. Высачыў-такі Казьленю! Можа і фотаздымкі зрабіў для партыйнага кантролю, — Іван Андрэевіч нават уявіў здымачак: голы Казьленя ляжыць на дырэктарцы вечаровай школы, — дый раманаўскія авечкі прыдаліся ў жылу! Не-э, нездарма ангельцы паважаюць гэтую глумную жывёліну. Калі б не яна, тая ж Брытанія ніколі б ня стала вялікай дзяржавай”.

Кельнэрка прынесла каньяк і Йван Андрэевіч гарэзьліва схапіў дзяўчыну за руку.

— Ведаеце, прыгажуня, хто сядзіць на мяху авечай воўны?

— Старшыня палаты лордаў, — адказала дзяўчына.

Іван Андрэевіч шчыра зьдзівіўся: простая кельнэрка, а ведае такія рэчы.

— А вас што, пераводзяць на працу ў Вялікую Брытанію?

— Пераводзяць, але крыху бліжэй, — адказаў наведнік і з асалодай, не варушачы коўцікам, уліў у рот пякучы трунак.

# НА ДНЕ

*Апавяданьне*

— Ну... мы пойдзем?!

Галасы прагучалі глуха, няпэўна, няўцямна і Русін, махнуўшы рукой, зморана выдыхнуў:

— Ідзіце...

Хлопцы — сёньня займалася старэйшая група — заляпалі босымі нагамі па мокрай падлозе, груквулі дзьвярыма, з высокай столі ўпала, зычна ціўкнуўшы ў вадзе, самотная кропля і вушы заклала непрытомная ціша.

Русін зьмежыў павекі. Хваравітая замарач зрабіла цела лёгкім, нават бязважкім, сэрца пакінула біцца і ўваччу шарай патарочай паўстала піраміда Куікуілька. Піраміда — аж да самага вяршка — была ахутаная смугою. Густая, падфарбаваная вечаровай барвай смуга вісела над горадам, засьціла перасьпелае сонца, рабіла нябачнымі высозныя гмахі Тлальпану; паветра таксама было густым і, удыхнуўшы яго на поўную грудзіну, Русін стоена пасьміхнуўся.

Дзіўна, але кожнага разу, калі Русіна апаноўвала хваравітая стома і ён ляжаў, нерухомы, на мулкай лаве, яму мроіўся вечаровы Мэхіка. І ўваччу — дарэшты выяўна — паўставалі старажытная піраміда Куікуілька, што месьцілася ў кілямэтры ад Алімпійскай вёскі, стромкія, падобныя на зубы гіганцкага грабянца калюмны стадыёна “Ацтэка”, небасягі на далёкім даляглядзе й кранутыя згасальным мэксыканскім сонцам ды чарнаморскім загарам твар баўгаркі Ангелушы, да якой ён спрабаваў смаліць халяўкі, але тая аддала перавагу французскаму рапірысту. А яшчэ мроіўся фінальны матч зь югаславамі: нападнік супернікаў Мештравіч, якога ён апекаваў, вылятаў па самыя сьцёгны з вады, штосьці гарлаў па-свойму, з адчайным замахам закідваў мячык у іхныя вароты і скрозь лямант

трыбунаў Русіну чуліся панічныя трэнэрскія мацюгі. Вось і цяпер яму прымроіўся залатаскуры Мештравіч, але гэтым разам супернік ня вылецеў з вады, як рабіў дагэтуль, а наадварот — даў глыбокага нырца ды неўпрыкмет убрыкнуў яго пяткай у пахвіну. Русін перакрывіўся ад болю, пашукаў вачыма судзьдзю, а потым, ачуўшыся, доўга лашчыў далонямі ніз жывата: не даваў спакою застарэлы прастатыт.

Здароўе Русінскае апошнім часам боўталася на тонкай нітцы. Усё часьцей і часьцей душу й цела апаноўвала хваравітая стома, ногі рабіліся кісельнымі, кружылася галава і тады ён валіўся на тахту — калі стома засьпявала яго дома, ці на мокрую лаўку, калі замарач падступала ў басэйне; ляжаў, спавіты цяжкой дрымотай, паўгадзіны, а мо й болей, і абуджаўся з халодна-абамлелым сэрцам і з тупой шчымотай у патыліцы.

... Дзесьці непадалёку — колькі разоў запар — чхнулі, потым мацюкнуліся, гулкае рэха паўтарыла вясёлыя зыкі і Русін падняўся з лавы.

Два распараныя бамбізы, абматаўшы прасьцінамі шырокія, па-бабску пукатыя клубы, выйшлі з басэйнавай саўны, прысмакталіся да бутэлечных рыльцаў, разам выдыхнулі: “Ой, бля-а...”, і Русін, прылашчыўшы рукамі гарачую лысіну, імклівай ластаўкай нырцануў у басэйн.

У саўне, што працавала пры басэйне, штовечару парыліся валютчыкі ды базарныя рэкеціры. Русін не любіў гэтай публікі і кожнага ранку, вылоўліваючы з вады пустыя піўныя пляшкі ды недапалкі, цяжка ўздыхаў і, не саромячыся сваіх гадунцоў — ад раньня ў вадзе плюхалася малодшая група, — гучна лаяўся.

Русін прайшоўся імклівым брасам, пырхнуў носам і пачуў сіпаты голас:

— Гэй, лысы, плыві сюдой! Півам пачастуем.

Піва Русін ня піў, а таму нікуды не паплыў — ухапіўся за канат, з агіднай усьмешкай зірнуў на бамбізаў.

— Пэнсіянэр, а плаваеш як Іхціяндар, — паведаміў сіпаты

бамбіза; сіпаты прыклаўся да піва і смактаў датуль, пакуль яно ня выбухнула ўнутры бутэлькі белымі хлапякамі.

— Яшчэ год да пэнсіі, — незадаволена буркнуў Русін, даўшы нырца пад канат.

— Ты што... зэмээс па плаваньні? — азваўся, прычым бяз ценю іроніі, другі пузан.

— Міжнароднай клясы... і не па плаваньні, а па ватэрполе, — Русін распластаўся на вадзе, прытоена і ў той жа час выразна дадаў: — На Алімпіядзе ў Мэхіка за зборную выступаў.

Суразмоўнікі паглядзелі на ўдзельніка Алімпіяды зь непрыхаванай цікаўнасьцю.

— І якое месца занялі?

— У фінале «югам» прайгралі, — Русін з адчаем удыхнуў паветра, крыкнуў штосьці неразборлівае і паплыў пад вадой, скалыхнуўшы пробкавыя канаты на цёмна-маляхітавай вадзе. Ля лесьвіцы, намацаўшы рукою асьлізлы поручань, ён шумна ўсплыў.

— Японкі... што жэмчуг ловяць... па пяць хвілін на дне сядзяць... — даляцелі да вушэй прыглушаныя гулкім рэхам і біцьцём уласнага сэрца галасы; перамаўляючыся адно з другім, бамбізы ішлі ў ягоны бок.

Сіпун адрыгнуў піўным духам, закінуў, па прыкладу рымскіх патрыцыяў, прасьціну на левы плячук: — Гэй, а табе, алімпіец, пяць хвілін пад вадой — слабо?

Русін нічога не адказаў.

— Ну, а хаця б дзьве хвіліны... — сіпаты падышоў да лесьвіцы, адкаркаваў чарговую пляшку і бляшаны корак зычна ляснуўся па кафэльнай падлозе, — сядзіш дзьве хвіліны — і маеш дваццаць даляраў.

Русін стоена азірнуўся. “Куплю красоўкі... са старых палец лезе... А можа штаны спраўлю...”

Бамбіза паставіў ля ног недапітую пляшку, запытальна тузануў падбародзьдзем.

— Сэкундамер... на лаўцы ляжыць, — прамармытаў Русін і роспачна, да цямноцьця ўваччу, удыхнуў паветра.

... Мэтровая тоўшча вады амаль не прапускала сьвятла: там, над галавой, калыхаўся прывідны помрак і варушыліся дзьве размытыя цені. Трымаючыся за лесьвічную білу, Русін перабіраў нагамі, лічыў сэкунды. Далічыўшы да трыццаці, зьбіўся, памкнуўся рвануцца ўгору, але прыкусіў язык і пачаў лічыць ад пачатку. "Раздватрычатарыпяць..." Сэрца гучна затахкала, цені над галавою гайдануліся і ўваччу паўстала Ангелуша. Масажыстка баўгарскіх гімнастак выбегла з пакою, дзе жылі французскія спартоўцы, і хуценька — Русін бачыў гэта — піхнула ў сумачку дваццаць даляраў...

— Тры хвіліны сядзіць, — прашаптаў сіпун, нахіліўшыся да вады, а ягоны напарнік спалохана гракнуў: — Глянь, у яго ўжо лысіна пазелянела!

Апошнім высілкам, ужо непрытомны, Русін стаў перабіраць рукамі лесьвічныя прыступкі і на голаў яму абрынула штосьці важкае і брыклівае — гэта сіпун кінуўся на дапамогу.

— Да мяне... йоп... за нагу трымаю... — гукнуў сіпун, ляснуўшыся патыліцай аб лесьвічную білу. Ягоны сябрук, які таксама бухнуўся ў ваду, даў нырца, заехаў сіпатаму каленам у лабешнік і неўзабаве ўсплыў з галавой, шчыльна спавітай мокрай прасьцінай.

— Цягні, блядзь! — у сіпуна прарэзаўся голас і прагучаў пранізьліва і чыста.

Начабохтаўшыся ўсмак, бамбізы выцягнулі Русіна з вады — цягнулі за ногі, долу галавой, — кульнулі на жывот, і калі небарака пачаў ванітаваць, зморана выдыхнулі: — Жывы! — Потым, сьвецячы голымі дупамі, пабеглі ў саўну і адзін зь іх дакорліва выгукнуў сябру: — Жартун х...ў.

Празь імгненьне той, каго так назвалі — ужо ў штанах і ў чаравіках на босую нагу, — падбег да Русіна, адцягнуў ад лужыны ванітаў, спрытным рухам прыляпіў да мокрай Русінскай

лыткі дваццацідаляравую паперку. Неўзабаве паперка падсохла, адвалілася ад лыткі і яе забрала прыбіральшчыца. Піхнуўшы грошы за станік, жанчына пужліва агледзелася, паляпала далоньню па сініх Русінскіх лытках і са здушаным лямантам кінулася выклікаць “хуткую дапамогу”.

# ІДУ НА ТАРАН!

*Амаль што дакумэнтальны аповед*

На трэція суткі палёту ў небе зьявіліся аблокі. Бухматыя, крутабокія, яны нагадвалі сонных мядзьведзяў, і карантышкі, пазіраючы на іх, міжволі сьцепаналіся, прагна глыталі халоднае паветра і пераводзілі дых, не раўнуючы, як пасьля доўгай беганіны. Белыя аграмады праплывалі міма - непадалёку ад шара, - і аднаго разу зямля зьнікла зь відавоку і навакольле панурылася ў шэры і волкі ці то дым, ці то туман.

— Што гэта? - закрычалі ўсе. - Адкуль гэты дым?

— Гэта ня дым, - адказаў Знайка, - гэта воблака. Мы падняліся да аблокаў і зараз ляцім у аблачыне.

— Ну ты прыдумаў, - выгукнуў Нязнайка. - Воблака - яно вадкае, як жур, а гэта нейкі туман.

— А з чаго, ты думаеш, зроблена воблака? - запытаўся Знайка. - З таго ж самага туману. Гэта толькі здаецца, што яно шчыльнае.

Знайка прыкусіў верхнюю губу, сеў на лаўку і, дастаўшы з пляншэту мапу, расклаў яе на каленях.

Карантышкі з дакорам паглядзелі на Нязнайку, а потым - з надзеяй у вачох - на свайго камандзіра.

— Нас увесь час нясе на паўночны ўсход, - прамармытаў Знайка; у гэты момант шар вырваўся з аблачыны і сонца вясёлкава зайграла на шкельцах знайкавых акуляраў.

Карантышкі ўважліва сачылі за камандзірам і калі той пачаў раптам ліхаманкава папраўляць шкельцы на носе, зразумелі, што здарылася штосьці непапраўнае. Хвіліну Знайка сядзеў нерухома, а потым, пашнарыўшы рукою пад лаўкай, роспачна прасіпеў:

— Ратуймася, хлопцы! Нас нясе на Беларусь!

Праз імгненьне ён выцягнуў з-пад лаўкі парашут і, насунуўшы на плечы сырамятныя лямкі, выгукнуў:

— Скачам па чарзе... Усе за мной! Пайшлі!

Знайка скочыў першым. За ім пайшоў Тарапыжка, але тут надарылася неспадзеўка. Замест таго, каб скокнуць, а потым раскрыць парашут, Тарапыжка спачатку раскрыў парашут, а потым скокнуў і ў выніку той зачапіўся за край каша. Тарапыжка заблытаўся ў стропах, павіс дагары нагамі.

— Браткі! - закрычаў доктар Пілюлькін. - Калі парашут адчэпіцца, Тарапыжка грымнецца галавой аб зямлю.

Карантышкі ўчапіліся рукамі за парашут, уцягнулі Тарапыжку назад у кош і ў гэты самы момант Нязнайка, які не чытаў газэт і ніколі ня чуў пра Беларусь, загарлаў:

— Стойце! Нікому больш скакаць ня трэба!

— А што Знайка будзе бяз нас рабіць? - запытаўся ў сваю чаргу Пончык. Стаўшы каленямі на лаўку, Пончык зьвесіў долу кучаравую галаву.

Усе, хто быў у кашы, таксама зьвесілі галовы, назіраючы за белым дзьмухаўцом знайкавага парашута. Нават сабачка Булька, які дагэтуль увесь час сядзеў у куце, ускочыў на лаву і, убіўшыся паміж гаспадаром - паляўнічым Пулькам - і Нязнайкам, глянуў на зямлю. Булька акінуў уважлівым поглядам навакольле, патрабавальна нюхнуў паветра, а потым, адчуўшы ва ўсім гэтым штосьці нядобрае, голасна заскавытаў. Ад гэтых зыкаў у Нязнайкі заварушыліся валасы на галаве, капялюш наехаў на патыліцу й давялося хапаць яго абедзьвюма рукамі і зь сілаю насоўваць на самыя бровы.

## I

Палкоўнік Бурзачыла стаяў ля вакна і, упіхнуўшы рукі ў кішэні форменных штаноў, задуменна перабіраў ядры. Краявід за вакном лашчыў вока: неба было пазначанае ранішняй ружавізною, па небу плылі лёгкія аблачынкі, а ля самай шыбы гайдалася квітучая галінка вішні, на якой шумліва завіхаліся маладыя вераб'і. Гледзячы на ўсё гэта, які-небудзь японскі сузіральнік відочна стоіў бы дых і, зачараваны, пачаў бы дэкламаваць вершы Такасі Нагацукі ці Акіка Ёсаны, але палкоўнік

быў не японскім сузіральнікам, а штабным афіцэрам, а таму глядзеў не на ўвішных вераб'ёў і не на ружовыя аблокі, а на буфэтчыцу Тосю, што стаяла на доле й лічыла скрынкі, якія выгружалі з машыны два дарэшты схуднелых шарагоўцы.

Порсткі ветрык даймаў карацельку-спадніцу, агаляў белыя сьцёгны, з кожным парывам ветру палкоўнік хістаўся, налягаючы на пяткі, і хромавыя палкоўніцкія боты поўнілі кабінэт прыемным рыпам.

І вось, калі шарагоўцы зьнялі з кодабу апошнюю скрыню, гарэза-ветрык задзёр караценькую спадніцу да самых да зялёных трусікаў, палкоўнік хістнуўся зь небясьпечнай для сябе амплітудай, і боты рыпнулі з такой рашучасьцю, зь якой здольныя рыпець толькі боты кадравых штабных афіцэраў. Палкоўнік усьміхнуўся, падцягнуў матню форменных штаноў і ў гэты момант за сьпінай ягонай азваўся тэлефон апэратыўнай сувязі. Юрлівыя крозы выпетрыліся з галавы, палкоўнік счакаў хвіліну, у спадзеўцы, што тэлефон аціхне, але той не аціхаў, і таму давялося ісьці да апарата.

Тэлефанавалі аднекуль здалёк: у слухаўцы спачатку штосьці рыпала, потым узбуджана вохкала, потым задаволена аддзімалася і, нарэшце, у тэлефонных глыбінях узьнік залівісты голас нейкага маладзёна.

— Таварыш палкоўнік... Дакладвае лейтэнант Пашкоў...

— Ну, што там у вас, - палкоўнік прыціснуў слухаўку да вуха, але на другім канцы провада ізноў узбуджана завохкалі, нейкая кабета - відаць, тэлефаністка - рашуча загадала: - Канчайце! - і толькі пасьля гэтага залівісты лейтэнантавы голас скалануў мэмбрану:

— Засеклі... Ляціць на паўночны ўсход...

— Хто ляціць!? Каго засеклі!? - выдыхнуў палкоўнік, праводзячы рукой ніжэй сьпіны.

— Аб'ект... Шар дыямэтрам тры мэтры. Вышыня тысяча васемсот. Хуткасьць адзін мэтр у хвілю...

— Каардынаты! - гукнуў палкоўнік, ікнуўшы на апошняй літары «а».

— Квадрат 3-62... - лейтэнант хацеў сказаць яшчэ нешта, але ў тэлефоне чарговым разам штосьці загуло і нейкая кабета, дыхнуўшы ў слухаўку, летуценна запыталася: - Ты часнык пасадзіла?

Палкоўнік канчаткова страціў раўнавагу. Ён удыхнуў паветра, зьбіраючыся годна адказаць на такое пытаньне, але не пасьпеў: лейтэнантавы голас зноў казытнуў сапрэлае вуха.

— Там у яго штосьці боўтаецца...

— У каго? - перапытаў палкоўнік, хапаючыся за матню.

— У шара...

— Можа, радыёзонд? - нясьмела запытаўся палкоўнік пасьля хвіліны маўчаньня.

— Ды не, на зонд не падобна, - адказаў лейтэнант, і ўсё тая ж кабета - гэтым разам керхануўшы ў трубку - з крыўдаю ў голасе паведаміла: - Майго ж учора прынесьлі... і штаны паабссываныя.

— Йоп... Лейтэнант! Ты адкуль звоніш? - гракнуў палкоўнік ужо зусім вар'яцкім голасам.

— Ды тут... з сельсавета, таварыш палкоўнік. Наша станцыя ляснулася. Хтосьці скраў медныя кантакты... - сказаўшы так, лейтэнант уздыхнуў, і слухаўка азвалася кароткімі гудкамі.

Хвіліну-другую палкоўнік усьвядомліваў пачутае, задуменна чухаючы слухаўкай за вухам, а потым, кінуўшы гудзёлку на вагар, спружыністай хадой падышоў да мапы. Закарузлы палец тыцнуўся ў населены пункт Гракаў, папоўз угору, потым долу і, нарэшце, засяродзіўся на квадраце 3-62.

— Адзін мэтр у хвілю... Тры з паловаю кэмэ ў гадзіну... - прамармытаў палкоўнік, палец ягоны нэрвова папоўз на паўночны ўсход, а наехаўшы на чырвоны трохкутнік з надпісам «Казловічы», міжволі здрыгануўся: праз тры, максымум чатыры гадзіны паветраны балён, пра які паведаміў лейтэнант, павінен быў праляцець над «Казловічамі» - звышсакрэтнай базай паветрана-касьмічных сіл.

— Што ж там, бляха, ляціць? - уголас запытаўся палкоўнік, дастаючы з кішэні штаноў зашмальцаваную насоўку. Выцершы потную лабаціну, палкоўнік супакоіў сябе на думцы, што гэта ўсё ж такі радыёзонд і нават з палёгкаю аддзьмухнуўся, але, пахадзіўшы вакол стала, ізноў задумаўся і скасіў вока на тэлефон з надпісам «Масква» на маціцовым дыску. «А можа, гэта праверка? Запусьцілі пузыр з фотакамэрай... Здымуць тыя ж «Казловічы», а потым пачнуць... здымкамі пад носам трэсьці. Ад маскоўскіх падлюк можна ўсяго чакаць...» - з гэтымі думкамі палкоўнік падняў слухаўку і з сардэчным клёкатам у горле перавёў дых.

Масква не прымусіла доўга чакаць і адгукнулася барытоніста і непракерхана:

— Прапаршчык Сапрыкін слухае.

— Гэта зь Беларускай акругі турбуюць... Палкоўнік Бурзачыла. Зьвяжыце мяне, калі ласка, з генэрал-маёрам Затуліным, - пралепятаў палкоўнік, утаймоўваючы прыкрую дрыготку ў голасе.

— Генэрал у камандзіроўцы, - адказаў прапаршчык і адкерхаўся.

— Мы тут аб’ект засеклі... Шар дыямэтрам тры мэтры, - пачаў быў палкоўнік, але прапаршчык зноўку пачаў керхаць, а потым злавесным голасам загадаў:

— Дзейнічайце згодна інструкцыі. Праз гадзіну дакладзяце абстаноўку.

— Слухаюся, таварыш прапаршчык! - гукнуў палкоўнік, канчаткова зразумеўшы, што пузыр над «Казловічамі» - гэта затулінскія штукі.

Вядомы авантурыст Шцірліц, як сьведчаць паказкі, у хвіліны непакою меў звычку поркацца ў штанах, мацаў пры гэтым набрынялыя ад шматгадовага ўстрыманьня ядры і, казелячы вокам на Леаніда Бранявога, з халоднай разважнасьцю прамаўляў:

— А гэта канец...

Пасьля размовы з прапаршчыкам палкоўніка Бурзачылу таксама апанаваў непакой. Ён піхнуў рукі ў кішэні штаноў, крутнуў, па прыкладу штандартэнфюрэра левую ядрыну, спрабуючы такім чынам настроіць мазгі на працоўны лад, але мазгі канчаткова растапіліся, ніякіх канструктыўных ідэй у іх не нараджалася, і палкоўнік, прамовіўшы штосьці дарэшты пэсымістычнае й сугучнае слову «канец», плюхнуўся ў крэсла.

Сытуацыя вымалёўвалася - горай не прыдумаеш. Баявая авіяцыя стаяла ў ангарах бяз паліва - акурат на мінулым тыдні ўвесь яе аварыйны запас - чатырнаццаць бэнзавозаў - загналі лабусам; мабільныя зэніткі яшчэ ў 1991 годзе прадалі армянам, а ўсе шрубалёты ад нядаўніх часін перайшлі на балянс Адміністрацыі і за іхнюю арэнду трэба было выкладваць шалёныя грошы.

Зрэшты, пра тое, што бэнзавозы пайшлі ў Жамойць, ведалі, апроч яго, яшчэ два чалавекі: міністр абароны ды маёр Кукарэка з ваенна-паветранай базы ў Мачульніках. Тавар яны здалі са спакойнай душой: у сераду павінны былі прыйсьці эшалёны з авіяцыйнай газай. Фірма «Хрэнойл» набыла дзеля свайго офіса будынак штабу Чырванасьцяжнай ваеннай акругі і цяпер разьлічвалася натурай. У войску, вядома ж, кралі і не такое. І кожны раз усё ішло ціха-ціхенька. І раптам гэты званок...

«Зьядуць і не падавяцца. Спачатку шэфа, а потым нас з Кукарэкам», - падумаў той хвіляй палкоўнік, пацёр далоньню драбы, расьціраючы казытлівыя кроплі поту і ў душы пажадаў генэралу Затуліну ды ягонаму швагру - старлею Підуце, які служыў у іхнай акрузе і мерыўся заняць міністэрскае крэсла, - падавіцца хаця б адной сваёй рабрынай.

Хвілін пятнаццаць, а мо й болей палкоўнік сядзеў, раскінуўшыся ў крэсьле, ачмурэла пазіраў наківач старога гадзіньніка, што стаяў у супрацьлеглым куце кабінэту й ачуўся толькі тады, калі ўнутры масіўнай шафы штосьці рыпнула, а потым гучна бомкнула. Гадзіньнік пачаў адбіваць час: з кожным новым ударам палкоўніцкая галава пудліва ўбівалася ў плечы, пасьля восьмага ўдару ўбілася па самыя вушы, а раз-

ам зь дзявятым ударам дзьверы кабінэту расчыніліся і ў пройме дзьвярэй паўстаў маёр Кукарэка. Мундур маёравы быў расшпілены, фуражка зьехала на вуха, а з прарэху штаноў тырчаў ражок кашулі.

— Чуў? - выдыхнуў Кукарэка не зусім цьвярозым голасам і да палкоўніцкага носа даляцеў пах армянскага каньяку.

«Трахаўся, відаць, са сваёй тэлефаністкай. Нават прарэх не зашпіліў, скаціна», - палкоўнік сашчапіў пальцы рук на патыліцы, зь непрыхаванай пагардай паглядзеў на кампаньёна.

— Ну што, так і будзеш сядзець? - запытаўся маёр, зьняўшы фуражку і прамакнуўшы рукавом узмакрэлую лысіну. - Аб'ект у шасьці кэмэ ад Казловічаў, а яму ні ў галаве, ні ў пяце. Чуеш? Што рабіць будзем?

— А ты што, ня ведаеш? Едзь у Мачульнікі, падымай свае МіГі... - прамовіў, нарэшце, палкоўнік з блазнаватай усьмешкай на твары, і Кукарэка пасьля такіх слоў канчаткова працьверазеў.

— Зьдзекуесься? А мо забыўся, куды мы авіягазу сплавілі? - выгукнуў ацьверазелы маёр, і палкоўніку, каб суняць балбатуна, давялося папераджальна кашлянуць ды кіўнуць галавой у бок тэлефона ўрадавай сувязі.

Маёр пакасіўся на тэлефонны апарат і ў працяг няскончанай фразы ледзь чутна дадаў:

— Нават з бакаў зьлілі.

Хвіліну яны маўчалі, наструнена глядзелі адно другому ў вочы, пасьля чаго маёр, ухапіўшыся рукамі за штрыфлі мундура, нэрвовым крокам прайшоўся ад стала да гадзіньніка, потым ад гадзіньніка да стала і, нарэшце, падбег да апэратыўнай мапы.

«Бегае, як той Ленін у васямнаццатым годзе», - адзначыў пра сябе палкоўнік, з падступным задавальненьнем пазіраючы на ўсхваляванага маёра. Маёр тым часам уторкнуў нос у раён мяркуемага месцазнаходжаньня аб'екта й заклапочана прамармытаў:

— Падлятае да Гракава.

«Гракаў... Ракаў... Акаў», - шматкроць адбілася ў палкоўніцкіх мазгах, і лёгкае хваляваньне халоднай мурашкай казытнула папрэлыя ядры. Пальцы машынальна крануліся скроняў, гадзіньнік у куце адбіў палову адзінаццатай, і ў той жа міг нейкая страшная сіла падняла палкоўніка на ногі. Пад'ём быў такім імпэтным, што Кукарэка сагнуў ногі ў каленях, чакаючы, што Бурзачыла кінецца на яго з кулакамі, але той і ня думаў біцца. Палкоўнік абцягнуў мундур, стрымана кашлянуў і, скіраваўшы погляд на тэлефон урадавай сувязі, урачыстым голасам прамовіў:

— Хтосьці вырашыў прамацаць нашу супрацьпаветраную абарону... Дык мы яму гэтыя мацакі падкарацім!

Яшчэ імгненьне, і палкоўнік, нацубіўшы на вочы фуражку, рушыў да дзьвярэй, а сьледам за ім кінуўся агаломшаны Кукарэка.

Яны ішлі бясконцым калідорам - маёр нячутна ступаў па ходніку, раз-пораз азіраючыся; палкоўнік ішоў ля сьцяны, грукаючы абцасамі аб падлогу і грукат трывожным рэхам блукаў пад скляпеньнямі. Гэта была хада Камандора.

Маёр тым часам ня толькі азіраўся але й керхаў у жменю - відочна, хацеў штосьці спытаць, ды не рашаўся й загаварыў толькі тады, калі яны павярнулі на лесьвіцу.

— Што, падслухоўваюць? - дрогкім голасам запытаўся маёр, але спадарожнік нічога не адказаў, адно дакорліва паківаў галавой.

Другое маёрава пытаньне было яшчэ больш ляканічным.

— Палякі? - запытаў маёр, спрабуючы ісьці ўпоравень са спадарожнікам і запабежліва пазіраючы таму ў левае вуха.

— Якія палякі? - выдыхнуў спадарожнік, спыніўшыся на пляцоўцы паміж першым і другім паверхам.

— Ну гэта... кажу... палякі пузыр запусьцілі? - усё тым жа ўсхвалявана-гугнявым голасам запытаўся маёр, намаляваўшы ў паветры вялікае кола.

Палкоўнік дастаў пачак «Данхілу», укінуў у рот цыгарэту, наструніўся, слухаючы - ці таўчэцца хто на сходах, і ў гэты момант маёр, папярэдне ляпнуўшы па кішэнях, тыцнуў яму пад нос запальнічку.

— Ты, Кукарэка, як маёрам стаў, дык зусім здурнеў... - прамовіў палкоўнік, не адрываючы вачэй ад кампаньёна. - Ім што, больш рабіць не хер, як толькі пузыры пускаць?

Словы гучалі пераканаўча і Кукарэка, стоячы з зацепленай запальнічкай як са сьвечкай, стоена прашаптаў:

— НАТА?

Палкоўнік зморана ўздыхнуў: паветра, што вырвалася зь ягонай грудзіны затушыла запальнічку і данесла да маёравых вушэй шматзначнае пытаньне:

— Старлея Підуту ведаеш?

— Швагра... - маёр не дагаварыў: на доле бразнулі дзьверы і кампаньёны міжволі наструніліся.

Дзесьці на першым паверсе загаманілі, чхнулі, потым мацюкнуліся і неўзабаве ўсё аціхла.

— Затулін?.. - зьбялелымі вуснамі прашаптаў Кукарэка, а ягоны суразмоўца, ступіўшы колькі крокаў па сходах, кінуў цераз плячук фразу, якую любіў казаць падначаленаму ў часіны душэўнага ўздыму:

— Пайшлі, што стаў, як певень пасьля кукарэку...

Дыхтоўныя, абабітыя масянжовымі паскамі дзьверы з натугаю падаліся і ў вочы пырснула гарачае сонечнае сьвятло. Усё навокал цвыркала, плыло, цьвіло і гаманіла. Цвыркалі вераб'і на даху, плылі аблокі ў небе, цьвіла вішня ля ўваходу, а за сьпінаю палкоўніцкай гаманіў, штохвілі шморгаючы носам, маёр Кукарэка.

— Я што... я чалавек маленькі... Мне загадалі - я і зьліў паліва. А куды яно пайшло - ня ведаю і ведаць не жадаю.

Палкоўнік быў заняты сваімі думкамі і ня надта слухаў Кукарэку, а калі прыслухаўся, дык пальцы рук ягоных сьціснуліся ў кулакі, а на шчоках прабілася нездаровая чырвань.

Маёр Кукарэка - гэты зацяты хапуга, які краў нават лыжкі ў жаўнерскай ядальні, меў здольнасьць пераўвасабляцца ў бязьвінную авечку. Маёра колькі разоў хапалі на гарачым, аднаго разу - калі з палкавога складу зьнікла чатыры тоны масла - на яго нават завялі крымінальную справу, аднак - дзіўная рэч! - маёр, дзякуючы гэтаму самаму пераўвасабленьню заўсёды выходзіў сухім з вады, і з пасадаў, а то й з войску выляталі ягоныя падзельнікі.

Летась палкоўнік і сам ледзь не зьляцеў з пасады, таму, пачуўшы кукарэкава бляяньне, счырванеў як гіпэртонік. Ён хацеў адразу заехаць маёру між вачэй, ды, угледзеўшы бакавым зрокам двух шарагоўцаў, што сядзелі на лаве, перакінуў з аднаго кутка вуснаў у другі прытухлую цыгарку і гэтым самым утаймаваў свае нэрвы.

— Кулямёт ёсьць? - запытаўся палкоўнік, папераменку пазіраючы то на маёравы ўазік, то на двух схуднелых шарагоўцаў, якія сядзелі ў цяньку і штосьці жэрлі.

— Які кулямёт? - не зразумеў маёр.

— Буйнакалібэрны, йоп... - вылаяўся палкоўнік, нэрвова смактануўшы затухлую цыгарку.

— Ёсьць... у Мачульніках... - Кукарэка шморгнуў носам і два разы запар спатыкнуўся на роўным асфальце.

— У Мачу-у-ульніках, - перадражніў палкоўнік. — Засяродзіўшы вочы на канцы цыгарэты, ён яшчэ пару разоў смактануў і палез у кішэнь за сярнічкамі. - Да Мачульнікаў сорак кэмэ, а ў нас кожная хвіліна на ўліку.

— Ёсьць яшчэ на лецішчы, у Ждановічах. Думалі ж на дзікоў ехаць...

Шарагоўцы - з выгляду салагі-першагодкі - сядзелі на лаве і, не зважаючы на афіцэраў, елі гарачыя пончыкі.

«Тося пачаставала», - падумаў палкоўнік, увабраўшы носам агідны пах смажанага алею і яблычнага павідла.

За колькі мэтраў ад лаўкі афіцэры запаволілі крок, чакаючы, што шарагоўцы падхопяцца на ногі, але тыя й ня думалі

падхопліваецца і палкоўнік, з астатніх сіл утаймоўваючы лютасьць, павадзіў рукамі ў паветры, мадэлюючы той рух, якім дырыгенты падымаць аркестры, а штабныя афіцэры ўзважваюць тугія жаночыя грудзі. Шарагоўцы адарвалі ад лаўкі схуднелыя азадкі, выпрасталіся, прыціснулі далоні да сьцёгнаў, але жаваць не перасталі і, як тыя хамякі, варушылі пашчэнкамі.

— Чаго расьселіся?! - грымнуў маёр Кукарэка, пырснуўшы сьлінаю на палкоўніцкую шыю.

Адзін з шарагоўцаў - маленькі, чарнявы, з падбітым левым вокам, - пачаў штосьці казаць, глытаючы ежу і з усяго ім сказанага ўцямна прагучала толькі слова «выгружалі».

— А чаму жараце як не ў сабе? - гукнуў у сваю чаргу палкоўнік, зірнуўшы на пончыкі, што грудком ляжалі на газэце.

— Два дні ня елі, таварыш старшы лейтэнант, - прамовіў, ужо больш уцямна, чарнявы шараговец і палкоўнік, губляючы раўнавагу, тузануў плечуком:

— Разуй буркалы, с-салага!

Такой абразы гвардыі палкоўнік Бурзачыла ня зьведваў за ўвесь час служэньня ў войску. Палкоўнік яшчэ больш пачырванеў, потым спалатнеў, зубы ягоныя зайгралі польку, але доўжылася гэта кароткую хвілю: ужо праз імгненьне ён зацягнуўся цыгарэцінай і злавесным голасам запытаў:

— Зь якой часткі?

Чарнявы салага панік, скурчыўся і зацкавана паглядзеў на сябра - бялявага салагу з падбітым правым вокам.

— Гэта мае... тэхнары з Мачульнікаў, - працадзіў маёр, панурыўшы вочы, - прадукты ў буфэт прывезьлі.

Словы тыя як зь неба ўпалі. Ну вядома з Мачульнікаў... Дзе ж яшчэ жаўнеры ходзяць някормленыя?.. Душа палкоўніцкая адтаяла, цела зрабілася лёгкім, і палкоўнік, зыркнуўшы на маёра, ужо лагодным голасам загадаў шарагоўцам бегчы да ўазіка. Зацягнуўшыся цыгарэтай, палкоўнік Бурзачыла пашукаў вачыма сьметніцу, а згледзеўшы яе на другім канцы ходніка,

пстрыкнуў пальцам па сьлінявым недапалку. Недапалак праляцеў ня меней дваццаці мэтраў і дакладна лёг у цэль.

— Вучыся! - цяпер ужо акрыялым голасам сказаў палкоўнік маёру і дыхнуў таму ў твар разрэджаным цыгарэтным дымам.

## II

Адразу за Гракавам - пыльным мястэчкам з тузінам старых камяніц і сотняй вясковых хат, - ляжыць агромістае поле. Свойчас усходні, дальні ад мястэчка клін, перааралі «кіраўцамі». Зьбіраліся, відаць, нешта пасеяць, але так нічога и не пасеялі; ральля зь цягам часу ўзялася дзірванам і нагадвала цяпер пральную дошку. Па гэтым кліне, адчайна бразгаючы ўсім сваім жалезным начыньнем і плаксіва скуголячы рухавіком, і кратаўся вайсковы ўазік. Унутры яго сядзелі чатыры вайскоўцы: палкоўнік, маёр - ён круціў «абаранак», - а таксама два шарагоўцы, якія калаціліся на заднім сядзеньні, раз-пораз кранаючыся галовамі брызэнтавага верха.

Маёр, штохвіліны мацюкаючыся, з шумам выпускаў паветра праз стуленыя вусны, гэтым самым як бы дапамагаючы ўазіку пераадольваць утравелыя калдобіны; а вось палкоўнік лаяўся зрэдзьчасу - толькі тады, калі руля буйнакалібэрнага кулямёту — кулямёт трымаў адзін з шарагоўцаў — стукала па карку. Пасьля кожнага такога ўдару палкоўнік прамаўляў няўцямнае: - Йоп..., - шараговец адводзіў зброю ўбок, руля біла па карку маёра і той дагаворваў пачатую палкоўнікам фразу да канца.

Праехаўшы па ральлі паўтара кілямэтры, машына выбілася на роўнае й маёр, прытапіўшы понаж газу, зморана выдыхнуў:

— Фу, блядзь...

Уазік аб’ехаў высахлую балацявіну, абмінуў купку чэзлага вербалозу і за брудным ветравым шклом задрыжэлі відарысы серабрыстага элінгу і двухкрылага, падобнага да вялікай стракозы, «кукурузьніка». Пабачыўшы самалёт, афіцэры шмат-

значна пераглянуліся: палкоўнік палез у кішэнь па цыгарэты, а маёр, адпусьціўшы на хвілю руль, задаволена пацёр узмакрэлыя далоні.

Месца, куды яны прыехалі, цяжка было назваць лётнішчам. Тут стаяў усяго адзін самалёт, а з аэрадромных пабудоў, апрача дзіравага элінгу, стаяла жалезная бочка ды тырчаў шост з драцяной рэхвай на вершаку.

Зьмерыўшы вокам шост, палкоўнік глыбокай зацяжкай дапаліў цыгарэту да фільтра і, абцягнуўшы мундур, пайшоў да бабулі, якая даіла на ўскрайку поля рабую казу.

Бабуля, відаць, была глухаватая, бо не пачула крокаў, таму палкоўніку давялося другім разам абцягваць мундур і напаўжартам галёкнуць:

— Прывітаньне казаводам!

Пасьля такіх слоў бабуля падхапілася, абцерла рукі аб спадніцу, а каза, стукнуўшы капытом аб даёнку, рушыла насустрач палкоўніку.

Бабуліна жывёліна была жывым увасабленьнем чорта. Такая ж рабая, рагатая, з жаўтлявымі, не раўнуючы як у ката, вачыма. Адно што ў ката, як адцеміў палкоўнік, шчыліны зрэнак вэртыкальныя, а ў казы яны былі гарызантальныя.

Спыніўшыся непадалёку, каза мэкнула, зь недаверам крутнула галавой, і палкоўнік, каб убіцца ў давер, павабіў жывёліну пальцам і ласкава залапатаў языком:

— Цып-цып-цып...

У адказ каза пагрозьліва страсянула галавой, бабуля сьпехам падхапіла даёнку, а палкоўнік, зразумеўшы, што зрабіў штосьці ня тое, кашлянуў у далонь і задаў пытаньне, якое даўно сьпела на канцы языка.

— А што, самалёт лётае, ці як?

— Лётае, каб на яго немарач, - жвава адгукнулася бабуля. - Дзесяць гадкоў няма спакою... Дзень да ночы лётае... і ўсё над маёй хатай. Пазалетась дык нейкай халерай абсыпаў. У мяне

потым гусак акалеў. Я ж ужо куды толькі не хадзіла, куды толькі не пісала...

Бабуля, мяркуючы па ўсім, была балбатліваю. Палкоўнік зірнуў на гадзіньнік, па старой звычцы кашлянуў у далонь, але гэта не дапамагло.

— Каб яму сьлепакі павылазілі, паскудніку гэтаму... Дусю надоечы так напужаў, што тры дні малака не было.

— А Дуся - гэта хто? - перабіў палкоўнік.

— А во... козачка... карміліца мая, - прамовіла бабуля, падышла да казы і з палёгкаю ў голасе дадала: - Ад нядзелі, праўда, ня лётае. Штосьці ў яго там зламалася.

Такая навіна прымусіла палкоўніка наструніцца і бязгучна мацюкнуцца.

— Учора сабраў п’яніц - Толіка Манькіна, Фарзуна з Кабздохам - дык ужо хвост жардзінай падымалі ды нешта там поркаліся. Потым у краму бегалі. Міронаўна казала - чатыры белых бралі, а ўвечары да Андросіхі за самагонкай цягаліся...

— Ну, а дзе ён жыве? - запытаўся палкоўнік, дэманстратыўна зірнуўшы на гадзіньнік.

— Зь вясны ў Рапухі жыў. П’яніца ў нас тут такая... Біліся кожнага вечару. Проці ночы нап’юцца, тады ён яе ганяе, а з ранку ўжо, - у гэтым месцы апавядальніца сьцішыла голас да шэпту, - ідуць у магазін пад ручку...

— Ну а дзе ён зараз жыве? - амаль што з адчаем выдыхнуў палкоўнік.

— Да Райкі Мандрыкавай прыбіўся. Да Рапухі ж мужык прыехаў. Жыў недзе ў Архангельску, ці дзе там... на пасяленьні. Потым тамака ажаніўся...

— Райка дзе жыве, йоп...!? - гракнуў канчаткова знэрваваны палкоўнік, ды так гучна, што бабуля выпусьціла з рук вядро, а каза Дуся ўбрыкнула заднімі нагамі. Калі ж палкоўнік, плюнуўшы са злосьці, пабег да сваіх, Дуся рынула сьледам, парываючыся зжаваць канцы палкоўніцкага мундура.

— Шэф званіў, - гукнуў Кукарэка, калі палкоўнік падбег да машыны. Зірнуўшы на шарагоўцаў, маёр выцер рукавом узмакрэлую лысіну. - Загадаў зьбіты аб’ект везьці ў расейскую амбасаду. Там ужо чакаюць.

Палкоўнік прычакаў хвілю, усьведамляючы пачутае, потым зацкавана глянуў на хвост «кукурузьніка», потым на свае «камандзірскія», потым мацюкнуўся - цяпер ужо ўголас - і, сядаючы ў машыну, прамармытаў:

— Паедзем шукаць Райку.

Райчыну хату знайшлі даволі хутка. Стаяла яна на ўзгорку, непадалёку ад лётнішча. Звычайная цагляная будыніна з разнымі шалёўкамі на вокнах. Ступіўшы на шырокі двор, палкоўнік адразу ж зьвярнуў увагу на тыя шалёўчыны. Ён правёў рукою па шурпатай ліштве і вусны палкоўніцкія кранула ўсьмешка: калісьці, у далёкім дзяцінстве, бацька зрабіў такія ж ліштвы і ўся вёска хадзіла глядзець на вокны іхнай хаты.

Хвілінны одум разьвеяў маёр, тузануўшы за рукаво і паказаўшы пальцам углыб двара. Там, куды паказаў Кукарэка, стаяла высокая адрына, з прачыненых дзьвярэй якой вырывалася на дваровы прасьцяг сіплаватае храпеньне.

...Пасьля зыркага сьвятла вочы апанавала цемра. Уваччу паплылі вясёлкавыя кулі, паўсталі нейкія шэрыя патарочы, якія празь імгненьне ператварыліся ў кучу плеценых кашоў, старыя начоўкі і капу зьляжалай леташняй саломы. Там, на версе капы і нараджалася немае храпеньне, а чэзлая яснасьць, што цадзілася з незашклёнага, захінутага маладой лістотай, паддашкавага вакна, вырывала з паўзмроку нечыя голыя пяткі.

— Гучней храпе толькі мая цешча, - зазначыў маёр Кукарэка, выцяўшы нагой па вялізным кашы. Маёр памружыўся на голыя пяткі і, насьледуючы галасам мачульнікаўскіх днявальных, загарлаў:

— Ротэ-э... пад’ём!

На верху тарпы са смакам схрапянулі, штосьці прамармыталі й захроплі з ранейшым імпэтам.

Маёр падхапіў з-пад ног кашолку, пусьціў яе ў храпуна, але той працягваў храпці, нават не зьмяніўшы танальнасьці.

Кукарэка агледзеўся, шукаючы чаго больш важкага, але нічога такога не ўгледзеў і палез на капу.

— Уставай, б-бляха, - маёр схапіў храпуна за нагу, пацягнуў долу і храпун, штосьці замармытаўшы спрасонку, заехаў маёру пяткай у лабешнік. Кукарэка скаціўся з тарпы, патрапіўшы галавой у кош і з тым кашом ён і паўстаў перад палкоўнікам, які ўжо ня мог трымацца на нагах і курчыўся ад сьмеху, поўзаючы па земляной падлозе і пазначаючы калені форменных штаноў белазялёнымі плямамі курынага памёту.

Кукарэка выбег з адрыны, цяжка затупаў па цэмэнтавым ходніку, ляпнуў дзьверцамі ўазіка і неўзабаве ізноў паўстаў перад палкоўнікам - цяпер ужо з буйнакалібэрным кулямётам у руках. Такі паварот усхваляваў Бурзачылу. Палкоўнік спалатнеў, памкнуўся схапіць маёра за мундур, але той, высьлізнуўшы з-пад рукі, спужаным катом узьбіўся на капу. Там ён кляцнуў затворам, наблізіў зброю да храпуна і, наставіўшы рулю ў незашклёнае вакно, гвазданул адзіночным. У куце з адчайным лямантам узьляцела курыца, знадворку загарлаў певень, а храпун, глынуўшы парахавога дыму чхнуў, няўцямна вылаяўся і яшчэ празь імгненьне ўскудлачаная галава ягоная вытыркнулася з-за краю тарпы.

Маёр тым часам споўз, лежачы на жываце, долу і, наставіўшы на храпуна кулямёт, сувора прасіпеў:

— Імя... Прозьвішча...

Храпун узьняў рукі, прыхапіўся, грымнуўся галавой аб крокву і палкоўнік адчуў на сваёй узмакрэлай шыі казытлівую парахню, якая сыпанула з даху.

— Кудзёлка... Аляксей... - прамовіў храпун, зьвёўшы вочы да кулямётнага дула.

— І хто такі? - ужо больш лагодна запытаўся маёр.

— Ды тут... працую... пілётам сельгасавіяцыі.

— Злазь, ты нам патрэбны, - падаў голас палкоўнік, зь відочным хваляваньнем закідваючы ў рот чарговую цыгарэціну.

Пілёта таксама апанавала хваляваньне. Яму нават мову заняло: ніжняя сківаца пілётава дробна задрыжэла й сунялася толькі тады, калі маёр апусьціў кулямёт долу.

— Ды ў мяне паліва... на пяць хвілін лёту, - выдыхнуў пілёт пераселым ад хваляваньня голасам, - да граніцы не дацягнем.

— Нам за мяжу ня трэба. Акурат за пяць хвілін і ўправімся.

Пілёта такія словы зьбянтэжылі. Ён апусьціў рукі, пацёр далонямі па споднiках, а ўцяміўшы, што піраты прыехалі на бэнзавозе, змучана шморгнуў носам.

— Кола задняе зьняў. Трэба новая ўтулка.

Запанавала ціша. Нават певень кінуў кудахтаць і цяпер ужо палкоўніку прысьпела пара шморгнуць носам і пачухаць прыцярушаную парахнёй патыліцу.

Пілёт ішоў да машыны як бальшавік на расстрэл - у кальсонах, прыпадаючы на левую нагу, пазіраючы праз плячук на кулямётную рулю, - а калі выходзіў зь весьніц, аднекуль з суседняга агарода даляцеў помсьлівы голас знаёмай бабулі:

— Таварышы, ён і Лукашэнку лаяў!

...Да лётнішча ехалі што духу: разганяючы курэй і стукаючыся скронямі аб кулямётную рулю. Маёр наўмысна пасадзіў пілёта на задняе сядзеньне і даў у рукі зброю. Такія захады мусілі пераканаць небараку, што перад ім не паветраныя піраты, а абаронцы мірнага неба Садружнасьці.

Між тым выгляд пілётавы прагнуў спагады: ніжняя сківаца дробна дрыжэла, вочы заплылі, у валасы ўбілася саламяная пацяруха, а спусьцісты лоб баранавалі кроплі хвараблівага поту, якія, зрываючыся, цёмнымі плямамі пакрывалі падштанікі. Пілёта даймала пахмельле.

Гледзячы на небараку, палкоўніку манулася дапамаг-

чы хлопцу, падтрымаць шчырым словам, але словы такія не прыходзілі ў галаву - палкоўнік маўчаў і толькі ля самага лётнішча, згадаўшы пра бабулю, пранікнёна запытаўся:

— Што гэта за порхаўка... казу пасе?

— Сазоніха, - буркнуў пілёт, зірнуўшы ў вакенца, - жыве ў крайняй хаце. Зьвягня, якіх сьвет ня бачыў.

Пілёт змоўк, а палкоўнік, узбадзёраны такім адказам, тыцнуў пальцам у шыбу.

— А гэта што там за шост з абручом?

Не павярнуўшы галавы, пілёт уздыхнуў, перакрывіўся як ад зубнога болю.

— «Каўбаса» была — кірунак ветру паказвала.

Уазік абмінуў рабую казу, праехаўся па полі і загамаваў у двух мэтрах ад «кукурузьніка», ля якога завіхаліся два шарагоўцы: чарнявы выціраў анучкаю перапэцканыя салідолам пальцы, а бялявы сядзеў на траве і смаліў цыгарэту.

У самалёта і сапраўды адсутнічала задняе кола - хвост стаяў на калодзе, а пад хвастом, у поўным бязладзьдзі, ляжалі падшыпнікі, патрубкі, кувалда з манціроўкаю, зашмальцаваная ватоўка, прыціснутая да зямлі бліскучым валам; апрача таго да хваста быў прыхінуты мэталёвы брус, цень ад якога перакрыжоўваў увесь гэты натурморт, а разам зь ім і ўсе палкоўніцкія надзеі ды спадзяваньні.

Палкоўнік паклаў рукі на цёплую абшыўку самалёта, прыціснуўся да абшыўкі лобам, заплюшчыў павекі.

Апэрацыя была правалена, але ў душы палкоўніцкай не было ні жалю, ні роспачы, ні хваляваньня. На душы было лёгка, прасьветлена і чыста. Палкоўнік уявіў, як ён прыйдзе заўтра ў свой кабінэт, падцягне па старой звычцы гіру старога гадзіньніка, потым сядзе за стол і, ускудлаціўшы непаслухмяныя кучары, размашыстым почыркам напіша рапарт. Потым ён прысмаліць цыгарку, падыдзе да вакна і, глянуўшы долу, убачыць буфэтчыцу Тосю. Тося адорыць яго белазубай

усьмешкай, сарамліва абцягне спадніцу і тут жа крутнецца на высокіх абцасіках, падступна агаліўшы крамяныя сьцёгны.

Палкоўнік уздыхнуў, сьлізгануў далоньню па вільготных павеках і пачуў раптам бадзёры голас чарнявага шарагоўца.

— Утулка паляцела.

— Цяміш, - адгукнуўся на тое пілёт, з балесным вохканьнем выдыхнуўшы паветра.

— У прынцыпе, можна ўзьляцець і бяз кола, - ізноў падаў голас шараговец, - трэба які кавалак дрэва прымацаваць - зьняць кару, змазаць салідолам...

Палкоўнік страпянуўся, умольна зірнуў на пілёта. Пілёт стаяў, як кол пракаўтнуўшы: лыпаў буркаламі, церабіў падштанікі і невядома колькі б усё гэта доўжылася, ды тут палкоўнік ляпнуў пальцамі па шыі, зганяючы казытлівую кузурку і пілёт, па-свойму зразумеўшы такі жэст, нясьмела прамармытаў:

— Можна паспрабаваць.

«Канешне можна!» - хацеў было крыкнуць палкоўнік, але стрымаўся, адно захоплена грукнуў кулаком па абшыўцы, а калі хлопцы кінуліся да элінгу - за пілой і сякерай, - воплескамі прысьпешыў іхны бег.

У нябесным прыціне заліваліся жаўрукі, пад нагамі гулі чмялі і восы, жоўтае дзьмухаўцовае поле лашчыла пагляд, але палкоўнік нічога ня чуў і ня бачыў. Ён утрапёна хадзіў вакол самалёта, мармытаў сабе пад нос штосьці дарэшты няўцямнае, вадзіў рукамі ў паветры, мадэлюючы дзеяньні на зьнішчэньні паветранага шара і маёру давялося гучна сьвістаць - у два, а потым у чатыры пальцы, перш чым палкоўнік ачуўся і зірнуў у бок легкавушкі. Маёр тыцнуў пальцам у неба, паказваючы, што тэлефануе шэф, але палкоўнік у адказ рашуча махнуў рукою: размаўляць з шэфам такой парой яму ніяк не выпадала.

Мядовы ветрык даносіў да вушэй абрыўкі фраз:

— ... Ажыцьцяўляем сачэньне... на перахоп паднятая эскадрыля зьнішчальнікаў... зьнішчыць цэль загадана экіпажу са-

малёта... - галава маёрава на кароткае імгненьне вытыркнулася з кабінкі, - ... з бартавым нумарам ноль-дваццаць чатыры... Будзем руціцца, таварыш генэрал...

«Як мянташкай лупіць», - прашаптаў палкоўнік ды, ці не ўпершыню за ўвесь час знаёмства з маёрам, падумаў, што Кукарэка наогул някепскі малец.

Кукарэка тым часам ляпнуў дзьверцамі ўазіка, а згледзеўшы шарагоўцаў, якія цягнулі тоўстую ліпавую крывуліну, пабег ім насустрач.

«Як Ленін на суботніку», - адзначыў палкоўнік, пабачыўшы, як маёр падставіў плячо пад тонкі канец крывуліны і, цыкнуўшы сьлінай, рушыў да пілёта, які цягнуў два тросы, скрутак дроту і яшчэ нейкае прычындальле.

Крывуліну прымацоўвалі ўсёй грамадой. Напачатку палкоўнік ня мог дабраць ладу: як гэта можна прымацаваць гладкае бервяно да шпяня, на якім сядзела кола. А хвілін праз дзесяць, калі, з дапамогаю кувалды, манціроўкі і троса, крывуліна была прымацаваная, ляпнуў Кудзёлку па плячы і захоплена выдыхнуў:

— Зь мяне вядро гарэлкі!

Потым яны ўтрох - палкоўнік з аднаго канца, два шарагоўцы з другога - прыўзьнялі самалётны хвост на жалезным брусу, Кукарэка наехаў бампэрам уазіка на калоду, выпхнуў яе з-пад хваста, і пілёт Кудзёлка, абабіўшы кальсоны, задыхана мовіў:

— Трэба выкінуць усё лішняе.

Праз пару хвілін з разнасьцежаных дзьвярэй «кукурузьніка» паляцелі мяхі з калійнымі ўгнаеньнямі, падраная раскладушка, два магільных жалезных крыжы ды іншае ламачча. Пакуль шарагоўцы выкідвалі хломазд, пілёт з маёрам наладжвалі радыёсувязь.

— Паліва зусім мала. Можам не ўзьляцець, - зумкнуў у дынаміку кудзёлкавы голас, калі сувязь была наладжаная.

— А ў бочцы ці ёсьць што? - запытаўся палкоўнік,

перахапіўшы з маёравых рук слухаўку.

Палкоўнік наструніў слых, але сувязь перарвалася.

— Крыху ёсьць, - гукнуў Кудзёлка, цяпер ужо з самалётнага нутра і неўзабаве на паляну са страшэнным бразгатам выкацілася пакарабачанае вядро.

З аграмаднай бочкі, што стаяла на ўзьмежку лётнага поля, нацадзілі чатыры вядры, пры гэтым шмат паліва пралілі. Ня бачылі, як поўнілася вядро, бо ў восем рук, крахтаючы і выпускаючы паветра, прыўздымалі бочку з дапамогаю ўсё таго ж жалезнага бруса.

І вось яна насьпела, тая шчымліва-трывожная хвіліна, калі Кукарэка ўскінуў на плячук кулямёт, шырокім крокам пайшоў да самалёта, а сьледам, спрабуючы ісьці ў нагу з маёрам, рушыў чарнявы шараговец.

— З богам! - прашаптаў усьлед ім палкоўнік, залез у машыну і, стаіўшы дыханьне, утаропіўся на нерухомы крыж прапэлера.

У нутры «кукурузьніка» штосьці загуло, заляскатала, прапэлер зварухнуўся, зрабіўся нябачным і пыльная віхура, узьнятая самалётам, прымусіла прыкрыць далоньню вочы. Калі ж палкоўнік растуліў пальцы і зірнуў адным вокам на сьвет божы, самалёт з шалёным выцьцём бег па полю, не даючы рады ўзьняцца ў паветра, і з-пад ліпавай крывуліны, здавалася, сыпаліся іскры.

Палкоўнік ізноўку зьвёў пальцы, а калі чарговым разам расплюшчыў вока, дык убачыў, што самалёт адарваўся ад зямлі і, заваліўшыся на левае крыло, пачаў набіраць вышыню. Палкоўнік налёг сьпінаю на прыслон сядзеньня, сашчапіў за патыліцай пальцы рук, з палёгкаю ўздыхнуў, але праз імгненьне прыхапіўся і акруглымі вачыма глянуў на хвост «кукурузьніка». Прытарочаная да хваста крывуліна нечакана адарвалася, матлянулася на тросе й паляцела долу - акурат на хату, дзе жыла Сазоніха. Назіраючы такое, палкоўнік ссунуўся на край сядзеньня, спрабуючы такім чынам зьмяніць траекторыю палёту й яму гэта ўдалося: крывуліна грымнулася дзесьці

ў двары і, мяркуючы па тым, што ў неба ўзьняліся куры й аблачына парахні, патрапіла ў бабчын хляўчук.

Самалётны гуд паволі аціх, над галавою ізноў засьпявалі птушкі, а ў мястэчку натужна забрахалі сабакі, устрывожаныя падзеньнем бервяна.

Палкоўнік вылез з машыны, стаў ля задняга кола і з такім шумам выпусьціў паветра, што гракаўскія сабакі разам аціхлі, а потым забрахалі яшчэ больш зацята - з піліпаўскім падвываньнем. Зашпіліўшы прарэх, палкоўнік агледзеўся, клікнуў бялявага шарагоўца і калі той падбег, камандзірскім голасам загадаў:

— Шыбуй у краму, вазьмі скрыню гарэлкі... і што-небудзь на зуб... - сказаўшы слова «зуб», палкоўнік задаволена крэкнуў, выпусьціў з адчайнадушнай натугай рэшткі паветра і толькі тады працягнуў шарагоўцу грошы.

Борт 0-24 адгукнуўся празь сем хвілін пасьля ўзьлёту.

— Цэль выявілі. Пачынаю аблёт, - прасіпеў у дынаміку зьнявечаны радыёшумамі кудзёлкавы голас і пакуль палкоўнік убіваўся ў кабінку і хапаў трубку, борт адключыўся.

Справа, можна сказаць, была зроблена. Заставалася толькі прыцэліцца ды націснуць на спускавы кручок. Аднак штосьці непакоіла, штосьці цьвяліла душу і халадок затоенай трывогі блукаў па целу - ад грудзіны да самага нізу жывата. Каб нечым заняць сьвярблівыя рукі, палкоўнік уключыў і выключыў «дворнікі», шчоўкнуў тумблерам ветрагону, нарэшце, падхапіў з-пад ног абрывак газэты, у які былі загорнутыя пончыкі ды пачаў чытаць артыкул пра пастаноўку опэры «Залатыя агні ў вокнах Адміністрацыі» і нечакана дынамік ізноўку ачуўся, і эфір апанаваў ашалелы голас маёра Кукарэкі.

— Увесь дыск выпусьціў... Хоць парвіся... Ляціць, сука... Можа гэта і ня шар зусім...

— Не вырубай рацыю! - гракнуў палкоўнік і, разабраўшы сярод шуму словы «батарэі селі», спруцянелымі пальцамі расшпіліў верхнія гузікі на кашулі.

«Што ж там ляціць, бляха!? І што будзе, як «Казловічы» ўзьнімуцца ў паветра?» - палкоўнік уявіў, зь якім імпэтам гакнуць усе дванаццаць балістычных ракетаў, змарнеў з твару і спалохана прыхапіўся, пачуўшы натужлівы шум у дынаміку.

— Казлы драныя! Халастыя ўпёрлі... А я й не дагледзеў... - галёкнуў сярод шуму маёр Кукарэка, замармытаў штосьці пра паляваньне на дзікоў і палкоўнік, баючыся, што сувязь адключыцца, умольным голасам запытаў:

— Што рабіць будзем?

— Іду на таран! - гойкнуў у адказ пілёт Кудзёлка, потым гойкнуў яшчэ нешта, ды голас ягоны зьмяшаўся з бязладным шумам.

— Аляксей! Алёша! - палкоўнік падхапіўся на ногі, упёрся макаўкай у пругкі брызэнт, а калі сувязь адключылася, бязвольна плюхнуўся на сядзеньне.

У тую хвілю галава палкоўніцкая стала дарэшты пустой, а таму й лёгкай. Такою лёгкай, што паспрабавала адарвацца ад тулава і палкоўнік, прашаптаўшы: - А што ж гэта дзеецца! - абхапіў голаў рукамі.

Так ён і сядзеў, сьціснуўшы вушы - аглухлы, невідушчы і нават зумэр мабільнага тэлефону, які раней прымушаў спалохана схамянуцца, гэтым разам ня здолеў разьвеяць хваравітай замарачы. Калі ж ён урэшце зьняў слухаўку, тэлефонны зумэр пачынаў ужо сіпець.

— Бурзачыла?! Ты?! - шэфавы голас скалануў эфір, змусіў задрыжэць тэлефонную мэмбрану.

— Я-а... таварыш генэрал-палко...о... - прастагнаў Бурзачыла і з флегматычнай разважлівасьцю шморгнуў носам.

— Што там у вас? Чаму не выходзіш на сувязь?

Палкоўнік ачуўся, парывіста ўздыхнуў, пацёр рукою пераносьсе.

-Экіпаж самалёта - бартавы нумар 0-24, - расстраляўшы ўвесь боезапас, пайшоў на таран... - слова «таран» захрасла

ў горле; даўкі, памерам з ладную агрэсьціну, камяк пераняў дыханьне, ніжняя сківаца тарганулася і ў мораку падступных сьлёз палкоўніку прымроіўся раптам сьветлы воблік маёра Кукарэкі.

Эфір напоўніўся злавесным сіпеньнем, аднекуль здалёк пачуліся акорды шапэнаўскага вальса і толькі праз пару хвілін шэфавы голас - памужнелы і рахманы, - ізноў зварухнуў мэмбрану.

— Абвясьціце ва ўсіх эскадрылях: экіпаж зьнішчальніка - бартавы нумар ноль-дваццаць чатыры, - узнагароджваецца пераходным Чырвоным сьцягам Адміністрацыі... - злавесную паўзу запоўнілі акорды шапэнаўскага вальса, а яшчэ празь імгненьне слухаўка высьлізнула з потнай рукі і бездапаможна павісла на дроце. Слухаўка яшчэ штосьці зумкала, клікала палкоўніка, але сам палкоўнік ужо нічога гэтага ня чуў, бо слых ягоны апанавалі іншыя зыкі - перарывісты рокат самалёта і залівісты брэх навакольных сабак.

— Жывыя! - вырвалася з млявай грудзіны і ў доказ гэтай высновы з-за сазончыхінай хаты выплыў, зьбіваючы коламі шпакоўні, гераічны зьнішчальнік. Пераляцеўшы хату, зьнішчальнік рэзка пайшоў долу, паваліў плот, апошнім разам рыкнуў маторам і, накруціўшы на вінт бялізну, якая сушылася на вяроўцы, спынілася ў колькіх мэтрах ад бабчынай казы.

З самалёта вылазілі нясьпешна: спачатку вылезьлі Кукарэка з шарагоўцам, потым пілёт Кудзёлка. Кудзёлка доўга абабіваў падштанікі, запраўляў кашулю і штосьці казаў пры гэтым, ківаючы галавой у бок сазончыхінай хаты. Нарэшце ўсе трое сталі шыхтом і, не раўнуючы як касманаўты па касмадрому, са стрыманай мужнасьцю, рушылі па полю. Сьледам за імі пайшла і каза Дуся, ды неўзабаве мусіла спыніцца, бо была прывязана вяроўкай да калка. У трох мэтрах ад палкоўніка тройца зьнерухомела і Кукарэка, паправіўшы на плячы кулямёт, прыклаў далонь да сьсівелай скроні.

— Таварыш палкоўнік! Загад камандаваньня... - маёр глытнуў паветра, каб скончыць фразу, але палкоўнік з воклічам: - Усё ведаю! - рынуў да сябра, абхапіў таго за шыю,

смачна плюснуў у няголеную шчаку. Потым ён сьціснуў мазолістую кудзёлкаву руку, але рука тая раптам тарганулася і пілёт з жахам у голасе прашаптаў:

— Сазоніха...

— А людцы мае добрыя! А што ж гэта робіцца-а! - скалануў прасьцяг жаночы лямант і ўсе павярнулі галовы.

Сазоніха бегла па полі - ускудлачаная, расхлістаная, падабраўшы доўгую спадніцу і з рагачом ва ўзьнятай руцэ.

— Канец! - вылаяўся Кудзёлка, матнуўся некуды ўбок, потым спыніўся, падцягнуў кальсоны і віхлястым алюрам пабег да самалёта.

Пілёт хацеў, відаць, схавацца ў самалётным нутры, але Сазоніха пайшла напярэймы; яны двойчы аббеглі самалёт, Кудзёлка на хаду зьдзер зь вінта палінялыя трусы, кінуў іх у твар ашалелай бабы і зморaным подбегам кінуўся ў адваротным накірунку.

Тым часам у пагоню за пілётам кінулася і каза Дуся. Яна сарвалася зь вяроўкі, дагнала Кудзёлку і спрабавала ўжо падчапіць таго рагамі, ды тут маёр Кукарэка, зразумеўшы, што трэба канчаць усю гэтую камэдыю, даў чаргу з кулямёту. Кудзёлка спачатку не зразумеў - што да чаго, а калі маёр, пацэліўшыся, ізноў націснуў на кручок, паваліўся і застыў у нерухомасьці. Убачыўшы ўсё гэта, Сазоніха аслупянела, выпусьціла з рук рагач, а потым, задраўшы спадніцу да азызлых сьцёгнаў, пабегла да сваёй хаты.

— Забілі-і... Кудзёлку забілі-і! - залямантавала старая, ды такім страшным голасам, што Кудзёлка падхапіўся на ногі, штосьці закрычаў ёй усьлед, а палкоўнік, цыркнуўшы сьлінай, незадаволена прамармытаў:

— Увесь Гракаў падыме, корга дурная.

## III

— Вунь там паглядзі, у кустах!

Маёр азірнуўся, пачухаў карак, без асаблівай ахвоты па-

лез у кусты. Пад нагой маёравай затрашчаў сушняк, плюхнула вада і з кустоў, шалёна лопаючы крыламі, вылецела нейкая вялікая птушка.

Прыслухоўваючыся да зыкаў, што даляталі з хмызьняку, палкоўнік прыпаліў цыгарэту, мелькам зірнуў на гадзіньнік.

Час ішоў. Ужо больш як гадзіну яны лазілі па кустах у пошуках рэшткаў балёну, але нічога не знаходзілі. Дый цяжка было штосьці знайсьці ў гэтых хмызах. Тут, як на добры лад, трэба было кідаць роту жаўнераў на прачэсваньне, а яны нават двух сваіх шарагоўцаў пакінулі ў Гракаве - ставіць плот ды рамантаваць куратнік.

Палкоўнік захлынуўся тытунёвым дымам, але, адчуўшы пяршэньне ў горле, кінуў недапалак пад ногі.

Кукарэка вылез з кустоў хвілін празь дзесяць: увесь абсыпаны леташнім лісьцем і ў мокрых чаравіках - уваліўся, відаць, у ручай. Правую руку гвардыі маёр трымаў неяк дзіўна: стваралася ўражаньне, што ён злавіў нейкага жука і сьціскаў ў жмені, але, калі Кукарэка падышоў бліжэй, палкоўнік угледзеў на ягонай далоні маленькае блакітнае колца.

— Зьняў з дрэва, над ручаём, - патлумачыў маёр, падкінуў знаходку ў паветра, а палкоўнік, спрытна перахапіўшы, нацубіў колца на палец правай рукі.

Дакладней, гэта было ня колца, а мініятурны, блакітнага колеру капялюшык з жоўтым кутасікам на макаўцы.

— Ад нейкай лялькі... Занесла ветрам, - буркнуў маёр, скінуў чаравік і, сеўшы на траву, стаў выкручваць шкарпэтку.

Такая знаходка палкоўніка ня надта ўзрадавала. Ён скамечыў капялюшык, яшчэ раз агледзеў навакольле.

— Дакладна ведаеш, што гэта тое месца?

— Тое, - адгукнуўся Кукарэка, - вунь фэрма стаіць з вадавежай, а вунь каровы пасьвяцца.

Маёр нацягнуў шкарпэтку, памацаў жоўты пазногаць, які вылез вонкі і пакутліва ўздыхнуў.

...Перш, чым плюхнуцца на сядзеньне, палкоўнік выцягнуў з «бардачка» пляшку гарэлкі.

— Ну, дык што павязем у амбасаду?

Пытаньне гэтае ніяк не адбілася на кукарэкавым твары: нават жаўлакі не зварухнуліся на шчоках.

— Думай! - выгукнуў палкоўнік, сёрбнуў на поўную губу і, наваліўшыся каркам на сьпінку сядзеньня, заплюшчыў вочы.

Скрозь дрымоту палкоўнік чуў, як маёр гаманіў па тэлефону, крыючы некага мацюкамі, потым усе гукі аддаліліся, сталі невыразнымі, палкоўнік храпянуў, не раўнуючы як Кудзёлка, ды нечакана прачнуўся, абуджаны лёгкім тыцкам пад рэбры.

— Які лепей - з апорнай рамкай, ці безь яе? - запытаўся маёр, чухаючы слухаўкай лабешнік.

Палкоўнік наставіў на сябра няўцямныя вочы.

— Аэрафотаапарат, кажу, з рамкай, ці безь яе? Хлопцы пытаюцца...

Палкоўнік страсянуў галавой, цямячы - пра што гаворка, а ўцяміўшы, у думках пахваліў маёра за прыродную кемлівасьць і, змагаючыся з позехам, выгукнуў:

— З рамкай.

Усю дарогу палкоўнік спаў, прыхінуўшыся скроньню да шыбы і прачнуўся толькі тады, калі ўазік, чхнуўшы маторам, спыніўся ля будынку інтэнданцкага ўпраўленьня, на пятым паверсе якога месьціліся ваенныя тапографы.

На душы і ў роце было пагана; балела галава і кожны зык - нават тупат маёравых ног па ганку ўпраўленьня балюча адбіваўся ў патыліцы. Палкоўнік прыпаў да бутэлькі, дапіў рэшту, заплюшчыў вочы, у спадзеўцы панурыцца ў дрымоту, ды тут на ганку ізноў затупалі: маёр бег да машыны, трымаючы ў руках падаўгаватую шэрую скрыню.

— Во, апошняя мадэль... З двума аб'ектывамі. Хлопцы і плёнку ўкруцілі, - маёр націснуў кнопку на бакавой панэлі і на палкоўніка зірнулі два шкляных круглявых вока.

— Навюткі... аніводнай драпіны.

Палкоўнік узважыў аэрафотаапарат на далоні, таксама націснуў кнопку.

— Гэта й дрэнна, што бяз драпіны, - палкоўнік глянуў з-пад лоба на верхнія паверхі ўпраўленьня, загадна матнуў галавой. - Падыміся як мага вышэй і скінь... вунь на той кветнік, - сказаўшы так, палкоўнік абхапіў рукамі скроні, зьмежыў павекі і застыў у нерухомасьці. Ён доўга сядзеў так, не мяняючы паставы і не зварухнуўся нават тады, калі маёр плюхнуўся поруч і завёў рухавік. І толькі ля самай амбасады, нібы згадаўшы пра штосьці, палкоўнік схамянуўся, ліхаманкавым рухам адчыніў «бардачок» і, адшукаўшы там пагнуты цьвік, надрапаў на бакавой панэлі аэрафотаапарата няроўныя літары: «Made in USA».

*1996-1997*

# НЯЧЫСЬЦІК

Пагодным чэрвеньскім днём — акурат таго дня ў космас запусьцілі Валянціну Церашкову — жыхары гарпасёлка Азярышча ўбачылі на галоўнай пасялковай вуліцы дзіўнага выгляду незнаёмца. Нягледзячы на сьпёку, мужчына быў апранены ў цёмна-сіні бастонавы гарнітур, на нагах у яго былі летнія, сярэдняй зношанасьці сандалеты, на галаве сіняя, з завязанымі на вузлы ражкамі, насоўка, а ў правай руцэ ён нёс пацёрханы партфэль.

Мужчына зьлёгку накульгваў і, мяркуючы па ўсім, нікуды не сьпяшаўся. Ён разважліва прайшоўся ля руіны азярышчанскай царквы, убіўся ў натоўп, што стаяў каля крамы — тым часам у пасёлак прывозілі сьвежы хлеб, — паслухаў што кажуць людзі пра касьмічны палёт, і, спытаўшы — дзе тут жывуць самотныя пэнсіянэркі, — пашкандыбаў, прыпадаючы на правую нагу, па названых людзьмі адрасах.

Першай на яго дарозе паўстала Пелагея Катавод — бабуля пахілая і зьвяглівая. Стоячы каля весьніц, яна спачатку выглядала — ці прыехала гэта хлебавозка, а ўгледзеўшы незнаёмага мужчыну, прыклала далонь да лоба і напаўголасу, з прытоенай насьцярогай прамармытала:

— А да каго ж гэта?...

— Фотаздымкі-і… павялічвае-эм... — прасьпяваў, параўняўшыся з бабцяй, мужчына, і Пелагея Катавод, не дачуўшы — хто там каго павялічвае, хуценька падалася да хаты.

Незнаёмец, аднак, рушыў сьледам, абагнаў улякнутую Пелагею, і калі тая зьбіралася ўжо закрычаць, галянтна адчыніў дзьверы і яшчэ больш галянтна прашапялявіў: — Прашувс-с...

— Райпрамкамбінат... старыя здымкі павялічваем, — патлумачыў незнаёмец, калі яны ўвайшлі ў хату і дастаў з партфэлю стос фотапартрэтаў. — Вось, зірніце ўзоры...

Гаспадыня з насьцярогай ўзяла партрэты.

— Рэстаўрыруем здымкі самай дрэннай якасьці. Людзі на іх потым — як жывыя...

Бабця зірнула на першы партрэт і як не абамлела.

— А ці не Міколка гэта? — Пелагея хіснулася, гучна шморгнула носам, — Во.. і шапка такая ж...

Госьць падтрымаў гаспадыню, дапамог сесьці на кухонны ўслон.

Партрэт, які ўсхваляваў старую, быў не самым лепшым узорам. Выява вайскоўца ў будзёнаўцы была размытаю, адно гальштук на тле белай кашулі выглядаў кантрастна і непрыемна рэзаў вока.

Бабуля падхапілася на ногі, пайшла ў сьвятліцу, доўга поркалася ў шафе.

— А во… мой Міколка... і твар такі ж, і шапка тая ж...

«Муж, відаць», — падумаў госьць, разглядаючы пажоўклы, зь белым трохкутнікам у правым куце, фотаздымак.

— У фінскую згінуў. Толькі адзін ліст і прыслаў з фронту. Напісаў: «На подлыя правакацыі белафінаў адкажам сталінскім ударам»...

— Вам як, з гальштукам? — запытаўся госьць, хаваючы фотаздымак у блякнот.

Гальштукі будзёнаўкам, што праўда, не пасавалі, але старыя бабці, пабачыўшы прапанаваны ўзор, кожнага разу прасілі падмаляваць белую кашулю і такі ж самы шыявяз.

— А колькі ж гэта будзе каштаваць?

— За мастацкую падмалёўку дадаткова бярэм дзесяць капеек.

— Гэта ж тры капейкі дадаць, і батон можна купіць, — выдыхнула гаспадыня, і госьць, ні слова не сказаўшы, дакорліва матнуў галавой: маўляў, як можна людзкую памяць вымяраць нейкімі там батонамі.

Запісаўшы ў нататнік бабульчына прозьвішча, госьць запытаўся — ці трэба каму з суседзяў павялічыць фотаздымкі, і Пелагея сьпехам забалабоніла.

— Гэта ж во... да Нюркі зайдзіце, да суседкі маёй. Яна ўсё за мужа бядуе. Забіла, а цяпер во плача ды фотакартку цалуе.

— Як забіла? — уразіўся госьць.

— Ну як мужыкоў забіваюць... П’яніца ж быў, усё дачыста прапіваў. Прыйдзе абасцаны, схопіць сякеру ды ганяе жонку па Азярышчы. Тая крычыць ратунку, па суседзям хаваецца. Летась на Пакровы ўваліўся ў хату ды на падлогу абрынуў. А Нюрка схапіла за чупрыну ды як закрычыць: «Ну, п’янюга, хрысьціся, сьмертухна твая прыйшла! Адсяку табе зараз галаву!» Узяла ды заехала мужыку валёнкам па патыліцы, а той ўзяў ды памёр... ад разрыву сэрца. Во як бывае!

— І што — нехта бачыў, як яна... — госьць кашлянуў, — мужыка забівала?

— Бачыць — ня бачылі, але ж людзі гавораць, — пасьля таго старая схапіла госьця за крысо бастонавага пінжака.

— Ай, во... а ці праўда, што бабу ў космас запусьцілі?

— Праўда, — адгукнуўся госьць, выходзячы з хаты. — Лётчык-касманаўт СССР Валянціна Церашкова. Сёньня ад самага ранку перадаюць... Штурмуе разам з касманаўтам Быкоўскім касьмічную прастору.

— Ну, усё… — асуджана выдыхнула старая Пелагея, — цяпер чакай чорта напагасьціны!

— Якога чорта? — госьць сьцягнуў з галавы насоўку, выцер упрэлы твар.

— Язевічыха яшчэ ўвесну казала: як толькі бабу ў космас выправяць, адразу чорт на зямлю спусьціцца.

— І што ён тут будзе рабіць? — з усьмешкай прамовіў госьць, выціраючы узмакрэлую патыліцу.

— Як што... шкодзіць будзе, людзей з панталыку зьбіваць. Ня ведаеце — чым чэрці займаюцца? — з дакорам прамовіла

гаспадыня, і госьць, чарговым разам хіснуўшы галавой, запісаў на ўсялякі выпадак адрас той самай Язевічыхі.

Праз два дні ў Пелагеі Катавод загавела душою рабая курыца. Ці то пакаштавала салетры, якую надоечы вазілі на самаскідах ды рассыпалі на дарозе, ці то пракаўтнула замест чарвяка іржавы цьвічок... Карацей, сканала чубатка, і цётка з тае нагоды дужа засмуцілася.

— А маё ж ты куранятка... а ці ж не я цябе карміла-гадавала-а, — залямантавала старая, падхапіўшы на рукі дохлую курыцу. Тым часам на суседзкім агародзе зашамацела капуснае лісьце і ў прамежку даўгога шыхту ўзьдзетых на тын гарлачоў узьнік усхваляваны твар Нюры — цыбатай саракоўкі з азызлым ад ячменю вокам.

— Польця! Што здарылася?!

— Курыца во падохла, — старая смаркнулася ў прыпол хвартуха, зірнула на суседку, а ўбачыўшы, што вока Нюрчына канчаткова заплыло, ужо акрыялым голасам запытала: — Ты ж мачой ці прыкладала?

— Чым толькі не прыкладала... і мачой, і... — Нюрка азірнулася — … гаўном. Ужо й белага сьвету ня бачу.

— Сурочыў нехта, — рашуча прамовіла Польця, і суседка, яшчэ раз азірнуўшыся, выпаліла: — Дык вядома ж хто...

Старая выпусьціла з рук чубатку.

— Гэта ж той… які прыяжджаў. Карткі што павялічвае. Я адразу ўгледзела, што ў яго вока паганае. Так і зыркаў наўкола, так і зыркаў! Трэба да Язевічыхі бегчы, хай сурокі зьніме, а то яшчэ якая халера накінецца.

І жанкі, не згаворваючыся, навыперадкі пабеглі ў супрацьлеглы канец вуліцы.

Ля крайняй хаты, як заўсёды такім часам, завіхаўся Язевічысін зяць — участковы Міхноў. Зяць жыў у райцэнтры, гойсаў па навакольлі на матацыкле і часьцяком завітваў да цешчы на абед.

Дастаўшы з калодзежу поўнае вядро, Міхноў шухнуў ваду на матацыкл, дробныя кроплі даляцелі да кабет, пры гэтым бабуля Польця незадаволена пырхнула, а Нюрка плюнула праз левае плячо.

— Чаго, Нюрка, твар захінаеш? Думаеш, не пазнаю? — крыкнуў участковы, і жанка, прыкрываючы далоньню заплыўшае вока, нячутна вылаялася.

— Увесь двор завэдзгаў, апівуда, — прабубніла Язевічыха, вітаючыся з сяброўкамі. — Зяця свайго старая люта ненавідзела, і ўсім скрозь казала, што Міхноў прагне загнаць яе ў магілу ды перапісаць на сябе хату.

— Толькі што курыца падохла! — задыхана прамовіла ў адказ Польця, спатыкнуўшыся на парозе. — Няйначай, чорт гэты зьвёў са сьвету.

— Хто, зяць мой?!

— Ды не... фатограф... ну, што карткі павялічвае... — Польця разьвязала хусьцінку, пераняла дых.

Пакуль сяброўкі аддыхваліся, у сьвятліцы абудзілася радыёкропка і пачуўся зьнявечаны радыёшумамі голас Валянціны Церашковай: «Усе сыстэмы касьмічных чаўноў працуюць выдатна! Самапачуцьцё выдатнае! Працягваем выкананьне праграмы сумеснага палёту».

— А ці ня я вам казала: як толькі бабу запусьцяць — чакай бяды. Прыйдзе чорт напагасьціны.

— Твая праўдухна, — прастагнала Нюрка, выціраючы сьлязьлівае вока. — Як толькі ў хату ўвайшоў — я адразу зразумела, што гэта нячысьцік. Вачыма так і сьвідруе, так і сьвідруе... І пах ад яго нейкі падазроны. Нашы мужыкі так ня пахнуць.

— Дык а што ж цяпер рабіцьме? Сёньня курыца падохла, а заўтра карова капыты адкіне. Ці хата агнём возьмецца, — прашаптала Польця.

— Ціпун табе... — буркнула Язевічыха, размашыста, усёй пяцярнёй перахрысьцілася і, стаўшы на зэдаль, дастала з-за абраза пук сухога палыну. — А я яшчэ падумала: і хто гэта мне

чыгуны ў печы пераставіў? Ажнуль во хто!

Язевічыха чыркнула запалкамі, падпаліла пук, а задзьмуўшы агонь, стала абкурваць хату, мармычучы сабе пад нос: — Прэч, нячысьцік, з маёй хаты... і не вяртайся сюды ніколі...

У прысенку між тым мацюкнуліся і ў хату ўваліўся ўчастковы Міхноў. Кляцнуўшы носікам рукамыйніка, ён з гучным крэканьнем пляснуў на твар халоднай вады і, чухаючы пальцам вуха, жартаўліва запытаўся:

— Вы там што, цёткі, мох замест "беламору" смаліце?

— Каб цябе так пярун смаліў, — выдыхнула Язевічыха і, ужо на поўны голас паведаміла: — У пятніцу фатограф прыедзе, дык ты яго там, каля аўтобуса, пераймі. Партрэты возьмеш. Грошы мы ўжо заплацілі.

— А чые партрэты?

— Дзядзькі Міканора, матчынага брата, што ў мікалаеўскую вайну загінуў.

Міхноў зьняў з цьвіка ручнік, спытаў цётак — чаму фатограф ня можа прынесьці партрэты на дом, але тыя нічога не адказалі і выбеглі на падворак — абкурваць хляўчук і адрыну.

Аўтобус — запылены аднадзьверны "газон", — жаласьліва скуголячы на пад'ёмах, пад'яжджаў да Азярышча. У салёне было горача, тлумна, і з Барыса за сямнаццаць кілямэтраў дарогі сышло сем патоў. Ён прыспана дзюбаў носам і галава ягоная раз-пораз прымашчвалася на плячук мажной, гарадзкога выгляду кабеты, што сядзела пад бокам. Кабета пры гэтым незадаволена торгала плечуком і каротка выдыхала: «Мужчына!» Барыс на імгненьне абуджаўся, прыспана глядзеў на спадарожніцу, і зноў, з панылым адчаем абрыньваўся ў сон.

Скрозь скавытаньне матору і мернае біцьцё крыві ў барабанных перапонках у сонную сьвядомасьць прарываліся цьмяныя зыкі: гамана пасажыраў, гусінае гагатаньне, уздыхі гарадзкога выгляду кабеты і пад цяжкімі, працятымі сонечнымі

промнямі павекамі, мільганула раптам нечая пагрозьлівая постаць. Чапляючыся за голыя ногі, што тырчалі ў праходзе, ён пабег па вагону, заляцеў у прыбіральню, адчыніў вакно, вылез вонкі і завіс на руках, з жахам назіраючы за размытай стужкай зямлі пад нагамі...

— Мужчына, ну што вы, далібог... — кабета тыцнула яму локцем пад драбы, адсунулася, на колькі можна, і Барыс чарговым разам страсянуў галавой.

Апошнім часам яму сьнілася адно і тое ж: як ён, пятнаццацігадовы юнак, скакаў, ратуючыся ад міліцыянта, з вагону хуткага цягніка.

Пазяхнуўшы на поўную губу, Барыс працёр вочы, зазірнуў у газэціну, якую разгарнула суседка. У газэце, амаль палову паласы, займаў здымак касманаўтаў: Церашкова з Быкоўскім ішлі, нага ў нагу, па дывановым ходніку.

— Зірні, у Церашковай белыя «лодачкі», — прамовіла кабета, зьвяртаючыся да спадарожніцы, што сядзела ззаду. — У маёй сястры такія ж... Была ў яе неяк, прымерыла — як на мяне зробленыя.

— А дзе яна іх дастала? — запытала спадарожніца, і аўтобус рэзка загамаваў.

За шыбамі ўзьнялася пыльная кудаса і пачуўся сіпаты вокліч:

— Шофер, вазьміце...

— Сядай, бабуля, — гукнуў шафёр і ў аўтобус убілася Пелагея Катавод.

— Польця, ты адкуль? — крыкнула бабуля, што месьцілася адразу ж за кіроўцам, трымаючы кош з двума гусакамі, і Польця, паправіўшы хусьцінку, засакатала.

— Ай, во... сена варушыла на Дабранскай гары. Ды самлела на сонцы. Ледзь цягнуся.

Барыс узьняў ўгору партфэль, пасьміхнуўся бабулі, як старой знаёмай, позіркі іх сустрэліся і Пелагея, раскрыўшы шчар-

баты рот, ударыла азадкам у дзьверы.

— Адчыніце... ай, людцы добрыя! А ён жа мне хату спаліць! — загарлала старая, кіроўца на хаду расчыніў дзьверы, і Пелагея Катавод кульнулася на кучу прыдарожнага жвіру.

— Польця, ты што, ашалела?! — крыкнулі з аўтобусу; кабета, што распавядала пра "лодачкі", гучна пукнула; гусакі загарлалі, паспрабавалі ўзьляцець і адзін зь іх выбіў з роту ў кіроўцы прытухлую папяросу.

Аўтобус даў кругаля па пыльным пляцы і загамаваў ля прыземістай, на два вянкі ўрослай у зямлю «Чайной». Пасажыры разам падхапіліся, рушылі да выхаду і вадзіла, прыпальваючы "беламорыну", жартаўліва паківаў пальцам наравістаму гусаку.

Барыс борздка скочыў з прыступкі, абабіў нагавіцы, зірнуў з-пад рукі ў канец вуліцы ды зьніякавеў, пачуўшы ўладны вокліч:

— Грамадзянін!..

Ля «Чайной» стаяў цёмна-сіні матацыкл, а на ім сядзеў, абапёршыся рукой на бэнзабак, чарнявы міліцыянт. Міліцыянт махнуў рукой, і Барыс, з апалай душой, ціснучы да грудзіны пацёхканы партфэль, падышоў да матацыкла.

— Вашы дакумэнты.

Плечы міжволі тарганулася, паказваючы, што ніякіх дакумэнтаў няма, і міліцыянт прымірэнча кашлянуў.

— Кульгаеце пасьля раненьня?

Барысу б кіўнуць галавой, згадаць мясьціну — дзе яго параніла, але ён быў з тых людзей, якія ніколі не маняць.

— Гэта яшчэ да вайны. Зь цягніка давялося скокнуць.

— А што так?

— Ды на вашага калегу ўзьбіўся. Бацька ў мяне быў фатограф, рабіў розныя карткі. Ведаеце — «Кахай мяне, як я цябе»... і збоку ружа падмаляваная...

— Бацька рабіў, а ты прадаваў?

Барыс уздыхнуў.

— У цягніках далёкага накіраваньня?

Давялося ўздыхнуць другім разам.

— Пад выглядам нямка?

Барыс панурыў вочы, а міліцыянт крутнуў ключ запальваньня і палез у нагрудную кішэнь кіцеля.

— А вось такіх здымачкаў твой бацька, выпадкова, не рабіў?

Барыс дрыготкай рукой узяў фотакартку. Картка, на шчасьце, была не ягоная. Гэта быў пераздымак зь нейкага замежнага часопісу: крамяная дэвотка з голым азадкам гарэзьліва глядзела цераз плячук, а на доле была падмаляваная няўклюдная, падобная на варону, галубка з капэртай у дзюбе і чырванеў разгоністы надпіс: «Напішы мне ліста!»

— Не, гэта ня наш жанр, — прамовіў Барыс, вяртаючы фотакартку.

— Добра, калі так... А то ведаеш, што бывае за выраб і распаўсюд парнаграфіі? — міліцыянт сьцягнуў з матацыклетнага вазка брызэнтавую апону, завёў матацыкл.

«З Атбасару, відаць, пазванілі», — з гэтаю думкаю Барыс залез у вазок, правёў рукой па гарачым твары. Тут, на новым месцы, ён яшчэ не прадаў аніводнай фотакарткі. Зрабіў, праўда, невялікую партыю з выяваю Валянціны Церашковай, і нават дамовіўся з адным інвалідам наконт рэалізацыі, але перадаць здымкі, на шчасьце, не пасьпеў. «А можа гэта інвалід заклаў? Завязуць зараз у міліцыю, потым учыняцьператрус, і аднаногі гаўнюк будзе за панятога».

Матацыкл, аднак, паехаў ня ў бок райцэнтру, а зусім у іншым кірунку.

— Бацька жывы, ці як?.. — крыкнуў, насупраць ветру, міліцыянт.

— Загінуў... пад Кіевам, — голасна азваўся Барыс і міліцыянт

— а можа, гэта толькі здалося — спачувальна кіўнуў галавой.

Разганяючы з дарогі курэй і качак, службовы К-750 праехаў па бальшаку, завярнуў да клюбу і спыніўся ля парога пашарпанай кінабудкі.

— Ну, што сёньня круціш?

Пытаньне гэтае міліцыянт адрасаваў высокаму і такому ж, як кінабудка, пашарпанаму дзецюку, які зьявіўся на парозе.

— «Чалавека-амфібію». Цэлы год прасіў, толькі цяпер прыслалі. І то трэцяй катэгорыі. Не ведаю, як дэманстраваць. Адны парывы.

Дзяцюк уздыхнуў, выцер пот з лабаціны, і Барыс зразумеў, што той пакутуе ад пахмельнай хваробы.

Яны зайшлі ў кінабудку. Тут было прахладна, прыцемна, і пахла мышамі.

— Пагаварыць трэба... з грамадзянінам, — суворым голасам прамовіў міліцыянт, і калі дзяцюк падаўся да дзьвярэй, Барыс піхнуў яму ў руку сем рублёў — усе тыя грошы, якія меў у кішэнях. Кінамэханік няўлоўным рухам падхапіў грошы, а міліцыянт, на радасьць Барысу, крыкнуў яму ўсьлед: — І на зуб што-небудзь арганізуй!

Мерна рыпаючы хромавымі ботамі, міліцыянт прайшоўся ад сьценкі да сьценкі, падхапіў з перамотнага стала афішу з выяваю кінаактора Коранева — выканаўцы ролі Іхтыяндра, — акінуў яго пільным міліцэйскім вокам і зьнянацку запытаўся:

— Колькі вы тут ужо ў нас?

— Трэці месяц, — трапяткім голасам адказаў Барыс і адкашляўся.

— А дагэтуль дзе пражывалі?

— На цаліне. Горад Атбасар Акмолінс… э-ээ… Цалінаградзкай вобласьці.

— А ў каго жывяце?

— У роднай сястры. Працуе на тэкстыльнай фабрыцы.

Міліцыянт крахтануў, падхапіў з кута кавалак тоўстай супрацьпажарнай тканіны — яе накідваюць на кінапраектар, калі той займецца агнём, — хацеў, відаць, пашараваць прапыленыя боты, ды нечакана запытаўся:

— Партрэты прывёз?

Барыс сьцепануўся. «Гэтаму не набрэшаш. Усё ведае», — мільганула беспакойная думка і ён запабежліва раскрыў партфэль.

— Трое замоўцаў. Абяцаў сёньня занесьці. Там і прозьвішчы напісаныя. На адвароце.

— Раз абяцаў, значыць, занясём.

Міліцыянт прачыніў дзьверы, выглянуў на падворак.

Дзесьці непадалёку покаў футбольны мячык і чуліся дзіцячыя галасы.

— Гэй, гвардзейцы! Давай сюды!

На падворку затупалі і міліцыянт жартам прыклаў руку да брылька:

— Здравія жалаю, гвардзейцы! Пелагею Катавод, Нюрку Марковіч і Язевічыху ведаеце?

— Ве-едаем! — хорам адказалі з надворку.

— Занясіце ім гэтыя партрэты. Зразумелі? Усё! Адна нага тут, другая там, — выгукнуў міліцыянт, і калі на падворку зноўку затупалі, засьвістаў падшыванцам усьлед.

Рэха вясёлага сьвісту адбілася ў душы; душа выпрасталася, памкнулася ўгору, і Барыс, пазіраючы на міліцыянта, захоплена падумаў: «Свой хлопец!»

Неўзабаве ў кінабудку вярнуўся гаспадар. Ён прынёс тры бутэлькі «маскоўскай» і бляшанку кансэрваў «Пячонка траскі».

— Дваццаць капеек вінен застаўся, — з гэтымі словамі “кіншчык” выставіў справунак на перамотны стол і зноўку зьнік за дзьвярыма.

Міліцыянт падхапіў бутэльку, абабіў сьцізорыкам сургуч.

— Ну што, возьмем? — буйны струмень напоўніў на дзьве траціны мутную «малянкоўку».

Барыс кіўнуў у бок дзьвярэй, маўляў, трэба пачакаць гаспадара, але міліцыянт уладна махнуў рукой:

— Цягні... Яму шмат нельга. Кіно трэба круціць.

Гарэлка прайшла ў нутро з напругай.

Міліцыянт, кульнуўшы шклянку, таксама скрывіўся і, «закусіўшы» рукавом, стаў ускрываць сьцізорыкам бляшанку.

— Хоць бы «часьціка» ўзяў... зноў гэтая пячонка... у рот ня лезе.

Тут жа яны выпілі па-другой. Гэтым разам міліцыянт гучна ікнуў, задаволена пацёр далоні.

— Не, далібог, прыдушу калі-небудзь коргу лупатую.

Міліцыянт не патлумачыў — каго зьбіраецца душыць, і Барыс запабежліва напоўніў «малянкоўку».

— Уяўляеш, я ёй хату шыфэрам пакрыў, сьвятло правёў, падсьвінака з базару прывёз, а яна на мяне ў абласную ўправу паперу накатала. Ну задушыў бы, зьмяюку! — міліцыянт ляснуў кулаком па перамотным стале, і суразмоўніку давялося ўтаймоўваць бутэльку, якая ледзь не звалілася долу. У гэты момант за сьпінай дробна затупаў кінамэханік.

— Хлеба з суботы не вязуць. Во, выпрасіў у маткі, — “кіншчык” паклаў на стол кавалак хатняга хлеба, шмат зжаўцелага сала і пук зялёнай цыбулі.

— А што, матка хлеб пячэ? — запытаўся асьмялелы Барыс, жуючы адразу тры цыбульных пёры.

Кінамэханік нічога не адказаў, бо ўважліва глядзеў на паўнюткую шклянку, і толькі выпіўшы трунак, сіпата прамовіў:

— Пячэ... ды, кажа, мука патрэбна шатраваная.

— Бабы хлеб пякуць, зяцю чарку падносяць, а гэтая ж, с-сука... — страшным голасам выдыхнуў міліцыянт, і

кінамэханік, якому, відаць, даўно абрыдлі такія нараканьні, падхапіўся, уключыў прайгравальнік і кінабудка скаланулася ад бадзёрага рытму «Кукарачы».

— Зноў уключыў гэтую херню! — міліцыянт расшпіліў кіцель. — У цябе Рабэрціна Ларэцці ёсьць?

— Хто?! — перапытаў Лёха.

— Дзед Піхто, — выдыхнуў, аддзімаючыся пасьля гарэлкі, міліцыянт. — Сядзіш у кінабудцы як той барсук у нары... ня ведаеш — што ў сьвеце дзеецца. Ты хоць пра Церашкову чуў?

— Чуў, — азваўся Лёха, — кажуць, яны з Быкоўскім на арбіце ... Дзеля навуковага экспэрымэнту.

Міліцыянт хмыкнуў, але потым, нібыта згадаўшы пра штосьці, дакорліва павёў брывом.

— Яны ж у розных ракетах лёталі, як жа яны маглі ...? Ты ўвогуле канчай такія размовы. А то я табе хутка... язык у калоду зацісну.

— Ды я нічога. Гэта ж людзі кажуць.

— Лю-удзі... Гэта якія людзі? Можа, цешча мая? — міліцыянт палез пад стол за другою пляшкай, з пакутлівым уздыхам запытаўся Барыса: — Цешчу маеш?

— Памерла, адказаў Барыс, і суразмоўнік, ляснуўшы бутэлькай па стале, ці то жартам, ці то ўсур’ёз, прамармытаў: — Шчасьлівы чалавек.

Другую бутэльку пілі павольна і з асалодаю. Лёха пры гэтым ладна захмялеў, і Пятровіч — так звалі міліцыянта, — больш яму не наліваў. Падпёршы далоньню шчаку, “кіншчык” асавела глядзеў на шклянку і, шморгаючы носам, наракаў на свой незайздросны лёс. Лёху, як высьветлілася, даводзілася ня толькі «круціць кіны», але й касіць сена для калгаса, нарыхтоўваць для клюбу дровы, а таксама — апавядаючы пра гэта Лёха нават заплакаў — удзельнічаць у мастацкай самадзейнасьці: граць Чорта ў гогалеўскай п’есе.

Пятровіч слухаў Лёхавыя аповеды краем вуха, а пачуўшы пра мастацкую самадзейнасьць, упрыкмет пажвавеў. Хвіліну,

з іранічнай усьмешкай, ён вывучаў асавелы Лёшкавы твар, потым задаволена рагатнуў:

— Падобны! Можаш граць Чорта без усялякага грыму.

Лёха жарту не зразумеў:

— Як гэта бяз грыму? Мяне ж сажай перапэцкалі, і лыч з рагамі пачапілі.

— А дзе той лыч? — Пятровіч абмакнуў у алеі, што заставаўся ў бляшанцы, хлебную скарынку.

Хістаючыся, Лёха выйшаў з кінабудкі, зайшоў у клюб — было чутна, як ён грукнуў дзьвярыма, — і праз колькі часу паўстаў у абліччы мастацка-самадзейнага Чорта.

Маска была зроблена з паралёнавай вяхоткі: фарбаваны чорнай фарбай лыч трымаўся на гумцы, а ад лыча ішлі два правадкі, на якіх дробна дрыжэлі рогі, прычым адзін рог быў напалову адарваны.

Сьледам за Лёхам маску прымерыў Пятровіч і, страшэнна задаволены, наліў кінамэханіку «з каптуром».

Гарэлка была выпітая, пячонка траскі даедзеная, бляшанка вынесеная на парог, дзе яе ўзяўся вылізваць аграмадны чорны кот, і Пятровіч, наставіўшы на кінамэханіка лісьліва-лагодныя вочы, ледзь чутна прамовіў: «Лёша!»

Кінамэханік п’янавата агледзеўся, ня цямячы — хто назваў ягонае імя, а потым гэтак жа ціха прамармытаў:

— Няма... ніхто ня гоніць...

— Лёша... трэба, — ужо голасна прамовіў Пятровіч і той, да каго ён зьвяртаўся, павагаўшыся, зь цяжкасьцю падняўся на ногі.

Вярнуўся Лёха на дзіва хутка, трымаючы ў руках заторкнутую кавалкам газэціны бутэльку з-пад шампану. Пятровіч пляснуў у ладкі, адкаркаваў бутэльчыну.

— Самагонка Сьцепулёвая? Па паху чую! Ох, штрафану я гэтага Сьцепуля... далібог, штрафану! Цікава — дзе ён дрожджы дастае?— у голасе міліцыянтавым, нягледзячы на робле-

на-суворыя ноткі, чулася шчырае захапленьне.

Кульнуўшы самагонкі, “кіншчык” кульнуўся і сам: паваліўся разам з услонам на цэмэнтавую падлогу, і давялося яго падымаць ды класьці, крэкаючы ад натугі, на перамотны стол. Барыс піхнуў пад голаў небараку парусінавы туфель, што зваліўся зь Лёхавай нагі, наструнена запытаўся:

— А як жа ён будзе «Амфібію» круціць?

— Што яму... упершыню? За яго жонка круціць.

Самагонка забірала як мае быць. Ужо пасьля першай чаркі ў галаве забомкалі званы, кінабудка забрыніла ўваччу і Барыс, слаба цямячы, што да чаго, памкнуўся да выхаду.

— І сапраўды, трэба выйсьці да ветру, — выгукнуў Пятровіч, заторкнуўшы недапітую бутэльку газэтным пыжом.

Што было потым — Барыс цьмяна ўяўляў. Аднекуль, як з глыбокай бочкі, далятала стракатаньне матацыкла, хтосьці ляпаў яго па карку, некуды цягнуў. На кароткае імгненьне сьвядомасьць праясьнела, ён адчуў, што ляжыць на капе ці то сена, ці то саломы, і пачуў зьняможаны голас Пятровіча: «Яшчэ чарку возьмеш?»

Абудзілі яго раскацістыя грымоты. Барыс расплюшчыў вочы і ў гэты міг задушлівы прыцемак асьвятліла зыркая маланка.

Галава балела, у роце было як насцана, усё цела шчымела, і Барыс, памацаўшы узмакрэлую прамежнасьць, зразумеў, што яго пакусалі рудыя мурашкі.

Яны ляжалі з Пятровічам непадалёку ад бальшака, на капе сьвежаскошанай травы; Пятровіч страшэнна, з буркатлівымі абэртонамі, хроп у абдымку з бутэлькай, і давялося доўга трэсьці яго за рукаво, а потым ляпаць далоньню па халяве запыленых ботаў.

Міліцыянт раздзер павекі, з вохканьнем прыўзьняўся, пацёр рукой патыліцу.

— Фу-у, бляха-а…

Пасёлак, відаць, быў непадалёку, бо разам з грымотамі

цёплы ветрык даносіў каровіна рыканьне, гарланьне ўстрывожаных блізкай навальніцай пеўняў і глухую людзкую гаману — у клюбе, відаць, скончыўся фільм.

— Пахмяліцца трэба, а то памру... пры выкананьні службовых абавязкаў, — Пятровіч прыпаў да рыльца пустой бутэлькі, шпурнуў пасудзіну ў кусты.

— Вернемся, дождж перачакаем, — Барыс кашлянуў, прачышчаючы пераселую глытку. — Да таго ж, я партфэль у Лёхі забыўся.

— А я фуражку... на кінапраектар павесіў... — Пятровіч пакутліва паморшчыўся. — У коргі ёсьць бутэлька віна. Але ж гэтая курва хутчэй памрэ, чым дасьць пахмяліцца.

Яны падняліся на ногі, няпэўным крокам пайшлі да матацыклу.

— Слухай, я сам хацеў... але ў цябе лепш атрымаецца.

Барыс, не зразумеўшы, пра што размова, наставіў на сабутэльніка ашклянелыя вочы.

— Пужнем маю «маму», каб ёй болей чэрці ня мроіліся, — Пятровіч выцягнуў з матацыклетнага бардачка пазычаную ў Лёхі маску чорта, кінуў Барысу.

— А можа ня варта... стары чалавек...

— Ня сцы... гэтая корга цябе перажыве, — выгукнуў Пятровіч і ўладнымківком загадаў пхаць матацыкл, каб выкаціць на бальшак.

Пятровіч загамаваў ля самых весьніц, аглушальна газануў і толькі тады заглушыў матор.

— Зараз мы ёй пакажам… мастацкую самадзейнасьць. Грукай, толькі як мае быць... пятым сталінскім ударам.

Хмель яшчэ ня выпетрылася з галавы. Барыса хіснула, і ён, перабіраючы пальцамі штыкетнік, рушыў да хаты. Маланка высьветліла высокі ганак, вышчарблены парог, жалезную клямку на дзьвярах. Неўзабаве за дзьвярыма грукнула вядро і пачулася незадаволенае мармытаньне: «Каб ты скруціўся,

п’янюга... Няма спакою ні днём, ні ноччу...»

Барыс сьпехам, дрогкімі рукамі, насунуў на нос паралёнавы лыч.

— Ай, хто гэта?! — спалохана гойкнула Язевічыха і ў тое ж імгненьне парог пад Барысавымі нагамі здрыгануўся і ў прысенку — цяпер ужо з аглушальным зыкам — бразнула і пакацілася па падлозе пустое вядро.

Пятровіч заклапочана выплыў зь цемры. Убіўшыся ў прысенак, зяць укленчыў, прыпаў вухам да цешчынай грудзіны. Пару хвілін ён рабіў цешчы штучнае дыханьне, нарэшце мацюкнуўся і вокраччу вылез на парог.

— Стой тут, а я па фэльчара пабягу... — Пятровіч яшчэ раз мацюкнуўся і, ужо на бягу, незадаволена прасіпеў: — Здымі ты... йоп...

Што там трэба зьняць, Барыс спачатку і не зразумеў, ды тут жа, намацаўшы паралёнавы лыч, зьдзёр яго з носа і піхнуў у кішэню.

Хвілін праз пятнаццаць, у самую залеву, дарэшты ацьвеправзелыя, яны ляцелі па бальшаку, і Барыс, заплюшчыўшы вочы, ліхаманкава мармытаў малітву, якую ў далёкім маленстве яго навучыла маці. Фэльчар быў у адпачынку, дазваніцца да «хуткай дапамогі» не ўдалося — тэлефон у пасёлку не працаваў, таму, узгрувашчаўшы самлелую бабу ў вазок — адна нага не зьмясьцілася і ляжала паўзьверх вазка, — яны ляцелі ў райбальніцу, і матацыкл, налятаючы на калдабаны, раз-пораз адрываўся коламі ад зямлі.

«Хана... не даедзем... разаб’емся!» — мітусіліся ў галаве панічныя думкі, а калі матацыкл пайшоў на паварот, і вазок адарваўся ад зямлі на добрых паўмэтры, Барыс куснуў Пятровіча за мокрую сьпіну і малітоўна прастагнаў:

— Цішэй... не даедзем.

— Даедзем, бл-ляха! — крыкнуў, адплёўваючыся дажджавою вадой Пятровіч.

На імгненьне, калі матацыкл паехаў па нечым гладкім,

Барыс разьмежыў павекі. Пасма мокрых валасоў узьбілася на вочы, таму ён ўбачыў толькі дошкі пад нагамі ды шэрыя парэнчы мосту пад самым бокам. А яшчэ ўгледзеў як ачунялая корга — відаць, з перапуду — убрыкнула Пятровіча нагою пад локаць. Матацыкл кінула спачатку ўлева, потым управа, парэнча з глухім трэскам пераламілася, і ў паветры, асьветленым злавесным бліскам маланкі, мільганула ільсьнянае галіфэ і такі ж ільсьняны хромавы бот, які нечакана аддзяліўся ад нагі і паляцеў... Зрэшты, куды паляцеў бот, Барыс не пасьпеў заўважыць, бо абрынуўся ў халодную ваду. Дно было пяшчанае, і гэта зьмякчыла ўдар. Не разумеючы — што зь ім і дзе ён, Барыс рушыў да берага, балазе, вады было па грудзіну, і наткнуўся на ашалелую Язевічыху. Тая канчаткова апрытомнела і адчайдушна лупіла па вадзе рукамі і нагамі.

— Лётаем, як Церашкова з Быкоўскім, — пажартаваў Барыс, дапамагаючы цётухне выбрацца на бераг, і ў адказ на той недарэчны жарт Пятровіч, харкнуўшы рачною тваньню, зьнясілена прастагнаў:

— Нага…

Пад раніцу, дарэшты мокры, Барыс уваліўся ў сястрыну хату і, не патрапляючы рукамі ў рукавы ды калашыньне, пачаў пераапранацца.

— Дзе ты быў? Чаго ты ўвесь мокры? — прыспана запыталася сястра Клава.

— Чаго мокры... Дождж вунь які прайшоў... аж дарогі паразмывала, — Барыс падцягнуў услон, стаў здымаць з шыфаньера валізу.

— Божухна, куды ты сабраўся проці ночы?

— У Атбасар. Пабуду там які месяц, потым вярнуся. Ты вось што... — Барыс прыцішыў голас, — калі хто будзе спытваць, скажы — паехаў, а куды — не сказаў.

— Ну чаго ты гойсаеш па сьвеце? Толькі што прапісаўся... працаваць стаў...

— Праца ад мяне не зьбяжыць, яна заўсёды са мной, —

расчулена прамовіў Барыс і чмокнуў сястру ў цёплую скронь.

У цёмным і душным вагоне Барыса адразу ж пачало хіліць на сон; ён таргануў пару разоў носам, зьбіраўся лезьці на паліцу, ды тут па праходу, сьвецячы на бокі ліхтарыкам «жучок», прайшлі два міліцыянты. Сон зьляцеў з павекаў і рука пацягнулася да валізы. Бразнуўшы зашчапкамі, Барыс крадком агледзеў сонных пасажыраў і, намацаўшы ўкручаны ў ручнік стос падрыхтаваных да продажу фотаздымкаў, піхнуў яго ў прарэх расшпіленай кашулі...

У вагоннай прыбіральні ён расчыніў вакно, вытыркнуў галаву ў вузкую пройму і захлынуўся ад волкага паравознага дыму. Неба на ўсходзе ўжо ружавела і залівала пяшчотным сьвятлом бярозавы гай, які плыў насустрач дыму, бясконцымі белымі крэскамі пазначаючы далягляд. Насустрач, узьняўшы ўгору кароткія крылы, жывымі істотамі ляцелі сэмафоры, і Барысу здалося, што гэта менавіта тая мясьціна, дзе ён ляжаў калісьці са зламанай нагой, і, уражаны такім адкрыцьцём, шпурнуў насустрач волкаму ветру стосік фотакартак. Адна зь іх заляцела ва ўнітаз. Перафатаграфаваная з «Огонька» Валянціна Царашкова пасьміхалася з ілюмінатару нехлямяжай, падобнай да гарбуза ракеты, і праз увесь фотаздымак ляцеў імклівы надпіс: «Прывітаньне з арбіты!» Зьбіўшы апошнія кроплі, Барыс уздыхнуў, націснуў понаж, і ў прадоньні вагоннага ўнітазу, як у тым ілюмінатары, размытай плямай мільганула зямля.

* * *

«Дарагі браце!

У мяне ўсё добра. Жыву, працую. Наша брыгада змагаецца за права насіць імя лётчыка-касманаўта СССР Валянціны Царашковай: яна ж таксама была ткальляй. А больш ніякіх навінаў няма.

Барысе! Тут днямі заходзіў чалавек на мыліцах, пра цябе спытваў. Прасіў перадаць, што Язевічыху выправілі ў дурдом, а сам ён, відаць, атрымае інваліднасьць. Казаў, каб ты хутчэй

вяртаўся. У прамкамбінаце таксама бядуюць, што ты зьехаў. Нават грошы аддалі з тваёй зарплаты, прычым без усялякіх пісьмовых даручэньняў. Так што прыяжджай, чакаю. Будзеш ехаць праз Маскву, прыхапі, калі ласка, пару кіло мукі альбо якіх крупаў, а то ў нашых крамах пуста. Цалую.

*Твая сястра Клава*

# ВОСЕНЬСКІЯ ВАКАЦЫІ

*(З аповедаў пра Ваню Бянькова)*

## I

Першымі днямі лістапада сямнаццацігадовы Ваня Бянькоў прыехаў дадому, у вёску Бычкі Азярышчанскага раёну. Ваня вось ужо трэці год вучыўся ў адным з баранавіцкіх ПТВ і, адпрацаваўшы са сваёй групай два месяцы на ўборцы лёну, зарабіў такім чынам пяць дзён адпачынку.

Убіўшыся ў родную хату, хлопец праспаў цэлыя суткі, потым паўдня адваляўся ў ложку і падняўся толькі тады, калі маці, Ларыса Пятроўна, сьцягнула зь яго коўдру і жартам агрэла падушкай па галаве.

— Мандрык тут, ці зьехаў куды? — запытаўся Іван, падліваючы цёплай вады ў рукамыйнік.

Лёшка Мандрык быў вядомы на ўсю вёску бандзюк — улетку Іван з-за яго ледзь не патрапіў у вязьніцу, і Ларыса Пятроўна заўсёды хмурнела, калі чула гэтае прозьвішча.

— Зьнік недзе... Мандрычыха казала — паехаў на трактарыста вучыцца, — маці падхапіла рагач, выцягнула зь печы чыгунок з гарачаю бульбаю, — а можа дзе ў турме сядзіць, за яго дужа не бярыся.

Абкруціўшы чыгунок анучкаю, Ларыса Пятроўна ўздыхнула, высыпала парную бульбу на талерку.

— На зіму ўсе разьехаліся. Адзін Лябёдка застаўся. У калгасе рабіць ня хоча — гойсае на матацыкле. На Пакровы Бадунісе гусака задушыў. Ехаў п’яны з Азярышча... так шыю і пераехаў. Бадуніха і цяпер бядуе. Зьбіраецца ў суд падаваць. — Ларыса Пятроўна накінула на голаў хустку, мелькам зірнула ў аскепак люстэрка, што стаяў на рукамыйніку, падхапіла зь

цьвіка ватоўку. — Ну, сядзі... Я на фэрму. А то ж, пэўна, рыкаюць, нядоеныя, — ужо з парога азвалася маці і, бразнуўшы клямкаю, затупала на падворку.

Лябёдка, пра якога згадвала Ларыса Пятроўна, быў гадоў на пяць старэйшы ад Івана і да апошняга часу працаваў у бычкоўскім клюбе кінамэханікам. У жніўні, акурат перад Іванавым ад'ездам на вучобу, з тым Лябёдкам бяда надарылася: заснуў, падпіты, у кінабудцы, а нехта з супольнікаў недапалак у бляшанку кінуў, у якой стужка ляжала. Ну і задыміла, вядома. Дым з вокнаў папёр, людзі зьбегліся, а Мандрычыха, загадчыца клюбу, зь перапуду ў Азярышча патэлефанавала, пажарную машыну выклікала. Пасьля таго выпадку Лябёдку і выкінулі з працы.

... Куснуўшы кіслы гурок, Іван пасьміхнуўся — згадаў, як ачмурэлага ад дыму Лябёдку выносілі з кінабудкі, і, падпёршы рукою рухавыя пашчэнкі, зірнуў у вакно.

За вакном, у сутоньні пахмурнага восеньскага дня, хісталася на ветры згалелая яблыня, а на яблыні, на самай высокай яе галінцы, дрыжэў ад холаду самотны яблык. Яблык быў зьмерзлы, зморшчаны, і, пазіраючы на яго, Іван са скрухаю падумаў, што пройдуць тры дні і давядзецца зноўку зьбірацца ў дарогу, каб ехаць у праклятушчыя Баранавічы. Тры дні... і зноўку будзе халодны вагон, зноўку будуць бясконца ляпаць дзьверы, і ён, седзячы на бакавым месцы ля прыбіральні, будзе стукацца патыліцай аб стоп-кран, аж пакуль у вачах хваравітым трызьненьнем не паўстане будынак баранавіцкага вакзалу.

Хлопец уздыхнуў, захрабусьцеў кіслым агурком і адчуў раптам, як штосьці мяккае і цёплае кранулася лыткі. Іван зірнуў пад ногі і ўбачыў ката Барыса. Барыс пацёрся трохі аб ягоную лытку, пацягнуўся, наставіў на Івана круглявыя вочы. Давялося кінуць на падлогу кавалак бульбіны, але Барыс на такі пачастунак нават не глянуў.

— Зажэрся ты, братка! Цябе б, бляха, у Баранавічы, у інтэрнат, — прамовіў Іван, і кот, згаджаючыся з такімі словамі, вякнуў ды паглядзеў на дзьверы.

Іван выпусьціў ката на двор, удыхнуў праз дзьвярную пройму ядранага паветра і вырашыў таксама праветрыцца.

Перадзім'ем у Бычках сумна. Прайдзіся праз усю вёску — жывой душы ня стрэнеш. Клюб зачынены, бібліятэка таксама. Вецер пясок са сьнегам круціць ды выцьвілы сьцяжок на шасту матляе. Сьцяжок, як сьведчыць надпіс на кардонцы, у гонар камбайнэра Ф. І. Траяна ўзьняты, які ў жніўні на сваім СК-4 чатырыста тон збожжа намалаціў. Збожжа даўно на станцыю зьвезьлі. Хведзька Траян даўно тыя грошы прапіў, што яму ў прэмію далі, а сьцяжок усё матляўся, і шост гудзеў на ветры, і не было ў сьвеце анічога больш сумнага, чым гэтае матляньне і гэтае панылае гудзеньне.

"І на якую халеру прыехаў?" — падумаў Іван, тузануўшы дзьвярную ручку. Кінабудка была зачыненая і, мяркуючы па той колькасьці пяску, што намяло пад дзьверы, невядома калі адчынялася. Іван прыпаў вокам да шчыліны дзьвярэй, доўга глядзеў на стаптаны чаравік, што ляжаў пасярод кінабудкі, разважаючы — каму б ён мог належаць — і гэтыя развагі былі перарваныя матацыклетным рокатам. Рокат чуўся з боку Азярышча: матацыкл змучана чхаў, страляў выхлапнымі газамі, і гэта сьведчыла за тое, што па дарозе ехала Лябёдкава "Панонія".

Зьяжджаючы з Дабранскай гары, матацыкл загуў на фарсажы, а пад'ехаўшы да клюба, заляскатаў парывіста і глуха.

— Ваня! Прыехаў! — выгукнуў кіроўца "Паноніі", задаволена пасьміхнуўся і, зьняўшы крагі, працягнуў Івану сваю перапэцканую машыннай алівай руку. Лябёдку было цяжка пазнаць. Калі раней ён гойсаў на сваёй "Паноніі" ў танкісцкім шлеме, дык цяпер галаву ягоную ўпрыгожваў моташлем з самаробным брылём, і гэты брыль рабіў яго падобным да вялізнай качкі.

— Зь Віцебска еду, ад брата, — растлумачыў Лябёдка, пасьля чаго крутнуў ручку газу і, матлянуўшы галавой, прамовіў: — Адвязвай ды сядай. Газанем, бляха!

За сьпінай былога кінамэханіка месьцілася, прытарочаная да сядзеньня, пашарпаная валіза. Іван паспрабаваў быў раз-

ьвязаць аборку рукамі, потым пусьціў у ход зубы і ў рэшце рэшт палез у кішэнь па сьцізорык.

— Асьцярожней толькі, у мяне там радыёлямпы, — мармытнуў Лябёдка і з натхненьнем паддаў газу.

Па тупкай сьцяжыне паехалі з грукатам, зь ветрыкам, а ўзьехаўшы на пясок, матацыкл запаволіў бег і завыў як перад скананьнем.

— Калі прыехаў? — запытаўся Лябёдка.

— Учора, — азваўся Іван; у гэты момант матацыкл стрэліў выхлапнымі газамі, тузануўся і заглух.

— Даканаў мяне гэты пярдун! — Лябёдка грукнуў кулаком па бэнзабаку, і хлопцы, даўшы волю мацюкам, добрых трыста мэтраў — аж да самае сталоўкі — піхалі-разганялі матацыкл, але той так і не завёўся.

У сталоўцы, куды яны ўвайшлі, было пуста, адно за прылаўкам, падпёршы рукамі кучаравую галаву, сядзела дачка сталоўскай загадчыцы Люська Халімонава і з сумам у вачах чытала нейкую кніжку. Зь Люськаю Іван некалі вучыўся ў школе, сядзеў за адной партай, а аднойчы, здаецца, у сёмай клясе, нават пісаў “любоўныя” цыдулкі. І хаця пасьля таго мінула ці мала часу, Іван і цяпер пры стрэчы зь Люськаю чырванеў і наагул пачуваў сябе ніякавата.

Ababіўшы кірзачы, Лябёдка паважнай хадою падышоў да Люські, гульліва пасьміхнуўся, а Люська, не адрываючыся ад чытаньня, памацала рукой пад прылаўкам і выставіла перад наведнікам бутэльку “Стралецкай”.

Такія Люсьчыны паводзіны наведніку відочна не спадабаліся. Зьняўшы з галавы моташлем, ён налёг грудзінаю на прылавак, з робленай цікавасьцю зазірнуў у кнігу.

— Што, Мапасана чытаем? — прагугніў Лябёдка, і шырокая пяцярня ягоная паволі легла на Люсьчын азадак.

Люська, відаць, толькі таго і чакала, бо кніжка надта ж імпэтна ўзьнялася ў паветра і гучна ляснула па Лябёдкавай патыліцы.

— Лябёдка! Зноў хуліганіш? — пачулася за перабойкаю, а ў раздатачным вакенцы ўзьнік расчырванелы твар загадчыцы сталоўкі.

— Пятроўна! Цешча ты мая дарагая! Я ж да вас сватацца прыйшоў! — жартаўліва заенчыў Лябёдка, і адказам яму быў грукат мэталёвага посуду і абураны голас Пятроўны:

— А каб цябе парвала, такога зяця!

Пятроўна выйшла з кухні, паправіла на галаве хустку, а згледзеўшы Івана, які муляўся ля дзьвярэй, з усьмешкаю на вуснах запытала:

— Што, Ваня, прыехаў... будзеце цяпер на пару піячыць? — Пятроўна хацела яшчэ нешта сказаць, аднак Лябёдка, абураны такімі словамі, паставіў “Стралецкую” на бліжэйшы столік і суворым голасам загадаў:

— Абслугоўвайце наведнікаў!

Іван, слухаючы ўсё гэта, гатовы быў скрозь зямлю праваліцца. Ён ужо і ня рады быў, што пацёгся зь Лябёдкам у сталоўку, і, перакідваючы з рукі на руку брынклівую валізу, кідаў дакорлівыя позіркі на шырозную Лябёдкаву сьпіну.

Пятроўна ляснула дзеля прыліку косткамі лічыльнікаў, з усьмешкаю на перакошаным твары прамовіла:

— Два шэсьцьдзесят... наведнікі.

— Дзьве скумбрыны і чатыры хлеба, — усё тым жа афіцыйным тонам прасіпеў Лябёдка, пашнарыў па кішэнях і, зьвяртаючыся да да Івана, прабачальным голасам запытаў: — У цябе пару рваных ня знойдзецца?

Іван зь Лябёдкам расьлі бязбацькавічамі. Іван свайго бацьку толькі на фотаздымку бачыў, а Лябёдкаў бацька, калі сын яшчэ і ў школу не хадзіў, завэрбаваўся па аргнаборы ў Карэлію, і яго там, нецьвярозага, забіла на лесапавале. Бязбацькавічы, як вядома — тыя ж браты. Іван мінулым часам цэлымі суткамі прападаў у кінабудцы. У карты граў, кружэлкі круціў на клюбнай радыёле, а вечарамі стужкі перамотваў ды фільмы глядзеў праз адтуліну. Праўда, калі Лябёдка бываў не ў гуморы — з

бадуна, ці калі з Мандрычыхай палаецца, — дык мог свайму "брату" і па карку заехаць, а то, згадаўшы саратаўскую вучэбку, у якой служыў у войску, мог загадаць разоў сорак ад падлогі адціснуцца. І вось, сядаючы за стол і адчуваючы, што настрой Лябёдкавы канчаткова сапсаваны, Іван з насьцярогаю пакасіўся на сваю былую аднаклясьніцу.

"Стралецкая" — настойка на дзіва паганая. Яе глытаеш, а яна назад лезе...

Кульнуўшы па першай, хлопцы скрывіліся, пусьцілі пад ногі густую сьліну і з драпежным выглядам на тварах сталі зьдзіраць зубамі скуру зь перасохлых рыбін.

Пару хвілінаў яны сядзелі моўчкі, грызьлі каляную рыбу, аж пакуль Лябёдка не пацягнуўся за бутэлькай і, наліваючы па другой, не працадзіў:

— Яны яшчэ пашкадуюць...

Наліў сабе Лябёдка ў два разы болей, чым сябру, і пад пільным Іванавым позіркам трунак уліўся ў ягонае нутро нат не зварухнуўшы коўціка.

— Два разы вымпел атрымлівалі... Курва гэтая, Мандрычыха, на сэмінары езьдзіла. А безь мяне... раз на тыдзень круцяць, і стужка праз мэтр ірвецца. — Былы кінамэханік выплюнуў на падлогу рыбіну луску, выцягнуў з кішэні пачак "беламору".

— А хто круціць? — пацікавіўся Іван, мерачыся запусьціць пальцы ў пачак з куравам.

— Як хто — Мандрычыха!

— Мандрычыха?! — а яна ўмее?

Былы кінамэханік чыркнуў запалкаю, паднёс да папяросы, і жоўты вогнік зь вясёлым імпэтам мільгануў у ягоных вачах.

— Мішка Бадуноў круціць. А яна так... ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва. — Лябёдка зацягнуўся папяросай, з шумам выпусьціў дым, і той паволі паплыў у бок вакенца раздачы.

— Мішка ж непаўналетак, дык яна ў Азярышча езьдзіла, дамаўлялася. Казалі, пляшку белай ставіла. Ну і дамовілася,

старая курва. Палову стаўкі сабе забірае, а палову Бадунісе аддае.

За сьценкаю зноўку штосьці грукнула, палілася вада, і пачуўся зычны голас Пятроўны:

— Хопіць смаліць! Не ў хляве!

Яшчэ празь імгненьне ў пройме раздатачнага вакенца мільгануў раззлаваны твар Пятроўны, вакенца зачынілася, і загадчыца, ужо прыглушаным голасам, дадала:

— Закругляйцеся. Хутка зачыняць буду.

Шызы дым, які дагэтуль плыў у вакенца, папоўз па сьцяне, ахутаў шыльду зь нязграбным надпісам "У нас не курят".

— Задзяўбла, — прашаптаў Лябёдка, затушыў аб нутраны бок стала папяросіну і, падвысіўшы голас, выдыхнуў: — Куды зачыняцца?! Сталоўка да сямі працуе!

— Да дваццаці сямі! — крыкнула за сьценкаю Пятроўна, пасьля чаго Лябёдка страсянуў галавой і падхапіў бутэльку.

Рэшткі "Стралецкай" былі разьлітыя пароўну.

— У кінапракаце цяпер ня ведаюць, што й рабіць. Кінамэханікі ж на дарозе не валяюцца! Ня сёньня-заўтра папросяць заяву напісаць. Толькі во ім! — Лябёдка ляпнуў далоньню левай рукі па выстаўленай правай і падняў шклянку.

— Люська! Чаго ты тут мацюкі слухаеш?! Ідзі дахаты! — азвалася за сьценкаю Пятроўна, і Люська, захлопнуўшы кнігу, без асаблівай ахвоты падалася да вешалкі.

— Пятроўна, куды ж яна?! Хай пачакае... я ж папраўдзе жаніцца хачу! — жартаўліва заенчыў Лябёдка, а Люська, зьняўшы зь вешалкі паліто, крутнула пальцам ля скроні.

— У каго, у цябе? — крыкнуў увасьлед дзяўчыне былы кінамэханік, але тая не пачула — выбегла на двор.

Ад дзьвярэй павеяла халадэчай. Ачуўшыся, Іван пацёр лабешнік, п'янавата ўтаропіўся ў супольніка. Ад выпітага кружылася галава, у вушах шумела і ён зусім ня цяміў — пра што вёў гаворку сябра.

— У труне я бачыў гэты кінапракат! — гукаў суразмоўнік, раз-пораз пляскаючы далоньню па валізе. У валізе пры гэтым штосьці бразгала. — Як захачу, дык буду мець болей, чым уся тая кінапракатная кантора. — Слова “кантора” былы кінамэханік вымавіў зусім ціха і, адсунуўшы на край стала пустую пляшку, зірнуў у бок прылаўка.

— Давайце, п’янтосы... зачыняць буду! У мяне карова целіцца, — азвалася з кухонных нетраў Пятроўна, і Лябёдка ад таго воклічу перакрывіўся як ад зубнога болю.

— Каб ты сама ацялілася, — працадзіў скрозь зубы былы “кіншчык”, паныла глянуў на пустую пляшку і нечакана для Івана ляпнуў яго па сьпіне. — Ваня-а! Сябрук! Хочаш, заўтра ж паедзем. Пакажу табе, як грошы робяцца. А? Ваня-а!

Іван кісла пасьміхнуўся, узьняў на прыяцеля ашклянелыя вочы.

— Як гэта? — выдыхнуў ён, не даючы веры Лябёдкавым словам.

— Пабачыш... Ва Ўсьвяцкі раён паедзем, у Велікарусію, — Лябёдка разьвёў рукамі, зьбіраючыся, пэўна, паказаць, як ён будзе зарабляць грошы, і ў гэты момант сталоўка панурылася ў цемру. — Што гэта? — зьдзіўлена прамармытаў Лябёдка, рыпнуў крэслам, а зразумеўшы ў чым справа, абурана гаркнуў: — Пятроўна! Харэ барзець! Уключы!

Пятроўна затупала на кухні, потым яе шырокая постаць акрэсьлілася ля прылаўка і, бразнуўшы ключамі, загадчыца сталоўкі коратка і рашуча загадала:

— Усё! Выкульвайцеся!

... На двары было цёмна, над галавой зьзялі зоркі, і Іван, азірнуўшы азоранае неба, шчыра зьдзівіўся: чаму ён ня бачыў гэтых зорак там, у Баранавічах? Дыхнуўшы парай, хлопец абтрос апошнія кроплі і прыслухаўся. За сьпінаю чулася гучнае цурчаньне.

— Ну, дык як, паедзем? — запытаўся Лябёдка праз хвілю, асьвяціўшы твар агнём запаленай сярнічкі.

Жарынка Лябёдкавай папяросы задрыжэла ў цемры, узьнеслася ўгору, матлянулася некуды ўбок і неўзабаве вярнулася на месца.

— Вушанку толькі вазьмі, а то надзьме, — за рогам бразнула завала, пачулася незадаволенае мармытаньне, і яшчэ празь імгненьне таропкія крокі Пятроўны зьліліся з брэхам бычкоўскіх сабак.

Дапаліўшы папяросы, сябры выкацілі на бальшак Лябёдкаву "Панонію", крэкнулі, рыхтуючыся да разгону, і Лябёдка, тупаючы кірзачамі па дарозе, засоплена выдыхнуў:

— Заўтра... а восьмай... ля сталоўкі.

Апошнім высілкам Іван піхнуў матацыкл, паваліўся на зямлю і падняўся толькі тады, калі пачуў, як "Панонія", ужо недзе пад самай гарой, зь неахвотаю заляскатала маторам.

Прыемна ўсё ж такі прачнуцца ў роднай хаце, зірнуць на гадзіньнік і, адчуўшы, што спаць можна дасхочу, кульнуцца на левы бок. Такімі хвілінамі душу наведвае ціхая радасьць, і сны потым сьняцца прасьветлыя і чыстыя.

Прачнуўшыся а сёмай, Ваня Бянькоў памружыўся на сьвятло, што цадзілася з кухні, і ў той самы міг сон зьляцеў з павек і слых напоўніўся да болю знаёмымі зыкамі: гудзеньнем у коміне, тхаканьнем старых ходзікаў і лагодным кацiным мурканьнем, якое перарывалася за кожным трэскам бярозавых дроў. Паляжаўшы на баку, Іван лёг на сьпіну, зірнуў краем вока на ката Барыса і з асалодаю, аж да хрусту ў каленях, пацягнуўся. "І куды гэта Лябёдка сабраўся?" — падумаў ён, канчаткова абудзіўшыся, і разважаючы над гэтым пытаньнем, зірнуў на Барыса. Кот сядзеў на печы, вуркатаў свае песьні і час ад часу ўтрапёна пазіраў на ўваходныя дзьверы. Іван удыхнуў паветра, каб паклікаць Барыса, але ў той жа міг у сенях бразнула даёнка і кот вомігам растварыўся ў шарым запечным паўзмроку.

Маці ціхенька адчыніла дзьверы, і ў хаце запахла сырадоем. Паставіўшы на ўслон даёнку, маці зьняла зь цьвіка марліну,

страсянула абедзьвюма рукамі, і неўзабаве сырадой ценькім цурком паліўся ў збан. Іван заплюшчыў вочы, прыслухаўся да зыкаў, што далятаді з кухні, і кожны матчын рух яскрава адбіваўся ў ягонай сьвядомасьці. І вось цурчаньне стала больш глухім, маці штосьці прамармытала сама сабе, грукнула вядром ды нечакана спалохана гойкнула:

— А каб ты спрах, кацера ты чортава!

Ну вядома — кот Барыс ізноў напужаў маці. Печ у хаце высокая, і Барыс, сігануўшы зь верхатуры, напачатку скочыў на матчыну сьпіну і толькі потым зьляцеў на падлогу.

— Во халера на маю галаву! І на чорта мне гэты кот?! — бедавала маці, разьліваючы сырадой, а напоўніўшы другі гарлач, плёснула малака ў Барысаву чарупку. Хвіліну Іван слухаў, як роспачна ляпаў языком кот Барыс, пасьля чаго крэкнуў і падняўся на ногі.

— Што, піў учора? — запыталася Ларыса Пятроўна, калі сын, пачарпнуўшы вады зь вядра, прыпаў да конаўкі.

— Угу! — вымавіў Іван, не перарываючы піцьця, а наталіўшы смагу, выцер вусны і, апярэджваючы матчыны словы, дадаў: — Зь Лябёдкам, п’янтосам гэтым няшчасным.

Ён прабег на цырлах па халоднай падлозе, шмыгнуў у цёплую пасьцель і яшчэ раз, цяпер ужо з райскім задавальненьнем, пацягнуўся.

— Алкаш гэты... узяўся тэлевізары рамантаваць, — азвалася з кухні маці, плюхнуўшы вады ў даёнку. — Авадзісе адрамантаваў, дык, казала, два дні гук быў, а на трэці ня стала. — На кухні зноўку плюхнула вада, гэтым разам у мядніцу, і маці, адчыніўшы дзьверы, пачала выносіць збаны на холад.

— У нас жа тэлевізараў мала, рамантаваць няма чаго, дык панадзіўся ў Азярышча езьдзіць. Думаў, там яму адваліцца... А людзі, што ў тэлеатэльье працуюць, злавілі ды ў каршэнь натаўклі — во як! — маці вохнула, падхапіўшы штосьці цяжкое, і выйшла з хаты.

Іван асавела пазяхнуў, зьбіраючыся паспаць яшчэ якую

гадзіну, але маці зноў убілася ў хату і, кінуўшы ля печы абярэмак дроў, недарэчна голасна абвясьціла:

— У Пятроўны карова ацялілася. Цялушачка такая ж, як наша Рагуля. Сама чорная, а на лобе меціна...

Каб ня слухаць матчынай балбатні, Іван утоўк галаву ў падушку, абхапіў яе рукамі і, ашчадна дыхаючы, стаў думаць — ехаць яму зь Лябёдкам ва Ўсьвяцкі раён, ці, мо, застацца дома.

Лябёдка, на якога не стамлялася лаяцца Ларыса Пятроўна, быў наагул хлопцам нішкаватым. Піў, вядома, але ж і справу сваю ведаў. Пазалетась ягоны партрэт нават у раённай газэце надрукавалі. “Кінамэханік Бычкоўскага кінастацыянару М. Лебядзько рыхтуецца да чарговага сэансу”. Наблытаў, праўда, карэспандэнт у прозьвішчы, але як не наблытаеш, калі яго ад Лябёдкавай кінабудкі да старшынёўскага “казла” ўтрох вялі. Дакладней кажучы, вялі двое — сам Лябёдка ды Лёшка Мандрык, а Іван карэспандэнту ногі перастаўляў — гэтак чалавек напіўся.

Меў былы кінамэханік, апрача гарэлкі, яшчэ адну жарсьць — радыётэхніку. У школе нават марыў у радыётэхнічны інстытут паступаць, а ў восьмай клясе, знайшоўшы ў нейкім часопісе схему, змайстраваў электрагітару. Інструмэнт гэты быў у той час вялікай рэдкасьцю — паглядзець на яго нават з Азярышча прыяжджалі. Лябёдка зь ім на канцэртах выступаў, да клюбнай радыёлы падключыўшы. Ну, а як ужо ў войска ішоў, падараваў гітару Лёшку Мандрыку, сыну загадчыцы клюба. Лёшка таксама на канцэртах брынкаць узяўся, хоць граць і ня ўмеў. Але брынкаў нядоўга — штосьці там у гітары замкнула, і Лёшку падчас канцэрту токам смальнула. Мандрычыха пасьля таго гітару аб клюбны ганак разьбіла і чутку пусьціла, што Лябёдка Лёшку халеру тую падараваў, каб са сьвету зьвесьці.

З войску — а служыць яму давялося ў нейкай дужа сакрэтнай часьці — Лябёдка вярнуўся зь сяржанцкімі лычкамі на пагонах і з “корачкамі” радыёмэханіка ў кішэні. Уладкаваўшыся кінамэханікам, ён першыя паўгода не вылазіў з кінабудкі: самаробны тэлевізар майстраваў, а змайстраваўшы — у п’янку

кінуўся. Аднойчы да таго дапіўся, што сеў на распалены літавальнік і апошнія свае штаны прапаліў. Пасьля таго выпадку больш тэлевізарамі не захапляўся, а ўсё сваё начыньне — літавальнік, лямпы з кандзёрамі і кавалак каніфолі — Мішку Бадунову падараваў...

— Ванька, чуеш?! — прашамацела ля вуха, і Іван выцягнуў галаву з падушкі. — Кашу еш, у печы стаіць... Я на фэрму. — На кухні пстрыкнуў выключальнік, нема вякнуў кот Барыс — маці, відаць, наступіла яму на хвост, і Іван, паморшчыўшыся, зноўку ўтоўк галаву ў падушку. Хвілю ён ляжаў, потым усхапіўся на ногі, прабег на кухню і, наставіўшы струмень у памыйную мядніцу, прашаптаў: — Еду.

## II

З Дабранскай гары, на якой стаіць сталоўка, вёска бачная як на далоні. Сёньня нядзеля, людзей не відаць, адно што на Траянчысіным двары завіхалася некалькі постацяў, туркацеў трактар ды чулася бязладная гамонка. Іван прымружыўся, пазіраючы ў бок Траянчысінага двара, і міжволі пасьміхнуўся. Ну, вядома: Хведзька Траян зноўку дзяліў са сваёй сястрой угнаеньні з матчынага сьвінушніка. Загнаўшы на падворак трактар, Хведзька з жонкаю ўскідвалі на трактарны вазок парсючыны гной, а сястра ягоная, Проська — ускудлачаная, у квяцістым халаце — стаяла на вазку і скідвала гной долу.

Хведзька з Проськаю ўжо ня першым разам матчына дабро дзялілі. Летась нават таварыскім судом судзіліся і па пятнаццаць рублёў штрафу атрымалі. Іван на тым судзе якраз за сьведку быў. Яму і цяпер карцела пабегчы на Траянчысін падворак ды паглядзець, як там усё будзе, але ж трэба было чакаць Лябёдку. Пагатоў, жалезны гараж, які стаяў каля Лябёдкавай хаты, быў прачынены, і гэта наводзіла на думку, што сябрук ужо недзе лётаў на сваёй “Панноніі” і мог зьявіцца ў любую хвіліну.

На вясковую вуліцу тым часам пачалі выбягаць кабеты, старая Траянчыха ўголас залямантавала, Іван стаіў дых, чакаючы разьвязкі, але нічога такога ня здарылася: Проська нечакана

зьлезла з вазка, Хведзька ўлез у кабіну, і трактар, напоўніўшы наваколльле белым дымам, паволі выехаў з падворка.

Убачыўшы такое, Іван незадаволена скрывіўся: летась было цікавей. Летась Проська братавай пад вока ліхтар наставіла і гной на галаву ўскінула. Пятнаццаць рублёў штрафу за тое атрымала. На суд тады ўся вёска сышлася, нават з Гатава папрыходзілі. У дзьвярах стаялі, а загадчыцы клюба Мандрычысе, якая судзьдзёй была, ад задухі і хваляваньня млосна стала.

Прыгадваючы ўсё гэта, Іван агледзеўся, разважаючы, чым бы гэта заняць рукі, а ўбачыўшы на сьцяне сталоўкі пакарабачаную трубку, у якой, па выпадку сьвята, павінен быў тырчаць чырвоны сьцяг, стаў накідваць на яе сваю пацёхканую вушанку. Зь пятага ці шостага разу яму гэта ўдалося, Іван задаволена пацёр рукі, агледзеўся, шукаючы якую палку, і ў гэты момант чуйны слых ягоны вылучыў зь бязладнага трактарнага туркатаньня дробны ляскат Лябёдкавай "Паноніі".

Матацыкл ляскатаў з натугаю, і, што самае дзіўнае, за сьпінаю Лябёдкавай сядзела, загаліўшы белыя сьцёгны, загадчыца сталоўкі Пятроўна.

"Куды гэта яны? Ці не ва Ўсьвяцкі раён?" — падумаў Іван і на ўсялякі выпадак прыхаваўся за рогам сталоўкі.

Лябёдкавы драндулет даехаў толькі да сярэдзіны гары. Чхнуўшы, матацыкл заглух, зьехаў з дарогі, занурыўся колам у прыдарожны кювэт.

— Пятроўна, пачакай! — даляцеў да Іванавых вушэй зычны вокліч, але Пятроўна, якая ўжо шыбавала па бальшаку, на той вокліч нават не азірнулася. Датупаўшы да сталоўкі, кабета перавяла дых — было добра чуваць яе нэрвовае дыханьне, — павярнула ключ, кінула на парог грукатлівую завалу.

Неўзабаве ля дзьвярэй сталоўкі цяжка засоп і былы кінамэханік. Падагнаўшы матацыкл да слупа, ён таксама перавёў дых, мацюкнуўся, і сталоўскія шыбы зумкнулі ад надрыўнага голасу Пятроўны.

— Забірай сваю халеру! І ў выхадныя няма спакою! — загадчыца выставіла на ганак валізу, грукнула завалай і прашаптала тое ж нядобрае слова, якое хвілю таму прамовіў Лябёдка.

Іван кашлянуў, выйшаў насустрач сябру.

— А-а! Ваня! — Лябёдкава рука балюча сьціснула пальцы. — Вось, забыліся ўчора, — кіўнуў сябрук у бок валізы, выцягнуў з кішэні пачак “беламору”. — Чуў, як угнаеньні дзялілі? Зноў за сьведку выступаць будзеш? — рагатнуў Лябёдка, ляснуў чамаданнымі зашчапкамі, а Іван пасьля такіх слоў незадаволена плюнуў.

Летась, падчас таварыскага суда, на якім Проську судзілі, Іван у кінабудцы сядзеў, бо ў зале не было месцаў. І вось, калі Мандрычыха пачала пытацца, хто бачыў бойку, усе, хто сядзеў у клюбе, языкі прыкусілі ды вочы ў падлогу панурылі. Хвілін пяць так сядзелі, нават кашляць перасталі. Тут у Івана язык і разьвязаўся. Крыкнуў праз адтуліну, маўляў, ён бачыў і аб усім распавесьці можа. Мандрычыха тады акрыяла, пачала нешта пытацца, а Іван адказваў, у адтуліну гарлаючы.

Пасьля суда маці яго цэлы вечар прабірала, спрабавала нават вушы накруціць. Проська ж яе сяброўкай была, а Іван на тую сяброўку невядома што нагаварыў...

— Во, бляха...— вылаяўся Лябёдка, узьняўшы чамаданнае вечка, — шэсьць е пяць эс... так і знаў, што паб’ецца.

Выкінуўшы з валізы шкляныя аскалёпкі, былы кінамэханік ізноў мацюкнуўся, падняўся на ногі, а Іван, згадаўшы пра шапку, пабег здымаць яе са сьцяны сталоўкі.

З Дабранскай гары ляцелі, не адчуваючы пад сабой азадкаў. Вецер пругка біў у твары, душа сьціскалася ў камяк, і рот неяк сам сабою адкрываўся. Івану карцела сьпяваць, крычаць штосьці насустрач ветру, а аднаго разу, калі “Панонія”, наехаўшы на грудок, адарвалася ад зямлі, заманулася нават куснуць ад захапленьня Лябёдкаву сьпіну.

Яны ехалі ў Велікарусію.

Ужо ад самой гэтай назвы павявала нечым патаемным.

Гэтае "Р", гэтае "У", гэтае "С" працiналі разам зь ветрам душу, казыталі яе трапяткім халадком. Хоць Івану і раней даводзілася бываць у той Велікарусіі (езьдзілі з маці ў Невель купляць школьны партфэль ды чаравікі), але тое было даўно. Ды і езьдзілі яны на рэйсавым аўтобусе. А тут гналі на матацыкле, па прасёлачнай дарозе і ня ў нейкі там Невель, а ў нязнаны і загадкавы Ўсьвяцкі раён.

Праехаўшы кіляметраў дзесяць-дванаццаць, "Панонія" пайшла з натугаю, зь неахвотаю, аглушальна страляючы выхлапнымі газамі. Гэтая страляніна ўзьняла ў паветра навакольных гракоў, і яны, зьбіўшыся ў кучу, кружлялі ў вышыні, перабіваючы сваім граем матацыклетнае стракаценьне. Ціснучыся да Лябёдкавай сьпіны, Іван зірнуў угору і з усьмешкаю на вуснах згадаў, як маці хрысьцілася аднойчы, пабачыўшы над галавою гэтых чорных птушак.

— Эй, што там у цябе? — гукнуў Лябёдка, тарганууўшы правым локцем.

— Дзе? — не зразумеў Іван.

— За пазухай! У сьпіну цісьне...

За пазухай у Івана ляжалі ўкручаныя ў газэціну лусьцікі.

— Хлеб з маслам. Узяў у дарогу, — патлумачыў Іван, а сябар, крутнуўшы галавой, жартам пракрычаў:

— Лепш бы ты бутэльку ўзяў! Хлеба з маслам нам і так дадуць!

На чарговым пад'ёме "Панонія" яшчэ раз стрэльнула — хвацка, напята, раскацiста, і Лябёдка, зьехаўшы на ўзьмежак, заглушыў матор.

— Ну і гакае! Што пугаўём лупіць, — захоплена зазначыў Іван, слухаючы гулкае рэха, а зьлезшы з матацыкла, задаволена пацягнуўся.

Сябар між тым быў нечым устурбаваны. Прыўзьняўшыся на понажах, ён падняў сядзеньне, выцягнуў з-пад яго нейкую брудную анучку, пасьля чаго прыгнуўся і пусьціў сьліну на матацыклетны рухавік.

— На, зьбегай, змачы ў лужыне, — загадаў ён, працягнуўшы анучку, і Іван, ня цямячы, навошта ўсё гэта трэба, пабег выконваць загад.

Пабоўтаўшы анучку ў халоднай вадзе, ён хацеў яе выкруціць, але пачуў воклік: — Ня трэба! — і подбежкам вярнуўся да матацыкла.

— Грэецца, халера, аж нагу пячэ, — Лябёдка пляснуў анучу на распалены рухавік, і галава ягоная схавалася ў аблачыне смуродлівай пары.

— Фу, бляха! — Былы кінамэханік паморшчыўся, паляпаў па сьцёгнах, шукаючы папярос, а згадаўшы, што выпаліў кагадзе апошнюю папяросу, мацюкнуўся і сеў на край узбочыны.

Мясьціны навокал былі глухія — ані людзей, ані паселішчаў — адно кусты, кусты, ды сям-там пракідваліся пералескі зь цёмнымі елкамі ды беластвольнымі бярозамі. Гулкае бязьлюдзьдзе і асьлізлае неба над галавой нарадзілі у душы няўцямную трывогу, таму Іван, які таксама ўладкаваўся на ўзбочыне, падсеў бліжэй да сябра.

— Пажаваць чаго, ці што? А, Ваня?

Іван кіўнуў, пагаджаючыся з такімі словамі, памружыўся на сіні далягляд і толькі пасьля таго, зразумеўшы намёк, выцягнуў з-за пазухі пакет з лусьцікамі.

Яны елі хлеб з маслам, Лябёдка пры гэтым чытаў раённую газэту, у якую былі загорнутыя лусьцікі, а прачытаўшы ўголас пра візыт Эрыха Хонэкера ў Маскву, абклаў таго мацюкамі і пусьціў газэту па ветры.

— Кілямэтраў пяць яшчэ, — крэкнуў Лябёдка, падымаючыся на ногі. — Вунь, за тым лесам — павернем на бальшак, а там ужо недалёка. — Лябёдка паставіў нагу на понаж, а Іван, перш чым асядлаць “Панонію”, паглядзеў на неба. Угары ізноў усхадзіліся гракі. Надрыўна гарлаючы, яны кружлялі вакол “Зары камунізму”, якая белай птушкай ўздымалася над зямлёю.

Адбіўшы азадкі і ўдосыць наглытаўшыся пылу, яны выехалі на бальшак, павярнулі направа, і неўзабаве з-за пагорка ўсплыў

дарожны ўказальнік з надпісам “Чурилово”. Іван тыцнуў кампаньёна ў бок, пытаючыся такім чынам, ці ня Ўсьвяцкі гэта раён, і кампаньён сьцьвярджальна кіўнуў галавой.

Па вёсцы пракаціліся з шыкам, з форсам, разганяючы перапуджаных курэй і прымушаючы азірацца чурылаўскіх цётак. Ля сельмага Лябёдка, па старой звычцы, газануў, даў кругаля вакол нейкай кабеты, і спыніўся ў лічаных сантымэтрах ад сельмагаўскага парога.

— Лётаюць як самашэччыя! І калі ўжо сабе галовы скруцяць? — азвалася за сьпінаю кабета, і Іван, злазячы з матацыкла, падзівіўся з таго, што велікарусы размаўляюць на той жа мове, што і бычкоўцы.

Кабета незадаволена пратупала да крамы, адчыніла рыпучыя дзьверы, а сьледам за ёю ў краму ўвайшоў і Лябёдка. Івану таксама карцела зірнуць на тутэйшыя тавары, але навокал круціліся вясковыя падшывальцы і трэба было сьцерагчы валізу. Ён наваліўся жыватом на сядзеньне і, мружычыся, не раўнуючы, як той кот Барыс, стаў глядзець на пашарпаныя крамныя дзьверы. Дзьверы доўга не расчыняліся, нарэшце разнасьцежыліся, зь іх выйшла дзябёлая кабета, якая, узяўшы рукі ў бокі, доўга азіралася, а згледзеўшы некага, сіпла галёкнула:

— Манька, ты круп узяла?!

— Анягож! — адгукнулася нябачная Манька, і Іван, паслухаўшы ўсё гэта, пераканаўся, што велікарусы ва Ўсьвяцкім раёне размаўляюць на чысьцюткай беларускай мове.

Лябёдка выйшаў з крамы хвілін праз пятнаццаць. Стоячы на ганку, сябрук надарваў пачак “беламору”, выцягнуў папяросу, а ўбачыўшы, што да крамы ідзе маладая жанчына, нядбайным рухам кінуў пачак Івану. Іван злавіў яго абедзьвюма рукамі, але некалькі беламорын упала на пясок, і эфэкт ад кідка быў змазаны.

— Жывем, Ваня! Працы — на месяц! — прамовіў Лябёдка, зірнуў краем вока на маладуху і, перахапіўшы з Іванавых рук

пачак, стоена шапянуў: — Кабеньчыха. Перадапошняя хата направа.

Вёска Чурылава памерамі была — што тыя Бычкі. Двароў восемдзесят-дзевяноста. Але ў адрозьненьне ад Бычкоў хаты тут стаялі ў поўным бязладдзьдзі: аніякіх табе вуліц, так што пакуль знайшлі Кабеньчыху, давялося ладна пакруціцца.

Падкаціўшы да патрэбнай хаты, яны зьмерылі вачыма тэлевізійную антэну, што тырчала над страхою, і наструнена пераглянуліся: у глыбіні разьлеглага, парослага жухлай лебядою двара, заходзіўся ад брэху віславухі сабака. Каб не бянтэжыць гаспадароў, Лябёдка зьняў з галавы шлем, прылашчыў валасы і, не рашаючыся ўвайсьці ў двор, зычна кашлянуў. У адным з вакенцаў зварухнулася фіранка, і праз хвілю-другую на парозе хаты зьявілася пахілая бабуля.

— Мы па выкліку! Тэлевізары рамантуем! — выгукнуў Лябёдка, але бабуля не пачула.

— Ну до табе, до! — крыкнула гаспадыня на сабаку і, прыбраўшы з вуха хусьцінку, дробна затупала да весьніц.

— Тэлевізары, бабка, рамантуем. Прыехалі во... па выкліку, — Лябёдка страсянуў над галавою валізкай.

Ага! Цілівізеры! А дзеткі ж вы мае, а што ж вы адразу не сказалі? — пляснула рукамі бабуля і таропка адчыніла брамку.

Бабчын віславухі дварняк тым часам ужо асіп і брахаў з падвываньнем.

— Ці сьціхнеш ты, нячыстая сіла?! — прасіпела гаспадыня, падхапіла з-пад ног дубец, і сабака, пакрыўджана скавытнуўшы, сьпехам залез у будку.

— І калі ўжо акалееш? — з гэтымі словамі старая піхнула рукою дзьверы, і яны ўвайшлі ў хату.

У хаце было прыцемна — лямпачка пад стольлю была заседжана мухамі, давала мала сьвятла, таму давялося цягнуць бабчын “Тэмп-6” да вакна і падключацца да разэткі праз падаўжальнік.

Тыцнуўшы ў Іванавы рукі літавальнік, майстар Лябёдка зьняў з тэлевізара заднюю панэль, пахістаў галавою і папрасіў у гаспадыні анучку — відавочна, каб сьцерці пыл зь лямпаў.

Наступныя дзесяць хвілін майстар торкаў некуды правадкі, сочачы пры гэтым за стрэлкаю прыбора, а згадаўшы пра літавальнік, запытаў:

— Грэецца?

Літавальнік быў халодны. Іван патузаў шнур, паварушыў вілку ў разэтцы, але марна: інструмэнт ня грэўся.

— Эх, Ваня... вучыць цябе яшчэ ды вучыць... Стрыжань у літавальнік не ўпіхнуў, таму і ня грэецца, — уздыхнуўшы, Лябёдка выдзер з тэлевізійных нетраў нейкую зялёную дэтальку, паглядзеў на гаспадыню і ўстурбавана правёў далоньню па твары.

— Кандэнсатар згарэў. Страшэнна дэфіцытная рэч. У мяне, праўда, ёсьць адзін, але гэта для райкамаўскага тэлевізара. Там таксама кандзёр накрыўся.

— Вы ж ужо як-небудзь... — выдыхнула гаспадыня, кінулася на кухню, і майстар, пачуўшы бразгат шклянак за сьценкаю, падміргнуў кампаньёну і задаволена падкінуў на далоні згарэлы кандэнсатар.

Праз паўгадзіны справа была зроблена. У хаце пахла каніфольлю, пад стольлю лунталі пасмы белага дыму, а сьцены хаты аж дрыжэлі ад грому вайсковага параду, які паказвалі па тэлевізары. Узяўшы за працу тры рублі і запытаўшыся, ці патрэбная квітанцыя, Лябёдка зачыніў валізу і зь дзіўнай рашучасьцю накіраваўся да дзьвярэй.

— Можа б, перакусілі чаго? — нясьмела вымавіла ўсьлед яму бабуля.

— Няма часу, бабка. Яшчэ пяць хат абысьці трэба. Праўда... — майстар павярнуўся да напарніка, зьмерыў яго позіркам і з разважлівай заклапочанасьцю прамармытаў: — Іван галодны. Цэлы дзень ня піў, ня еў. Як ты, Ваня, перакусіш? — і не пасьпеў Іван раскрыць рота, як Лябёдка

штурхнуў яго да стала і спрытным рухам адкаркаваў бутэльку “Прамяністага”.

Яны выпілі па шклянцы, аддзьмухнуліся, захоплена ўторкнулі відэльцы ў румяныя скваркі, якія сквірчэлі і стралялі тлушчам на гарачай патэльні.

— Кантрастнасьць нармальная, толькі сьняжыць крыху, — прамовіў, кульнуўшы другую шклянку, Лябёдка. — Зь Велікалуцкага рэтрансьлятара сыгнал кволы. Наступным разам пад’едзем — паспрабуем антэну на Віцебск павярнуць.

Гаспадыня заківала галавой, стоена ўздыхнула, і ўся яе пастава выдавала на тое, што ёй карцела нешта сказаць.

Карцела сказаць слова і Івану. Выцершы рукавом сальныя вусны, ён павярнуўся да бабулі і задаў пытаньне, якое даўно ўжо сьпела на языку:

— А вы рускія?

Гэтае пытаньне не на жарты ўсхвалявала бабулю. Старая шморгнула носам, залыпала павекамі і няўпэўнена прашаптала:

— Рускія...

— Рускія, а гамоніце па-нашаму: картошку бульбай называеце...

— А адкуль жа вы? — пацікавілася гаспадыня.

— Зь Неўля мы, з тэлеатэлье, — адказаў за Івана Лябёдка і, храбуснуўшы скваркай, стукнуў напарніка каленам паназе.

— А мы, дзеткі, і самі ня ведаем — хто мы, — нечакана пажвавела бабуля. — Мой Ляксей, зямля яму пухам, расказваў... Прыедзем, кажа, у Пскоў, пачнем там гаманіць, а скрабары сьмяюцца, кажуць: — Ізноў пылякі прыехалі! — старая перахрысьцілася на цёмны кут, аблашчыла майстра сьцярожкім паглядам і прыцішаным голасам запытала:

— Можа б вы і маёй сястры цілівізер зрабілі?

Прапанова такая не зьдзівіла майстра. Ён адкінуўся ў крэсьле, змучана аддзьмухнуўся…

— Непадалёку тут жыве, у Берасьцянцы... крайняя хата ад

ракі. Туды і дарога добрая.

Старая дапытліва заміргала вачанятамі, а майстар, зірнуўшы на сьпісаны алоўкам пачак, гаротна ўздыхнуў.

— Не магу, бабуля. У мяне тут толькі па Чурылаву пяць выклікаў. Во... глядзі, — майстар тыцнуў пальцам у пачак, — Ліхаманавы, Пракопаўна, Балабайка...

— Балабайку зяць зрабіў. Учора прыехаў, — перапыніла Лябёдку гаспадыня, выбегла ў сені і праз хвілю паўстала ў пройме дзьвярэй з новай пляшкаю “Прамяністага”.

З гасьціннай хаты Праскоўі Кабенькі — так звалі гаспадыню — выкульваліся, задаволена адрыгаючы віном і цыбуляй. У паветры кружыліся сьняжынкі, бабчын сабака прыязна махаў хвастом, а сама гаспадыня, якая таксама кульнула чарку, не магла суняць расстайную сьлязіну.

Ідучы да матацыкла, Іван падлічыў у галаве дзённую выручку, якую можна мецць ад рамонту тэлевізараў, потым уявіў тую кучу грошай і з захапленьнем паглядзеў на камлюкаватую Лябёдкаву сьпіну.

— Дзядзькі, да нас зайдзіце! У нас таксама тэлевізар зламаўся... І ў мяне зламаўся...— разам загаманіла вясковая дзятва, калі яны падышлі да весьніц. Падшывальцаў сабралася ня меней як тузін; усе яны аглушальна гаманілі, і Лябёдка, насунуўшы на голаў шлем і ўкінуўшы ў рот папяросу, скрозь зубы працадзіў: — Зойдзем, толькі ў Берасьцянку зьлётаем.

Прытарочыўшы да бэнзабаку валізу, майстар вохнуў, паведаміў падшывальцам, што недапіты — гэта горш, чым недабіты, тарганкуў галавой, і падшывальцы, умомант зразумеўшы той жэст, добрых тры кілямэтры піхалі матацыкл, аж пакуль той не завёўся.

Дарожны паказальнік з надпісам “Берестянка. 2 км” трымаўся на адным цьвіку, паказваючы вострым канцом на прысыпаную рэдкім сьняжком узбочыну. “Ці не на той сьвет паказвае?” — падумаў Іван, згадаў родную хату і ўпершыню пашкадаваў, што выбраўся ў гэтую вандроўку.

Дарога ў Берасьцянку і сапраўды нагадвала дарогу ў пекла. Уся яна была разьбітая коламі “беларусаў”, глыбокія каляіны прыхапіла марозам, і ехаць па той праселіцы было папросту немагчыма. Дапамагаючы сабе нагамі, Лябёдка коўзаўся на матацыкле па калдобінах, пругкі алешнік хвастаў яго па твары, і майстар, адплёўваючыся каляным лісьцем, слаў праклёны на “беларусаў”, нялюдзкую дарогу і старую Кабеньчыху, якая яго ў тую дарогу выправіла.

Іван шыбаваў сьледам, прыціскаў да грудзей валізку (зьнялі з матацыкла, каб не пабіць радыёлямпы) і п’янавата пасьміхаўся: цяжка было ўтрымацца ад усьмешкі, пазіраючы на Лябёдкавы пакуты.

Да вёскі дабіраліся цэлую гадзіну, пры гэтым два разы спыняліся, каб ахаладзіць рухавік, а выбіўшыся з кустоў на роўнае поле і ўбачыўшы на даляглядзе вясковыя хаты, Лябёдка зморана паваліўся на пасівелую ад марозу траву.

Івана, праўда, дарога ня надта і стаміла: на зямлю ён паваліўся хутчэй з пачуцьця салідарнасьці, а паляжаўшы хвіліну-другую, прыўзьняўся на локці і азірнуў навакольле. Нават такім шэрым днём мясьціны тутэйшыя уяўляліся даволі маляўнічымі. Роўнае поле, пасярод яго стаяла згалелае дрэва, а леваруч, бліжэй да вёскі, бліскала між кустоў ці то рачулка, ці то азярына.

— Ловаць. Вялікая рака, — выдыхнуў Лябёдка, перахапіўшы Іванавы позірк. — Я тут летась рыбу лавіў.

Колькі часу яны ляжалі моўчкі аж пакуль Лябёдка не падхапіўся на ногі.

— Усё! З бальшаку цяпер ні на крок... І грошы буду браць па прэйскуранту! — прамовіў ён, шпурнуўшы недакурак, і гэта азначала, што хмель выпетрыўся зь Лябёдкавай галавы, і настрой з тае нагоды канчаткова сапсаваўся.

Берасьцянка — невялічкая, ня болей дзесяці хат вёска — упіралася сваім канцом у рачны бераг. Памятаючы словы бабці Парасці, кампаньёны, не пытаючыся дарогі, паехалі да

Ловаці, а ўбачыўшы над крайняй хатай шост з пакарабачанай антэнай, рашуча завярнулі ў двор. Лябёдка па-майстэрску дакладна ўпісаўся ў вузенькія весьніцы, узьняў у паветра курэй, загнаў на страху вялізнага чорнага ката і, выклікаючы гаспадароў, да ўпору крутнуў ручку газу. Лябёдка, відаць, добра напужаў гаспадароў, бо яны нічым сябе не выдавалі, а калі нарэшце дзьверы прачыніліся, дык у дзьвярную пройму можна было ўпіхнуць хіба што нос. Нос, дарэчы, і вытыркнуўся з праймы, і Лябёдка, маракуючы — каму ён мог належаць — мужчыну, ці жанчыне, прыязным голасам вымавіў:

— Вам прывітаньне ад сястры.

Пройма пашырылася, зь цёмных сяней вытыркнулася сьсівелая бабуля, якая зьдзіўлена-плаксівым голасам запытала:

— Якой гэта сястры?

— Якой-якой... Кабеньчыхі, халера старая, — буркнуў Лябёдка, вырваў з Іванавых рук валізку і, бачачы, што гаспадыня па-ранейшаму зь недаверам лыпае вачыма, дадаў: — Зь Неўля мы, з тэлеатэльевэ. Тэлевізары рамантуем.

Зірнуўшы на Лябёдкавы шлем, гаспадыня паспрабавала прычыніць дзьверы, аднак Лябёдка пасьпеў упіхнуць нагу ў дзьвярную шчыліну і з усёй рашучасьцю ўвайшоў у сені.

— Давай, бабуля, гатуй пачастунак, а то ў нас часу мала, — загрымеў праз хвілю ягоны голас, і Іван, азірнуўшыся на бокі, падаўся ў хату.

У Кабеньчысінай хаце было цёмна, няўтульна, а тут панаваў парадак, пахла нейкімі зёлкамі, а на засланым белым абрусам стале красавалі папяровыя кветкі ў зялёнай вазе. Тэлевізар таксама быў засланы белым абрусам, і Лябёдка, не рашаючыся зьняць яго сваімі бруднымі рукамі, зь нецярплівасьцю паглядзеў на гаспадыню. Бабуля ў сваю чаргу паглядзела на Івана, потым перавяла позірк на валізку, а ўпэўніўшыся, што перад ёю тэлемайстры, увішна падхапіла покрыўку.

— Даччын цілівізер, — паведаміла старая, змахнуўшы пыл з экрана. — Сабе новы ўзяла, а мне ўжо гэты... Прывезьлі зь зяцем,

уключылі... Як тут былі, дык рабіў, а як зьехалі, дык зламаўся. — Бабуля ўздыхнула, склала ў дзьве столкі абрус, а ўбачыўшы, што майстар зморана адсопся, дэманструючы, што такія размовы яму добра-такі надакучылі, ціхенька сышла на кухню.

Лябёдка паднёс штэпсэльную вілку да разэткі, але нечакана сумеўся, страсянуў вілку ля вуха.

— У вас тут мужчыны ёсьць? — крыкнуў, зьвяртаючыся да бабулі, майстар, і голас ягоны сьведчыў за тое, што калі яму зараз жа не нальюць пахмяліцца, ён і папраўдзе памрэ.

Гаспадыня, відаць, адчула настрой тэлемайстра, бо ў тое ж імгненьне на кухні аглушальна засквірчэлі яйкі на патэльні.

— Якія там мужчыны!.. Бабы ды два дзяды... Базылю восемдзесят, а Хамёнку яшчэ больш... Японскую памятае.

Майстар выпусьціў праз нос паветра, варухнуў кадыком і зь нейкай разьюшанай апантанасьцю стаў раскручваць штэпсэльную вілку.

За вакном сутоньвалася. Сьнежныя крупы стукалі па шыбе, у коміне галасіў вятрыска, і ад усіх гэтых зыкаў Івану зрабілася не па сабе.

“І калі ўжо вернемся?” — падумаў ён, панылымі вачыма азіраючы хату. — Трэба было хоць цыдулку пакінуць, каб маці не хвалявалася”.

Іван затрымаў позірк на ходзіках, што цікалі пад стольлю, і з грудзей ягоных вырваўся пакутлівы ўздых. Гадзіньнік паказваў палову трэцяй: акурат гэтым часам маці вярталася зь дзённай дойкі. “Пабачыць, што мяне няма, і да Пятроўны пацягнецца. Тая і скажа, з кім паехаў...” — Іван уявіў, як роспачна будзе лаяцца маці, як яна, зганяючы злосьць, будзе ганяцца з ручніком за катом Барысам, і, заняты сваімі думкамі, не пачуў Лябёдкавага вокліку:

— Эй, Ваня... заснуў?

У сьвятліцы грала музыка, на кухні сквірчэлі скваркі, а на тэлевізійным экране каласілася жыта, і стройным шыхтом ішлі камбайны.

“Рублёў дзесяць зьдзярэ, і віна вып’е пад самую завязку”, — незадаволена падумаў Іван, з дакорам зірнуў на сябра, але той, насуперак ягоным меркаваньням, ад грошай адмовіўся.

— Схавайце свае рублі... — кінуў Лябёдка, згледзеўшы ў бабчыных руках пакамечаны трульнік. — З-за такога рамонту і квітанцыю неахвота выпісваць — у штэпсэлі правадок адышоў… Чарку мо вып’ем, калі нальяце.

— Нальем, нальем. А як жа не наліць, — узрадавана замітусілася старая, — ёсьць і чарка, і да чаркі... — і, падхапіўшы па дарозе чапялу, гаспадыня кінулася да печы.

Пілі і елі стоячы, бо расьседжвацца не было часу. Бабця Мар’яна (так сябе назвала гаспадыня) выставіла на стол бутэльку “чарніла”, а таксама яечню і саган гарачай бульбы на закуску. Бегаючы за матацыклам, Іван добра-такі выгаладаўся — бульба са скваркамі проста раставалі ў роце. Згаладаў і сябра. Налягаючы на бульбу — аж нос угінаўся, — Лябёдка хапаў ротам паветра, варушыў коўцікам і пры гэтым няўцямна мармытаў:

— Думаеш, калі ў мяне брат... у тэлеатэлье працуе... дык мне дэталі дарма даюцца? За адзін трансфарматар... дзьве бутэлькі аддаў...

За лічаныя хвіліны яны выцерабілі саган бульбы, праглынулі яечню, асушылі ад тлушчу патэльню, і ўвесь гэты час гаспадыня стаяла пасярод кухні, пазіраючы на майстра, не раўнуючы, як на Міколу-ўгодніка. Выдавала на тое, што яна хацела нешта сказаць, і майстар, бачачы такую нерашучасьць, запытальна міргнуў левым вокам.

— Дачка ж павінна прыехаць. Трэба ж ёй аполец сала даць, ды нейкіх кілбас...— выдыхнула, нарэшце, гаспадыня і, нібыта спужаўшыся ўласных слоў, заціснула рот ражком паркалёвай хусткі.

Хлопцы счакалі хвіліну, спадзеючыся, што старая скончыць думку, але тая маўчала, і Лябёдка, кіўком галавы ўхваліўшы такія жадункі, разьліў рэшткі віна па шклянках.

— Дапіваем і йдзем, а то матор астыне. Піхай тады... да самага дому, — рука Лябёдкава пацягнулася за шклянкай, ды нечакана замёрла ў паветры.

— Можа б вы мне, мальцы, кабана закалолі? — пудка запыталася гаспадыня, а згледзеўшы на майстравым твары разгубленасьць, нахілілася і выцягнула з тумбачкі вялізную, закаркаваную газэцінай бутлю.

## III

Спусьцісты, парослы густым лазьняком бераг пачынаўся адразу за хатай. Убіўшыся ў кусты, Іван расшпіліў прарэх і падуладны нэрвовым дрыжыкам струмень шапатліва ўдарыў па ссохлым лісьці.

Іван хваляваўся. Нават далоні ўпацелі. І хвалявацца было з чаго: кабаноў ён зроду ня рэзаў. Ды што там кабаны... Ён і курыцы засекчы не даваў рады. Летась цюкаў пеўня, дык траха бяз пальцаў не застаўся, і певень, з рук вырваўшыся, наляцеў, безгаловы, на маці і новую спадніцу скрываывіў. Ну, а Лябёдка, хоць і наплёў гаспадыні, што за сваё жыцьцё дванаццаць сьвіней прыкончыў, але ж пры гэтым на бокі азіраўся і вусны прыкусваў. Дзе яму было іх прыкончваць, калі ў Лябёдчыхі ў двары апрача чатырох курэй ды аблезлага ката анічога больш не вялося.

Дзясятым разам уздыхнуўшы, Іван падцягнуў штаны і пачуў, як недзе непадалёку гэтак жа роспачна ўздыхнуў Лябёдка.

— Нічога, Ваня, прарвемся!

Яны вылезьлі з кустоў, і Лябёдка, прысмаліўшы «беламорыну», стаў знаёміць Івана са сваім плянам.

— Карацей, заходзім у хлеў, прывязваем да задняй нагі вяроўку і на двор выпускаем. Ты яго за нагу трымаеш, а я... — акінуўшы вачыма навакольле, Лябёдка засяродзіўся на агароджы, што атачала бабчын падворак, — гакну калом між вушэй, а як скапыціцца — нож у горла.

— Бабуля казала, што ў яе, апроч лямпы, і швайка ёсьць. Так што лепш пад левую лапатку. Крыві ня будзе. І надзейней, — падзяліўся сваімі думкамі Іван, і кампаньён, пачухаўшы за вухам, няўпэўнена прамармытаў: — Ты думаеш?

Падышоўшы да агароджы, Іван стаў расхістваць кол, які на добры мэтр уехаў у зямлю. Рабіў ён гэта з асаблівым натхненьнем, радуючыся, што калоць кабана давядзецца ўрэшце не яму, а Лябёдку.

— Эх, Ваня-а! Кусьнем сьвежанінкі, самагонкі сёрбнем... Жыцьцё! — адным духам вымавіў кампаньён, калі кол быў, нарэшце, выцягнуты. Іван лізнуў параненую руку — у калу тырчалі цьвікі, — і, згадаўшы дом, з маркотаю прамовіў:

— А дахаты калі?

— Заўтра, Ваня, заўтра. У Мар'яны хата вялікая — месца пераспаць будзе, — узваліўшы на карак яловы кол, Лябёдка шырокім крокам рушыў на бабчын падворак.

Кабан ляжаў у сваім катуху і ціха рохкаў.

"Пудоў дзесяць будзе", — падумалася Івану, калі ён адчыніў загарадку і ўвайшоў у катух. Тут было душна і цёмна. Агледзеўшыся, ён разблытаў нягнуткімі пальцамі вузельчык на вяроўцы і нечакана пудліва падскочыў: над галавой ягонай, крануўшыся кіпцюром вуха, узьляцела ашалелая курыца. Спорна б'ючы крыламі, хахлатка вылецела на двор, загарлала на ўсю глотку, і бабка Мар'яна, прыструньваючы вар'ятку, абурана вымавіла: — Кыш, каб цябе парвала! — Праз імгненьне курыны лямант пачуўся дзесьці на другім канцы двара і неўзабаве зьмяшаўся з мэталёвым шоргатам знадворку. Гэта Лябёдка, седзячы на ганку хаты, тачыў нажы і швайку.

Змахнуўшы халодны пот з лоба, Іван зірнуў на дарэшты заседжаную курасадню, памацаў вуха і, прысеўшы на кукішкі, паклаў далонь на цёплы вепручыны азадак. Вяпрук крыху здрыгануўся, задзёр лыч і гэтак жа, як і ён, Іван, пакутліва ўздыхнуў.

"Ляжыць, уздыхае... пра нешта думае. І пра што, цікава, можа думаць вяпрук?" — Іван прыслухаўся да мэталёвага

шоргату, правёў рукавом па мокрым носе і з дрыготкай у голасе прашаптаў:

— Выбачай, братка... скончылася твае жыцьцё.

— Ну, як там? — пачуўся той хвіляй незадаволены Лябёдкавы воклік.

Іван прыўзьняў вепручыную нагу, таропка накінуў зашмаргу, і кабан, які дагэтуль ляжаў незварушна, нечакана падхапіўся на ногі, рынуўся да адчыненай загарадкі, і давялося клікаць на дапамогу Лябёдку, каб загнаць свавольніка назад у катух.

Зачыніўшы загарадку, Лябёдка рушыў да матацыкла — зьліваць бэнзін для лямпы, а Іван, прывязаўшы канец вяроўкі да ручкі дзьвярэй, падняў з падлогі пабіты марозам яблык.

— Пачастуйся наастачу, — прамовіў Іван, наторкнуўшы яблык на дубец і працягнуўшы вепруку.

Вяпрук схапіў пачастунак, страсянуў вушамі, закідваючы яблык на зуб, а раскусіўшы, замёр на імгненьне. Ён, відаць, разважаў — ці варта есьці тое, што раскусіў, а зразумеўшы, што варта, рохнуў на знак падзякі і з асалодаю зачвякаў шырокай зяпай, пускаючы яблычны сок па адвіслым падбародзьдзі. Кабан чвякаў з такім смакам, з такой асалодай, што ў Івана нават зьвяло сківіцы, і ён, плюнуўшы пракіслай сьлінай у сьвінячы лыч, задуменна прамармытаў:

— І як цябе забіць, халеру?

На двары тым часам усё было гатова. На ганку ляжалі наточаныя нажы, запраўленая бэнзінам лямпа гатовая была вырыгнуць сіняе полымя, там жа, ля ганку, ляжаў абярэмак саломы, а пасярод двара стаялі вялізныя ночвы для трыбухоў.

— Толькі ж... мальцы... каб ён толькі не вішчаў... — падавала голас бабця Мар’яна, якая мыла гарачай вадой эмаліраваную мядніцу. — А то ж у мяне ад таго віскату сэрца абрываецца. — Бабця пабоўтала рукою ў мядніцы, зірнула на майстра: — Увесну мужыкі яго лягчалі, дык я ў хаце хавалася ды падушкай галаву накрывала.

— Будзеце наступным разам лягчаць — мяне клічце! — адказаў на тое Лябёдка, мацаючы пальцам наточаную швайку. — Я іх момантам лягчаю. — Лябёдка запіхнуў швайку за халяву кірзачоў, падняўся з парога і, убачыўшы недавер у бабчыных вачах, п'янаватым голасам растлумачыў: — Бяру бочку... кладу прынаду... парсюк туды лезе, я стаўлю бочку старчма і... — майстар паказаў рукамі , як ён абразае тое, што трэба адрэзаць, як кідае тое праз левае плячо, і бабуля, ураджаная такім аповедам, плюхнула ваду зь мядніцы на свае апоркі.

... Напачатку ўсё ішло па пляну. Зацягнуўшы пятлю, Іван наматаў на руку канец вяроўкі, пералез цераз загарадку і, усхвалявана пераведшы дых, адчыніў мыском чаравіка непадатную зашчапку. Кабан толькі гэтага і чакаў. Спатыкаючыся няўклюднымі нагамі аб карыта, ён выйшаў з катуха, вытыркнуў на двор галаву, але далей не пайшоў — захрас у дзьвярах, утароплена пазіраючы то на Лябёдку, то на важкі кол, што ляжаў пасярод двара. На вядро з запаркаю, якое Лябёдка трымаў у выцягнутых руках, кабан не зьвяртаў аніякай увагі.

— Цых, цых, цых, — клікала бабуля Мар'яна свайго гадунца.

— Еш, гад! — гукаў Лябёдка, кідаючы едзіва ў парсючыны лыч.

— Пайшоў, падла! — з натугаю выдыхаў Іван, піхаючы кабана нагою ў азадак, але кабан не прасоўваўся ні на крок.

Ці мала часу яны ўгаворвалі парсюка выйсьці з хлява, піхалі яму пад лыч вядро з запаркаю, аж пакуль Лябёдка, згубіўшы ўсялякае цярпеньне, не насунуў тое вядро на парсючыную мазгаўню і, мацюкнуўшыся, ня выцяў нагой па нахабнай пысе. Кабан заенчыў, потым зарохкаў і, панурыўшы сваю палітую калатушай галаву, рушыў насустрач Лябёдку. Ішоў вяпрук з такой рашучасьцю, што ў Івана нават прабеглі мурашкі па сьпіне, а бабця Мар'яна, якая стаяла на парозе хаты, спалохана войкнула.

Лябёдка між тым не губляў прысутнасьці духу. Не спускаючы з кабана вачэй, ён паволі адступаў, шнарачы пры гэтым то адной, то другой нагой у пошуках выратавальнай дубіны.

— Уцякайце, ён кусьлівы! — крыкнула бабуля. Лябёдка падхапіў зь зямлі кол, ступіў крок назад і, зачапіўшыся за ночвы, паваліўся на сьпіну.

— А людцы мае добрыя, а што ж гэта робіцца?! — залямантавала старая. Іван адчайна, аж да сінечы ў руках, нацягнуў вяроўку, а Лябёдка, які ляжаў у ночвах і біў нагамі ў паветры, заехаў віславухаму нагою ў лыч. Вяпрук завішчэў, хапануў крыўдзіцеля за мысок кірзавага бота, і ўжо Лябёдка, выкуліўшыся з начовак, загарлаў што меў моцы, кленучы кабана самымі страшнымі словамі. Паквітаўшыся зь Лябёдкам, кабан пайшоў у свой сьвінушнік, а Іван, убачыўшы гэта, сігануў у катух і зачыніў загарадку.

Яловы кол абрынуўся на вепручыную галаву акурат у той момант, калі кабан падышоў да дзьвярэй. Удар атрымаўся такі хвацкі, што свавольнік нават ня віскнуў, адно толькі страсянуў вушамі і паволі апусьціў галаву на вышчарблены парог хлеўчука. Празь імгненьне ўсё было скончана. Не пасьпеў Іван вылезьці са схову, як Лябёдка, аблаяўшы яго тымі ж словамі, якімі надоечы абклаў вепрука, задзёр кабану пярэднюю нагу і загнаў у парсючынае цела востра наточаную швайку. Кабан задрыгаў нагамі, затрос адвіслым чэравам, але глядзець на тыя курчы доўга не давялося, бо побач з кабаном заходзіўся ад болю няўдалы разьнік. Скрывіўшы твар, ён скакаў на адной назе вакол ночваў і, махаючы скрываўленай швайкай, пякельна мацюкаўся. Давялося падстаўляць плячук і дапамагаць сябру зьняць з пакусанай нагі скарэлы кірзач. Кірзач не здымаўся, і тады бабця Мар’яна, ачуўшыся ад сполаху, здушана прамовіла:

— У хату зайдзіце, можа, перабінтаваць трэба.

У хаце Іван сьцягнуў зь Лябёдкавай нагі абутак, Лябёдка паварушыў пасінелымі пальцамі і на ўсялякі выпадак змазаў пакусанае месца ёдам з пляшачкі, якую дала бабуля.

— А ўсё ж такі я яго ўмачыў! — зазначыў Лябёдка, зірнуўшы на бутлю самагонкі. У голасе ягоным гучалі пераможныя ноткі. — Зараз абсмалім, разьбяром...

— Вы ж глядзіце, кішку перавяжыце, — незадаволена буркнула бабуля, выкочваючы ў сені кубел пад сала, І Лябёдка, ня надта цямячы — што там трэба перавязаць, падхапіў бутлю і гэтаксама незадаволена адказаў: — Перавяжам.

Яны чокнуліся, і немы лямант, што прагучаў знадворку, супаў са звонам чарак.

— А людцы мае добрыя! А што ж гэта... А куды ж ён падзеўся-а?!

На хаду глытаючы трунак, Лябёдка кінуўся да дзьвярэй, а сьледам, падхапіўшы сябруковы кірзач, рынуўся ў сені й Іван.

— А што ж гэта такоя-а!! А ці ж не цябе я карміла-гадавала-а?!

Яны вылецелі на ганак, ачмурэлымі вачыма паглядзелі спачатку на бабцю Мар’яну, потым на перакуленыя ночвы і на пляму крыві ля дзьвярэй сьвінушніка. Кабана, якога яны зьбіраліся смаліць, на двары не было.

— А куды ж ты зьбег... куды ж ты зьбег, мой парсючок?! — галасіла старая, і ад гэтага лямanту стыла кроў у жылах, сьцягвалася скура на лобе, і гарачыя іголкі калолі ў пахвіне.

Тупкая сьцяжына, што вяла са двара да весьніц, была пазначана крывавай пасмай, крывёю былі запырсканы і самі весьніцы, і Лябёдка, перш чым кінуцца за кабаном, сьціснуў кулакі і клятвенна выдыхнуў:

— Далёка не ўцячэш!

Іван ляцеў, ня гледзячы ні вока, ні бока, а паперадзе, прыпадаючы на босую нагу, бег, як жару хапіўшы, няўдалы разьнік.

Крывавы сьлед кіраваў да ракі. Перагнаўшы сябра, Іван першым уляцеў у кусты, спыніўся на імгненьне, каб падняць згубленую вепруком вяроўку, і сябра, наляцеўшы на яго, засоплена вылаяўся:

— Чаго ты тут стаў, як ёлупень...

Іван пацёр пабіты азадак, застагнаў, падхапіў вяроўку і

так — зь вяроўчынай у адной руцэ і з кірзачом у другой, — дадыбаў да вады.

— Вунь ён, сука, на дне ляжыць! — не сваім голасам гукаў Лябёдка, апантана ўглядаючыся ў рачную плынь. Яшчэ празь імгненьне сябрук ускочыў на камень, няўклюдна махнуў рукамі і нечакана плазам паляцеў у ваду. Халодныя пырскі ўзьняліся ў халоднае неба, разьляцеліся ва ўсё канцы, крануліся Іванавага твару.

— Сьлізка, халера... лёд пад нагамі... — выгукнуў паміж мацюкамі Лябёдка і вокрачпу вылез на бераг. Не падымаючыся з каленяў, ён працягнуў Івану нецярплівую руку, а Іван не зразумеўшы — што трэба напарніку, прапанаваў таму кірзавы бот.

— Вяроўку дай, йоп...— вылаяўся сябрук, схапіў вяроўку і, насунуўшы пятлю на цэўку рукі, зноўку папоўз да вады.

— Трымай, зашмаргу накіну... — Лябёдка чхнуў, страсянуў голай пяткай, і Іван, зразумеўшы такі жэст, ухапіў сябра за ногі. Наперадзе, мэтрах у трох ад берага, і папраўдзе штосьці бялела. Лябёдка ўвайшоў на руках у ваду, замер на імгненьне, усё адно як той кабан, раскусіўшы яблык, потым зноўку чхнуў і паехаў на руках, сьлізгаючы далонямі коўзкім дне. Іван паспрабаваў выцягнуць сябра на бераг, пры гэтым наступіў на вяроўку, і сябра, пусьціўшы бурбалкі, адчайна ўдарыў яго пяткай у пахвіну. Ад удару пацямнела ўваччу, падкасіліся ногі, і цяпер ужо Іван, пасьлізнуўшыся, з усяго маху абрынуў у Ловаць.

Ад ледзяной вады заняло дух, халоднымі шчымётамі сьціснула сэрца. Пачабоўтаўшыся ў рацэ, Іван ухапіўся рукой за Лябёдкавы штаны, потым за нейкі кусьцік і, коўзаючыся на каленях па лёдзе, вылез на бераг.

— А навошта ж я цябе карміла-паіла-а! А навошта ж я цябе дала калоць гэтым няўпрочына-ам! — надрывалася ў кустах бабка Мар’яна.

— Ну, што стаіш, як усёршыся? — адплёўваючыся твархнню, выгукнуў Лябёдка. — Бяжы, цягні якую жардзіну!

Іван памкнуўся бегчы, але ногі амаль ня гнуліся, і давя-

лося шыбаваць на паўсагнутых, ляскаючы зубамі і сьцепаючыся пасьля кожнага парыву ветру. Выламаўшы з агароджы жардзіну, Іван згледзеў дзьвюх цётак, якія беглі да ракі і, ня цямячы — хто патануў, заломвалі рукі і гэтак жа, як бабця Мар'яна, галасілі. Ад гэтага ляманту Івану нават зрабілася горача, ногі набылі былую гнуткасьць, і ён, узьняўшы жэрдку над галавой, як гэта робяць афрыканскія тубыльцы, на злом галавы кінуўся да берагу.

Лябёдка падхапіў жэрдку, крутнуў яе, перакідваючы з рукі на руку, і пры гэтым заехаў адным канцом у лоб асіплай ад крыку Мар'яне. Бабка аціхла, жордка торкнулася ў ваду, і па тым гуку, які даляцеў з рачных глыбіняў, можна было зразумець, што на дне ляжаў не вяпрук, а вялікі камень.

— Што рабіць будзем? — спалохана запытаўся Іван, калі яны адбеглі мэтраў на дваццаць ніжэй па цячэньні.

— Што-што... Кіпці драць, пакуль нумары ня згледзелі! — Лябёдка шпурнуў жардзіну ў раку, загадаў Івану прыхапіць ягоны бот і, прыгнуўшы голаў, кінуўся, прадзіраючыся скрозь кусты, у бок бабчынай хаты.

Іван дагнаў кампаньёна ўжо за вёскаю. Сьвецячы голай пяткай, кампаньён бег, піхаючы матацыкл, на хаду нацiскаў на понаж, спрабуючы завесьці свой драндулет, і пры гэтым прыкметна накульгваў на левую нагу.

— Аб-буваць... б-будзеш? — гукнуў Іван, махаючы ў паветры кірзачом.

— У кусты заедзем — тады, — кінуў праз плячук кампаньён, не збаўляючы тэмпа. — Давай лепш... падпіхні! — і Йван, ушчаперыўшыся зубамі ў халяву Лябёдкавага кірзача, вызваліў такім чынам рукі і ўпёрся абедзьвюма рукамі ў сядзеньне "Паноніі".

Заехаўшы ў кусты, спыніліся, каб выкруціць мокрую вопратку. Іван выліў ваду з чаравіка, выкруціў кашулю, майку і шкарпэткі. Нагавіцы выкручвалі на пару з Лябёдкам і круцілі іх да тае пары, пакуль штаны не затрашчалі.

— Н-не п-памятаеш, п-пад якую л-лапатку я ям-му ўляпіў? — запытаўся сябра, калі штаны былі выкручаны.

Згадваючы, пад якую лапатку была загнаная швайка, Іван зірнуў угору, страсянуў мокрай чупрынаю і, набіраючы паветра для чыху, вымавіў:

— Пад правую.

— Пра-авую... — перадражніў кампаньён, смаркнуўся ў жменю і, выцягнуўшы з кішэні разьмяклы трульнік, прыляпіў яго на голую лытку.

Іван хацеў сказаць нешта ў сваё апраўданьне, але сківіцы зьвяло ад холаду, Ён зірнуў на дрыжачую Лябёдкаву лытку, чхнуў другім разам і выцер вільготнаю майкай сьсінелыя вусны.

Матацыкл аніяк не заводзіўся. Каб яго завесьці, патрэбны быў разгон, роўная дарога. Яны ж лезьлі па такіх калдобінах, што ў Івана ад натугі нават халодны пот выступіў на лобе. Змарыўся і гаспадар “Паноніі”. Лябёдка глуха соп, штохвілі пляваўся, кленучы “мадзярскага пердуна” (так ён называў матацыкл), бабчынага кабана і ўсьвяцкіх пылякаў.

Вятрыска, які дзьмуў у сьпіны, праймаў да костак, увушшу гуло і зьвінела, уваччу мільгацелі чорныя мятлушкі, і піхаць “пердуна” ўжо не ставала сілы. Нейкая хваравіта-млявая стома разьлілася па целе; Іван ня столькі пхаў матацыкл, колькі абапіраўся на яго, каб лягчэй было ісьці.

— Нічога, Ваня, зараз бальшак будзе... там дарога пакатая... завядзёмся... — мармытаў Лябёдка, і словы гэтыя зморана застывалі ў горле.

Калі да чурылаўскага бальшака заставалася ня болей, чым паўкіляметра, паперадзе бліснула сьвятло, і натужліва застагнала машына. Каб не трапляць абы-каму на вочы, яны збочылі з праселіцы, прыхаваліся разам з матацыклам за кустамі.

Па прасёлку кратаўся, абмацваючы наваколье сьвятлом фараў, вуркатлівы “ўазік”. Лябёдка праводзіў легкавік дапытлівым позіркам, жарынкі фараў ліхаманкава заскакалі

ў ягоных вачах, і ён, утуліўшы голаў, ледзь чутна прашаптаў:

— Ці не мянты паехалі?

Цяжка сапучы, яны выкацілі “пердуна” на чурылаўскі гасьцінец. Пхнуўшы матацыкл апошнім разам, Іван паваліўся на халодны жвір, заплюшчыў вочы і па шоргату шын адчуў, што Лябёдка павярнуў не направа, у бок Чурылава, а ў супрацьлеглы бок.

— Праз Рамні паедзем. У Чурылаве павязаць могуць. Бачыў, “уазік” паехаў? — Лябёдка таргануў нагою понаж, але матацыкл нават ня чхнуў. — Уставай, Ваня, кілямэтраў празь пяць вёска будзе — там і заначуем.

... Ён ішоў, не адчуваючы пад сабою ног. Колькі разоў яго заносіла ў прыдарожную канаву, ён падаў, хвіліну-другую ляжаў нерухома і, лізнуўшы перасьмяглым языком заінелую травіну, падымаўся і зноўку тупаў па дарозе.

Лябёдка быў недзе далёка наперадзе. Напачатку зь цемры далятала кароткія мацюгі, а потым усё аціхла, і навакольныя зыкі патанулі ў замарачным шуме, якім поўнілася галава. І ня чуў Іван ні шоргату ўласных крокаў, ні шапаценьня алешніку, ні брэху сабак удалечыні, і замарачны шум, які апанаваў сьвядомасьць, здаваўся яму пошумам вады ў інтэрнатаўскім душы. Ён стаяў пад цёплым дожджыкам, вада лілася на грудзіну, на плечы, казытліва зьбягала па сьпіне, і настылая душа ягоная расьцякалася разам з вадою ў акіяне цеплыні і лагоды. Паваліўшыся ў траву, ён на кароткую хвілю апрытомнеў, разьмежыў павекі, але ўжо ў наступнае імгненьне замарач ізноў апанавала сьвядомасьць, і хваравіта-чырвоная імгла ізноў замітусілася ў вачах.

— Ваня, ты што?! — усё адно як як з пустой бочкі прагучаў знаёмы голас. — Падымайся... Недалёка ўжо... агні вунь сьвецяцца.

Яго падхапілі пад пахі, некуды пацягнулі; барвовы туман клубіўся навокал, і гарачкавыя патарочы падымаліся з туману, трывожачы душу сваімі неакрэсьленымі і страшнымі відарысамі.

Сьвядомасьць вярнулася зьнянацку. Ён на дзіва выразна пачуў ракатаньне рухавіка і адрывістыя галасы.

— З моста зваліліся. Мокрыя ўсе...— сіпла гукаў Лябёдка, і ў адказ яму нехта кашлянуў і гэтаксама прастуджана прамовіў: — Ну, дзе твой дружбан?

— Тут... трызьніць ужо. Два кілямэтры на сабе цягну.

Яго зноўку падхапілі, павялі да машыны, і ён, баючыся страціць прытомнасьць, перастаўляў непаслухмяныя ногі, хілячыся галавою да шырокага Лябёдкавага плечука.

## IV

Прачнуўшыся, Іван акінуў хату няўцямным позіркам і са зьдзіўленьнем адчуў, што цела ягонае зрабілася бязважкім і што ён ня чуе ні рук, ні ног. Адчуваньне гэтае было такім яскравым, што Іван нават баяўся паварушыць чэлясамі: а раптам іх і сапраўды няма. Адарваўшы патыліцу ад падушкі, ён паварушыў нагою, а ўбачыўшы, як варухнулася коўдра, зморана апусьціў галаву на падушку.

У вушах стаяў лёгкі звон. Было такое ўражаньне, што вушы закладзеныя пульхнай ватаю, і скрозь гэтую вату прарываліся гукі: мернае ціканьне ходзікаў і бязладная матчына гамонка.

— Прося, бедная, б'ецца... Пятнаццаць кароў доіць, дзяцей даглядае... А гэты... толькі і глядзіць — дзе б хто бутэльку паставіў, — гаманіла на кухні маці, і Іван, прыслухаўшыся, зразумеў, што гаворка ішла пра Хведзьку Траяна.

— Зь сястрой судзіцца... І з-за чаго?!

— З-за гаўна! — пачулася за сьценкаю. Зьвяглівы голас гэты належаў загадчыцы сталовай.

— Колькі ён гэтага гною з фэрмы вывез! Табе, Пятроўна, скажы, дык не паверыш! Нават у Азярышча вазіў — ленінградцам, што хаты пакуплялі. Піў потым цэлы месяц.

— А чаго ня піць? — азвалася Пятроўна. — Карову ня дзержыць...

— Якая там карова! — маці бразнула талеркамі, прайшлася па кухні. — На карову сена трэба накасіць, ды падаіць а пятай раніцы... А жонка ж леная, як палка... Гаўна на лехі — і таго няма. Ад маткі цягнуць.

Сабраўшы сілы, Іван павярнуўся на бок, ложак ціха рыпнуў, і гаворка на кухні аціхла.

— Сьпіць, — шапатнула маці, адгарнуўшы фіранку. — Тры ночы гарэў... раніцою толькі тэмпэратура спала. Пацеў жа — аййо! Не пасьпявала прасьціны мяняць. — Маці ўздыхнула, і голас ейны набыў пагрозьлівае адценьне. — Выправіўся... з п'янюгам гэтым... Лябёдчыха казала — з мосту зваліліся. Дзіва што... Вочы заліўшы, куды хочаш увалісься.

— Гэта ж мая Люська ўчора ў клюб хадзіла, — ледзь чутна прагугніла Пятроўна, падладжваючы свой зьвяглівы голас да матчынага шэпту, дык там Мішка Раднёнак, што на малакавозцы робіць, пра Лябёдку расказваў. Казаў, езьдзілі зь ім аж у Велікарусію. Лябёдка тамака матацыкл у кустах кінуў. Паўдня шукаў, пакуль знайшоў. А потым мальцу нейкаму гарэлку вазілі.

— Гэта, відаць, шофэру, які іх прывёз, — прамовіла маці, адчыніла дзьверы, і Пятроўна, грукнуўшы ўслонам, запытала: — Ну што, пасунем?

Маці зь Пятроўнай выйшлі з хаты, а Іван, пазяхнуўшы ў жменю, кульнуўся на жывот і ў той жа міг заснуў. Спаў ён нядоўга і абудзіўся ад зыкаў, што даляталі з прысенку.

— Не пушчу! — грымеў, зумкаючы ў даёнках, матчын голас, і ў адказ ёй нехта прастуджана і басавіта паўтараў: — Па справе... гасьцінец перадаць... — Хвіліну ў прысенку зацята барукаліся, здушана крахталі, на падлогу звалілася даёнка, і прастуджаны бас прасіпеў: — Ды ня зьем я яго, халера!

Дзьверы адчыніліся, пачуўся сіплы кашаль, і толькі па гэтым кашлі пазнаў Іван таго, хто шчаміўся ў хату.

— Ну, падлюка, глядзі... Зараз участковага паклічу! — пакрыўджана вымавіла маці, а яшчэ праз імгненьне падчэпленая брылём моташлема фіранка памкнулася ўглыб сьвятліцы.

— Панавешвала тут, — буркнуў Лябёдка, блытаючыся ў фіранцы, а выблытаўшыся і ўбачыўшы Івана, зьняў з галавы шлем і вінавата пасьміхнуўся. — Ну як ты? — голас Лябёдкавы быў дарэшты зьнявечаны прастудай.

— Нічога, — адказаў Іван, кіўком галавы запрашаючы госьця прысесьці на ложак.

— Ледзь прарваўся, — Лябёдка зірнуў у бок уваходных дзьвярэй, уздыхнуў і, ссунуўшы коўдру, сьцярожка прысеў на край пасьцелі: — Дык, кажаш, нічога?

— Нічога, — паўтарыў Іван і ў сваю чаргу запытаўся: — Як нага? Баліць?

— На мне, Ваня, як на сабаку — на другі дзень загойваецца. Вось толькі глытка ные, — левая Лябёдкава рука кранулася вафэльнага ручніка, якім была абкручана шыя, а правая скамечыла вушанку, якая ляжала на каленях.

Іван пазнаў сваю шапку.

— Во, шапка твая, — усхапіўся Лябёдка, — забыўся тады ў бабулі. Я ж зь Берасьцянкі еду. Завёз Мар'яне падсьвінка ды сто рублёў грошай даў. Добрая бабуля... Пра цябе спытвала. Даведалася, што хворы, дык забедавала. Во! — сябрук таропка выцягнуў з кішэні слоік з-пад гарчыцы, — мёду табе перадала... лякуйся.

Іван расчулена шморгнуў носам і, памаўчаўшы, запытаў:

— Дык я што... ну там, на дарозе, зусім вырубіўся?

— Вырубіўся, — кіўнуў Лябёдка. — Я цябе два кілямэтры на сабе цягнуў. Цягну, а ты мяне за вуха кусаеш ды просіш гарачую ваду адключыць. Трызьніў, напэўна. Добра яшчэ, невельскія хлопцы на ЗІЛе падвярнуліся. Да самай хаты давезьлі. Мы назаўтра ў Невель езьдзілі. З Раднёнкам. Пару пляшак паставілі, потым яшчэ ўзялі. Думаю во ў Невель падацца... Хлопцы тыя паабяцалі ў тэлеатэлье ўладкаваць. Так што, магчыма, хутка ў горад перабяруся. Хопіць ужо бычкоўскую гразь таўчы.

Лябёдка закашляўся, роспачна чхнуў, выцер нос ражком уціральніка, які спавіваў шыю. Пару хвілін яны маўчалі, по-

тым Лябёдку зноў пачаў біць кашаль, і ён, прыкрыўшы далоньню рот, падняў з падлогі матацыклетны шлем.

— Ну што, Ваня... пайду, — вырвалася зь Лябёдкавай грудзіны, — а то мяне таксама дрыжыкі бяруць.

Калі за Лябёдкам зачыніліся дзьверы, Іван пакруціў у руках слоік і нечакана заплакаў. Ён і сам ня мог зразумець — адкуль зьявіліся гэтыя сьлёзы, што завілымі раўчукамі зьбягалі па скронях, і кот Барыс, які сядзеў на печы, са зьдзіўленьнем пазіраў на яго, сьвецячы ў паўзмроку сваімі зялёнымі вачыма.

# ГЭМІНГУЭЙ

*Апавяданьне*

Кульнуўшы чарку гарэлкі і агораўшы талерку гарачай капусты, кандыдат філялёгіі Іван Барсучонак здаволена адрыгнуў і, пад стоенае жончына буркаценьне (“Талерку ніколі за сабой не памые”), падаўся з кухні. На двары згасаў суботні адвячорак, сківіцы раз-пораз крывіў адчайдушны позех; Іван ужо гатовы быў плюхнуцца на канапу, ды тут у вітальні зазваніў тэлефон і жонка — яна якраз узялася мыць бялізну — зь недарэчным спалохам крыкнула:

— Міжгорад!

Па выхадных днях тэлефонныя званкі гучалі надзвычай рэзка і адрывіста, яны зьбівалі сардэчны рытм, руйнавалі жыцьцёвыя пляны, а таму Іван, перш, чым падхапіць слухаўку, незадаволена крахтануў і памацаў далоньню тое месца, дзе білася млявае сэрца.

— Вань, ты?! — прагучала зусім блізка; Іван нават азірнуўся, выглядаючы — ці не гукнуў Лёнька Холад аднекуль з-за сьпіны.

У слухаўцы штосьці бомкнула, і той самы Лёнька Холад, ашчаджаючы тэлефонны час, загаварыў без прэамбул:

— Мы тут канфэрэнцыю ладзім. Дваццаць пяць удзельнікаў, і ты ў іх ліку. Так што вылазь, стары барсук, з нары...

— А што за тэма? — з робленай цікавасьцю запытаўся Іван, паціраючы далоньню няголенае падбародзьдзе.

— “Славянскі лёс Эрнэста Гэмінгуэя”.

— Вас там што, настальгія апанавала? Які Гэмінгуэй? На яго даўно ўсе забыліся...

Лёнька Холад такіх аргумэнтаў як і ня чуў:

— У цябе там пра Гэма артыкул быў... вось яго і вязі...

Заезд шаснаццатага. Не прыедзеш — будзеш сьвінь-нь-нёй з трыма “эн”! — і не пасьпеў Іван згадаць пра хранічны бранхіт, як Лёнька, гукнуўшы: — Прывітаньне Любе! — зьнік у тэлефонных глыбінях, пакінуўшы па паверхні бурбалкі — кароткія гудкі.

Жонка Люба выйшла з ваннай, выцерла рукі прыполам халату.

— Холад званіў. На канфэрэнцыю запрашае.

— Ну дык як... паедзеш?

Іван не адказаў. Пайшоў у залю, плюхнуўся ў фатэль і, сашчаміўшы пальцы за патыліцай, стаў глядзець у нізкую столь. Глядзеў доўга, з прыкрасьцю — ехаць нікуды не хацелася, — але неўзабаве вочы ягоныя летуценна бліснулі, і жонка Люба, цягнучы на гаўбец мокрую бялізну, прамармытала:

— Ну што сядзіш, як поп на прычасьці?

Ён схамянуўся, кашлянуў у далонь, паспрабаваў вярнуць у душу панылую звычайшчыну, ды ня здолеў: скурчаная душа нечакана выпрасталася, яе крануў халодны ветрык успамінаў і ўваччу паўстаў Гэмінгуэй — той самы, усьмешлівы, у швэдры грубага вязаньня, якога ён некалі абагаўляў, якога спрабаваў чытаць у арыгінале і якому прысьвяціў тры старонкі кандыдацкай дысэртацыі. І яшчэ згадаў, як колісь, прыканцы шасьцідзясятых, езьдзіў у Піцер і тры гадзіны стаяў у чарзе — на Неўскім праспэкце, наўзбоч Дома кнігі, — каб набыць партрэт свайго куміра. Тады, памятаецца, быў сакавік, ад зыркіх капяжоў калола скроні, і ўвушшу зьвінела ад ляманту кагарак, што лёталі над каналам. Апанаваны неспакойным пачуцьцём — ці то крыўды, ці то нейкай недарэчнай страты, Іван пайшоў у вітальню, узьлез на хісткую табурэціну, з заклапочаным тварам стаў поркацца ў антрэсолі. Поркаўся доўга, выкідваючы долу розны хломазд: раман-эпапэю Ільлі Гурскага “Вецер веку”, важкую, пазначаную колам гарачай патэльні, таміну выбраных артыкулаў і прамоваў П.М. Машэрава; трымаючы за шнур, спусьціў на падлогу перагарэлы прас і, нарэшце, выцягнуў з глухіх антрэсольных лёхаў пра-

пылены гэмінгуэеўскі партрэт. Выцершы кардоніну рукавом, Іван піхнуў яе за шкло кніжнай шафы, а перахапіўшы жончын позірк, прадэклямаваў Робэрта Джордана, гэмаўскага героя: — “Сьвет — добрае месца, і за яго варта біцца”.

— Куды ўжо табе біцца, — выдыхнула жонка і, йдучы на гаўбец, незаволена грукнула медніцай.

Ля багажнага вазка, што стаяў упоперак плятформы, натоўп расьцякаўся на дзьве плыні. Адны ішлі да вакзалу, другія — іх была большасьць — рушылі на пераходны мост. Ня ведаючы — куды ісьці, Іван прыцішыў крок, азірнуўся і ў тую ж хвілю шапка, што надзейна сядзела на патыліцы, зьехала на вочы і за сьпінаю незадаволена выдыхнулі: — Стануць, як загароды...

Кабета, што цягнула на плячы скручаны ў трубку дыван, яшчэ нешта прабурчэла і Йван, паправіўшы шапку, таропка адышоў убок.

Увечары, калі сядаў у цягнік, на дварэ было адліжна, цяпер жа прымарозіла і ранішні халадок зацята падбіваўся пад крысо палітону, непрыемнымі дрыжыкамі кранаўся сьпіны. Пругкі вецер зьдзімаў з вакзальнага даху туманістую замець, кідаў у твар сухія сьнежныя крупы, і паўсюль, куды ні кінь вокам, шнуравала і віравала белая кудаса.

Апошнія пяць гадоў Іван на канфэрэнцыі ня езьдзіў: не было ахвоты. Пяць белых зімаў праляцелі над лабатай Іванавай галавой. Белагрывыя завірухі шкуматалі па чарзе крысо лядашчага палітону й калашыньне штаноў, секлі шчокі сьнежнымі крупамі, напорліва піхалі ў зад, спрабуючы разварушыць, страпянуць, прымусіць яго сесьці за доктарскую дысэртацыю, ці хаця б напісаць праблемны артыкул — пра дабратворны ўплыў расейскай мовы, аднак Іван не страпянаўся. Ён са здушаным крэканьнем падымаў каўнер, нацубліваў глыбей на вочы шапку і, мружачы левае вока, ішоў ва ўнівэрсытэт чытаць лекцыі па мовазнаўству. За пяць гадоў галава Іванава палысела, дэмісэзонны, гэдээраўскага пашыву палітон дарэшты пацёхкаўся, выходныя штаны сталі тапырыцца ў каленях,

а жыцьцёвыя інтарэсы засяродзіліся выключна на тэлевізары ды на балбатні з калегамі-выкладчыкамі. Душа скурчылася, завапнавалася, схаладнела, як перад вялікім абледзяненьнем, і раптам надарылася дзіва — Лёнькавы званок. “Вань, ты?” — гукнуў з тэлефонных глыбіняў сябрук, і ў той жа міг Іван адчуў, як душа бязважкім балёнікам адарвалася ад пахвіны і ўбілася пад дыхніцу. І захрасла там, згадаўшы маладое, далёкае, напаўзабытае…

Зь Лёнькам Холадам яны вучыліся ў адной групе, і чатыры курсы запар, аж пакуль сябар не ажаніўся з дачкой прафэсара Мамута, жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Час той схаваўся ў правідным тумане і рэдка калі згадваўся. Але вось дзіва: скалануў тэлефонную мэмбрану, прадзёрся скрозь сіта дробных дзірак Лёнькаў голас і ўваччу паўстаў заліты сонцам пакой на чатыры ложкі, шызы цыгарэтны дым пад высокай стольлю і парэпаныя дзьверы з прыбітым да іх партрэтам Гэмінгуэя — таго самага, купленага ў ленінградзкім Доме кнігі. Згадаліся вясёлыя п’янкі за хісткім, укаранаваным гарачай патэльняй сталом, “храп” да самай раніцы, любошчы ў прыцемным інтэрнацкім калідоры, а яшчэ прыгадаўся слоік са здорам, які яны налаўчыліся кідаць кожнаму, хто ўваходзіў у пакой, і той вымушаны быў яго лавіць, пэцкаючы тлушчом пінжак альбо кашулю. Усе тры дні, пакуль ён рыхтаваўся да паездкі, успаміны лезьлі ў галаву і нават тут, на віхурыстай плятформе, зьнянацку і не да места згадалася, як яны зь сябрам прапіліся на голую бэлю, не заплацілі за месца ў інтэрнаце, і цэлы месяц спалі без падушак, на мулкіх панцырных сетках, падклаўшы пад галовы падшыўкі часопісаў “Молодой коммунист”.

На пятым курсе Лёнька пабраўся з прафэсарскай дачкой — белатварай прыгажуняй Сьветкай, якая да таго часу скончыла Інстытут культуры і працавала на бацькавай катэдры лябаранткай. Холада тады ўсе прызналі кар’ерыстам, і хаця ён патрапіў па разьмеркаваньні ў асьпірантуру, кар’ерыстам Лёнька ня быў: у яго былі іншыя захапленьні. Яшчэ ва ўнівэрсытэце заняўся псыхалёгіяй. Чытаў замежныя часопісы, рабіў зь іх пераклады і, зрэдзьчасу, даваў яму, Івану,

аркушыкі папяроснай паперы з падсьлепаватым, пад капірку друкаваным тэкстам. “Артыкул Адлера”, — казаў сябрук, стаіўшы голас. Артыкулы гэтыя Іван, вядома ж, не чытаў. Прабягаў вачыма пару абзацаў, салодка пазяхаў, аддаваў лісткі гаспадару, і той, хаваючы іх ад чужых вачэй, усё тым жа стоеным голасам прамаўляў: “Зараз Райха перакладаю”.

Ужо ў асьпірантуры заўзятара Адлера і Райха пацягнулі ў славуты Камітэт. Рэквізавалі валізу зь літаратурай, прачыталі лекцыю аб варожых падкопах, прымусілі падпісаць нейкую паперу. Зь цесьцем таксама, відаць, пагаманілі, бо стары Мамут потым цяжка захварэў, а праз пару месяцаў памёр. З тае пары жыцьцё Лёнькава пакацілася пад адхон. Увесну прыгажуня-жонка паехала на адпачынак у Крым і там, пад паветкай пляжнай кавярні, пазнаёмілася з футбалістам ерэванскага “Арарату”; спэцкурс “Псыхалёгія чытаньня”, які ён вёў у Інстытуце культуры, скасавалі, а неўзабаве, з ініцыятывы сакратара ўнівэрсытэцкага парткаму, у асьпірантуры правялі камсамольскі сход, на якім асьпіранта Холада назвалі ідэалягічным дывэрсантам…

Віхор, што вылецеў з падваротні, налёг на скронь, працяглым гудам азваўся ў вадасьцёкавай трубе. Плятформа паволі апусьцела, і толькі на вакзальным ганку сноўдалася колькі невыразных, як марлей спавітых постацяў.

На вакзале яго абяцалі сустрэць, таму Іван і стаяў на зыры, прымружана пазіраючы на бокі, і ў той момант, калі ён, абабіўшы сьнег з чаравікаў, памкнуўся пайсьці на аўтобусны прыпынак, з падваротні, адкуль кагадзе вырваўся віхор, гэтак жа імкліва вылецеў даўгяла ў бабровай шапцы. Насаты, атачаны шчыгульнай гэмінгуэеўскай бародкай твар... дробныя маршчыны ля вачэй... зьбянтэжаная ўсьмешка на бяскроўных вуснах. Даўгяла схапіў яго ў ахапак, адарваў ад зямлі, і толькі цяпер, матлянуўшы ў паветры нагамі, Іван пазнаў сябра.

— А я цябе паўсюль шукаю. Два разы пэрон абабег, — ад Лёнькі — Іван адзначыў гэта з пачуцьцём лёгкай трывогі — пахла дарагім дэзадарантам.

— Цябе на пазнаць, — выдыхнуў Іван, ляпнуўшы Холада па сьпіне, — барада, бабёр, кажух... — голас Іванавы здрыгануўся, — ад Валянтыно.

— Валянтыно кажухоў ня шые, — жартам прамовіў Лёнька Холад, і сябры, захінаючыся рукамі ад ветру, рушылі да белага мікрааўтобуса, што стаяў наўзбоч прывакзальнага пляцу.

— Колькі гэта мы ня бачыліся? Здаецца, дзесяць гадоў, — зыкнуў Лёнька насустрач ветру, а госьць, гэтак жа зычна, запытаўся:

— А ты памятаеш, як мы на голых ложках спалі?

— Гэта калі камэндантка сяньнікі забрала? — рагатнуў Лёнька, і з воклічам: — Ваня-а! — абняў сябрука за плечы.

У салёне мікрааўтобуса ўжо сядзелі людзі. Відаць, прыехалі тым жа цягнікам. Аднаго зь іх, прафэсара Гомана, Іван ведаў і з задавальненьнем пацісну͏ў сухую і цёплую, а таму й прыемную прафэсарскую руку.

— Доктар Рыдлеўскі з Варшавы, — адрэкамэндаваўся хударлявы, з пакамечаным тварам тыпус, рука якога была халоднай і вільготнай; прозьвішча трэцяга ўдзельніка канфэрэнцыі — мажнога, рабаціністага мужчыны, Іван не дачуў і піхнуў дзеля поціску ня ўсю пяцярню, а толькі два пальцы.

Кіроўца даў газу, пайшоў на разварот, і прафэсар Гоман, працягваючы перарваную размову, з прытоеным незадавальненьнем заўважыў:

— ... Я зусім іншае хацеў сказаць: у Гэмінгуэя няма глыбіні, няма партрэту, але ёсьць галоўнае — ёсьць жывыя людзі. Вось гэтыя самыя жывыя людзі і прыйшлі ў сацрэалістычны сьвет, і разагналі тамтэйшых мерцьвякоў.

— Ну, скажам, ня ўсё, што ў нас пісалася, было мерцьвячынай, — адгукнуўся на тое рабацень, які сядзеў поруч і паліў піпку. — Я свойчас таксама паміраў ад Гэма. Але мне, як і ўсім нам, імпанавала ня гэмаўская проза, а ягоныя манеры, ягоны стыль паводзінаў...

— А вы што — асабіста ведалі Гэмінгуэя? — зь няшчырай весялосьцю выдыхнуў Гоман, — манеры і арганічны стыль пісьменьнік выявіў у сваіх героях. Значыць, яны ўсё ж такі жывыя? Ці вы схільныя дыфэрэнцыраваць герояў і саму прозу?

У гэты момант мікрааўтобус страсянула, і Лёнька Холад, сунімаючы палемічныя жарсьці, з наструненай усьмешкай прамовіў:

— Калегі, у нас два дні наперадзе.

Іван зірнуў у запушанае сьнегам вакно, перакінуўся зь Лёнькам колькімі словамі. Хацеў спытаць — ці бачыцца той са сваёй першай жонкай, але вырашыў не пытацца пры чужых людзях і, ацаніўшы кошт сябруковага кажуха й бабровай шапкі, бязгучна прашаптаў: “Сеў на гранты”.

Мікрааўтобус праехаўся па асьнежанай вуліцы, збочыў у нейкі завулак, рэзка загамаваў.

— Зараз, калегі, пасьнедаеце, а праз... — Лёнька Холад зірнуў на гадзіньнік, — сорак хвілін чакаем вас у гарадзкой бібліятэцы, — сябрук хацеў яшчэ нешта паведаміць, але Іван тузануў яго за рукаво.

— Ты ж казаў — у вашым інстытуце будзем зьбірацца.

— У інстытуце не дазволілі, — буркнуў сябрук, а прычакаўшы, калі з салёну выкуліцца пан Рыдлеўскі, мацюкнуўся на адрас рэктарату і, па-дзіцячы скрывеліўшы рот, дадаў: — З інстытутам я надоечы разьвітаўся. Перакладчыкам працую… на фірме.

Іван ужо выходзіў з салёну, але, пачуўшы такое, захрас у дзьвярах.

— Ну і як... на новым месцы?

— Потым пагамонім, — азваўся сябрук і Йван, падцягнуўшы свой і без таго куртаты палітон, скочыў у сумёт і застыў на месцы, праводзячы неспакойным позіркам белы, а таму кепска заўважны сярод сьнежнага мроіва мікрааўтобус.

У кавярні з экзатычнай назвай «Трансвааль» пахла

мандарынамі і падгарэлай падліўкай. Вочы прабегліся ў пошуку вольных столікаў, наткнуліся на ўзьнятую ўгору прафэсарскую руку.

— Давай да нас! — крыкнуў Гоман, жуючы фірмовы, у чатыры пальцы таўшчыні, гамбургер.

Іван сеў, пацёр вільготныя далоні.

— Вось вы казалі пра гэмінгуэеўскі стыль, — прафэсар лыкнуў з келіху буйнапеністай “аліварыі”, — а між іншым менавіта яго ўзялі на ўзбраеньне славутыя шасьцідзясятнікі. Больш таго, стыль ягонай прозы сфармаваў сьветапогляд цэлай генэрацыі. З гэтым вы хаця б згодныя?

Рабацень таксама прыклаўся да келіху, з інтэлігенцкай павольнасьцю прамакнуў сурвэткай пенныя вусны.

— Згодны. Мы з вамі, прафэсар, з аднаго году і разам чыталі ягоныя рэчы. Аднак для мяне Гэмінгуэй — паласа жыцьця, якую я прамінуў у маладосьці, і нічога болей.

— Ага-а, значыць, была ў жыцьці такая паласа, — Гоман ляснуў штучнай сківіцай. — Прайшлі праз творчасьць Эрнэста Гэмінгуэя напрасткі. І вам свойчас спадабаўся стары Санцьяга… А вось з герояў Ганны Караваевай і Марка Коласава, што пісалі пад псэўданімам Мікалай Астроўскі, вы ў душы пацьвельвалі. Ці ня так?

— Вы, прафэсар, памыляецеся. На той час я ўжо быў разумным хлопчыкам і разумеў, што духоўная глеба выпаленая сталінскім сонцам, і што на такыры сур’ёзная літаратура ўзысьці ня можа. А таму й цьвеліць з Паўкі, ці зь іншых, падобных яму, сацыялягічных робатаў, лічыў заняткам недарэчным.

— Гэмінгуэй пакінуў за дужкамі полісэмію і апісаў жыцьцё такім, якім яно ёсьць, — падаў голас пан Рыдлеўскі, — гэтым ён нам і цікавы.

Паляк прамаўляў амаль без акцэнту, не падымаючы галавы, і Гоман з рабаценем, шматзначна пераглянуўшыся, зь зацятасьцю сталі поркацца відэльцамі ў салаце.

За ўвесь сьняданак Іван не прамовіў ні слова. Сядзеў, убіўшы вочы ў піўную бутэльку, піў гаркавы напой і з кожным лыкам усё глыбей панурваўся ў цягуткі сон прамінулых гадоў. Уваччу дрыжэў шэры змрок, потым стала сьветла — усё адно як адчынілі аканіцы, і на падлогу ўпалі касыя сонечныя промні. Унівэрсытэцкі калідор поўніўся прытоеным рэхам, мяккім шорганьнем падэшваў. Непадалёку, схаваўшы твар у матчыны рукі, плакала дзяўчына, і гэты плач нэрвовым сьвербам халадзіў нутро, і пальцы з шалёным імпэтам гарталі падручнік, і вусны штосьці няўцямна мармыталі, і чырвоныя ад бяссоньня вочы са спалохам глядзелі на аркушык паперы, што вісеў на дзьвярах: “Цішэй! Ідуць іспыты!”

Адзіны, хто не выяўляў хваляваньня, быў малец з даўгімі русявымі валасамі, які сядзеў на падвоканьні і чытаў кнігу. Прычым, гэта быў не падручнік, а нейкае кішэннае выданьне з малюнкам злодзея на вокладцы. Праходзячы чарговым разам паўз яго, Іван, запытальна кіўнуў, і хлопец, не адрываючыся ад тэксту, прыўзьняў кніжку з каленяў.

“Ma-ry Shel-ley “Fran-ken-stein”.

— Ты што, таксама паступаеш? — запытаўся Іван, па складах прачытаўшы назву. Запытаўся з захапленьнем, нават зь лёгкім непакоем. Ды і дзіва што: наперадзе іспыт, усе хвалююцца, сноўдаюць, ня чуючы ног, па калідоры, а гэты раскінуўся на падвоканьні й чытае пра нейкага Франкенштэйна, ды яшчэ немаведама на якой мове.

— Лёня, — буркнуў у адказ хлопец і працягнуў руку. Ад дотыку цёплай рукі па целу прабеглі прыемныя дрыжыкі.

А калі адвячоркам ён, шчасьлівы студэнт, шыбаваў на вакзал, над самай ягонай галавой праляцела варона і зычным голасам пракрахтала Лёнькавае імя. Ён зірнуў угору і ўбачыў самотную зорку. Зорка прывідна зіхцела на вечаровым небе, і — ён фізычна адчуў гэта — казытала сваімі вострымі промнямі мякотна-шэры асяродак душы.

Усё пяць унівэрсытэцкіх гадоў ён пнуўся схапіць недасяжную зорку, а таму зь першага ж вучэбнага дня стаў улягаць у

ангельшчыну. З пакутаю на твары завучваў шапялявыя, непрыемныя на смак словы, баразьніў маршчынамі лабешнік, запамінаючы дрымучыя дзеяслоўныя формы, і ў выніку атрымаў за сэмэстар законны “трульнік”. Яшчэ на першым курсе спрабаваў чытаць старажытных філёзафаў, вывучаў, па прыкладу Лёнькі Холада, гештальтпсыхалёгію і творчую спадчыну Аляксандра Брукнэра, а пабачыўшы ў часопісе Лёнькаў артыкул аб паэзіі мінезінгераў, сеў пісаць пра творчасьць францускіх трувэраў; сьпісаў дзьве старонкі і з жарсьцю падзёр напісанае. Ды што там артыкул: ён ня мог зраўняцца зь сябрам нават у даўжыні валасоў. Цэлы год іх гадаваў, зачэсваў за вушы, а напярэдадні летняй сэсіі мусіў ісьці ў цырульню, бо прафэсар Мамут, які чытаў курс агульнага мовазнаўства, пабачыўшы ў дзьвярах патлатага студэнта, вяртаў залікоўку і паказваў на дзьверы.

Прафэсар даваў патолю толькі аднаму студэнту — Лёньку Холаду: толькі ён мог прыйсьці на іспыты ў забрынданых джынсах і з доўгімі валасамі. Убачыўшы свайго ўлюбёнца, прафэсар прыкметна жвавеў, задаволена паціраў рукі. “Ну што, мінезінгер, бярыце білет”, — казаў Мамут, іранічна пазіраючы на нямытыя Лёнькавы патлы. Лёнька браў білет і, вядома ж, адказваў без падрыхтоўкі: прамаўляў пару сказаў, прафэсар яго адразу ж перабіваў, згадваў гештальпсыхалёгію ці яшчэ якую, малазразумелую для шараговага студэнта халеру, і яны ўсчыналі навуковую спрэчку. Іван тым часам бязьлітасна сьпісваў, сьпісвалі і іншыя, і таму за права ісьці на іспыт у “зьвязцы” з Холадам, на калідоры бывала цэлая вайна.

Аднойчы, пад час іспытаў, прафэсар накрычаў на Лёньку. Завяліся з-за тарашкевіцы. “Гэта вы зараз сьмелыя, — галёкаў Мамут, дрыжачай рукой папраўляючы гальштук, — а паглядзеў бы я на вас ў трыццаць сёмым, калі за той мяккі знак ставілі да сьценкі!” Прафэсар шпурнуў Лёньку залікоўку, той яе спрытна злавіў, бледным ценем высьлізнуў з аўдыторыі. А ўвечары таго ж дня Івана перахапіла ў інтэрнатаўскім калідоры белатварая дзяўчына.

— Холад Леанід — ня ведаеце, дзе жыве?

— У 53-м пакоі, я якраз туды іду.

— А ці маглі б вы яму перадаць, — дзяўчына сумелася, панурыла долу пушыстыя вейкі. — Тата захварэў, прасіў зайсьці. Вось тут адрас, — Іван перахапіў пакамечаную паперку, якая памятала цеплыню дзявочай далоні, і толькі тады зразумеў, што перад ім дачка прафэсара Мамута.

Ноччу Іван доўга ня мог заснуць, чакаў сябра. Каменьчык ляснуўся ў шыбу на досьвітку. Ён ўзьняў сябра на прасьціне — жылі яны на другім паверсе — і Лёнька, узьбіраючыся на падаконьне, дыхнуў у твар густым каньячным пахам. Не распранаючыся, сябрук абрынуў на ложак і, у адказ на Іванавы роспыты, ужо напаўсонны, прамармытаў: “Добрая ў яго бібліятэка...”

— Ды куды столькі?! — гукнулі ля вуха і Йван, адбіваючыся ад няпрошаных успамінаў, страсянуў галавою.

Кельнэр паставіў на стол чатыры бутэлькі “Аліварыі”, і прафэсар Гоман, пацёршы рукі, каротка абвясьціў: — Частую.

— Каб не ап’янець з дарогі, — з насьцярогай і ўадначас з захапленьнем прамовіў рабацень.

Прафэсар Гоман акінуў калегу гарэзьлівым позіркам, падхапіў пляшку і, куляючы яе вэртыкальна, перарывістым струменем напоўніў келіхі.

Да бібліятэкі ішлі гужам, хаваючыся ад ветру за сьпінай папярэдніка. Першым ішоў Гоман, за ім, раз-пораз ступаючы папярэдніку на пяткі, пасьпяшаў рабацень (выходзячы з кавярні, ён назваў сваё імя, але Йван не запомніў), трэцім, цісначы да вуха ўзьняты каўнер кажуха, шыбаваў пан Рыдлеўскі (паляк пры гэтым ікаў і штокроку прамаўляў “пшэпрашам”). Іван ішоў апошнім. Пахілы, задуменны, ён хутаўся ў свой куртаты палітон, і дзіўныя пачуцьці цьвялілі прадзіманую ветрам душу. Здалося на міг, што ззаду, на адлегласьці, ідзе яшчэ нехта — маўклівы і суворы, і глядзіць усьлед ягонымі ж вачыма. І Іван ўбачыў сам сябе — пахілага, з жаўтлява-пакамечаным тварам, які ў сваіх пяцьдзесят гадоў

ня здолеў выбіцца ў людзі і цяпер, зь невядомай прычыны, матляўся пасярод чужога горада на каляным ветры, у шкадобы вартым гэдээраўскім палітоне. Сьнег, што непрыязна зіхцеў пад нагамі, зрабіўся раптам попельна-шэрым, халяўнае піва булькатнула ў жываце, папрасілася вонкі і Йван, адрыгнуўшы кіслым духам, наткнуўся на паляка.

— Ня ў той бок рушым! — крыкнуў Гоман; яны пайшлі ў адваротны бок, і цяпер ужо Іван ішоў паперадзе, і суворы падвей зыркаў яму ўсьлед, кідаючы ў сьпіну прыгаршчы сьнежных крупаў.

У бібліятэцы пахла хлёркай і старымі газэтамі. Ад тых пахаў казытала ў носе; паляк нават чхнуў у рукаво і потым з панічнай хапатлівасьцю шукаў у кішэнях насоўку.

Аднекуль згары даляталі няўцямныя зыкі. Стваралася ўражаньне, што недзе там, у вышыні, гукае птушыная чарада. Таропка, на цырлах, яны пашыбавалі па ўсходах, і птушыны грай неўзабаве ператварыўся ў гулкія словы. "...Стрыжнем гэмінгуэеўскай філязофіі сталіся адносіны да матэрыяльнага сьвету..." " У тэалягічнай атмасфэры ягоныя творы былі вэрбальным бунтам матэрыяльнага сьвету супроць савецкай квазыдуховасьці..." "Пісьменьнік адкінуў лірыку й алегорыі, таму мы ўбачылі сапраўднага, жывога рыбака і пачулі плёскат сапраўднага мора..."

— Чуеце, калега? "Жывога рыбака"! — прабасіў, зьвяртаючыся да рабаценя, прафэсар Гоман і той, да каго ён зьвяртаўся, з усьмешкай падпіхнуў яго да дзьвярэй.

Яны ўвайшлі ў прыцемны, спрэс застаўлены кніжнымі паліцамі пакой, і аднекуль з-за паліцаў пачуўся стоены жаночы голас:

— Вам налева!

Заля, у якую яны неўзабаве ўбіліся, была зырка асьветленая. Іван нават прыкрыў рукою вочы, дзівячыся: навошта столькі сьвятла? — ды тут жа ўбачыў ля задняй сьцяны дзьве тэлевізійныя сьвяцільні і чалавека з тэлекамэрай.

Плюхнуўшыся на крэсла, Іван паправіў зьбіты набакір гальштук, зірнуў праз людзкія галовы й сутыкнуўся з вясёла-дакорлівым Лёнькавым позіркам. Сябар сядзеў у прэзыдыюме, з жартаўлівым дакорам махаў асадкай.

— Адзін з тадышніх савецкіх крытыкаў назваў Гэмінгуэя несур'ёзным пісьменьнікам, і меў рацыю. Эрнэст Мілер Гэмінгуэй, у савецкім разуменьні, быў чалавекам несур'ёзным і гэтая "несур'ёзнасьць" клікала на змаганьне з крывадушнымі лёзунгамі, дзяржаўнай маной і салодкімі абяцанкамі, — лапатала з моўніцы гаваркая кабета. Кабету захінала чыясьці лысая галава, але Іван па голасе пазнаў Ярыну Кашыну з Інстытуту мовазнаўства. Свойчас гэтая самая Ярына была Ірынай і чытала ва ўнівэрсытэце курс гісторыі партыі.

— Нягледзячы на шматлікія ідэалягічныя рагаткі, гэмінгуэеўскі герой паволі працярэбліваў сабе дарогу. Згадаем Высоцкага ў заключных кадрах фільму "Вэртыкаль". Памятаеце, гэтага барадача з гітарай, які ўплішчваецца ў натоўп? Гэта ж клясычны гэмінгуэеўскі вобраз, вобраз мужчыны-стоіка... — у залі заварушыліся, закашлялі, а прамоўца, не зразумеўшы — чаму так ажывілася аўдыторыя, глынула вады са шклянкі.

Лёнька Холад пастукаў асадкай па стале.

— Гэмінгуэй стварыў сапраўднага мужчыну, але не сказаў — што яму рабіць, — гукала кабета, а ў вушах Іванавых гучалі іншыя словы. Словы тыя Ірына Кашына прамаўляла дваццаць сем гадоў таму. Ломкі, поўны камсамольскага запалу голас скаланаў высокія скляпеньні: "— Мы не дамо атручваць сьвядомасьць нашых людзей рознымі Юнгамі ды Адлерамі", — і асьпіранты, услухоўваючыся ў гулкае рэха, пацепваліся й убівалі галовы ў плечы. Гарбаціўся, седзячы ў прэзыдыюме, і сакратар унівэрсытэцкага парткаму Давыдзька, з ласкі якога й ладзіўся камсамольскі сход. І толькі Лёнька Холад не кранаўся вушамі рамёнаў: сядзеў, скрыжаваўшы рукі, і ўсьмешлівыя вочы ягоныя малявалі ў паветры трохкутнік, пазіраючы папераменку то на ўпрэлы ад хваляваньня Ярынавы тварык, то на ордэнскія калодкі, што ў тры рады грувасьціліся на Да-

выдзькавым пінжаку, то на гламаздаватую галаву правадыра, якая аграмаднай порхаўкай вытыркалася з-за стала прэзыдыюму. Іван сядзеў, абхапіўшы рукамі голаў, рупіўся не глядзець на сябра, а калі аднойчы зірнуў і яны сустрэліся позіркамі, на памяць прыйшлі словы, якія, як ён тады лічыў, належалі Гэмінгуэю: "Кожны памірае на самоце".

Навокал забілі ў ладкі, і Йван страсянуў галавою.

— Пра лёс знакамітага рамана "Па кім звоніць звон" распавядзе вядомы дасьледнік творчасьці амэрыканскага пісьменьніка Пятро Калюжны.

Праваруч замітусіліся, засоплі, грукнулі крэслам і давялося падняцца на ногі, каб даць дарогу дасьледніку — нізенькаму, задышліваму чалавеку, ад якога пахла мачой і перагарам.

Падышоўшы да моўніцы, дасьледнік ашчадна кашлянуў, дапіў недапітую Ярынай ваду са шклянкі.

— Гэмінгуэя ў нас забаранялі, выкрывалі, абагаўлялі, прадавалі ягоныя партрэты ў культтаварных крамах і, нарэшце, забыліся, што быў такі пісьменьнік, — выступоўца перапыніўся, наліў у шклянку мінэралкі, і нехта ў залі здушана прамовіў: "Смажыць!"

— Упершыню імя Эрнэста Гэмінгуэя савецкі друк згадаў у 1928 годзе, а першыя гэмінгуэеўскія апавяданьні наш чытач пабачыў толькі ў 1934 годзе. Іх надрукавалі часопісы "30 дзён", "За рубяжом" ды "Інтэрнацыянальная літаратура"...

— Не магу больш, два літры ў жываце, — дыхнуў Івану ў вуха прафэсар Гоман, тыцнуў у бок, і яны — сьцярожка, на паўсагнутых — выйшлі з залі.

— Трыста пяцьдзесят кілямэтраў ехалі, каб розную лухту слухаць, — ужо ў прыбіральні, з пачуцьцём палёгкі, выдыхнуў Гоман, напорлівым струмком сьвідруючы пісуар. Прафэсар здаволена бухнуў, аддзьмуўся. Тут жа, у прыбіральні, яны выпалілі па цыгарэце, зь неахвотаю выйшлі ў калідор. У залю, аднак, не пайшлі. Не змаўляючыся, павярнулі направа і супыніліся перад шклянымі дзьвярамі з надпісам "Абанэмэнт".

— Заходзьце, заходзьце, — пачуўся дзявочы голас, і яны — Іван левай рукой, а Гоман правай, — схапіліся за дзьвярную ручку.

Дзяўчына-бібліятэкарка была з тых, якія заўсёды падабаліся Івану. Белы, крыху выцягнуты тварык; пухнатыя вусны; тоўстая, падцятая на ўзроўні лапатак і перахопленая ля патыліцы чорнай стужкаю каса.

Дзяўчына пайшла да стала, і Гоман з Іванам мелькам пераглянуліся.

— Якія ў вас кніжкі пацёхканыя-а... — прасьпяваў прафэсар, азіраючы стэнды.

— Фонды ад дзевяностага году не папаўняліся, — у голасе дзявочым прагучала шчырая крыўда. — А вы што... з канфэрэнцыі?

— Так... прыехалі вось... паглядзець на тутэйшых прыгажунь, — прамовіў Іван, пасьміхнуўся, але тут жа нагнаў на твар цень глыбокай турботы: — А чытачоў зь дзевяностага году паболела?

— Чытацкая аўдыторыя штогоду зьмяншаецца, — дзяўчына зьлёгку пачырванела, — у бібліятэкі сёньня ходзяць толькі студэнты ды школьнікі.

— Ну а Гэмінгуэй у вас ёсьць? — гукнуў прафэсар. — Прысеўшы на кукішкі, Гоман правёў пальцам па кніжных карэньчыках.

— Ёсьць там... на ніжняй паліцы. “Фіеста”, “Сьвята” і “Па кім звоніць звон”.

— Чытаюць Эрнэста? — прафэсар дастаў з паліцы тры кніжкі, узважыў на далоні.

Бібліятэкарка ніякавата хітнула галавой.

— А вось мы зараз правядзем экспэрымэнт, — Гоман падышоў да бібліятэкарскага стала, паклаў радком усе тры гэмінгуэеўскія кніжкі. — Хай яны вось тут, на відавоку, паляжаць, а мы паглядзім — ці возьме хто, — у гэты момант за

дзьвярыма пачуліся прыглушаныя воплескі, і Іван з прафэсарам пасьпяшалі ў залю.

Калі выходзілі зь бібліятэкі, Іван азірнуўся, і дзяўчына — а можа гэта толькі падалося — абдарыла яго мімалётнай усьмешкай.

У калідоры іх нагналі паляк з рабаценем. Тыя таксама бегалі ў прыбіральню. Пастаялі ўчатырох у цёмным калідоры, перакінуліся колькімі словамі і, уздыхнуўшы, пайшлі слухаць акадэмічнага апівуду — так назваў рабацень літаратуразнаўцу Калюжнага.

Пакуль ладкаваліся ды рыпалі крэсламі, дасьледнік сёрбнуў вадзіцы, выцер вусны нясьвежай насоўкай.

— Наступная спроба выдаць "Па кім звоніць звон" прыпала на 1965 год. Раман мусіў зьявіцца ў часопісе "Зьвязда", аднак у апошні момант набор раскідалі. Гэтым разам спробу выданьня здушыла няўрымсьлівая Далорэс Ібаруры — кіраўнічка Іспанскай кампартыі, якая на той час жыла ў Маскве. У выніку раман выйшаў у сьвет, аднак закрытым выданьнем. Усе асобнікі гэтага выданьня былі пранумараваныя і выдаваліся пад расьпіску выключна "надзейным" людзям...

Калюжны відавочна перабіраў час, і Лёнька пастукаў асадкай па стале.

— Яшчэ хвіліну... — прамармытаў Калюжны і, падганяючы час, адгарнуў пару старонак.

… Адразу ж пасьля сходу Лёнька Холад, нічога нікому не сказаўшы, зьехаў у Піцер. Абараніў там, прычым, вельмі хутка, кандыдацкую, уладкаваўся рэдактарам у выдавецтва "Аўрора", але неўзабаве вярнуўся дахаты. "Цяжка жыць на Радзіме, сярод плебеяў, але й на Чухоншчыне нясоладка", — паведаміў Лёнька пры сустрэчы. Вярнуўшыся з Піцеру, сябрук знайшоў яго па тэлефоне, і яны сустрэліся ў вакзальным рэстаране.

"Ну а цяпер куды?" — запытаўся ён сябра, разганяючы рукой тытунёвы дым, што плыў над столікам.

"Паеду на правінцыю. Паабяцалі загадчыка катэдры ў адным пэдінстытуце".

Іван глытаў пякучую гарэлку, і сэрца ягонае замірала ад усьведамленьня, што Лёнька Холад прыедзе ў сваю правінцыю, што-небудзь ляпне пра Юнга ды Адлера, да яго прыставяць асьведамляльніка, перавядуць з загадчыка катэдры на старэйшага выкладчыка… Сябар, вядома ж, зап’е, і бліскучая Лёнькава зорка пацьмянее, стане амаль незаўважнай за тоўстым бутэлечным шклом.

Лёнька зьехаў начным цягніком, і ўсе наступныя гады цьвяліў збалелае сэрца. Цьвяліў, калі сьцюдзёнае прозьвішча “Холад” мільгала на старонках навуковых часопісаў; калі жонка, уздыхнуўшы, пыталася: “Як там Лёня?”; калі ў людзкім натоўпе пракідваўся хтосьці падобны да Лёнькі Холада — такі ж падхорцісты і русявы. І вось, пасьля доўгай разлукі, пасьля стольких марна пражытых гадоў, яны сустрэліся, дапытліва глядзелі адно на другога — і ў вушы назойліва лезла няўцямная хуткагаворка.

— Шмат зрабіў дзеля “рэабілітацыі” рамана пісьменьнік Канстанцін Сіманаў...

Лёнька той хвіляй таксама, відаць, думаў пра сваё няўдалае жыцьцё, бо й маршчына лягла ўздоўж ілба, і нежывая ўсьмешка блукала ў куточках сьцятых вуснаў. І акурат у той міг, калі апівуда, зьмяніўшы інтанацыю, прамовіў апошні сказ: “Раман прыйшоў да нас задужа позна”, — і пакінуў моўніцу, у душы Іванавай штосьці зварухнулася, горла перахапіла даўкая спазма і ён з жахам адчуў, што ўвідавочкі ўсыхае цэлам, робіцца зморшчаным карузьлікам. “За што?” — крыкнула ўлякнутая душа. “Праз тваю чорную зайздрасьць!” — адказалі ўгары. Іван сьцяўся, зірнуў угору і ўбачыў няголеную сківіцу. Паўз яго, цяжка сапучы і штосьці незадаволена гукаючы Гоману, прабіраўся рабацень. У залі зашумелі, захваляваліся.

— Я не філёляг, не літаратуразнаўца, а таму скажу наўпрост: Гэмінгуэй аніводнай сваёй рэччу мяне ня ўразіў. На мой погляд, гэта штучна раздзьмутая асоба...

Наўкол зашумелі зь яшчэ большым імпэтам, а Гоман, крутнуўшы галавой, устурбавана прабасіў:

— Не... вы чулі?!

Думкі пра ўласную нікчэмнасьць сьцягнулі скуру на лобе, халодным сьвербам казытнулі пад дыхніцай. Ратуючыся ад сьвербу, Іван падняўся на ногі, пабег, сагнуты, да дзьвярэй — так звычайна бегаюць гледачы ў вясковым клюбе, — гэтак жа, не разгінаючыся, спусьціўся ў прыбіральню, а калі, хвілін праз дзесяць, вяртаўся ў залю, убачыў у мутным шкле бібліятэчных дзьвярэй рухавую постаць. Ён адчыніў дзьверы і сустрэўся вачыма з кіроўцам мікрааўтобуса. Вадзіла кіўнуў яму, як старому знаёмцу.

— "Слаба ты п'еш. Бяры зь мяне прыклад", — прачытаў хлопец, перагарнуўшы старонку пашарпанай кніжкі.

— "Цяпер я быў вымушаны глынуць як сьлед", — хлопец задаволена хмыкнуў. — Наш чалавек... на кожнай старонцы пра п'янку.

— Што будзеце браць? — запыталася дзяўчынабібліятэкарка, перабіраючы чытацкія фармуляры.

— На "х" пачынаецца, на "і кароткае" канчаецца і "у" пасярэдзіне.

— А бяз гэтага можна?

— Ды я нічога, — блазнавата хмыкнуў вадзіла, — вось, зірніце: "Хемингуэй. "Фиеста".

— Дзяжуру тут, у машыне. Сумна стала... хоць кніжку пачытаю, — патлумачыў хлопец і наструніўся — у залі абвясьцілі перапынак, бо здрыганулася падлога, і калідор напоўніўся цьмяным гулам.

Прапусьціўшы хлопца наперад ("Мяне ўжо, відаць, шукаюць — зараз па гарэлку паедзем"), Іван выйшаў у калідор і ў дзьвярной пройме, як і мінулым разам, злавіў дзявочую ўсьмешку.

"Якая шляхетная дзяўчына", — падумаў Іван, азіраючы залю. Думка гэтая трапяткім халадком прабегла па целе. Наўкол панаваў мяккі змрок — тэлевізійнікі толькі што адключылі сьвяцільні — і ў паветры галавакружна пахла кавай. Сярод бязладнай людзкой гаманы чуўся густы прафэсарскі бас.

— Такіх дзеячоў Гэмінгуэй ня можа ўразіць у прынцыпе. Бо ён уражвае выключна людзей зь непакорнай душою, — бубніў, жуючы канапку, прафэсар Гоман; кабета, якой ён усё гэта казаў, сёрбала каву з папяровага кубку, згаджальна ківала галавою.

У другім канцы залі, ля стала з канапкамі, віраваў натоўп і нехта мажны й барадаты завіхаўся з кававаркай — поўніў папяровыя кубкі духмяным напоем. Іван прабіўся да стала, падхапіў кубак з канапкаю, а потым, задуменна прыкусіўшы язык, ўзяў яшчэ адзін кубачак і яшчэ адну канапку. Прабіраючыся да выхаду, ён пакутліва крывіўся — кава балюча пякла пальцы, — але ён дапяў калідора і, паставіўшы посуд на падаконьне, дзьмухнуў на апечаныя пальцы.

— Ваня, дзе ты ходзіш? — крыкнуў Лёнька Холад. — Сябрук бег долу, на хаду зашпільваючы кажух. — А сёмай фуршэт. У той жа самай кавярні. Быць пры гальштуку і з кабетай, — апошнія словы Лёнька гукнуў ужо зь бібліятэчнага ганку; крыкнуў яшчэ нешта, ды няўцямна, гучна бразнуўшы ўваходнымі дзьвярыма.

“Па гарэлку паехаў”, — падумалася Івану; ён падхапіў гарачыя кубкі і пачуў, як за сьпінай пыхнуў піпкай рабацень і змучана прастагнаў:

— Ды зразумейце вы: Гэмінгуэй — шырспажыў далёкіх шасьцідзясятых. І нічога болей!

Шкляныя дзьверы зь цяжкасьцю падаліся — адчыняць давялося ўказальным пальцам, — Іван прасьлізнуў у вузкую пройму, пяткай прычыніў дзьверы.

— Вось... прынёс вам... падмацуйцеся.

— Ой, ну навошта вы!.. — дзяўчына зірнула на Івана зь пяшчотнай прыязнасьцю, — у мяне абед хутка.

— Як раз перад абедам і варта выпіць. Кава абуджае страўнікавую сэкрэцыю, — паведаміў Іван, падзівіўшыся ўласным ведам у галіне фармакалёгіі, а потым, падумаўшы, працытаваў Гэмінгуэя: — “У ім ёсьць кафэін. Цудоўны сродак

для адшчапенцаў. Кафэін садзіць мужа на каня, а жонку кладзе ў мужаву магілу".

— А вы пісьменьнік? — зьнянацку запыталася дзяўчына, і Йван на імгненьне сумеўся.

— Э-э... не зусім...

— Літаратуразнаўца?

— Нешта падобнае, — Іван сёрбнуў кавы, кіўком галавы заклікаў дзяўчыну зрабіць тое ж самае.

— Вы тут Гэмінгуэя згадвалі, — дзяўчына зрабіла маленькі глыток, — ён вам што... надта падабаецца?

— Бачыце... — Іван уздыхнуў, нетаропка прайшоўся ўздоўж стэляжоў, — тым часам, калі ён, Гэмінгуэй, прыйшоў да нас, мы мала ведалі заходнюю літаратуру. Не было з чаго выбіраць і, адпаведна, не было магчымасьці выбудоўваць піраміду мастацкай вартасьці. Так што гэты барадаты весялун, які прарваўся праз жалезную заслону адным зь першых, адразу ж апынуўся на вяршыні... — Іван сёрбнуў пітва, маракуючы, на якой такой вяршыні апынуўся творца — піраміды ж тады не было, але на падмогу прыйшла суразмоўніца.

— Ну, гэта тэорыя... А што вы можаце сказаць пра свае асабістыя "дачыненьні" з Гэмінгуэем? Падабаецца ён вам?

— Мне падабаецца зусім іншы чалавек: маладая бібліятэкарка, якая не жадае піць каву, — пасьля такога камплімэнту трэба было вытрымаць паўзу, і Йван куснуў канапку. — А што да згаданага вамі таварыша, дык у маладосьці я ўважаў ягоных герояў — лейтэнанта Генры, ці то Гары Моргана... — Іван ізноў задумаўся, разважаючы — за каго ён уважаў гэмінгуэеўскіх герояў і нечакана, залпам дапіўшы каву, загаварыў, як той Калюжны — блытанай хуткагаворкай: — У нас... а сёмай гадзіне... фуршэт... у кавярні «Трансвааль»... прыходзьце... там і пагамонім. Я вас буду чакаць ля ўваходу, — і, не дачакаўшыся адказу, Іван крутнуўся на абцасах, рынуў да дзьвярэй і, ужо ў калідоры, голасна паўтарыў: — Буду чакаць... ля кавярні!

— Каму гэта ты? Ці не жанчыне? — запытаўся Лёнька Холад. — Сябрук толькі што ўзьняўся па лесьвіцы і зморана дыхаў.

— Ну а каму ж яшчэ? — выдыхнуў Іван, і Лёнька паляпаў яго па сьпіне. — Гляджу на цябе, Ваня, і зайздрошчу. Іншыя госьці яшчэ толькі аглядаюцца, а ты ўжо rendez-vois прызначаеш.

Сябрук сказаў ўсё гэта ад шчырага сэрца, жартуючы, але вусны Іванавы пакрыўджана расьцягнуліся і так — зь Лёнькавай далоньню на плячы і з крывой грымасай на твары — Іван увайшоў у залю.

Першым пасьля перапынку чытаў рэфэрат пан Рыдлеўскі. Называўся ён даволі прэтэнцыёзна: “Эрнэст Гэмінгуэй і праблема алькагалізацыі сацыялістычнага грамадзтва”. Слухаць гэтую лухту ўжо не было моцы. Іван сьціснуў далонямі скроні, наструніў слых, з мазахісцкім захапленьнем пачуў Лёнькавы голас: “Ну што ты стаіш, як ёлупень. Ідзі, запрасі вунь тую, кірпатую...” Словы даляцелі з мораку прамінулых гадоў і патанулі ў бязладнай гамане і гітарным брынканьні.

Факультэцкая вечарына з нагоды навагодняга сьвята грымела, сьпявала і танчыла. Іван, як заўсёды, ціснуўся да сьцяны, пужліва пазіраў на бокі. Ён саромеўся дзяўчын; ён іх папросту баяўся, і сябрук, ведаючы ягоную сьціпласьць, кожнага разу піхаў у сьпіну і горача шаптаў у вуха: “Ды пацiскай ты якую... яны таго толькі і чакаюць”. Вось і цяпер, калі факультэцкі ансамбаль зайграў штосьці з Абадзінскага, Лёнька піхнуў яго пад драбы, п’янавата прамармытаў: “...Ідзі, запрасі вунь тую, кірпатую...”

Кірпаўка стаяла ля ёлкі і зыркала ў іхны бок. Гэта была дзяўчына-першакурсьніца, якая кожнага разу запрашала Лёньку на белы танец, і сябар, роблена ўздыхнуўшы, зь неахвотаю браў дзяўчыну за локаць. Лёнька тады быў закаханы ў Соньку Гальдэнбэрг — высокую, халерна прыгожую габрэйку зь біяфаку. Сонька была на вечарыне, і сябрук з заміраньнем сэрца чакаў, што тая запросіць яго на белы танец. Але замест танклявай ды прыгожай кожнага разу

падлятала нізенькая й кірпаносая; сябрука гэта нэрвавала, таму ён і тыцнуў Івану пад драбы...

Ці ж гэта ня крыўдна: падбіраць тое, што іншым непатрэбна? Крыўда зрабіла яго сьмелым, ён рушыў да ёлкі, галянтна — кіўнуўшы галавой — запрасіў кірпаўку на танец, і калі дзяўчына, дыхнуўшы парфумай, прыціснулася да ягонай грудзіны, цела ягонае працялі гарачыя дрыжыкі. "Мяне Іванам завуць", — прамармытаў ён, каб суняць дрыготку. "А мяне Любай", — адказала дзяўчына. Ёлка бліскала рознакаляровымі агнямі, адбірала вочы зіхоткай мішурой: і агні, і зіхоткая мішура, і сябар Лёнька, які танцаваў поруч, аблапіўшы прыгажуню Соню, і ўвесь навакольны сьвет патаналі ў бяздоньні дзявочых вачэй, і Іван, крануўшыся носам пахкіх кудзерак, падумаў: "Вось яно, шчасьце!"

Спалохана, нібыта ад нечага штуршку, Іван ачуўся. Ён, відаць, схрапянуў у сьне, бо ўсе наўкол пасьміхаліся і глядзелі ў ягоны бок. Іван пацёр далоньню лабешнік, скоса зірнуў на дзьверы.

— Насьледаваньне Гэмінгуэю пачалося з вопраткі, а скончылася пляшкай гарэлкі. Для Гэмінгуэя, гэтак жа, як і для ягоных адэптаў, куляньне чаркі сталася актам служэньня свайму ідэалу, — прамаўляў пан Рыдлеўскі. — Голас прамоўцы булькацеў і перарываўся. Стваралася ўражаньне, што недзе там, у нетрах шляхецкага чэрава, булькаціць перагрэты кацёл.

Паслухаўшы дзеля прыліку польскага госьця, Іван высьлізнуў у калідор, і пачуў за сьпінай імклівыя крокі. Сьледам бег прафэсар Гоман. Яны зьбеглі долу і там, ля прыбіральні, пад нетаропкую гаману, высмалілі паўпачка даўкіх турэцкіх цыгарэт ("Год назад прывёз са Стамбулу — дапаліць ня дам рады", — буркнуў, прыпальваючы першую цыгарэціну, прафэсар). Увесь гэты час Іван прыслухоўваўся да крокаў на лесьвіцы: ён прагнуў, і ўадначас баяўся сустрэцца зь бібліятэкаркай.

Праз гадзіну прысьпеў абед. Ён ізноў сядзеў за адным сталом з Гоманам і рабаценям, сёрбаў булён з парцалянавай міскі, заядаў гарачым хот-догам і ўнікаў размоваў. Суседзі па

сталe таксама згаладнелі — елі так, што аж насы ўгіналіся, але пры гэтым не забываліся спрачацца й упікаць адно другога ў няведаньні сучаснай літаратурнай сытуацыі. І толькі калі прафэсар у запале спрэчкі кульнуў міску і абліў булёнам штаны, спрачальнікі суняліся і мачанку з налісьнікамі елі моўчкі, незадаволена аддзімаючыся й запіваючы гаркавую жоўць, што лезла ў горла, кампотам з сухафруктаў.

Па абедзе яны з Гоманам ізноў атабарыліся ля прыбіральні. Высмалілі па цыгарэце, зірнулі долу, разважаючы, ісьці, ці не ісьці ў залю, і ў гэты момант там, на гары, адчыніліся дзьверы і нехта голасна крыкнуў: “Пятро Кузьміч! Вы тут?!”

— Во, бляха, зараз жа мой выступ! — гукнуў прафэсар, пабег па ўсходах; Іван рушыў сьледам, але ня так імпэтна, з кожным крокам запавольваючы хаду. Падышоўшы да няшчыльна прычыненых дзьвярэй, ён прыслухаўся. У залі керханулі і прафэсар, надаўшы голасу патэтычныя ноткі, задыхана прамовіў:

— Шаноўныя калегі! Я пачну з гэмінгуэеўскіх словаў, якія ўжо тут гучалі і якія вартыя стаць радкамі Сьвятога Пісаньня: “Не пытайся — па кім звоніць звон? Ён звоніць...” — Гоман перавёў дых, каб годна скончыць фразу, і хтосьці — відаць, рабацень — выгукнуў зь месца: — Пятро Кузьміч, гэта словы не Гэмінгуэя, а Джона Дона. — У залі зашумелі, два разы чхнулі, па старшынёўскім стале залескатала асадка, і Іван, аблашчыўшы вачыма супрацьлеглыя дзьверы, за якімі сядзела маладая бібліятэкарка, дакорліва пахітаў галавой. Уся гэтая балбатня яму дарэшты ўстыла, — і рушыў долу, штокроку паскараючы хаду.

Залётны сьвяжак казытнуў вуха, выдзьмуў з галавы дакучлівыя думкі. У галаве запанавала вясёлая пустата, і пакрыты празрыстым лядком ганак паволі паплыў пад нагамі. Іван пералічыў квадраты цёмных, кранутых лёгкай сівізною, вокнаў — здалося нават, што ў адным вакне мільгануў дзявочы тварык, — падміргнуў маладой чытачцы, якая, са стосам кніг пад пахаю, заходзіла ў бібліятэку, і гарэзьліва, усё адно як падшыванец, скокнуў з ганку.

Яшчэ ў цягніку, на мулкай бяссоннай паліцы, Івана апанавалі ўспаміны і задаўнія згрызоты. Ад іх не было паратунку, яны цьвялілі сьвядомасьць, кроілі сэрца, і вось выпетрыліся з галавы; і галава стала апраметна-пустой, а сэрца па-маладому лёгкім. Ідучы асьнежаным завулкам, Іван стоена пасьміхаўся й рупіўся ня думаць аб тым — што сталася прычынай добрага настрою. І ўсё ж, насуперак ягонай волі, аднекуль з глыбіняў падсьвядомасьці далятаў, прыглушаны шыхтом кніжных стэлажоў, п’янлівы галасок, і сярод белай завірухі мроілася — як абяцаньне чагосьці неверагодна спакусьлівага і ўадначас небясьпечнага — мімалётная дзявочая ўсьмешка.

Ён і сам ня ведаў — куды ідзе, падпарадкоўваючыся праглынаму жаданьню некуды ісьці, і толькі апынуўшыся на галоўнай гарадзкой вуліцы, сьцішыў крок і агледзеўся. Апошнім разам ён быў у гэтым горадзе пятнаццаць гадоў таму і цяпер, пазіраючы ўздоўж гаманкой, прапахлай выхлапнымі газамі вуліцы, не даваў рады прыгадаць — у якім баку месьціцца Лёнькавы дом. Падумаўшы, рушыў направа, і не памыліўся. Неўзабаве з-за белых дахаў ўзьняліся вяршаліны згалелых таполяў, а далей, леваруч ад парку, шэрай патарочай паўстаў знаёмы дзевяціпавярховік.

“Семдзесят пятая кватэра”, — згадаў Іван і тут жа, зь незразумелай трывогай падумаў: “А ці не пераехаў ён на новую кватэру?”

Потым, нібыта жадаючы пераканацца, што сябрук паранейшаму жыве ў тым жа самым шэрым доме, у тым жа самым прыцемным, з разьбітай лямпачкай над уваходам, пад’езьдзе, Іван нетаропка прайшоўся па двары, адшукаў вачыма Лёнькавы вокны, потым увайшоў у пад’езд і, увабраўшы носам казытлівы пах кашэчых сцакаў, здаволена перакрывіўся.

У густым мроіве загарэліся кволым сьвятлом і сталі набіраць моцы ліхтары, завіруха адразу ж аціхла, але паранейшаму — лагодна й бязгучна — круціла віры пад нагамі. Іван ішоў галоўнай вуліцай, разганяў тыя віры нясьпешнай на-

гой і ніяк ня мог даўмецца — навошта ён выбег зь бібліятэкі? І толькі дапяўшы да вялізнага, асьветленага знутры ўнівэрсаму, згадаў: у яго скончыліся цыгарэты. Унівэрсам быў падобны да вялізнага акварыюму і, засьведчыўшы ў сьвядомасьці гэтае параўнаньне, Іван убачыў у няўклюднай жаночай постаці, што праплыла за тоўстым шклом, пляскатую скалярыю.

Узяўшы дзеля форсу пачак “L&M”, ён прайшоўся з канца ў канец ўнівэрсаму, пацёрся калі мясного аддзелу: уразіла парсючыная галава, якая насьмешліва, нібыта спазнаўшы тайну зямнога быцьця, глядзела на сьвет, — і, перахапіўшы тую ўхмылку, і абдарыўшы ёю неахайных цётак, што стаялі поруч, выйшаў з крамы.

Урэшце рэшт датупаў да вакзалу — вырашыў паглядзець расклад цягнікоў, — уважліва, з блізарукім прыжмурам і мылячы вуснамі, той расклад вывучыў, а ўзяўшы ў шапіку газэту, доўга шамацеў ёю ў паўпустой пачакальні.

Ля зырка асьветленых дзьвярэй стаяў невялічкі натоўп. Натоўп бязладна гаманіў, прыкметна хваляваўся, чуліся няўцямна-вясёлыя воклікі — так заўсёды галёкаюць у прадчуваньні п’янкі, — і выразна гучаў толькі зашэрхлы прафэсарскі бас: “Нам тут толькі Гэмінгуэя не хапае!”

Іван стаяў зводдаль, таптаўся на падталым каналізацыйным вечку. Стаяў ужо пятнаццаць хвілінаў, за гэты час зьмерзьлі ногі, — і з тугою ў вачах пазіраў навокал. “Ну з чаго ты ўзяў, што яна прыйдзе?” — раз за разам гучаў нутраны голас, Іван кожнага разу ўздыхаў і надта зьдзівіўся, калі голас той адляцеў некуды ў бок і іншы голас — напорліва, як той ранішні вятрыска, ударыў у сьпіну:

— Ну што ты, далібог... паўсюль цябе шукаю, — Лёнька Холад — расхлістаны, шапка зьбітая набакір, — відаць, толькі што вылез з аўтобусу, — схапіў за локаць: — Пайшлі... людзі вунь чакаюць...

Іван ступіў колькі крокаў, перахапіў сяброкову руку:

— Слухай, а ты не перасяліўся? На старой кватэры жывеш?

— На старой... Савецкая, 52... кватэра 75. Заўтра, дарэчы, пасядзім у мяне, пляшку возьмем.

Іван зацкавана азірнуўся, прасьвятлеў тварам.

— Слухай, Лёнь, а да якой гадзіны працуе бібліятэка?

— Бібліятэка? Да восьмай, здаецца. А што?

Сэрца сьцялася, пампанула ў патыліцу порцыю гарачай крыві.

— Я зараз... зьбегаю тут... — Іван ізноў азірнуўся, маракуючы — у які бок бегчы, і Лёнька з трывогаю ў голасе прабубніў:

— Ды што з табой? Згубіў нешта?

— Хутчэй, знайшоў! — крыкнуў Іван і пабег, раз-пораз сьлізгаючы па лапіках цёмнага, да бляску адшараванага падэшвамі лёду.

Бібліятэка яшчэ працавала — усе чатыры вакна на другім паверсе прывідна сьвяціліся, і ў адным зь іх гайдаўся выгінасты цень. Ён перайшоў на другі бок вуліцы — здаля было зручней назіраць за вокнамі, — цень тым часам матлянуўся ў другім вакне, яшчэ больш прагнуўся і Йван зразумеў, што гэта прагінаецца, ганяючы швабру, бібліятэчная прыбіральніца.

— Няўжо спазьніўся? — уголас падумаў Іван, і думка гэтая зьлілася з бразганьнем уваходных дзьвярэй. Нехта выйшаў зь бібліятэкі, пайшоў, нябачны ў цемры, уздоўж цёмнай сьцяны, і Йван бязважкім Мэркурам кінуўся сьледам. Ён дагнаў бібліятэкарку ля аўтобуснага прыпынку. Дзяўчына, не спыняючыся, убілася ў людзкі збой, пашылася ў самую яго сярэдзіну, зірнула адтуль улякнутымі вачыма.

— Гэта я! — задыхана пралепятаў Іван, — хацеў вас запрасіць на вячэру.

Адразу некалькі чалавек зірнулі на Йвана, удакладняючы — ці ня іх гэта зьбіраюцца запрасіць, але тут жа крутнулі галовамі ў адваротны бок і замітусіліся. Да прыпынку пад'яжджаў аўтобус.

— "Сямёрка", — зь вінаватай усьмешкай на ўсё яшчэ тры-

вожным твары выдыхнула бібліятэкарка, нецярпліва падкінула на плячы глянцаватую сумачку, і Йван, зразумеўшы, што дзяўчына зараз зьедзе, загаварыў таропка і блытана: — Можа пройдземся? Вецер суціх... і наагул — карысна... прайсьціся... дыхнуць сьвежага паветра...

Выдыхнуўшы смуродлівую аблачыну, да прыпынку пад'ехаў разьдзёўбаны аўтобус.

— Я на Мандрыкаўцы жыву, — пралепятала ў адказ дзяўчына, і пачуцьцё халоднага адчаю, якое поўніла Іванаву грудзіну, ураз пацяплела, перацякло ў страўнік, перамяшалася са страўнікавым сокам.

Дзівячыся ўласнай сьмеласьці, Іван узяў дзяўчыну за руку, перабраў напружаныя, абцягнутыя тонкім лайкам пальцы.

— Напужаў вас?

— Было крыху. У нас тут, ведаеце, рознае здараецца... нават мужчыны пабойваюцца ноччу хадзіць.

Іван адказаў на тое мужнай усьмешкай.

Яны ішлі, узяўшыся за рукі, і насустрач ім, мітусьліва абганяючы адна адну, ляцелі бухматыя сьняжынкі. Сьняжынкі ўпляталіся ў дзявочыя кудзеркі, дзіўным вянком убіралі капюшон цыгейкавага футэрка і — Іван бачыў гэта — апушвалі галавешкі ягонага жыцьцёвага пажарышча. Пажарышча засталося недзе там, за сьпінаю, а наперадзе — за высокімі, з чырвонымі агеньчыкамі на вершаку, комінамі (“Гэта лякафарбавы завод дыміць, а за ім ужо нашая Мандрыкаўка”), яго чакала новае жыцьцё.

Пра вячэру ён больш ня згадваў. Дзяўчына, відавочна, была ня з тых, што швэндаюцца па рэстаранах, ды ён і сам не хацеў перціся ў той “Трансвааль”. Пачнуцца танцы, загарацца юрам п'яныя вочы... Нехта, маладзейшы, казытне шыю гарачым подыхам: “Можна вашу даму?”

Яны ішлі моўчкі і Йван, ашчадна дыхаючы, казеліў вочы на спадарожніцу. Доўгая спадніца сьцягвала вузкія дзявочыя клубы, караценькае футэрка рабіла спадарожніцу яшчэ больш станістай і падобнай да бунінскай Лікі.

— Мяне Лікай завуць, — прамовіла дзяўчына, і Йван нават спыніўся ад нечаканасьці. Ён назваў дзяўчыну Лікай, ня ведаючы ейнага імя. Гэта было наканаваньне, Боскі знак, прадвесьце доўгага шчасьця.

— А мяне Іванам, — прамовіў ён, панурыўшы вочы і чамусьці засароміўся ўласнага імя.

Трэба было сказаць нейкія словы, спытаць Ліку — ці замужам яна, з кім жыве, чым займаецца вольным часам, але ён маўчаў, адчуваючы недарэчнасьць слоў і спрабуючы запомніць, захаваць у сьвядомасьці гэты вечар, гэты сьнег, цьмяны бляск дзявочых вачэй і жарынкі агнёў на вершаку высокіх комінаў. А яшчэ ён прагнуў прыгарнуць, прылашчыць, як кацянё, гэтую бунінскую прыгажуню — дзіўную, бязважка-свабодную ў кожным сваім руху; прыціснуць яе да грудзі з той маладой сілай, што нарадзілася яшчэ там, у бібліятэцы, і цяпер штокроку расла, займаючы ўсё большы аб’ём і сьціскаючы зьняможанае ад салодкіх прадчуваньняў сэрца.

Нечакана ён разгаварыўся. Згадаў пра свае навуковыя манаграфіі — насамрэч гэта былі шкадобы вартыя, на ратапрынце аддрукаваныя мэтадычныя дапаможнікі; глыбокадумна заўважыў, што вуліца, па якой яны ішлі, нагадвае варшаўскую магістраль ”Усход-Захад” — Варшава была адзіным замежным горадам, які яму лёсіла наведаць, — а спакусіўшыся чужою славаю, паведаміў, што ня сёньня, дык заўтра, мусіць выехаць у Гаагу чытаць лекцыі па славістыцы, хаця насамрэч туды мусіў паехаць загадчык іхняй катэдры Рымша. Ліка глядзела на яго з захапленьнем.

І вось ўжо высокія коміны засталіся за сьпінай, і цёмны, з адзіным ліхтаром завулак прамераны нетаропкім крокам, і прысадзісты двухпавярховік — такія дамы будавалі пасьля вайны палонныя немцы — зірнуў на іх вачыма асьветленых вокнаў, і Ліка, змахнуўшы сьнегавы вянок з капюшону, здушана, нібыта давяраючы страшную тайну, прамовіла:

— Вось тут і жыву...

Ад хваляваньня, жалю і прагі каханьня Івану карцела заплакаць. Ён сьцярожка, аднымі пальцамі падхапіў дзяўчыну пад локці, і Ліка, ускінуўшы мокрыя вейкі, прыпала да ягонай грудзіны. Зямля паплыла... не... ён сам паплыў над зямлёю, і дзесьці там, у цёмным паднябесьсі, куды ён так безразважна ляцеў, нарадзіўся плаксівы голас.

— Забярыце мяне адсюль.

Язык, у салодкім утрапеньні, яшчэ зьлізваў сьняжынку зь дзявочых кудзерак, а цела ўжо адчула цяжкасьць зямнога прыцягненьня, і ў двухпавярховіку загарэліся яшчэ два вакна.

— Куды... забраць? — прашаптаў Іван.

— Куды-небудзь... каб ня бачыць гэтых падзёртых кніжак, гэтага страшнага гораду...

Івану раптам прымроіліся тэпці — звычайныя, зацыраваныя зялёнай ніткай тэпці, што чакалі яго ў вітальні, прымроілася талерка гарачай капусты, скамечаная газэта на канапе, уявілася, што ўсё гэта ў яго хочуць адабраць... Душа і цела адхінуліся ад Лікі і застылі ў непаразуменьні, цямячы — дзе ён наагул знаходзіцца, і ці далёка адсюль ягоны дом? І яшчэ праз імгненьне з халодным сэрцам назіраў, як дзяўчына бегла па некранутым сьнезе, падцягнуўшы рукой даўгую спадніцу.

“Дадому, дадому!” — не давала спакою навязьлівая думка. І хаця наступны цягнік ішоў а дзявятай раніцы, ён шыбаваў амаль подбегам, ня зводзячы вачэй з чырвоных агеньчыкаў — адзінага арыенціру пасярод чужой і бязьлюднай прасторы. Арыенцір, аднак, быў ненадзейным: Іван павярнуў ня ў той бок, чэрпнуў сьнегу ў абодва чаравікі, доўга блукаў па асьнежаных, скрозь застаўленых “нямецкімі” двухпавярховікамі, вуліцах, нарэшце выбіўся на нейкую дарогу і паўтары гадзіны мясіў нагамі сьнежную кашу, аж пакуль яго не падабраў нейкі службовы, поўны п’янага люду, аўтобус.

У гатэль ён убіўся апоўначы.

— Інтэлігенцыя называецца... усю лесьвіцу абванітавалі, — прабубніла калідорная ахмістрыня, бразнуўшы ключамі ад нумару.

За дзьвярыма аднаго з пакояў бразгалі шклянкі і грымеў пераселы гоманаўскі бас: — Пасьля вашай пісаніны чытач яшчэ сто гадоў ня возьме ў рукі беларускую кнігу...

У нумары было холадна. Не запальваючы сьвятла, ён таропка распрануўся, падбіўся пад коўдру, памацаў гарачы лоб і зразумеў, што захварэе.

А сёмай гадзіне раніцы, скаланаючыся ад дрыжыкаў, ён патэлефанаваў Лёньку Холаду, той доўга не адказваў, нарэшце азваўся дарэшты прыспаным голасам.

— Ваня?! Адкуль ты? Я ўжо ў міліцыю тэлефанаваў...

— З гатэлю. Я тут крыху прастудзіўся, дык думаю дзевяцігадзінным зьехаць.

— Прастудзіўся? — у голасе сябруковым прагучаў водгалас спачуваньня.

— Ты гэта, Лёня... — Іван адкашляў гарлавую вільгаць, — даруй мне...

— Вось дзівак. Пра што размова, — перабіў сябрук, не разумеючы, пра што размова. — Прачытаеш сваё спавешчаньне іншым разам. Выпі ў буфэце кавы і паляжы пад коўдрай. А восьмай прышлю машыну.

Праз гадзіну, ужо амаль непрытомны, Іван сядзеў у мікрааўтобусе і мутнымі вачыма глядзеў на дарогу. Кіроўца — той самы, што прыходзіў учора ў бібліятэку, — увесь час аб нечым гаманіў, раз-пораз пазяхаў і нечакана, крутнуўшы руль, спыніўся на ўзбочыне.

— Зусім забыўся! — зь вясёлам адчаем прамовіў хлопец, — Леанід Пятровіч прасіў вам грошы перадаць... за квіткі.

Вільготная Іванава рука намацала цупкія паперкі.

— Учора чытаў да трэцяй гадзіны ночы, а сёньня галава, як цэбар. Вы, дарэчы, “Фіесту” чыталі?

Іван зь няўцямнай павольнасьці павярнуў галаву.

— Гэмінгуэя, кажу, чыталі?

Іван плаксіва перакрывіўся, сьціснуў рукамі скроні.

— Што, зуб баліць? Зараз анальгіну дам. Сам пакутую.

Пальцы сьціскалі голаў, і яна, галава, здавалася як бы не сваёй — цяжкой, гарачай, тлумнай, і народжаны трызьненьнем Гэмінгуэй пасьміхнуўся яму з пажоўклага партрэту, і душа, пазбыўшыся цяжару мінулых гадоў, паляцела наўздагон дзяўчыне, якая бегла па некранутым сьнезе, падцягваючы рукой даўгую спадніцу.

# ЛЁГКАЯ СЬМЕРЦЬ

*Шэрыя мегрэльскія пчолы,*
*бадай, самыя лагодныя ў сьвеце.*
*(Кароткі даведнік пчаляра)*

Спыніўшыся перад брамай, Аўдзей узьняў вочы і падзівіўся — як разросься бэз. Мінулым разам, як хавалі Лабейку, брама выглядала вялізнай і груватскай. Цяпер жа яна паменшала ў аб'ёме, па самы крыж захінулася зыркім зяленівам ды белымі гронкамі.

Прагнымі зацяжкамі Аўдзей дасмактаў цыгарэту — паліць на могілках было нязручна, — пашукаў вачыма сьметніцу і, выдаўшы дакорлівы зык "Экх!", панурыўся ў духмяную, зумклівую ад пчолаў засень.

Перад прысадзістым, сылікатнай цэглы, дамком, дзе месьцілася адміністрацыя кладоў, ён ізноў спыніўся і пакутліва ўздыхнуў. Ніколі ў жыцьці не даваў хабару, а вось жа… давядзецца.

…Пасьля сьляпучага сонца ў пакойчыку было цемнавата і ўваччу плылі вясёлкавыя колы. Каб іх пазбыцца, давялося пацерці вочы. У дальнім куце, за сталом, сядзела кабета і, мяркуючы па водару, што поўніў прастору, піла каву. Праваруч ад стала, наваліўшыся шырокім канцом на сьцяну, стаяла чорнае века дамавіны. Па краях яно было аздобленая белым рубчастым карункам і Аўдзей міжволі сьцепануўся: на лобе ягоным напялася скура.

— Брак… на кутах тканіна парвалася. Трэба перацягваць, — патлумачыла кабета, перахапіўшы Аўдзеевы позірк. — Змахнуўшы са стала нябачныя крыхоткі, наглядчыца могілак ужо патрабавальным голасам запытала:

— Удзельнік вайны?

— Удзельнік… тылавік, — няўпэўнена прамармытаў Аўдзей, дастаўшы з кішэні складзеную ў дзьве столкі паперку.

Кабеціна паправіла аб'ёмісты начос на галаве.

— Могілкі тры гады як зачыненыя. Ужо й ня ведаю — куды класьці. Да самай ракі падступілі… А як паводка надарыцца, ды магілы пазалівае? — У гэты момант над аб'ёмным начосам пачала наразаць колы ўзбуджаная пчала і кабета махнула вялізным гросбухам. — А што ж гэта робіцца… а ня стала ж ніякая паратунку!

Праводзіўшы насьцярожлівым позіркам пчалу, якая з напятым гудам вылецела ў фортку, Аўдзей пераступіў з нагі на нагу. У яго было такое адчуваньне, што гэта ён ня цешчу хавае, а сам прыйшоў ладкавацца ў магілу.

— Мала таго, што можа вадой заліць, дык і схіл такі, што людзі ў ваду куляюцца.

На пачатку траўня Аўдзей хаваў свайго сябра — паэта Міцьку Лабейку. Сам бачыў той схіл. Таму й атрымаў ад жонкі наказ: выбіць больш-менш прыстойнае месца.

— А ці можна дзе-небудзь далей ад ракі… Усё ж вэтэран вайны, ордэн мае…

— Ды што вы, мужчына. Мы вунь генэрала Карзо ня ведалі куды ўплішчыць. На парушэньне пайшлі: паклалі ў чужую магілу. І аркестру не было дзе стаць, і стралялі не над магілай, а ля брамаў. Ох, і намучыліся мы з тым генэралам… — тым часам у фортку ізноў заляцела пчала, зацкавана пакружляла па пакоі і неўзабаве села на вечка труны. Не адрываючы вачэй ад зумклівай нягодніцы, наглядчыца падхапіла гросбух, грукнула ім на труне і Аўдзей спалохана сьцепануўся.

Нутро Аўдзеева паныла сьцялася ў прадчуваньні жончыных дакораў ("Божухна… мужык… Усё жыцьцё адседзеў за маёй сьпінай!"), але тут жа і выпрасталася: ён згадаў, нарэшце, пра храбусткія паперкі, якія мулялі кішэнь. Заплюшчыўшы вочы, Аўдзей кінуў паперкі на стол, а калі зноў зірнуў на сьвет, грошай на стале ўжо не было. Ён падумаў было — ці ня вылецелі яны, як тая пчала, у фортку, але рашучы кабецін голас: — Падумаем! — пераканалі, што грошы паляцелі ў патрэбным кірунку.

Ён выйшаў з дамка і на поўную грудзіну ўдыхнуў паветра, адчуўшы ягоную празрыстую чысьціню. Навокал красавала акацыя, гулі пчолы, і было такое ўражаньне, што ён патрапіў у іншасьвет.

Тым часам наглядчыца гукнула нейкага Фарзуна і з-за рогу дамка выкуліўся нізенькі мужчына ў пакамечаным пінжаку і з рыдлёўкай у руках.

— Адвядзеш чалавека… да гвардзейцаў, — буркнула кабета, і Фарзун, крутнуўшыся на 90 градусаў, пашыбаваў, цьвякаючы рыдлёўкай, уздоўж магіл.

— Жонка? — спытаў Фарзун, калі яны завярнулі з алеі і пачалі прабірацца між шчыльна пастаўленых агароджаў.

— Цешча, — азваўся Аўдзей.

Адчуваньне, што ён патрапіў у нейкі дзіўны сьвет, поўны азону, птушынага пошчаку і пчалінага гуду, не мінала. Яму зусім не хацелася размаўляць. На шчасьце, далакоп больш не задаваў пытаньняў і толькі ціхенька, напаўголаса мацюкаўся, прадзіраючыся скрозь кусты, якімі былі абсаджаныя магілы. У адным месцы пругкая галіна зьдзерла з Фарзуноўскай галавы зашмальцаваны барэт, той матлянуўся ў паветры, і гэта пацешыла Аўдзея.

— Вось тут, — прамовіў, нарэшце, далакоп, спыніўшыся перад убогай, укаранаванай пахілай пірамідкай, магілай.

Аўдзей зьбянтэжана павёў вачыма. Вольнага месца навокал не было.

— Як тут… вашай цешчы… спадабаецца? — зь нецярплівасьцю запытаў Фарзун.

— Месца добрае, але ж…

Ён не дагаварыў, бо пабачыў такое, што яму сьцягнула скуру ня толькі на лобе, але й на патыліцы: Фарзун спрактыкаваным рухам выдзер з магілы пірамідку, адкінуў у бок і са здушаным крэканьнем стаў раўнаваць зь зямлёй магільны пагорак.

— Што вы робіце! — Аўдзей схапіў далакопа за рукаво, але

адразу ж адпусьціў, аглушаны нязносным перагарам.

— Спакуха, шэф, ілжэмагіла. Пакінулі… — далакоп паляваў на далоні, — для паважаных людзей.

Аўдзей адступіў ад ілжэмагілы, уражана пасьміхнуўся — вось, маўляў, да чаго дадумаліся! — але тут жа сагнаў з твару недарэчную ўсьмешку. “Месца ніштаватае, жонка будзе задаволеная”, — з гэтай думкай Аўдзей азірнуўся, прыпаліў цыгарэту. Леваруч стаяла пліта шэрага граніту з надпісам “Гв. полковник Воняк Калистрат Евстафьевич”, а праваруч такі ж самы помнік, але са штучнага граніту, на якім быў выбітыя парашут і рубленыя літары: “Гвардии капитан Плешак…”

“Пашанцавала цешчы, — бязгучна, аднымі вуснамі, прашаптаў Аўдзей, — будзе спачываць між плешакамі і ванякамі”.

Калісьці, прыканцы 80-х, яны завіталі з Лабейкам на Маскоўскія клады, знайшлі магілу Ўладзімера Караткевіча, і сябрук, пабачыўшы, што вакол іхнага ўлюбёнца пахаваныя нейкія савецкія вайскоўцы, задуменна прамармытаў: “Цяжка яму тут ляжаць… поруч з акупантамі”. Міцька шмат чаго казаў такога, што людзей насьцярожвала, а то й пужала. Нездарма ім цікавіўся КГБ. Вось і на паховінах круціўся нейкі тыпус.

— Калі пахаваньне? — спытаў Фарзун, адмяраючы рыдлёўкай даўжыню магілы.

Рыдлёўка была адмысловая, з выгнутым як у дзіцячага шуфліка штыхом.

— Заўтра, — буркнуў Аўдзей, зь невядомай прычыны адчуўшы няёмкасьць.

Далакоп ужо дамалёўваў лязом штыха выцягнуты ў даўжыню прастакутнік, ды нечакана прысеў і стаў махаць рыдлёўкаю ў паветры, раз за разам паўтараючы: — Ну, с-сукі…

Аўдзей, падумаўшы, што ў Фарзуна падучка, прыхаваўся за капітанскай плітай, але тут жа перавёў дыханьне: далакоп адбіваўся ад пчол.

— Немагчыма працаваць, — буркнуў далакоп. — Пазаўчора Сазона джганулі, дык усё вока заплыло. Скотчам павека адцягнуў — так і ходзіць.

"Пчолы ведаюць на каго нападаць", — паведаміў калісьці Лабейка, калі яны, сёрбнуўшы медавухі, хадзілі глядзець сябрукову пасеку. Пчолаў там лётала цэлая плойма. У Аўдзея тады і хмель прайшоў. Думаў, жывым ня вернецца, аднак ніводная так ня джвагнула.

Фарзун прыпаліў цыгарэту, абапёрся грудзіную на рыдлёўку і пасьля прагнай зацяжкі кіўнуў няголеным падбародзьдзем некуды ў дальні канец могілак.

— Вунь тая агароджа, пад бярэзінай, замінаць будзе. Ня ведаю нават, як вы труну пацягнеце.

Аўдзей расьціснуў нагой недапалак, заклапочана прымружыўся.

— І што рабіць?

— Можна, вядома, прыбраць… часова… — з усьмешкай працэдзіў Фарзун, і Аўдзей палез у кішэнь, прыкідваючы — адной ці двума пляшкамі адкупіцца ад магільшчыка.

Ля брамаў Аўдзей выцягнуў з кішэні мабільнік, патэлефанаваў дахаты. Хацеў было яшчэ раз завітаць да наглядчыцы — удакладніць некаторыя дэталі пахаваньня, але, павагаўшыся, рушыў углыб могілак, з задавальненьнем шоргаючы падэшвамі туфель па ходніку галоўнай алеі.

З паэтам Міцькам Лабейкам, магілу якога вырашыў наведаць, яны пазнаёміліся прыканцы сямідзесятых, на сэмінары маладых літаратараў. Ад таго знаёмства ў душы ўгнездаваліся лёгкі спалох і такая ж лёгкая зайздрасьць. Дзіва што! Міцька меў літаратурны талент, чытаў у арыгінале ангельскіх клясыкаў, сьпяваў пад гітару песьні "Бітлз" і ў адкрытую ганіў савецкія парадкі. За ўвесь гэты час ён выдаў толькі дзьве кніжонкі, а гадоў дзесяць таму, калі прыгожае пісьменства загавела душой, разьвёўся з жонкай і зьехаў на вёску, купіўшы непадалёку ад гораду хату з пчальнікам. Сядзеў ён там бяз-

вылазна разам з маладой жонкай Кацярынай, вясковай бібліятэкаркай. Аўдзею прыгадалася Кацярына — заплаканая жанчынка, амаль дзяўчо, якую вялі пад рукі вясковыя кабеты, згадаў, што заўтра яму давядзецца хаваць цешчу і, каб пазбыцца невясёлых думак, стаў аглядацца на бокі. Позірк сьлізгануў па крыжах, па шэрых, з мармуровай крошкі, помніках, па гострых, сярдзіта натапыраных старчаках магільных агароджаў. І ўсё ж прыгадкі не адпускалі, і ўваччу ізноў паўстала прыдушаная горам Кацярына; увішныя жанчыны ў чорным, якія бегалі ўзад-уперад па двары; вясковыя, чырвоныя ад веснавога загару мужчыны, што сьціпла стаялі ля плоту ды бясконца палілі…

Неўзабаве ён выйшаў з прысадаў і ў вочы зыркнула, выціснуўшы скупую сьлязіну, люстра санцадоннай ракі. Калі хавалі Лабейку, рака была паўнаводна-бурлівай, цяпер жа ўбілася ў берагі й бязгучна несла сваю ваду, навылёт асьветленую блiскучым сонцам.

Месца было адкрытае — нябожчыкі асвойвалі тут цаліну, і ён маракаваў адразу ж выйсьці да Лабейкавай магілы. Давялося, аднак, ладна паблукаць сярод сьвежых, заваленых поліэтыленавымі вянкамі, капцоў; пару разоў спускаўся па схілу да берага; потым узяўся чытаць надпісы на жалобных стужках, аж пакуль не пачуў за сьпінай сьцішаны голас:

— Аўдзей Іванавіч!

Галава ўехала ў плечы, ён з асьцярогай азірнуўся і ўбачыў Кацярыну. Маладая ўдава сядзела ля магілы і над галавой ейнай… спачатку падумалася, што гэта авадні… зацята кружлялі пчолы.

Сустракацца з удавой Аўдзею зусім не выпадала. Ён выпрастаў сьпіну, вінавата пасьміхнуўся і ў гэты момант адразу дзьве пчалы замітусіліся перад ягоным носам.

— Стойце і не махайце рукамі! Пчолкі ў нас спакойныя… мегрэлкі, — азвалася Кацярына, папраўіўшы чорную хустку.

Аўдзей зьвёў вочы да пераносься, баючыся нават дыхаць,

і ўвішныя мегрэлкі, даўшы кругаля вакол ягонай галавы, паляцелі ў бок рэчкі.

— А я ўжо думала ніхто ня прыйдзе, — прамовіла маладая ўдава. Аўдзей са сьціхотам заўважыў, што па руках удовіных шпарка сноўдаюць пчолы. — Сёньня ж саракавіны. Думала, людзі прыйдуць, а во.. толькі пчолкі і прыляцелі, — Кацярына ўсхліпнула, выцерла нос ражком хусткі.

Аўдзей падышоў да магілы і тое, што пабачыў, прымусіла яго выгаліць вочы і разявіць рота. Вакол каляровага партрэту Лабейкі, які ён нёс на пахаваньні, жывым вянком віселі варушкія пчолы.

— Ад хаты да могілак пяць кілямэтраў. А пазналі гаспадара, прыляцелі. Загінуць, бедныя, без дагляду…

Удава яшчэ нешта казала, але Аўдзей ня мог дапяць да сэнсу ейных словаў. Ён стаяў, ачмурэлы, і адна з пчол ледзь не ўляцела ў разяўлены рот.

— Я тут медавухі прынесла. На хаўтурах не дапілі. Памяніце Зьмітра Рыгоравіча.

Аўдзей дрогкай рукой перахапіў чарку і, вытрымаўшы ўрачыстую паўзу, глынуў цёплы трунак. Медавуха ў Лабейкі была хмельнай. Пасьля кожнага візыту да сябра ён доўга мучыўся з пахмельля.

— Штодня прыходжу… Пасяджу, пагаманю зь ім і адразу лягчэй стане.

Аўдзей пакутліва ўздыхнуў.

— Там жа ў Рыгоравіча паперы засталіся. Можа б зайшлі, паглядзелі…

Аўдзей зь вінаватай павольнасьцю баднуў галавой і кабета, падхапіўшы бутэльчыну з-пад “Дарыды”, ізноў напоўніла чарку.

Ён плюхнуўся на пясчаны пагорак, зірнуў на аточаны пчаліным роем партрэт сябра. Усьмешлівы Міцькавы твар адгукнуўся ў сэрцы салодкім болем. Падалося, што вось за-

раз сябрук закіне на лоб непаслухмяную чупрыну і выдасьць штосьці такое, ад чаго міжволі сьцепанесься і зірнеш на бокі.

Мішка заўсёды рэзаў праўду-матку. Аднойчы на сходзе, у сярэдзіне дзевяностых, вылез на моўніцу і паведаміў, што эўрапейскія дзяржавы стваралі арыстакраты духу. У нас жа гэтай справай заняліся работнікі аграрнага сэктару, таму й стварылі замест незалежнай краіны вялікі калгас. У залі тады заварушыліся, загаманілі, нехта крыкнуў: “А што ж цяпер рабіць?” — і Міцька, кашлянуўшы ў жменю, паведаміў: ”Выходзіць з калгасу і падавацца на хутар”. Што ён неўзабаве і зрабіў: пакінуў гарадзкую кватэру сямейнікам, а сам набыў у вёсцы хату і ў горад больш не наведваўся.

— Пчолы яго любілі. Нават сетку не насоўваў…

Аўдзей ачуўся ад успамінаў, запытальна зірнуў на ўдаву.

— Сетку, кажу, не надзяваў…

— Так-так, — спахапіўся Аўдзей, адчуўшы, як па руках казытліва бегаюць пчолы.

— Заляціць якая ў хату, а Рыгоравіч яе схопіць у жменю і занясе да вуліку. Яму наагул прыемней было жыць сярод пчол, а не сярод людзей. І памёр каля пчолаў. Ад ранку падняўся, памыўся, пайшоў на двор… Там яго і знайшлі — сядзеў, да вулею прыхінуўшыся…

Кабета горасна ўздыхнула і ўжо стоеным голасам, нібыта разьвітваючыся зь нейкай сваёй запаветнай тайнай, паведаміла:

— А ведаеце, што ён сказаў мне за дзень да таго? “Цяжка, — кажа, — пакідаць гэты сьвет у краіне, дзе паважаюць роднае слова. І лёгка паміраць там, дзе ўсё сьвятое зьнесенае на сьметнік”.

Аўдзея апанавала дзіўнае пачуцьцё. Такое было ў далёкім дзяцінстве: калі наплачасься да змору і на душы робіцца лёгка і ціхамірна. Ён палкімі вачыма зірнуў на Кацярыну і, адрыгнуўшы медавухай, ужо ня з жахам, а з уцешлівым спакоем падумаў, што таксама калісьці памрэ.

# ЗЬМЕСТ



